*ГАРАДЗЕНСКАЯ БІБЛІЯТЭКА прысвячаецца той Гародні, якой мы ганарымся. Дзякуем усім, хто з намі.*

Каардынатар кніжнай серыі
«Гарадзенская бібліятэка»:
Павал Мажэйка (p.mazheika@gmail.com)

Ідэя серыі: Эдвард Дмухоўскі
www.hrodna.org

**“Гродназнаўства. Гісторыя еўрапейскага горада”** – гэта 15-я кніга кніжнай серыі ГАРАДЗЕНСКАЯ БІБЛІЯТЭКА.

**Аўтары тэкста:**
Госцеў Алесь
Дабрыян Аляксандр
Карнялюк Віталь (рэдактар)
Марозава Святлана
Чарнякевіч Андрэй
Швед Вячаслаў (рэдактар)

**Канцэпцыя ілюстрацый** – Дмухоўскі Эдвард, Лялевіч Ян
**Дызайн і вёрстка:** Гупянец Зміцер
**Карэктура:** Багдзевіч Анатоль
**Навуковы кансультант:** доктар гістарычных навук Смалянчук Алесь
У кнізе выкарастаны фотаздымкі Narodowego Archiwum Cyfrowego (NAC), выявы экспанатаў УК "Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей"

ISBN 978-83-61617-85-3
Kolegium Europy Wschodniej im. Jana Nowaka-Jeziorańskiego
www.kew.org.pl
Друкарня: Wrocławska Drukarnia Naukowa PAN im. S. Kulczyńskiego Sp. z o.o.

# Змест

## Гродна ў войнах пачатку XX стагоддзя



## Гродна ў складзе другой Рэчы Паспалітай (1921 - 1939 гг.)



## Гродна ў складзе БССР (1939 - 1991 гг.)





## Дадаткі

# Ад выдаўцоў

Гэтая кніга, напісаная вядомымі гісторыкамі і краязнаўцамі, з'яўляецца цікавай спробай данесці да маладзейшага пакалення гродзенцаў подых мінуўшчыны, пазнаёміць іх з найбольш важнымі падзеямі і постацямі тысячагадовай гісторыі Горадзена – Grodno – Гродна. Гістарычнае “Гродназнаўства” – гэта аповед пра гродзенскія эпізоды біяграфій вялікага князя Вітаўта і караля Стэфана Баторыя, змагароў за вольнасць Тадэвуша Касцюшкі і Кастуся Каліноўскага, вядомых дойлідаў Пятра Міланега і Джузепе Сака, рэфарматара Антонія Тызенгаўза і славутых літаратараў Элізы Ажэшкі і Васіля Быкава ды іншых вядомых гістарычных персанажаў і герояў.

Адначасова гэтая кніга паказвае, наколькі важна сёння зразумець звычайнага гараджаніна, таго, хто не дасягнуў славы ні на культурніцкім, ні на палітычным полі, але чыё жыццё сталася часткай той мінуўшчыны, якая і сёння прабіваецца скрозь асфальт сучаснасці і стварае genius urbis нашага гораду.

Гісторыя Гродна – трагічная і слаўная гісторыя горада на мяжы цывілізацый. Тут заўсёды надзвычай востра стаяла праблема выбару паміж рабствам і свабодай, паміж прыслужніцтвам чарговаму багатаму і ўплывоваму чужаку і ўласным гонарам і жаданнем застацца свабодным чалавекам. Звычайна гродзенцы выбіралі свабоду! Некаторыя – хлусню і рабства, але большасць усё ж такі свабоду… Гэта і дазваляе нам сёння казаць пра тысячагадовую гісторыю свайго горада.

Але барацьба не закончылася. Яна працягваецца, і менавіта выбар сучаснага гродзенца вызначыць лёс нашага горада ў XXI ст. Ці будзе гэта горад вольных людзей у свабоднай і дэмакратычнай Беларусі? Ці зноў на нейкі час пераможа халуйства і баязлівасць, і жыццё гродзенца будзе вызначацца толькі воляй чарговага начальніка ў краіне, дзе многія за пасаду і зарплату забыліся на ўласны гонар?.. Асабіста перакананы, што толькі вольны чалавек у свабодным горадзе і свабоднай краіне можа адчуваць сябе шчаслівым.

Далучэнне да мінулага свайго роднага горада, веданне трагічных і слаўных старонак яго гісторыі робіць сучасных гараджан мацнейшымі, пераконвае ў тым, што менавіта яны – гродзенцы – з'яўляліся (і з'яўляюцца!) галоўнымі аўтарамі гісторыі Гродна. Гісторыі, што складаецца якраз з мараў і ўчынкаў, мужнасці і баязлівасці, любові і нянавісці, гонару і рабалепства, працавітасці і ляноты яго жыхароў. У пэўным сэнсе, **кожны з нас піша гісторыю свайго горада**. Гэта неабходна разумець, каб адчуваць сябе яго Гаспадаром і ўсведамляць уласную адказнасць за яго сённяшні дзень і будучыню.

Здаўна заўважана: Калі мы без гісторыі, то і Гісторыя без нас!..

***Доктар гістарычных навук***
***Алесь Смалянчук***

# Ад аўтараў

**Дарагія сябры!**

Вы жывяцё ў старажытным беларускім горадзе, маеце магчымасць штодзень крочыць па бруку яго вуліц, радавацца «вясёлцы» Каложы, стаяць на велічных мурах Старога замка, задуменна глядзець на спрадвечную плынь Нёмана...

Людзі з розных эпох і стагоддзяў звязаныя лёсам з Гродна. Ці памятаеце вы пра іх і ці ведаеце, што наш горад прайшоў і праходзіць складаны і супярэчлівы, бліскучы і бурлівы гістарычны шлях? Наш горад ва ўсе часы быў месцам прыняцця лёсавызначальных рашэнняў для нашай дзяржавы. Тут нашыя продкі змагаліся за свабоду і незалежнасць народаў, тут ствараліся вядомыя на ўвесь свет помнікі архітэктуры, тут паўставалі найлепшыя творы паэтаў і пісьменнікаў, тут працавалі, кахалі, жылі самыя звычайныя людзі, якія і стваралі гісторыю гэтага горада. Іх жыццё вартае нашай памяці.

Веданне гісторыі роднага горада робіць нас гаспадарамі нашай Бацькаўшчыны: малой – Гродна і вялікай – Беларусі. А гэта значыць, што мы не можам быць абыякавымі да іх праблем, а, наадварот, абавязаныя захоўваць і павялічваць іх хараство.

Мы сабралі ў гэтай кнізе самыя яскравыя, самыя запамінальныя і важныя старонкі мінуўшчыны горада.

Наш горад за сваю шматвекавую гісторыю меў некалькі назваў: Гародня, Горадня, Гродна. На старонках гэтай кнігі, чытаючы пра розныя падзеі з жыцця нашага горада, вы сустрэнеце ўсе гэтыя назвы.

Мы ўпэўнены, што прыгажосць нараджае прыгажосць, дабрыня – дабрыню, а значыць, і гродзенская спадчына, народзіць у вас самыя светлыя і моцныя пачуцці свабоднага, адказнага, удумлівага Грамадзяніна сваёй краіны.

# Падзякі


Гэтая кніга выйшла ў свет дзякуючы адданай працы вялікай колькасці людзей.

Выдаўцы “Гарадзенскай бібліятэкі” і аўтары кнігі выказваюць падзяку Бараноўскаму Раману, Бруянку Пятру, Варашыльскаму Феліксу, Выдзерку Уладзіміру, Гумянюку Юрыю, Ігнатовічу Фёдару, Кісламу Уладзіміру, Краўцэвічу Алесю, Лушчыку Сяргею, Лялевічу Янку, Макушыну Анатолю, Мілінкевічу Аляксандру, Саяпіну Віктару, Семянчуку Генадзю, Сліж Наталлі, Трусаву Ігару, Хільмановічу Уладзіміру, Шведу Максіму, **якія далі аўтарам магчымасць скарыстацца матэрыяламі з сваіх прыватных архіваў і калекцый**.

Выказваем падзяку Іваноўскаму Зміцеру, Касцецкай Аляксандры, Люціку Зміцеру, Місюры Ігару, Саранчуковай Іры, **якія прыкладаліся да мастацкага аздаблення кнігі**.

Дзякуем Шэўчаку Войтку **за зробленыя адмыслова для кнігі фотаздымкі**.

Асаблівая падзяка Вашкевічу Андрэю **за падрыхтоўку і апрацоўку шматлікіх дадатковых матэрыялаў.**

Дзякуем за дапамогу Бензяруку Анатолю, Гардзееву Юрыю, Івановай Валянціне, Карпюк Іне, Кітурку Юрыю, Смалянчуку Алесю, Ткачовай Валяніцне, Токцю Сяргею, Чычкану Фёдару.

# Школьнае краязнаўства як навука

Дапаможнік, які вы трымаеце ў руках – незвычайны. Незвычайнасць яго ў тым, што навука «краязнаўства» не з'яўляецца пакуль распаўсюджаным прадметам ні ў школе, ні ў ВНУ. Аднак магчымасці гэтай навукі вялікія, а значыць раскрыць і растлумачыць яна можа шмат. Справа ў тым, што аб'ектам краязнаўчага даследавання з'яўляецца край, рэгіён, а прадметам даследвання – сукупнасць гістарычных, культурных, геаграфічных, дэмаграфічных і іншых характарыстык і феноменаў гэтага краю ці рэгіёну. Мэта краязнаўства – высвятленне адметнасцей, своеасаблівасцей асобнага рэгіёну разам з выяўленнем таго агульнага, што спалучае гэты рэгіён з большым краем, краінай, кантынентам…і ўсім чалавецтвам.

Каб дасягнуць гэтую мэту, краязнаўца мусіць браць штосьці з сукупнасці характарыстык рэгіёну (асоб, помнікі дойлідства, войны, гістарычныя назвы і г.д.) і накіроўваць на выбранае адпаведныя метады і сродкі краязнаўчага даследавання. Трэба мець на ўвазе, што краязнаўства – сінтэз навук. Як кожная навука, яно мае ўласныя метады даследавання, а таксама выкарыстоўвае метады іншых навук. Асноўныя метады краязнаўчай даследчай працы: сінтэз разнастайнай інфармацыі з максімальна магчымай колькасці рознатыповых крыніц, параўнальны аналіз. Пры гэтым метад інтэграцыі ведаў – галоўны ў краязнаўстве. Як бачна ў «Краязназнаўчай дыяграме», «факусіраванне» разнастайных ведаў патрабуе ведання сістэмы дапаможных краязнаўчых дысцыплін.

Дапаможныя дысцыпліны ў краязнаўства свае. Напрыклад, крыніцазнаўства, археалогія, храналогія, генеалогія, тапаніміка, анамастыка. Самі па сабе гэта самастойныя навуковыя дысцыпліны. У краязнаўстве яны – дапаможныя.

Сувязь краязнаўства з іншымі навукамі – геаграфіяй, гісторыяй, філасофіяй і г.д. – двухбаковая. Вядома, што краязнаўства «бярэ» ад іх. А што яно ім «дае» ? Па-першае, шмат канкрэтных фактаў. Мясцовая гісторыя больш непрыкрытая. Яна не абаронена або абаронена значна менш ідэалогіяй, не дэфармаваная «дзяржзамоваю» на патрэбнае бачанне мінулага. Мясцовая гісторыя максімальна шчырая. У краязнаўцы гэтыя першасныя веды – «пад нагамі». Краязнавец часам лепей ведае, як на самой справе адбываліся тыя ці іншыя падзеі.

Па-другое, дзякуючы метаду інтэграцыі ведаў краязнаўства на стыку розных навук знаходзіць новыя кірунκі даследавання, а значыць, дае імпульс для далейшага развіцця гэтых навук.




**Краязнаўчая дыяграма (склад. А. П. Госцеў)**

Парады маладым даследчыкам-краязнаўцам: «З самага пачатку сваёй работы прывучыце сябе да строгай паслядоўнасці ў назапашванні ведаў. Засвойце азы навукі, перш чым спрабаваць узысці на яе вяршыні. Ніколі не бярыцеся за наступнае, не засвоіўшы папярэдняга. Ніколі не спрабуйце схаваць недахопы сваіх ведаў, хоць бы і самымі смелымі здагадкамі і гіпотэзамі... Прывучыце сябе да стрыманасці і цярпення. Навучыцеся рабіць чорную працу ў навуцы. Вывучайце, супастаўляйце, назапашвайце факты... Факты – гэта паветра вучонага. Без іх вы ніколі не здолееце «ўзляцець». Без іх вашы «тэорыі» – пустыя намаганні. Але вывучаючы, эксперыментуючы, назіраючы, старайцеся не заставацца на паверхні фактаў. Не пераўтварайцеся ў архіварыусаў фактаў. Спрабуйце пранікнуць у таямніцу іх утварэння. Настойліва шукайце законы, якія імі кіруюць... Ніколі не думайце, што вы ўжо ўсё ведаеце. І як бы высока ні ацэньвалі вас, заўсёды майце мужнасць сказаць сабе: я невук. Не давайце ганарлівасці авалодаць вамі. З-за яе вы будзеце ўпартымі там, дзе трэба пагадзіцца, з-за яе вы адмовіцеся ад каштоўнай парады і сяброўскай дапамогі, з-за яе вы згубіце меру аб'ектыўнасці... Вялікага напружання і вялікай адданасці патрабуе навука ад чалавека. Будзьце няўрымслівымі ў сваёй працы і ў сваіх пошуках. » (Іван Паўлаў).

З гэтых слоў вынікаюць якасці сапраўднага навукоўцы: паслядоўнасць, стрыманасць, цярпенне, сціпласць, апантанасць. Да іх згодна з дэвізам: «Няхай уецца вакол жалезнай логікі фактаў срэбная стужка фантазіі!» дадаецца фантазія і інтуіцыя – тое, без чаго немагчымы творчы і даследчы пошук. Але карыстацца дэвізам трэба ўмела, бо, паводле Альберта Эйнштэйна, любая навуковая тэорыя павінна адпавядаць крытэрыю ўнутранай дасканаласці (быць прыгожай) і крытэрыю знешняга апраўдання (адпавядаць усёй сукупнасці фактаў).

Падчас краязнаўчага даследавання неабходна памятаць наступныя прынцыпы.

- У праявах рэчаіснасці няма дробязей, тут усё істотна, нішто не павінна заставацца па-за ўвагай, бо ўсё ўзаемазвязана. Не бывае нічога лішняга і нішто не адбываецца выпадкова.
- Любая з'ява даследуецца ўсебакова, па магчымасці з розных пунктаў погляду.
- У працэсе аналізу шукаецца сутнасць, прычыны любой з'явы, учынку.
- Патрэбна адрозніваць тое, што эпоха «думае» аб самой сабе, ад таго, што яна на самай справе «робіць».
- Неабходна улічваецца фактар кантэксту гістарычнай падзеі, падаплёку, схаваную «між радкоў» гістарычнага дакумента, гістарычнага сведчання.
- Давер маем толькі да першакрыніцы. Аднак давер не абсалютны – крытычны! Фактам гісторыі звесткі становяцца па меры іх пацвярджэння іншымі першакрыніцамі.

*Алесь Госцеў*

# §1. Імя нашага горада

**Пасля азнаямлення з параграфам вы павінны:**

- ведаць тлумачэнні летапіснай назвы нашага горада;
- адрозніваць афіцыйныя (на розных мовах) і народныя назвы Гродна;
- правільна фармуляваць і ўжываць паняцці: лінгвістыка, этымалогія.

## 1. Імя горада ў летапісах.

Каб адказаць на пытанне, як тлумачыцца тое ці іншае імя горада, трэба звярнуцца да этымалогіі і лінгвістыкі. Гэтыя навукі вывучаюць мову, гісторыю яе развіцця, паходжанне слоў, іх першапачатковую структуру. Таму невыпадкова, што пошук адказу на пытанне пра паходжанне і значэнне назвы «Гродна» мы пачнём з самых ранніх пісьмовых крыніц – летапісаў. Паглядзім, як афіцыйна падаецца назва Гродна. Пад афіцыйнай назвай горада мы будзем разумець яе выкарыстанне ў летапісах, пастановах магістрата, гарадской думы ці гарвыканкама, адлюстраванне назвы на гарадскіх пячатках, на паштовых штэмпелях, чыгуначных і аўтобусных станцыях.

Першапачатковай назвай горада з'яўляецца тая, што згадваецца ў самых ранніх пісьмовых крыніцах у назоўным склоне. Такая згадка, прычым адзіная за ўсё XII ст., знаходзіцца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1183 г. «.... *Того же лета Городенъ погоре ...* ». Мноства разоў такая ж назва (з варыянтам яе змякчэння – Городень) згадваецца ў старажытнарускіх (Іпацьеўскім, Лаўрэнцьеўскім і Радзівілаўскім) і ранніх беларуска-літоўскіх летапісах. Такім чынам, «Городенъ» – адзіная летапісная назва нашага горада, якая змяняецца на імя «Гродна» перад самым стварэннем Рэчы Паспалітай, у 60-я гг.

> *Гарадскія назвы – мова горада.*
> ***Мікалай Анцыфераў, расійскі гісторык, краязнаўца***



**Паселішча на Замкавай гары ў канцы X ст. Рэканструкцыя. Мастак Р. Сташкевіч**




Замежная вайсковая місія ў Гродна 1919 г.

## Факты гісторыі

У 1918 г. падчас існавання Беларускай Народнай Рэспублікі афіцыйна ўжывалася назва "Горадня". На будынку гродзенскага чыгуначнага вакзала меўся адпаведны надпіс.

XVI ст. Па-беларуску гэтая назва гучыць як Горадзен, Гародня, Горадня ці Гродна.

Тоеснасць гэтага летапіснага горада з сучасным Гродна на Нёмане даказаў на IX археалагічным з’ездзе ў Вільні (1893 г.) гродзенскі гісторык-краязнавец Яўстафій Арлоўскі. Таму ёсць усе падставы лічыць летапісны




Знак гарадской улады 30-х гг XX ст. на тратуарным бардзюры

«Горадзен» гістарычным «продкам» сучаснага Гродна. Гэта пераканаўча пацвердзілі таксама археолагі.

Што тычыцца назваў «Гародня» ці «Горадня» (сёння іх можна чуць з вуснаў розных людзей), то менавіта так называе наш горад народ. Гэта беларускае вымаўленне назвы «Городен», якое адпавядае мілагучнасці беларускай мовы.

Назва Городен (варыянт Городень) у дачыненні да населеных пунктаў Беларусі, Літвы, Польшчы, Расіі і Украіны ўнікальная. Яе нельга змешваць з найменнямі Гародна, Гарадня, Гарадок, якіх на акрэсленых абшарах безліч.

## Факты гісторыі

- Сучасны Гродна на Нёмане – гэта летапісны Горадзен XII–XVII стагоддзяў.
- Крыжакі называлі наш горад «Гартэн» (Garthen) або «Гартэна» (Garthena). У перакладзе з нямецкай мовы «garten» азначае сад.
- У дакументах на лацінскай мове горад называўся «Grodno» ці «Grodnae». У адной з грамат вялікага князя Жыгімонта II Аўгуста, якая адносіцца да 1562 г., упершыню выкарыстоўваецца сучаснае імя горада на Нёмане – Гродна.




Штэмпель гродзенскай паштовай канторы на марцы часоў Беларускай Народнай Рэспублікі. 1919 год




Стары гродзенскі чыгуначны вакзал. 1986 год

### 2. Тлумачэнне летапіснай назвы горада.

Чаму менавіта так гучыць назва нашага горада, які сэнс яна мае? Дакументальна зафіксаваных тлумачэнняў летапіснага імя Гродна няма. Але існуе шэраг навуковых гіпотэз, кожная з якіх мае права на існаванне. Ніжэй прыводзяцца некаторыя з версій-тлумачэнняў паходжання летапіснай назвы горада Гродна. Паспрабуйце суаднесці іх і зрабіць уласныя высновы.




Гродна на выяве XVII ст. Паводле гравюры Цюндта.

Мноства энцыклапедычных і даведачных выданняў, а таксама некаторыя манаграфіі тлумачаць паходжанне назвы Гродна ад дзеясловаў "гарадзіць, агароджваць". Напрыклад, у падручніку для 4-га класа "Мая Радзіма – Беларусь" чытаем : "... Горадзень, Гародня. Гэтыя назвы, як і словы "гарадзішча", "горад", азначаюць "агароджанае месца, умацаванае паселішча". Гэтага ж прытрымліваецца даследчык фальклору Аляксей Ненадавец у кнізе "Гродзеншчына: назвы населеных пунктаў паводле легендаў і паданняў".

**Версію літоўскай назвы Гродна – Gardinas (Гардзінас) прыводзіць літоўскі філолаг пачатку XX ст. Казімерас Буга.** Назва Гардзінас паходзіць ад імя паганскага бога Гардуніціс (або Гарнітас, Гардунціс), якога паважалі яцвягі (балцкае племя) за тое, што ён быў апекуном жывёлы. Згодна з паданнем, каля Гродна быў гай Гардуніціса, вядомы ва ўсёй гістарычнай Літве (цяпер гэта Гродзеншчына, Брэстчына і частка Міншчыны).

**Версія Вячаслава Шведа.** Значная колькасць беларускіх гарадоў сваё імя атрымала ад назвы ракі, на берагах якой яны знаходзяцца. Напрыклад, Полацк (Полацак) – ад Палаты, Мінск (Менск) – ад Менкі, Віцебск – ад Віцьбы. Гродна (Горадзен, Горадня) атрымала назву ад ракі Горадня (іншыя назвы яе Гарадніца, Гараднічанка). Узнікае пытанне: "А чаму так называецца рака?". Аказваецца, што горадня – гэта прамавугольны зруб з бярвенняў ці брусоў, які запоўнены ўнутры зямлёй і каменнем. Як апоры горадні выкарыстоўваліся для будаўніцтва маста – на іх клаўся насціл. Мост праз Нёман і сёння, як і ў сярэднявеччы, знаходзіцца




**Гродна на карце заходнееўрапейскіх картографаў. Другая палова XVI ст.**

паблізу Замкавай гары; мост XVII ст. – праз Замкавы роў – злучае Стары і Новы замкі. Горадні ў XII ст. ўтваралі сцены драўлянага замка. Шчыльна пастаўленыя адна да адной тарцамі яны склалі абарончую сцяну. А перад гэтым на земляным вале маглі быць часовыя горадні з тонкіх жэрдак, заплеценых, як вялізны пляцень, каля вертыкальна ўбітых у зямлю слупоў. Паглядзіце на герб Гродна – на ім ёсць выява плятня (агароджы). Доказам таго, што прадстаўленая версія адпавядае рэальнасці з'яўляецца, напрыклад, назва часткі сярэднявечнай Масквы. У 1534 г. вакол яе Вялікага пасада вырылі роў і на яго вале пабудавалі новую крэпасць Кітай-горад. Яна была агароджана гараднямі з жэрдак, засыпаных зямлёй. Адсюль і назва, бо кіта – гэта звязка жэрдак. Падобнае адбывалася і ў Горадні (Горадзене). Ды і рачулка з такой назвай цякла каля гэтых умацаванняў. Падчас нападу на горад ворагаў можна было пачуць воклічы: "За горадню!" ці "Хавайцеся за горадні!" Вось і прыжылася за горадам гэтая назва. Яна выкарыстоўвалася мясцовым насельніцтвам амаль да сярэдзіны XX ст.

**Версія Алеся Госцева.** Вельмі спрэчнае менавіта старажытнае, з XII ст., паходжанне літоўскай легенды пра Гардуніціса і яе непасрэдная сувязь з першапачатковай (летапіснай) назвай Гродна. Слова "Гардзінас" толькі сугучна імю "Гардуніціс". У той жа самай ступені слова "Городен" сугучна словам "Городна" і "Городно". "Городен" можа азначаць проста "абгароджанае месца", бо першапачаткова гэта быў горад-крэпасць, фарпост на паўночна-заходніх межах Кіеўскага княства і яго назва можа абазначаць "умацаванае абгароджанае месца". Затое су-

часныя беларускія мовазнаўцы тлумачаць нямецкае “Гартэн” і літоўскае “Гардзінас” як дакладны пераклад старажытнарускага “Городен”. І ў дадатак да таго, што глыбінны сэнс слова “город” азначае “абарона”, мы маем «Слова пра паход Ігаравы». Песня-плач пра гібель князя Ізяслава Васількавіча аздоблена фразамі-перазовамі: “Загородите полю ворота ….. трубы трубят городенскіи”. Як вядома, “Слова” заклікае князёў да яднання. І песня-плач выкарыстана аўтарам ў якасці збана-галасніка Барысаглебскай царквы для стварэння рэзанансу – шматразовага ўзмацнення заклiку. “Загородите полю ворота” (згодна сярэднявечнай сімволікі, поле – гэта вораг, а ворота (брама) – горад ці краіна – заклік абараніць краіну ад ворага. І перазоў слова “загородите” са словам “городенскіи” указвае на глыбінны сэнс імя нашага горада: Городен – абаронца сваёй краіны.

Вы пазнаёміліся з шэрагам версіяў і, напэўна, задаліся пытаннем: якая з іх правільная? Слушным будзе адказаць, што кожная з іх нясе сваю частку мінуўшчыны горада, краю і краіны. Рачулка Гараднічанка, гародні, умацаваны дзядзінец, славутая вайсковая гісторыя горада ўвасобіліся ў яго назве. Але навуковая праблема яе паходжання застаецца нявырашанай. Можа, яе вырашыце вы?

## ? Пытанні і заданні

1. **Пералічыце тлумачэнні летапіснай назвы горада.**
2. **Суаднясіце розныя назвы Гродна з гістарычнымі перыядамі, калі гэтыя найменні афіцыйна ўжываліся. Як адпаведны гістарычны час паўплываў на гучанне назвы горада?**
3. **Паколькі тлумачэнне назвы горада мае гіпатэтычны характар, паспрабуйце прапанаваць сваю версію. Абгрунтуйце яе.**
4. **На (старонках 15-16) прыведзены летапісныя згадкі назвы нашага горада. Зрабіце іх параўнальны аналіз. Да якіх высноў вы прыйшлі?**

**ПСРЛ. Т. 2. Ипатьевская летопись.- М.: Языки славянской культуры, 2001. – 648 с. (акрамя самага першага запісу)**



Старонка Іпацьеўскага летапісу XII ст.

«6636 (1127 г.)... Того же лета посла князь Мстиславъ с братьею своею многы кривичи четырьми путьми: Вячеслава ис Турова, Андрея из Володимеря, а Всеволодка из Городна... рекъ им динъ день всим пустити на вороп мца августа 11 дня... » (ПСРЛ. Т. 2. Ипатьевская летопись.- СПб, 1843. – С. 11).

Л. 1149: В лето (6658) с Борисомъ Городеньскимъ ….
Л. 1150: и Бориса Городеньскаго …. ».
Л. 1153 об.: « В лето (6659) и съ Городеньскимъ княземъ.… ».
Л. 109 об.: «В лето (6640) Ходи Мстиславъ на Литву. Съ снъми своими. и съ Лговичи . и съ Всеволодомъ . Городеньскимъ …».
Л. 114.: « В лето (6649) … /Л. 114 об.:/ ... в се же лето . преставися Всеволодъ. Городеньскии.
Варианты: Х.П. городенскыи.
Л. 108 об.: « В лето (6636) … /Л. 109.:/ ... того же лета. посла князь. Мстиславъ с братьею своею. многы кривичи. четырьми путьми . Вячеслава ис Турова . Андрея. из Володимеря . Всеволодка из Городка и Вячьслава Ярославича. Ис Клечьска . темъ повеле ити къ Изяславлю … рекъ имъ въ динъ днь всимъ пустити на воропъ . мца августа. въ первыи на десять днь ... » .
Варианты: П. Всеволода из городня
Л. 220: « Въ ле. (6691) … /Л. 222:/ …Того же ле Городенъ погоре всь. И цркы каменая . от блистания. Молние . и шибения грома »
Л. 274 об.: « Въ ле. 6761 ... Данилъ ... Потом же посла с братом. И со снмъ Романомъ. Люди своя и взяста Городенъ.
Л. 282 об.: « Въ ле. 6768 ... /Л. 282 об.:/ …потом же мысял ити на Городенъ … » хотящоу емоу ити. К Городноу … ».
Л. 290 об.: « Въ ле. 6784 ... Придоша Проуси. ко Троиденеви . и своеи земли неволею передъ Немци. Он же прия е к собе и посади часть и в Городне а часть ихъ посади во Вьслониме … »
Л. 290 об.: « Въ ле. 6785 ... Поидоша к Городноу … ».

**ПСРЛ. Т. 35. Белорусско-литовские летописи.– М.: Наука, 1980. – 305 с.**

**Никифоровская летопись (XV в.)**
С. 33: 6923 (1415) «Городен»
**Супрасльская летопись (XVI в.)**
С. 55: 6923 (1415) «Городенъ»
С. 62: «Наидетъ в Городне … до Городна ... из Городна … ко Городну …. к Городну»
С. 63: «… оставить в Городне … «
С. 64: «… бе … у Городне …».
**Слуцкая (Уваровская) летопись XVIв.**
С. 68: «… поехал к Городну … наидетъ у Городне … до Городна … из Городна… поидет к Городну … к Городну …
… Кестутии сына своего великого князя Витовта оставить в Городке так у тэксце летапісу – аўт.) ».

С. 70: «… бе у Городне»
Виленская летопись (кон. XV – нач. XVI вв.; писана в Смоленске)
С. 86: «Наидетъ у Городне … з Городна ... поедетъ с Троков к Городну …. в Городне наидетъ … оставил у Городне … поиде из Городна»
С. 88: «… Анна в Городне»
**Летопись Археологического общества (XVI - XVII вв**
С. 91: « … з Городна»
С. 98: «… поидетъ к Городну … оставит у Городне … поидет з Городна».
**Академическая летопись (XVI в.)**
С. 111: « до Городна приехал … приженетъ из Городна».
С. 112: «поидетъ … к Городну … к Городну … оставитъ у Городне … поидетъ из Городна».
С. 114: «… бе тогда в Городне».
(пер.со старобелорусского сделан по заказу
Длугоша: кн. X «Истории Польши»
С. 116: Краткая Волынская летопись (XVI в.)
С. 125: «В лето 6999-е (1492) индикта 9 … Преставися Казимир Якгеиловичъ, король польски и велики князъ литовскыи, месяца июня 7 день по Вънесении Христове, в четверок, рано въсходящу солнцу в граде Городне».
**Летопись Красинского (XVI в.)**
С. 129: «… зарубил Городен город»
С. 130: «… выгнати … з Городна».
С. 134: «… знайдетъ в Городне … приженетъ з Городна … поеде к Городну … оставитъ в Городне … поидетъ з Городна».
С. 136: «… Анна была … в Городне… ».
**Летопись Рачинского (конец XV I- XVII вв.)**
С. 146: «… И пошедшы з Новагародка и зарубил город Городно»
С. 147: «… Выгнати … з Городна».
С. 155: « … знаидетъ … у Городне … прибежать з Городна … ».
С. 156: « … поидетъ к Городну … бордзо к Городну приедетъ … оставитъ в Городне … поидетъ з Городна … ».
С. 166: « … лета Божого нарожэня 1492, июня 7 дня. Умер король польски и велики княз литовскыи Казимер Якгелонович у Городне пановавшы фортуне на королев-стве Польском лет 45, а на великом кня-жэньи литовском лет 52 на 7 лет больше королевства своего… ».
С. 167: « 1508 … через рэку от места Городна … через место Городно … ».
**Ольшевская летопись (сер. XVI в.)**
С. 194: « … и зарубил город Городен ».
С. 194: «… выгнати з Городна »
**Румянцевская летопись (конец XVII в.)**
С. 203: « … знаидетъ в Городне … прибежит з Городна … поидет к Городну … оставит в Городне … поиде с Городна ».
**Евреновская летопись (конец XVII в.)**
С. 216: « … Выгнати … из Городка »
С. 224: « … нашол в Городне … пригнал к Вилну з Городня … ».
С. 225: « … поиде к Городню … скоро к Городню пришол … оставил в Городне … поиде з Городня … ».
С. 234: «1492 … Потом король Андреи Казимер Якгаилович умер в Городне …Того же лета князь Міхаіло Глінскоі Заберезынскаго убил в Городне ... »

# §2. Герб і сцяг горада

**Пасля азнаямлення з параграфам вы павінны:**

- умець «чытаць » герб горада як пэўны тэкст;
- умець тлумачыць выявы гродзенскага герба розных часоў;
- ведаць гісторыю з'яўлення сцяга горада;
- правільна фармуляваць і ўжываць паняцці: геральдыка, вексілалогія, герб.

## 1. Гісторыя стварэння герба

Для азнаямлення з гэтай тэмай мы павінны ведаць паняцці такіх навук, як геральдыка і вексілалогія. Гарадскі герб – бясспрэчная візітоўка кожнага горада. Таксама, гэта пасланне нашых продкаў праз нашу сучаснасць у будучыню. І таму гарадскі герб павінен быць зразумелы ўсім і ва ўсе часы. Старажытныя гербы гарадоў складаліся адпаведна з сярэднявечнай геральдыкай. Геральдыка мае свае законы. У сярэднявечным грамадстве геральдыка з'яўлялася часткаю жыцця і яе сімвалы былі зразумелымі кожнаму адукаванаму чалавеку. Сёння геральдыка з'яўляецца дапаможнай гістарычнай дысцыплінай, накіраванай на тлумачэнне існуючых гербаў і стварэнне новых.

Перад вамі выява герба горада Гродна. Ці ведаеце вы яго гісторыю, ці ў стане «прачытаць» герб як нейкі тэкст? Каб дасягнуць гэтага, акрамя ведання асноваў геральдыкі, неабходна ведаць гісторыю Гродна да моманту атрымання ім герба, этымалогію назвы горада; вызначыць і зразумець гарадскія паданні; спалучыць усю сукупнасць сабраных фактаў. Толькі тады можна наблізіцца да «прачытання» гарадского герба.

Герб Гродна быў створаны нашымі продкамі – мяшчанамі-гродзенцамі пасля атрымання імі ад вялікага князя Аляксандра Ягайлавіча прывілея на магдэбургскае права. Прайшло 44 гады і ў горадзе, была пабудавана Ратуша, працаваў магістрат. Але на пячатках магістрата адсутнічаў герб. І тады ў **1540 г.**

> *Мы, Бона з ласкі Божай вялікая княгіня літоўская, руская, жамойцкая і г.д. чынім знаменіто тым нашым лістом пану войту і магістрату Гарадзенскаму змясціць на гарадскіх пячатках Гарадзенскіх герб горада і выяву герба зрабіць падобнай да герба Любліна... Дано в Вільне року панскага 1540 у дзень св. Губерта (3 лістапада).*
>
> ***З Прывілея Боны Сфорца 1540 г.***



**Выява сучаснага герба Гродна**

### Факты гісторыі

Гарадское справаводства зафіксавала розныя выявы герба. На пячатках з датамі «1540» і «1565» – падобны герб. Аднак на пячатцы з датай «1640» (на дакуменце 1652 г.) плоту няма. На дакуменце 1792 г. замест плоту – контуры трох узгоркаў. На дакументах 1718 і 1784 гг. на гербе паміж рагоў аленя няма крыжа, замест плоту тры ўзвышшы. На пячатцы з датай «1540», якая выяўлена на асобных дакументах за 1772–1791 гг., выкананы алень з крыжам над агароджаю на фоне трох кустоў.


1540 г.


1565 г.


1640 г.


1740 г.


1792 г.

**Выявы гарадзенскага герба на гарадскіх пячатках XVI–XVIII ст.**

### Заданне на спалучэнне фантазіі і інтуіцыі

Прапануйце свае меркаванні наконт варыянтаў герба Гродна з выявай аленя

вялікая княгіня літоўская і каралева польская **Бона Сфорца** выдала гораду новы прывілей, згодна з якім гарадзенскаму войту і магістрату прадпісвалася змясціць на пячатцы Гродна герб «падобна Люблінскаму». Першыя дакументы, засведчаныя гарадскімі пячаткамі з выявай гарадскога герба, якія дайшлі да нашага часу, з'явіліся ў 1560-я гг., аднак на іх змяшчаецца дата 1540 г. На пячатках – выява аленя св. Губерта, які пераскоквае праз плоту. Герб Гродна з выявай аленя існаваў каля 250 гадоў.

Пасля ўключэння Гродна ў склад Расійскай імперыі пэўны час на выяве герба быў алень св. Губерта, выкананы побач з двухгаловым арлом, на грудзях якога быў шчыт з гербам «Пагоня», а па баках – скіпетр і дзяржава. З утварэннем Гродзенскай губерні горад страціў гэты герб і амаль 120 гадоў карыстаўся губернскім гербам з выявай зубра на чырвоным полі шчыта, хаця згодна з «Даравальнай граматай гарадам» выдадзенай пры Кацярыне II, мог яго мець. У 1919 годзе, калі Гродна адышоў да Польшчы, польскія ўлады вярнулі герб з выявай аленя св. Губерта. У 1939 годзе, пасля таго, як польская ўлада змянілася на савецкую, герб ізноў знік амаль на паўстагоддзя. Грамадска-палітычныя перамены ў Беларусі другой паловы 80-х гг. XX ст. паўплывалі на змену герба і вяртанне яго гістарычных элементаў. Гэта быў савецкі час, і па выніках конкурсу, ініцыяванага выканкамам Гродзенскага гарсавета народных дэпутатаў 15 чэрвеня 1988 г., герб выглядаў так: «Герб г. Гродна мае форму раннегеральдычнага шчыта; фон шчыта выкананы ў выглядзе сцяга Беларускай ССР... на фоне намаляваны залаты алень, які пераскоквае праз агароджу; шчыт абведзены залатой паласой». Гэта быў рэканструяваны герб XVI ст., аднак не стала залатога крыжа, на мяжы шчыта з'явілася чырвоная зорка; колер шчыта з блакітнага ператварыўся ў чырвона-зялёны. Парушэнні геральдычных прынцыпаў выправілі ў **1990 годзе** рашэннем трэцяй сесіі Гродзенскага гарсавета, калі быў зацверджаны гістарычны герб XVI ст. у яго класічным варыянце.

### 2. Аб чым «гаворыць» герб Гродна

Выява плоту пад аленем св. Губерта - гэта зашыфраваная назва летапіснага горада Горадзен, што азначае: абаронца. Алень з залатым крыжам паміж рагамі не пераскоквае праз плот, а быццам ляціць над горадам. Ускосна пра гэта сведчыць змест легенды пра св. Губерта.

Паколькі святы Губерт – апякун паляўнічых, зразумела з'яўленне на гербе Гродна аленя

св. Губерта. Бо сярод аб'ектаў палявання гродзенцаў XII ст. на першым месцы быў высакародны алень, косці якога складаюць 25 % знойдзеных падчас археалагічных раскопак касцей дзікіх жывёлін. Сярод беларускіх гарадоў такое характэрна толькі для Гродна. Алень – гэта і сімвал ваяра. Ён улюбёны персанаж казак і легенд, калядных і вясельных песень, яго часам называлі цудоўным і дзівосным зверам – аленем. У паганскай, а затым і ў хрысціянскай традыцыі алень лічыўся сімвалам Сонца, апосталаў або святых. Сімвал аленя з крыжам паміж рагамі атрымаў шырокае распаўсюджанне ў жыціях святых. Таму ў гербе Гродна такая негеральдычная фігура можа ўспрымацца як сімвал



Пячатка гарадзенскага магістрата ў часы панавання Расійскай імперыі, 1800 год.

**Легенда пра святога Губерта.** Хоць Губерт (каля 656 – 728 гг.), сын Бертранда, герцага Аквітанскага і быў рэальнай асобай, аднак звесткі пра яго носяць легендарны характар. Існуюць некалькі паданняў пра сустрэчу Губерта з аленем. Губерт, чалавек вельмі прыстойны і набожны, вучыўся ў біскупа Ламберта. Свае маёнткі ён раздаваў бедным, праславіўся як выдатны прапаведнік. На месцы забойства Ламберта пабудаваў храм, дзе змясціў рэліквіі свайго сябра і настаўніка. Сам памёр паблізу Бруселя і пахаваны ў царкве святога Пятра ў горадзе Льеж. Другая легеда малюе Губерта чалавекам бесклапотным, які вольны час праводзіў у балях і паляваннях. Але аднойчы падчас палявання з'явіўся яму алень з крыжам паміж рагамі і сказаў: «Калі не зменіш лад жыцця, дык хутка трапіш у пекла». Моцна здзівіўся Губерт, злез з каня і пачаў шчыра маліцца. Пасля ён склаў з сябе ўсе пасады, папрасіў блаславення ў біскупа Ламберта і сем гадоў правёў паломнікам у Ардэнскіх гарах. Там Губерт зноў пачуў голас: «Пакінь самоту і ідзі ў Рым! ». Так ён і зрабіў. Слухаў прамовы папы рымскага, які пасля смерці Ламберта прызначыў Губерта біскупам. На гэтай пасадзе Губерт прапаведаваў хрысціянства, абараняў жабракоў, за што і быў кананізаваны найсвяцейшым



Абраз "Святы Губерт". Мастак Л. Балзукевіч. 1934 г.

## Факты гісторыі

У дзень св. Губерта, 3 лістапада, у мінулым святкавалі ў Гродне Дзень горада.

Сюжэт са сцэнай з'яўлення аленя з залатым крыжам паміж рагамі перад Губертам быў вельмі папулярны сярод гарадзенцаў і знайшоў адлюстраванне ў шматлікай атрыбутыцы, што змяшчалася на розных рэчах. Напрыклад, у Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі выстаўлена ваза XVII ст. з выявай аленя св. Губерта. У сярэднявеччы ў Баварыі, Чэхіі, Францыі існаваў рыцарскі ордэн св. Губерта. З XV ст. існавала ўзнагарода «Ордэн св.Губерта».



Гародня і святы Губерт на вазе XVII ст.

душы горада. Гэта яшчэ і сімвал існасці, веры, чысціні думак, мудрасці і ўрадлівасці. Золата крыжа сімвалізуе багацце, справядлівасць, велікадушнасць. Блакітнае поле шчыта – сімвал прыгажосці, велічы, мяккасці. Спалучэнне золата і блакітнага колеру падкрэслівае, што гораду наканавана квітнець «на славу, каб дагадзіць Богу».

### 3. Пад сцягам Гродна

У старажытнасці Гродна не меў сцяга (харугвы). Існавалі ваяводскія і павятовыя харугвы. Гродна ўваходзіў у Трокскае ваяводства, харугва якога была блакітная і мела герб «Пагоня», размешчаны на чырвоным полі. Тыя ж колеры і «Пагоню» ўтрымлівала харугва Гродзенскага павета.

У маі 1997 годзе сесія гарадскога Савета дэпутатаў прыняла рашэнне аб распрацоўцы праекта чацвёртага варыянта сцяга горада. Гарадскі выканаўчы камітэт даручыў выкананне праекта гродзенскаму гісторыку і краязнаўцу Вячаславу Шведу. Пры распрацоўцы новага варыянта сцяга ўлічваліся правілы вексілалогіі (гістарычная дысцыпліны, якая займаецца вывучэннем

## Факты гісторыі

У савецкі час сцяг горада ўпершыню быў зацверджаны ў 1940 г. Другі ўзор сцяга прыняты ў 1944 г., наступны – у 1977 г. Ён выглядаў так: двухбаковае аксамітнае палотнішча памерам 160 x 130 см, абшытае па баках макрамэ, з прымацаваным да тронка навершам, з залацістым кутасам. На правым баку палотнішча залацістым шоўкам вышыты партрэт Леніна і лозунг: «Под знаменем марксизма-ленинизма, под руководством Коммунистической партии – вперёд к победе коммунизма!». На адваротным баку знаходзілася выява герба СССР, над якой надпіс: «Пролетарии всех стран, соединяйтесь!». Менавіта на гэты сцяг прымацавалі ордэн Чырвонага Працоўнага Сцяга, які атрымаў Гродна ў 1978 годзе .

сцягоў, штэндараў, вымпелаў). Таму колер харугвы строга супадае з афарбоўкай гербавага шчыта, на ёй малюецца толькі выява галоўнай эмблемы (негеральдычнай фігуры) без шчыта - яго ролю выконвае харугва.

Сцяг Гродна – блакітная харугва, на якой вышыты залаты алень св. Губерта, які пераскоквае праз плот. 25 верасня **1997 года** сесія гарадскога Савета дэпутатаў зацвердзіла сцяг Гродна. Арыгінал сцяга захоўваецца ў Гродзенскім гарадскім выканаўчым камітэце.



Сучасны сцяг горада Гродна

## Пытанні і заданні

1. Што такое геральдыка?
2. Як змяняўся выгляд герба Гродна ў розныя перыяды гісторыі горада?
3. Якія адметнасці месцазнаходжання горада можна прачытаць на гербе Гродна?
4. Адшукайце ў літаратуры прыклады ўжывання вобраза св. Губерта. Параўнайце іх з месцам і роллю гэтага сімвала ў нашым горадзе. Зрабіце высновы.
5. Прапануйце свае варыянты «прачытання» герба Гродна.
6. Што такое вексілалогія?
7. Якія перыяды гісторыі Гродна адлюстроўваюць гарадскія сцягі розных часоў?

# §3. Сведчанні першабытнага часу

“

*Райград ляжыць між лесу, як вялікі сподак, ляжыць спакойна, сцішана і зелянее морам атавы. Яго палавініць белая паласа мяжы. Здалёк падобная на дарогу-гравейку. Па левы бок яе – зямля беларуская, па правы – літоўская. Яшчэ відзён астравок лесу.*
*Ён узвышаецца над левай часткай Райграда і нагадвае прысады закінутага хутара.*
***Яраслаў Пархута, беларускі пісьменнік***

**Пасля азнаямлення з параграфам вы павінны:**

- **ведаць, якія асаблівасці ў палеанталагічны час фарміравалі прыродна-геаграфічныя асаблівасці Гродна і яго ваколіц;**
- **тлумачыць факты палеанталагічных знаходак у ваколіцах і межах горада;**
- **правільна фармуляваць і ўжываць паняцці і назвы: «Крэйдавыя горы», «Новы Свет».**



**Кронан – рака часу. Так называлі ў старажытнасці Нёман, адвечны сімвал нашага краю**

## 1. Прырода палеанталагічнага часу

Сёння цяжка ўявіць, што тэрыторыя Гродна была марскім дном. Але менавіта так і было. 570 мільёнаў гадоў назад адасобіўся Гродзенскі тэктанічны выступ марскога дна, які існаваў у выглядзе слабапрыўзнятай сушы. Недзе каля 180 мільёнаў гадоў таму пачаўся першы наступ мора на сушу. У крэйдавы перыяд (пачаўся 137 мільёнаў гадоў назад і цягнуўся 70 мільёнаў гадоў) адбыўся другі наступ мора. У ім ужо існавала жыццё, плавалі прымітыўныя рыбы, на прыморскім узбярэжжы буяла расліннасць, у якой знайшлі прытулак земнаводныя істоты – амфібіі.

67 мільёнаў гадоў на тэрыторыі, дзе пазней будзе наш горад, была раўніна, складзеная пісчай крэйдай, тоўшча якой дасягала 120–140 м. Каля 45 мільёнаў га-

доў таму мора апошні раз пайшло ў наступ на сушу на тэрыторыі сучаснага Гродна. Пасля адступлення мора, разам з хвалямі адышоў у нябыт субтрапічны клімат, і на месцы трапічных і субтрапічных лясоў пачалі расці шыракалістыя ды іглiста-шыракалістыя лясы.

Верагодна, вы чулі пра «Крэйдавыя горы» паблізу ўрочышча Пышкі. Яны – сведкі працэсаў, пра якія вы толькі што прачыталі. Тут знаходзіцца радовішча крэйды. Яшчэ адно радовішча крэйды знаходзіцца каля вёскі Грандзічы, недалёка ад Гродна.

Мільён гадоў таму пачаўся ледавіковы перыяд. Ледавікі пакрывалі зямлю не менш за пяць разоў. У выніку змяніўся раслінны і жывёльны свет. На змену іглiста-шыракалістым лясам прыйшлі іглiстыя; з'явіліся сланы, насарогі і мастадонты, якія паступова знікалі, з'явіліся мядзведзі, ласі, ваўкі, быкі і коні. Падчас апошняга зледзянення (каля 19 – 18 тысячы гадоў назад) ледавік дасягаў паўночнай ускраіны Гродна. Месца іглістых лясоў заняла спачатку тайга, а потым – тундра. Найбуйнейшымі звярамі былі валасатыя насарогі і маманты.

У міжледавіковы перыяд клімат быў падобны на сучасны. Менавіта ў гэты час рэльеф зямлі, расліннасць і жывёльны свет былі такія, якія існуюць сёння. Тады ўтварылася Гродзенскае ўзвышша, тэрыторыю Гродна перарэзала даліна, склалася сетка яроў.

## 2. Палеанталагічныя знаходкі

Пацвярджаюць вышэйсказанае і знаходкі на тэрыторыі Гродна рэштак мамантаў. Сенсацыяй сталі рэшткі маманта, якія ў сакавіку 1837 года былі знойдзены на Фолюшы. Млынар з Ласосна Людвіг Міхальскі на беразе Ласасянкі знайшоў рог даўжынёю каля шасці метраў і ніжнюю скiвіцу з двума зубамі. Гродзенс-




Пакручастыя берагі Нёмана блізу Гродна. Паштоўка пач. XX ст.



Міхась Чарняўскі (нар. ў 1938 г.) Беларускі археолаг.

кі мешчанін Адам Макарэвіч адшукаў на гэтым месцы галаву з двума зубамі, пярэднюю і заднюю лапатку даўжынёю і шырынёю каля двух метраў, а мясцовы землеўладальнік дэ Лясі паслаў сюды сваіх людзей, і яны адкапалі тры кавалкі рабрын маманта. Пазнейшыя даследаванні месца знаходкі паказалі, што спачатку ў тоўшчы торфу захоўваўся цэлы шкілет маманта. У 1855 г. тая частка маманта, якая захоўвалася ў Гродзенскай мужчынскай гімназіі (чэрап, пярэдняя і задняя лапаткі), была перададзена ў Віленскі музей.

У 1886 г. зуб маманта адшукалі ў гарадскім раёне «Новы Свет» (цяпер раён заапарка, у той час – Станіславоўская алея). У 1935 годзе гарадскі часопіс «Нёман» паведаміў, што падчас пракладвання каналізацыі на глыбіні 5,5 м на вул. Басняцкай (цяпер частка вуліцы Сацыялістычнай: паміж вуліцамі Ажэшкі і Кірава) знайшлі костку левай галёнкі маманта. У 1938 годзе дырэктар Гродзенскага гарадскога музея прыроды **Станіслаў Жыўна** знайшоў падчас будаўніцтва шашы на тэрыторыі лесапарку Румлёва, у раёне рачулкі Салянка ля вёскі Солы, косткі маманта і іншых старажытных жывёл.

## 3. Першыя людзі на берагах Нёмана

У 1860-х гадах на берагах Нёмана ў межах горада (у тым ліку на Каложскім узвышшы) археолаг **Васіль Гразноў** знайшоў каменныя прылады працы і кавалкі крэмню са слядамі апрацоўкі. Тры стаянкі каменнага і бронзавага часу на левым беразе Нёмана каля вёскі Баля Сольная выявілі і даследавалі археолагі ў 1956, 1957, 1975 гадах. Сярод іх былі **Леў Клейн і Міхась Чарняўскі**. На паверхні былі сабраны скрабкі, пракола, разцы, лістападобныя і трохвугольныя наканечнікі стрэл, каменная сякера, фрагменты керамічнага посуду. Паблізу Балі Сольнай выяўле-



Каменныя сякеры, знойдзеныя ў Гродна



Паселішча людзей новага каменнага веку

## Постаць гісторыі

**Станіслаў Жыўна (29 жніўня 1893, Гродна - 1940гг.)** – натураліст-аматар, калекцыянер, стваральнік у 1926 годзе ў Гродне музея прыроды, у якім у 1929 годзе было 76 экспанатаў сысуноў, 417 птушак, 599 матылёў, 1991 жук, 125 птушыных яек, 28 рыб, 110 мінералаў, 456 скамянеласцей. У музеі адбываліся заняткі школьнікаў, праводзіліся экскурсіі. Экспанаты, сабраныя ў ім, і цяпер захоўваюцца ў Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі.



ны помнікі флоры ледавіковага перыяду, якія былі пазней апісаны.

Стаянка каменнага веку адкрыта Міхасём Чарняўскім у 1972 годзе на ўсходняй ускраіне в. Солы. Тут знойдзены крамнёвыя прылады працы, фрагменты ляпных гаршчкоў. У 1958 годзе на гэтым месцы **Фрыда Гурэвіч** адкрыла і даследавала селішча культуры штрыхаванай керамікі (мяжа нашай эры). Керамічныя вырабы гэтага часу былі знойдзены і на дзядзінцы Гродна (двор Старога замка).

Знаходкі археолагаў сведчаць аб тым, што горад Гродна ўзнік у канцы X ст. на балцкай тэрыторыі як цэнтр усходнеславянскай каланізацыі, якую ажыццяўлялі дрыгавічы і валыняне.



**Фрыда Гурэвіч (1911-1988 гг.). Археолаг, даследавала помнікі археалогіі Панямоння.**



**Прылады працы старажытнага чалавека**

### ? Пытанні і заданні

1. **Вызначце асноўныя перыяды далетапіснай гісторыі Гродна. Ахарактарызуйце кожны з іх.**
2. **Знайдзіце на карце Гродна месцы археалагічных знаходак палеанталагічнага характару. Растлумачце, чаму менавіта тут яны знойдзены.**
3. **З дапамогай дадатковага матэрыялу складзіце паведамленне пра Станіслава Жыўну.**

# § 4. Таямніцы, раскрытыя археолагамі

1. Успомніце, калі і ў сувязі з якімі падзеямі Гродна ўпершыню ўзгадваецца ў летапісах.
2. Звярніце ўвагу на тое, у якім склоне падаецца назва горада.
3. Прасачыце ўсе згадкі пра горад у летапісах у XII стагоддзі (на падставе дадатку). Зрабіце ўласныя высновы наконт першаснай назвы, яе гучання. Запішыце вынікі сваёй працы ў сшытак.

“

*Гродна – сярэднявечная Троя*
***(З артыкулу пра вынікі раскопак на Старым замку ў Гродне ў 1932 – 1933гг.)***

**Пасля азнаямлення з параграфам вы павінны:**

- аргументавана расказаць пра вынікі першых археалагічных даследаванняў Гродна;
- тлумачыць змест і вынікі археалагічных раскопак у горадзе на мяжы XX – XXI стст.;
- правільна фармуляваць паняцці і ўжываць назвы: плінфа, Ніжняя царква, Верхняя царква, гродзенская архітэктурная школа.

## 1. Праблема ідэнтыфікацыі

Няўважлівае стаўленне асобных, у тым ліку і спрактыкаваных навукоўцаў, да сціслых радкоў Іпацьеўскага летапісу, у якіх згадваецца Гродна і яго ўладары, прывяло да памылковага атаясамлення гэтага населенага пункта з рознымі населенымі пунктамі тагачасных Полацкага і Тураўскага княстваў. Доўгі час ніхто з даследчыкаў не звяртаў увагу на тое, што летапісец не ўдакладняў месца знаходжання Горадна (у назоўным склоне Горадзен). Яўстафій Арлоўскі звярнуў увагу навуковага свету на наяўнасць над Нёманам, у сучасным Гродне, праваслаўнай царквы Барыса і Глеба, але спатрэбіліся грунтоўныя археалагічныя даследаванні, пошукі на Замкавай гары каб пераканаўча сцвердзіць тоеснасць летапіснага Горадна і нёманскага Гродна. Але і да сённяшняга дня выдаўцы Іпацьеўскага летапісу адносяць летапісны Городен (Городок) да Палесся. Навуковы падыход дае магчымасць пазбегнуць памылак і сцвердзіць факт гісторыі: летапісны Горадзен – гэта сучасны горад Гродна. А падрабязнасці шматгадовых археалагічных даследаванняў Гродна XII стагоддзя дазваляюць удакладніць і значна пашырыць нашы ўяўленні пра пачатковы перыяд гісторыі горада.



Замкавая гара. Паштоўка пач. XX ст.

## 2. Першыя спробы археалагічных даследаванняў

Пытанне пра месцазнаходжанне летапіснага Горадна здаўна цікавіла даследчыкаў. Надта сціслыя звесткі летапісцаў прывялі да навуковай дыскусіі. Адны, сярод іх расійскія гісторыкі Мікалай Карамзін, Сяргей Салаўёў і гродзенскі краязнавец Юзаф Ядкоўскі, атаясамлялі яго з мястэчкам Гародна ў Столінскім раёне. Іншыя, польскі навуковец Зыгмунт Глогер, ураджэнец і даследчык Гродзенскай губерні Павел Баброўскі і настаўнік Гродзенскай гімназіі Яўстафій Арлоўскі, лічылі, што Горадна знаходзілася на Нёмане, на месцы сённяшняга Гродна. Апошні ў працы «Заснаванне горада Гродна і яго гісторыя да 1241 года» падрабязна апісаў помнікі старажытнасці горада – Барысаглебскую царкву, Стары замак з яго падземнымі хадамі, Новы замак, якія, на яго думку, пераканаўча сведчаць аб тоеснасці летапіснага Горадна з Гродна на Нёмане. Пераканацца ў гэтым можна было толькі па выніках археалагічных раскопак. Першую спробу выкарыстаць дадзеныя археалогіі зрабіў Яўстафій Арлоўскі. Ён атрымаў дазвол на даследаванні на Замкавай гары ў Гродне і заклаў некалькі шурфоў, але вайскоўцы, якія ў тыя часы размяшчаліся ў замку, забаранілі далейшыя раскопкі.

## 3. Раскопкі на Замкавай гары ў 1932 –1939 гадах

Пасля таго, як Гродна ў 1921 годзе ўпершыню ў сваёй гісторыі ўвайшоў у склад Польшчы, улады і грамадскасць надавалі асаблівую ўвагу Старому замку, дзе некалі знаходзіліся рэзідэнцыі вялікіх князёў літоўскіх і польскіх каралёў. Таму ў 1928 г. дзеля



Муры Ніжняй царквы XII ст. Фота з Narodowego Archiwum Cyfrowego (далей NAC)

добраўпарадкавання замка, яго навуковага даследавання, рэканструкцыі і аднаўлення быў створаны Камітэт адбудовы замка. Планавалася прывесці ў парадак яго тэрыторыю і панізіць узровень пляцоўкі двара Старога замка на 4,5 метры. Зямлю з дзядзінца збіраліся выкарыстаць на падсыпку схілаў гары з боку р. Нёман. Кіраўніком земляных прац быў прызначаны дырэктар Гродзенскага музея **Юзаф Ядкоўскі.**

Падчас гэтых прац у 1932 годзе былі адкапаны рэшткі пабудовы, складзенай з **плінфы** – тонкай цэглы. Па меркаванні Ядкоўскага, гэта быў княскі церам, і недзе побач з ім павінна была знаходзіцца царква, пошукі якой сталі асноўнай мэтай раскопак 1933 года. І сапраўды, на поўнач ад церама былі знойдзены рэшткі храма, складзенага таксама з плінфы. На іх знаходзіліся рэшткі іншай, больш позняй культавай пабудовы з брусковай цэглы. У



Фрагмент абарончых муроў. Замкавая гара, раскоп 1937г. Фота NAC.

## Постаць гісторыі



**Юзаф Ядкоўскі (20.12.1890, Гродна – 02.01.1950)** – гісторык, археолаг. Вучыўся ў Гродзенскай мужчынскай гімназіі. Пад уплывам Яўстафія Арлоўскага і Элізы Ажэшкі захапіўся гісторыяй. Скончыў Маскоўскі археалагічны інстытут. Пасля вяртання ў Гродна займаўся гісторыяй, краязнаўствам, сабраў вялікую калекцыю старажытнасцяў, якая стала асноваю гістарычнага музея, створанага ім у 1920 годзе, і кіраўніком якога ён з'яўляўся да 1936 г. З ягонай ініцыятывы пабудавана набярэжная Нёмана пад Замкавай гарой – так званы Бульвар. Юзаф Ядкоўскі – аўтар шматлікіх прац па гісторыі Гродна. Музейная справа, археалогія, архітэктура і гісторыя храмаў, нацыянальны рух – тэмы яго кніжак. Самыя значныя працы: «Гродна», «Гродна і ваколіцы ў пачатку гісторыі Літвы і Русі над Нёманам», «Гродзенскія вуліцы ў святле гісторыі і тапаграфіі», «Назвы гродзенскіх плошчаў і вуліц, даўнія і сённяшнія», «Гродна і аколіцы. Аўгустоўскія азёры. Сувалшчына. Турыстычны даведнік». У адным са сваіх лістоў да вядомага археолага Вандаліна Шукевіча Юзаф Ядкоўскі пісаў: «Я не археолаг, а гісторык мастацтва». Гэтае прызнанне раскрывае сутнасць методыкі, выкарыстанай Ядкоўскім пры раскопках на Старым замку.






Вырабы і аздабленні з бронзы. XIVст. Замкавая гара 1937г. Фота NAC.

## Постаць гісторыі



**Здзіслаў Дурчэўскі (3 ліпеня 1908 - 5 жніўня 1944 гг.), польскі археолаг.** У 1937 годзе ўзначаліў даследаванні на Замкавай гары ў Гародні. Выявіў фрагменты драўлянай забудовы дзядзінца XII–XV стст. з рэшткамі 23 забудоў і шматлікімі археалагічнымі знаходкамі (каля 9 тысяч). У гады Другой сусветнай вайны калекцыя знаходак З.Дурчэўскага разрабавана, а дакументацыя знішчана.



**Алена Цэгак-Галубовіч (1902-1979 гг.) Польскі археолаг.**



**Уладзімір Галубовіч (1908-1962 гг.) Археолаг, вывучаў ганчарную вытворчасць у Заходняй Беларусі.**

пісьмовых крыніцах не захавалася звестак пра гэтыя храмы, таму першы, больш старажытны храм атрымаў назву – Ніжняя царква, а другі – Верхняя. Па версіі гісторыка архітэктуры Ігара Трусава яны мелі адну назву – Сімяонаўская царква.

Наяўнасць у адным месцы дзвюх пабудоў з плінфы - «княскага церама» і Ніжняй царквы – дазволіла Ядкоўскаму выказаць меркаванне, што яны адносяцца да візантыйскага тыпу і датуюцца XI ст. Менавіта ў гэты час, на яго думку, варагі заснавалі Гродна.

У 1935 годзе Ядкоўскі правёў даследаванні Каложскай царквы, у сценах якой былі заўважаны расколіны. Каб прадухіліць далейшае разбурэнне, неабходна было вывучыць і ўмацаваць яе падмуркі. З гэтаю мэтаю ўздоўж сцяны ад уваходу да сярэдняй апсіды быў закладзены раскоп. Адначасова вяліся работы ўнутры храма. Былі знойдзены рэшткі першапачатковай падлогі XII ст., якая складалася з квадратных, трохкутных і фігурных плітак жоўтага, зялёнага і карычневага колеру, і пахаванні XII –XIX стст.

У **1937–1939 гадах** раскопкі на Старым замку былі працягнуты археолагам **Здзіславам Дурчэўскім.**

У адпаведнасці з патрабаваннямі тагачаснай методыкі, якая амаль не адрозніваецца ад сучаснай, ён правёў даследаванні на захад ад Ніжняй царквы і выявіў рэшткі 23 драўляных пабудоў. Дурчэўскі вылучыў два перыяды развіцця горада: горад канца XII – 1-й паловы XIII ст. і горад перыяду літоўскіх князёў XIII – XIV стст. Пачатак Другой сусветнай вайны прыпыніў даследаванні.

### 4. Даследаванні Старога замка ў 1945–1949 гадах

У гады Другой сусветнай вайны матэрыялы раскопак 1932–1939 гадоў былі разрабаваны. У **1945–1946** гадах па даручэнні Акадэміі Навук БССР археолаг **Уладзімір Галубовіч** разам з жонкаю **Аленай Цэгак-Галубовіч** зрабілі пашпартызацыю 11 тысяч знаходак і навуковую апрацоўку матэрыялаў раскопак. Вынікі працы яны падсумавалі ў рукапісе «Новые материа-

## Постаць гісторыі



**Мікалай Варонін (30 лістапада 1904 – 4 красавіка 1976 гг.)** - расійскі археолаг. Вывучаў гісторыю культуры і дойлідства Старажытнай Русі. Асаблівую ўвагу Варонін надаваў даследаванню Уладзіміра-Суздальскай Русі. У Беларусі, акрамя Гродна, вывучаў збудаванні і фрэскі Бельчыцкага Барысаглебскага манастыра ў Полацку. Выявіў адметную гарадзенскую школу дойлідства. Арганізатар выдання і адзін з аўтараў «Гісторыі культуры Старажытнай Русі» (1948–1951).




лы по истории Гродно», які быў падрыхтаваны да друку, але не быў выдадзены. Даследчыкі выказалі меркаванне, што адначасова з дзядзінцам былі заселены тэрыторыя Новага замка і пляцоўкі на ўсход ад Старога замка, дзе знаходзіўся пасад. На падставе рэчавых матэрыялаў яны вызначылі некалькі перыядаў у гісторыі развіцця горада. На іх думку, першы датуецца другой паловай XI – пачаткам XII ст., калі паселішча з'яўлялася проста памежнай крэпасцю. Другі этап характарызуецца тым, што паселішча ператвараецца ў горад, які становіцца цэнтрам княства, аб чым сведчыць будаўніцтва княскага церама і мураваных храмаў. Доўжыўся гэты перыяд з пачатку XII ст. да сярэдзіны XIII ст., калі развіццё горада было спынена нейкай катастрофай.

У **1949 г.** па ініцыятыве Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея раскопкі на Старым замку былі працягнуты экспедыцыяй пад кіраўніцтвам археолага **Мікалая Вароніна**. Асноўную мэтаю яго стала завяршэнне раскопак 1932 –1939 гадоў.

Раскопкі Варонінам вяліся цягам двух месяцаў. Іх вынікі археолаг абагульніў у працы «Древнее Гродно» (1954 г.), у якой прааналізаваў гісторыю, гаспадарчае і культурнае жыццё старажытнага горада. Ён прыйшоў да высновы, што да з'яўлення мураваных пабудоў на Старым замку існавала старажытнае паселішча, якое было знішчана пажарам, а ў канцы XI – пачатку XII стст. на яго месцы ўзнікла крэпасць. Шмат увагі даследчык надаў аналізу помнікаў мураванага дойлідства. Вызначыўшы архітэктурныя асаблівасці мураваных помнікаў Гродна XII ст., Варонін зрабіў выснову пра існаванне самастойнай гродзенскай архітэктурнай школы.

### 5. Даследаванні беларускіх археолагаў

Пасля амаль 22-гадовага перапынку даследаванні ў Гродне здзейснілі беларускія археолагі. У **1971–1973** гадах **Яраслаў Зверуга** падчас раскопак на Каложскім



**Яраслаў Зверуга (1928-2011 гг.) Беларускі археолаг.**



**Генадзь Семянчук (злева), Міхась Ткачоў і Лявон Калядзінскі (у цэнтры)– даследчыкі беларускай даўніны. 1984 год**

плато знайшоў зямлячначае і паўзямлянаачнае жытло і мноства сельскагаспадарчых прылад XIII ст. У **1980** годзе археолагамі Ігарам Чарняўскім і **Міхасём Ткачовым** на тэрыторыі кляштара базыльянак насупраць Новага замка былі выяўлены рэшткі выступаючых на вышыню 1,5 м муроў Прачысцінскай царквы XII ст., знішчанай пажарам каля 1654 года. У **1977, 1981, 1985–1988** гадах даследаванні на Старым замку праводзілі **Алег Трусаў** і МіхасьТкачоў. Імі



**Раскоп на гарадзенскім замку. 1985 год**

была даследавана плошча амаль 1000 кв. м. Культурны пласт дасягаў 9,8 метраў. Упершыню даследаваліся культурныя пласты XI – XVIII ст. Аналіз знойдзеных археалагічных матэрыялаў сведчыць пра розную інтэнсіўнасць жыцця горада ў розныя часы. З-за частых войнаў і пажараў драўляная забудова на Старым замку на працягу XII–пачатку XIII ст. аднаўлялася 15 разоў. Паводле меркаванняў даследчыкаў, атрыманы матэрыял дазваляе сцвярджаць пра высокі ўзровень жыцця і культуры гараджан.




На жаль, маладаследаванымі застаюцца ўзвышша Новага замка і наваколле, дзе знаходзіліся вакольны горад і гандлёва-рамесніцкі пасад. Даследаваннем гэтай часткі старога Гродна займаўся толькі гісторык **Алесь Краўцэвіч**. Адным з вынікаў яго раскопак стала знаходжанне рэштак царквы гродзенскай школы дойлідства. У апошнія гады археалагічныя даследаванні ў Гродне праводзяцца ў асноўным падчас будаўнічых работ ў гістарычнай частцы горада. Так, у 2006 годзе пры рэканструкцыі Савецкай плошчы археолагамі былі вызначаны падмуркі палаца Радзівілаў, гарадской ратушы і гандлёвых радоў.

На працягу XX ст. археалагічнае даследаванне Гродна толькі пачыналася. Культурныя пласты горада хаваюць яшчэ шмат сваіх таямніцаў.



**Алесь Краўцэвіч (нар. у 1958 г.) Беларускі гісторык, археолаг.**

## Пытанні і заданні

1. **Чаму мы можам беспамылкова сцвярджаць, што Горадна, які ўзгадваецца ў летапісах, і сённяшні Гродна – гэта адзін і той жа населены пункт?**
2. **Пры якіх абставінах былі знойдзены рэшткі княскага церама і двух храмаў на Старым замку?**
3. **Якую назву атрымалі дзве царквы, знойдзеныя ў 1932 годзе?**
4. **Назавіце асноўныя аб'екты, якія даследаваліся археолагамі ў 1932–1939 гадах?**
5. **Які ўнёсак у даследаванне гісторыі горада зрабілі У. і А. Галубовічы?**
6. **Пра якія вынікі археалагічных даследаванняў пад кіраўніцтвам М. Вароніна вы даведаліся?**
7. **Як змяніліся навуковыя веды пра старажытную гісторыю Гродна ў выніку археалагічных знаходак другой паловы XX – пачатку XXI стст.?**

# § 5. Узнікненне горада

**Узгадайце, хто і калі праводзіў археалагічныя раскопкі ў Гродне і іх асноўныя вынікі.**

**Пасля азнаямлення з параграфам вы павінны:**

- **аргументавана расказаць пра характар першапачатковага паселішча на месцы Гродна;**
- **расказваць аб існуючых сёння навуковых канцэпцыях пра ўзнікненне Гродна;**
- **ведаць пра асноўныя віды дзейнасці старажытных жыхароў горада;**
- **правільна фармуляваць і ўжываць наступныя паняцці і назвы: Гараднічанка, гарадзішча, горадня.**

“

*Пісьмовыя крыніцы летапісаў пра пачатковы перыяд жыцця гэтага горада... настолькі сціплыя і малазразумелыя, што здаўна ў літаратуры, якая абапіралася толькі на гэтыя дадзеныя, не было яснага ўяўлення нават аб месцазнаходжанні самога горада, дзе ўладарылі «гродзенскія» князі.*
***Мікалай Варонін, археолаг***

## 1. Першапачатковае паселішча

Мы ведаем, што паселішча ў сутоцы Нёмана і Гараднічанкі ўзнікла значна раней, чым звесткі пра яго ўпершыню трапілі на старонкі летапісаў. Знаходкі неалітычных каменных сякер VII–IV тысячагоддзя да н.э., кавалкаў керамікі са штрыхоўкай пачатку нашай эры, грубаляпнога посуду VI– VIII стагоддзяў, сведчаць аб тым, што гэтае месца на беразе Нёмана людзі абралі для жыцця яшчэ ў старажытнасці. Да канца I тысячагоддзя, калі славяне пачалі засяляць Панямонне, тут жылі балцкія плямёны. У ходзе каланізацыі славяне будавалі абарончыя паселішчы-крэпасці. Археалагічныя матэрыялы сведчаць, што славянскае паселішча ў сутоцы Гараднічанкі і Нёмана ўзнікла ў канцы X стагоддзя. Першапачаткова яно ўяўляла сабою пляцоўку, якую сама прырода ўмацавала і зрабіла зручнай для жыцця. Высокі і стромы бераг Нёмана быў прарэзаны з усходу глыбокім прыродным ярам, а з захаду– рэчышчам Гараднічанкі.



**Будаўніцтва горада. Малюнак з Радзівілаўскага летапісу пач. XIII ст.**

**Геаграфія месца: Гараднічанка.**

Гараднічанка – працягласцю прыкладна 4,6 км, шырынёю да 1,5 метраў гістарычна з'яўляецца значнай воднай артэрыяй. Пачынаецца яна каля сучаснага заапарка. У раёне вакзальнай плошчы і плошчы Тызенгаўза Гараднічанка цяпер працякае ў калектарнай трубе. У ніжнім цячэнні даліны звужаецца, мае стромкія схілы. Упадае ў Нёман ля Замкавай гары. Уздоўж ручая створана зона адпачынку. Гараднічанка цячэ праз парк імя Жылібера. У XIX – 1-й палове XX стст. гэтая частка цячэння Гараднічанкі мела назву «Швейцарская даліна». Далей цячэ ўздоўж Каложскага парка. У Гараднічанку ўпадае адзіны прыток – Юрысдыка. Ужо з канца XIX ст. у гарадской прэсе з'яўляюцца артыкулы аб забруджванні вод ручая. У 80–90-гг. XX ст. грамадскія арганізацыі неаднаразова ўздымалі пытанне аб ачысткі Гараднічанкі. У пачатку XXI ст. наземная частка рачулкі была ачышчана, упарадкавана, цераз яе пабудаваны масты. На беразе Гараднічанкі знайшлі сваё месца творы гарадской скульптуры.



Даліна р. Гараднічанкі. Паштоўка пачатку XX ст.



Гарадзенскія муры. XII ст. Рэканструкцыя

З паўночнага боку быў выкапаны абарончы роў, атрымалася ўмацаваная амаль трохкутная пляцоўка памерам 120х90х70 метраў. Дадаткова па яе перыметры быў насыпаны невысокі вал, на вяршыні якога пастаўлены вастракол. У працэсе археалагічных даследаванняў быў вызначаны невялікі культурны пласт, які ўтварыўся ў выніку жыццядзейнасці жыхароў першапачатковага паселішча. У гэтым пласце захаваліся вугаль і абгарэлыя бярвенні. Гэта дае падставы меркаваць, што першапачатковае паселішча праіснавала нядоўга і загінула ў выніку пажару. Аплаўленыя кавалкі шкла, слюды і металу сведчаць, што пажар быў моцны і ахапіў усё паселішча, выпаліўшы яго ўшчэнт. Невялікія фрагменты пабудоў, якія захаваліся ў гэтым пласце, не дазваляюць дакладна вызначыць ні іх выгляд, ні агульную планіроўку паселішча. Магчыма, патрапіць на гарадзішча можна было з усходняга боку па перакінутым праз глыбокі яр драўляным мосце праз браму, якую абаранялі вежы. Адзіная вуліца, якая ішла ад брамы да цэнтра паселішча, была драўлянаю і заканчвалася невялікай плошчай, выбрукаванай каменем. Тэрыторыя паселішча была хаатычна забудавана невялікімі драўлянымі хатамі, побач з якімі знаходзіліся гаспадарчыя пабудовы: стайні, свіраны і хлявы. Не выключана, што на плошчы, дзе пазней пабудавалі мураваную Ніжнюю царкву, магла знаходзіцца драўляная праваслаўная царква. Падчас археалагічных раскопак у культурным слоі гэтага часу знойдзены кавалкі слюды, якая выкарыстоўвалася ў якасці аконнага шкла, шпоры, наканечнікі стрэл і дзідаў, замкі і ключы да іх, упрыгожанні і іншыя рэчы, якія сведчаць, што асноўную частку насельніцтва гарадзішча складалі заможныя людзі – княскія дружыннікі. Тут жыла прыслуга, якая абслугоўвала дружыну.

## 2. Узнікненне горада

Відавочна, што паселішча адыгрывала значную ролю ў стратэгіч-

ных планах славянскіх князёў як крэпасць на балцка-славянскім памежжы. Пасля пажару жыццё ў ім не спынілася, а, наадварот, набыло большы размах. Рэшткі папялішча засыпалі, паверхню пляцоўкі выраўнялі. У першую чаргу былі адноўлены абарончыя ўмацаванні. Замест ранейшага вастраколля гараджане пабудавалі больш магутныя гарадні, па версе якіх ішла баявая галерэя з байніцамі.

Па вуглах сцен і ў самых небяспечных месцах абароны знаходзіліся вежы. Больш шчыльнай, чым раней, стала забудова паселішча. З паўднёвага ўсходу на паўночны захад пляцоўкі ішла вузкая драўляная маставая на лагах шырынёю 2 м. Уздоўж вуліцы і адыходзячых ад яе завулкаў знаходзіліся невялікія агароджаныя і вымашчаныя дрэвам двары. Кожны двор меў драўляную хату памерам прыкладна 4х4 метра з глінабітнаю печкаю і некалькі гаспадарчых пабудоў. Тут жа знаходзілася і рэзідэнцыя князя, жылі дружыннікі, рамеснікі. З цягам часу колькасць жыхароў на гарадзішчы павялічвалася, але абмежаваная абарончымі збудаваннямі пляцоўка не давала магчымасці паселішчу разрастацца. Таму людзі пачалі сяліцца ля гарадзішча, якое з'яўлялася надзейнай абаронай, у ім можна было знайсці прытулак падчас небяспекі. Паступова сталі засяляцца і забудоўвацца бліжэйшыя, найбольш зручныя пляцоўкі, што размяшчаліся на ўсход і поўнач ад Старога замка, у першую чаргу ўзвышша сённяшняга Новага замка, дзе ўзнікае гандлёва-рамесніцкі пасад, у якім жылі рамеснікі і гандляры. Рамеснікі абслугоўвалі ў першую чаргу князя і вяяроў яго дружыны, забяспечвалі рознымі вырабамі насельніцтва горада і навакольных вёсак. Развіваўся і гандаль, якому спрыяла зручнае месцазнаходжанне паселішча на беразе ракі. Карыстаючыся гэтым гандляры прывозілі сюды неабходныя тавары, якія не выраблялiся мясцовымі майстрамі. Аналіз шматлікіх знаходак рэшткаў керамічнага посуду дае ўяўленне аб этнічным складзе насельніцтва горада і сведчыць, што, акрамя дрыгавічоў і валынян, насельнікамі Горадзена




**Жалезныя прылады працы XII – XVII стст.**
**1-2) шарнірныя нажніцы.**
**3) спружынныя нажніцы, знойдзеныя сярод пабудоў XII ст.**
**5) скобля – цяслярскі інструмент для здымання кары, вырабу бочак, карыт, чанаў і інш.**
**7-9) сярпы XII ст. 10) будаўнічы масцярок. 11) долаты, такая форма і памер практычна без змен ужываліся на працягу ўсяго сярэднявечча.**
**12-15) гаспадарчыя нажы XII ст.**



**Зброя і рыштунак вершніка. XII – XVI стст.**
**1-2) – наканечнікі стрэлаў, датуюцца першай паловай XII ст. 3-7) арбалетныя балты, знойденыя на Гарадзенскім замчышчы. Іх форма традыцыйная для тэрыторыі ВКЛ. 8) элемент рыштунку верхавога каня. 9) бронзавая булава. 10-12) пласцінкі рыцарскага панцыра. 13,18) зорачкавыя шпоры XIII-XIV ст. 14) шыпавыя шпоры, першая чвэрць XIIст. 15) наканечнік дзіды IX-XIIст.ст. 16) наканечнік, які належыць да катэгорыі пікаў – спецыяльных дзідаў, прызначаных для прабівання засцярагальнага узбраення. 17) канічны жалезны наканечнік. 19) баявая сякера, датуецца XIIст. Сякеры такога ўзору паходзяць з Заходняй Еўропы, яны атрымалі шырокае распаўсюджанне на Беларусі**

з'яўляліся прадстаўнікі заходнеславянскіх плямён.

Са з'яўленнем пасада гарадзішча стала дзядзінцам – адміністрацыйным цэнтрам, а паселішча ператварылася ў горад. Адбылося гэта прыкладна на мяжы **XI – XII стст.**

### 3. Занняткі жыхароў паселішча

Сярод асноўных заняткаў жыхароў былі ворыўнае земляробства і жывёлагадоўля. Вырошчвалі жыта, авёс, проса, гарох і бабы, разводзілі кароў, свіней, авечак і коней. Значнае месца займалі паляванне і рыбалоўства. Знойдзеныя падчас раскопак косці дзікіх жывёл: аленя, зубра, дзіка, касулі і іншых – па колькасці нязначна саступаюць косткам хатніх жывёл. Гэта сведчыць аб тым, што паляванне ў сваім значэнні не саступала жывёлагадоўлі. У паўнаводным Нёмане лапалі шчупака, судака, язя, ласося і сомаў даўжынёю да двух метраў. Рамяство на першапачатковым паселішчы прадстаўлена толькі вырабамі ганчароў і кавалёў. Развіццё рамяства пачалося толькі з узнікненнем горада, калі ў ім пачалі сяліцца шматлікія рамеснікі і гандляры.

### Пытанні і заданні

1. На падставе якіх знаходак стала вядома пра першае пасяленне на Замкавай гары?
2. Як змяніліся знешні выгляд і планіроўка паселішча на мяжы XI – XII стст.?
3. Што сведчыць пра ператварэнне паселішча на Нёмане ў горад?
4. Чым займаліся жыхары горада?
5. Якую ролю ў харчаванні жыхароў адыгрывала паляванне і рыбалоўства? Абгрунтуйце свае высновы.

# § 6. Планіроўка старажытнага Гродна. Заняткі жыхароў

**Пасля азнаямлення з параграфам вы павінны:**

- апісаць забудову гродзенскага дзядзінца;
- апісаць забудову гродзенскіх пасадаў;
- ахарактарызаваць заняткі жыхароў горада;
- аргументаваць, што Гродна меў шырокія гандлёвыя сувязі з далёкімі краінамі;
- правільна фармуляваць і ўжываць наступныя паняцці і назвы: Падол, вакольны горад, Цэнтральны пасад, Васкрасенская царква.

*«Знаходжанне старажытных ячэек (частак) Гродна ўяўляе сабою карціну, тыповую для шматлікіх сярэднявечных месцаў, якія размяшчаліся ў надзейна прыхаваных самой прыродай мясцінах, па берагах рачных шляхоў».*
***Мікалай Варонін, археолаг***

## 1. Дзядзінец

У **1127** годзе Гродна ўпершыню згадваецца як цэнтр удзельнага княства. Як і большасць гарадоў таго часу, ён заставаўся драўляным. Пры князю **Усеваладзе Давыдавічу** (памёр у 1141 г.) былі закладзены ўмовы для будучага эканамічнага і культурнага росквіту горада. І толькі ў апошняй чвэрці XII ст., калі пачалося мураванае будаўніцтва, Гродна значна вылучаецца сярод іншых гарадоў Панямоння. У першую чаргу будаўніцтва закранула дзядзінец. З плінфы ў самых небяспечных месцах абароны (з паўночнага і ўсходняга бакоў) замест ранейшых гародняў, загінулых падчас пажару, былі ўзведзены магутныя абарончыя, муры шырынёю 1,5 м і вышынёю 5 м. Змянілася і планіроўка дзядзінца: яго забудова стала больш шчыльнай. У цэнтры, дзе знаходзілася Ніжняя царква, перакрыжоўваліся дзве вуліцы. Яны былі драўляныя і мелі шырыню 2 м. Адна з іх ішла побач з царквою з поўдня на поўнач, другая, што атачала храм з усходу на захад, утварала вакол яго невялікую плошчу. На паўднёвым баку плошчы знаходзіўся княскі церам. Уздоўж вуліц стаялі



**Гарадзенскі дзядзінец у XII ст. Рэканструкцыя. Мастак Ф. Селязнёў**



Фрагменты драўлянай забудовы на гарадзенскім дзядзінцы XII ст.

драўляныя княскія гаспадарчыя пабудовы і сядзібы дружыннікаў. Кожная сядзіба таксама мела драўляныя вуліцы і складалася з хаты і 2–5 гаспадарчых пабудоў, агароджаных частаколам. Дамы зрубнай канструкцыі, як і раней, невялікія, памерам 4х4 кв.м, былі ў большасці аднакамерныя. Радзей сустракаліся двух і нават трохпакаёвыя. Археолагі заўважылі, што, у адрозненне ад іншых гарадоў, у Гродне дамы ставілі не на зямлю, а на падмуркі з камянёў ці на ўкапаныя ў зямлю драўляныя палі. Падлога насцілалася з колатых драўляных дошак, у кутку знаходзілася печка-каменка. Сярод шэрых драўляных пабудоў асабліва вылучаліся велічныя каменныя будынкі царквы і палаца. Пасля будаўніцтва Ніжняя царква пачала разбурацца. Выклікана гэта было тым, што яе неглыбокія падмуркі былі складзены з дробных камянёў без рошчыны, а ўмураваныя ў сцены вялікія камяні аслаблялі трываласць сцен, у выніку чаго царква стала прасядаць і ў сценах з'явіліся трэшчыны. Каб сцены не абваліліся, іх падперлі бярвеннямі, рэшткі якіх былі знойдзены падчас раскопак. Але працэс разбурэння нельга было спыніць, а ўдар маланкі і пажар 1183 г. канчаткова знішчылі царкву.

## 2. Гродзенскія пасады

Гродзенскімі пасадамі ў археалогіі лічацца гандлёва-рамесныя часткі Гродна XI–XVIII стст. Спачатку абарончыя збудаванні былі толькі на дзядзінцы. Пазней было ўмацавана ўзвышша Новага замка, з паўночнага боку якога выкапалі абарончы роў, што злучыў два прыродныя яры з захаду і ўсходу, а па перыметры пляцоўкі насыпалі вал і ўзвялі гародні. Са з'яўленнем штучных абарончых збудаванняў пасад на Новым замку ператварыўся ў вакольны горад. Па меркаванні навукоўцаў, адбылося гэта ў першай палове ці сярэдзіне XII ст. Маштабныя археалагічныя даследаванні ў вакольным горадзе не праводзіліся, таму меркаваць пра іх забудову можна толькі на падставе матэрыялаў, атрыманых у выніку невялікіх раскопак і назіранняў падчас будаўнічых работ. Як і дзядзінец, вакольны горад быў забудаваны драўлянымі дамамі. Знойдзеныя на Новым замку плінфа, маёлікавыя пліткі і фрагменты галаснікоў дазваляюць сцвярджаць, што тут існавала яшчэ адна царква XII ст., пабудаваная ў тым самым стылі, што і царква на дзядзінцы. Магчыма, гэта была Васкрасенс-



Гравіраваная пласціна з геаметрычным арнаментам з гарадзенскай Ніжняй царквы

кая царква, вядомая па гравюры **Мацея Цюндта** 1568 г.

У XI–XII стст. гандлёва-рамесніцкі пасад горада канцэнтраваўся асобнымі раёнамі каля дзядзінца і вакольнага горада. **Цэнтральны пасад** займаў тэрыторыю на ўсход ад дзядзінца ў накірунку сучасных вуліцы Траецкай і плошчы Савецкай (цяпер – раён пажарнай каланчы, сінагогі і Дома быту). Падчас археалагічных раскопак 1980 года тут былі знойдзены рэшткі Прачысцінскай царквы. Яшчэ адна, так званая Малая царква, вядомая з пісьмовых крыніцаў з канца XIV ст., верагодна, знаходзілася ў раёне сучаснага пажарнага дэпо. Вышэй па Нёмане на паўднёвы ўсход ад вакольнага горада знаходзіўся **Падол** (сучасная вуліца Падольная). Яшчэ адзін пасад размяшчаўся на правым беразе на Каложскім плато, дзе ў канцы XII ст. была пабудавана Барысаглебская царква. Раскопкі, праведзеныя тут Яраславам Звяругам, паказалі, што Каложскі пасад быў забудаваны не толькі наземнымі зрубнымі дамамі, але і зямлянкамі і паўзямлянкамі, гэта значыць, паглыбленымі ў зямлю жытламі з печкамі-каменкамі.

Археалагічныя знаходкі сведчаць пра існаванне трэцяга пасада – **Занёманскага**, які пачынае засяляцца з XV ст.

Неад’емнай часткай старажытнага Гродна з’яўляліся гарадскія могілкі, якія былі знішчаны ў часы пазнейшага будаўніцтва. Меркаваць аб іх месцазнаходжанні можна толькі па ўскосных дадзеных. Так, у Пісцовай кнізе Гродзенскай эканоміі за 1561 год згадваецца: «ідучы з вуліцы цяпер Бернардзінскай на курган... ». Гэта ўскосна сведчыць пра наяўнасць курганнага могільніка ў раёне сучаснай вуліцы Свердлава. Але курганы –гэта пахавальныя помнікі язычнікаў, а большасць жыхароў Гродна таго часу была хрысціянамі. Верагодна, што і праваслаўныя могілкі знаходзіліся недзе побач. Падчас варожых аблог па-



Ладдзя. Шахматная фігура. Адзін з самых цікавых і каштоўных экспанатаў Гарадзенскага археалагічнага музея



Зброя XI-XIII стст.: дзіды, суліца, стрэлы, астрогі, булава

хаванні рабіліся і на тэрыторыі дзядзінца, а парэшткі Ніжняй царквы выкарыстоўваліся як прывілеяваныя могілкі гарадзенскай знаці.

### 3. Заняткі жыхароў

Змяненне статусу горада садзейнічала развіццю рамёстваў і гандлю. Зброя, сякеры, скоблі, сашнікі, сярпы, рыбалоўныя кручкі і іншыя прылады працы, якія рабіліся мясцовымі кавалямі, характарызуюць гаспадарчую дзейнасць гараджан і сведчаць

**Ваяры Гарадзенскага княства ўжывалі заходнееўрапейскі тып узбраення. Усё цела воя пакрываў кальчужны каптан з доўгімі рукавамі. Каптан злучаўся з кальчужным каптуром, апранаўся ён пад шалом, які меў канічную форму. Шчыт адносіўся да тыпу, так званых нарманскіх тарчаў, на той момант распаўсюджаных па ўсёй Еўропе. Меч меў масіўны двухбаковы клінок, з вялікай крыжавінай і навершам.**



Княскі дружыннік. Другая палова XII ст.



Строй гараджанак

пра высокі ўзровень кавальства. Не саступалі ў майстэрстве і гарадзенскія ювеліры.Пра гэта сведчаць знаходкі крыжыкаў, бранзалетаў, падвесак, пацерак і формаў для іх адліўкі. Абутковая справа прадстаўлена наступнымі знаходкамі: туфлі, поршні, чаравікі і боты, дрэваапрацоўка – фрагментамі вёдраў, каўшоў, кадушак, грэбняў, лыжак і г.д. Знаходкамі касцяных накладак, грэбняў, ручкамі нажоў і іншых бытавых рэчаў прадстаўлена касцярэзнае рамяство. Пра развіццё гандлю кажуць знаходкі прывазных рэчаў: шкляных бранзалетаў і шыферных праслiц з Кіева, амфар з поўдня, бурштыну з Прыбалтыкі, вырабаў заходнееўрапейскага і візантыйскага паходжання. Сярод знаходак ёсць рэчы, па якіх мы даведваемся пра ўзровень культуры гараджан: шахматная ладдзя, дэталі музычных інструментаў і праслiца з надпісам: «Господи помози рабе своей…». Гараджане займаліся таксама земляробствам і жывёлагадоўляй. Традыцыйна значнае месца ў жыцці гараджан займала паляванне.



Упрыгожванні з металу. XII–XV стст.

## Пытанні і заданні

1. З якіх трох частак складаўся горад?
2. Якія змены ў знешнім выглядзе горада адбыліся ў другой палове XIIст.?
3. Якія храмы існавалі ў горадзе ў гэты час?
4. Ахарактарызуйце драўляную забудову горада.
5. Дзе знаходзіліся гарадскія могілкі, і што аб гэтым сведчыць?
6. Якія рамёствы былі развіты ў горадзе ў XII – XIII ст.?
7. Што сведчыць аб развіцці гандлю?

# § 7. Княскі горад

“

«Палітычная кар'ера князя вызначалася месцам яго бацькі ў шэрагу пакаленняў. Але парадак нараджэнняў не адпавядае парадку зыходу; таму, калі ў князя бацька паміраў раней дзеда, унуку не заставалася ў перадавым ланцугу бацькоўскага месца, бо ў ім не стаяў яго бацька. Ён станавіўся князем-сіратою, ізгоем, бяздольным вечным унукам, генеалагічным недараслем. Не маючы генеалагічнай вотчыны, ён страчваў правы і на тэрытарыяльную вотчыну … Гэтыя князі-сіраты станавіліся адрэзанымі кавалкамі ў княжым родзе …»
***Васіль Ключэўскі.***

**Што вы ведаеце пра дынастыю Рурыкавічаў і, у прыватнасці, пра Яраслава Мудрага і Уладзіміра Манамаха?**

**Пасля азнаямлення з параграфам вы павінны:**

- **ведаць першыя ўзгадкі пра гродзенскіх князёў у летапісах**
- **ведаць, якія населеныя пункты ўваходзілі ў Гарадзенскае княства**

## Першы гродзенскі князь

Першым князем, які стаў пачынальнікам дынастыі гарадзенскіх князёў быў Усевалад Давыдавіч. У летапісе чытаем: « 6624 (1116)...в се же лето преставися Мстіславъ внукъ Игоревъ. Томъ же лето Володимеръ отда дщерь свою Агафью за Всеволодка». Лаканічны летапісны запіс захоўвае каштоўную інфармацыю: Кіеў пашырыў свае ўладанні на поўнач, далучыўшы да свайго княства частку ўладанняў яцвягаў і наблізіўся да ўладанняў племені літва. Перад Уладзімірам Манамахам паўстала праблема замацавання на паўночным рубяжы Кіеўскага княства. Калі малодшая дачка Уладзіміра Агаф'я дасягну



**Двузуб-верагодны знак гарадзенскіх князёў-на плінфе Барысаглебскай царквы XII ст.**



**Князь збірае даніну з падуладных пляменаў.Малюнак з Радзівілаўскага летапісу пач. XIII ст.**



Выгляд Гародні ў XIII ст. Рэканструкцыя П. Рапапорта

## Гарадзенскае замчышча

Размешчаны на натуральным узвышшы над Нёманам, гарадзенскі замак на XII ст. уяўляў сабой аточанае драўлянымі сценамі–гароднямі ўмацаванае паселішча. З усходняга боку, замчышча было адрэзана вырытым ірвом. Праз роў да уязной брамы вёў драўляны мост.

Подступ да гэтай часткі замку прыкрываўся мураванай круглай ў плане вежай – "Валынскім стаўпом". На заходнім мысе, над упадзеннем Гараднічанкі ў Нёман, высілася яшчэ адна мураваная, але квадратная ў плане вежа. Каля замкавых муроў над Нёманам была збудавана рэзыдэнцыя гарадзенскіх князёй –мураваны двухпавярховы палац. Па памерах быў большы нават, чым у князёў найбуйнейшых тады беларускіх гарадоў Полацка і Смаленска.

У цэнтры гарадзішча дамінаваў замкавы храм "Гарадзенская ніжняя царква". Рэшта жылых і гаспадарчых пабудоваў былі драўлянымі.

На процілеглым праз Гараднічанку ўзгорку паўсталі кляштар і царква, асвечаныя ў гонар святых Барыса і Глеба.




Карта беларускіх земель у XI-XII стст.

## Летапісец паведамляе

«Пасла князь Мстиславъ братью свою на Кривиче четырьми пути. Вячеслава ис Турова, Андрея из Володимира. А Всеволодка из Городна. И Вячеслава Ярославича ис Клечска, тем повеле ити к Изяславлю...» (з Лаўрэнціеўскага летапісу).

ла шлюбнага ўзросту, для яе знайшоўся жаніх.

У якасці пасагу Уладзімір Манамах даў маладым землі над Нёманам і пажаданне замацоўваць паўночныя межы Кіеўскага княства. Пазней тут узнікла княская рэзідэнцыя, якая стала цэнтрам Гродзенскага княства. У Гродзенскім княстве ў XII– XIII стст. налічвалася каля 20 населеных пунктаў: Ваўкавыск, Услонім, Здзітаў, Турыйск, Мсцібогаў і іншыя. Усевалад Давыдавіч як гродзенскі князь упершыню згадваецца ў летапісах пад 1127 г.

Гэта падмацоўваецца тым жа Іпацьеўскім летапісам, які праз чатыры гады (пад 1131

г.) паведамляе: «Ходи Мстиславъ на Литву съ Всеволодомъ Городенским».

Такая павага летапісца і поўны тытул князя, безумоўна, сведчаць аб тым, што Гродзенскае княства, дзякуючы асабістым якасцям яго ўладароў, дамаглося пэўнай палітычнай незалежнасці і стала саюзнікам Кіева. Пацвярджаннем гэтага з'яўляюцца і сумнае паведамленне Іпацьеўскага летапісу аб смерці Усевалада Гарадзенскага ў 1141 г.: « Преставися Всеволодъ Городенский», і запіс пад 1144 г. аб паходзе на Галіч Барыса і Глеба Усеваладавічаў разам (а не па загаду!) з кіеўскім князем Усеваладам. Барыс і Глеб – старэйшыя сыны Усевалада і Агаф'і.

## Іншыя меркаванні

Насамрэч, паходжанне гарадзенскіх князёў застаецца не высветленым. Існуе, напрыклад, думка, што бацькам Усеваладкі быў берасцейскі князь Яраслаў Яраполкавіч. Пасля ягонай смерці Уладзімір Манамах вылучыў гарадзенскі ўдзел са складу Берасцейскага княства і перадаў яго сыну Усеваладку.

Гарадзенскія князі заставаліся ў цеснай сувязі з Кіевам, аб чым могуць сведчыць летапісныя звесткі пра ўдзел Усеваладка ў паходзе супраць Полацкай зямлі ў 1127 г. ды літоўцаў у 1132 г. Ягоныя сыны Барыс, Глеб ды Мсціслаў удзельнічалі ў міжусобіцах галіцка-валынскіх князёў ( 1144 г.), паходах на Кіеў ( 1151, 1173 г.г.) і супраць полаўцаў ( 1170, 1183 г.г.).

Пасля смерці князя Усеваладка ў 1141 г. Гарадзенскае княства, верагодна, было падзелена паміж ягонымі нашчадкамі на некалькі ўдзелаў: Гарадзенскі, Ваўкавыскі і Наваградскі.

## Пытанні і заданні

1. **Калі ідзе была першая летапісная згадка пра Гродна і яго ўладароў?**
2. **Узгадайце і пакажыце на карце іншыя ўдзельныя княствы, якія паўсталі на беларускіх землях у гэты час.**

# § 8. Гродзенская архітэктурная школа

1. Якія мураваныя будынкі былі ў старажытным Гродне і дзе яны знаходзіліся?
2. Што такое архітэктурная школа?

“

*«Сярод тагачасных дрымучых лясоў і пушчаў Панямоння летапісны горад Горадзен глядзеўся як незвычайны яркі аазіс, дзе на яго ўзбярэжным таржышчы біла ключом заможнае эканамічнае жыццё, дзе суровы быт змякчаўся атмасферай высокай духоўнай культуры, дзе стаялі небывалай красы чатыры храмы (а можа і больш) і непрыступны мураваны замак»*
***Міхась Ткачоў, беларускі археолаг***

**Пасля азнаямлення з параграфам вы павінны:**

- ведаць адметныя рысы гродзенскі архітэктурнай школы;
- расказваць аб Барысаглебскай, Ніжняй і Прачысцінскай цэрквах Гродна;
- правільна ўжываць наступныя паняцці і назвы: Барысаглебская царква, Прачысцінская царква, Каложа, галаснікі, маёлікавая плітка.

## 1. Мураванае дойлідства

Незвычайнай з'явай у гарадской забудове Гародні другой паловы XII ст, якая падкрэслівала новы статус горада як цэнтра ўдзельнага княства, стала мураванае культавае і грамадзянскае будаўніцтва. Князь і



Фрагмент часткі дэкору паўночнага фасада Барысаглебскай царквы. Фота 20-х гадоў XX ст. М. Валіцкага

гараджане мелі дастаткова сродкаў на гэтае будаўніцтва. Калі церам і Ніжняя царква на дзядзінцы былі пабудаваны на сродкі князя, то храмы ў вакольным горадзе і на пасадах будаваліся на сродкі гараджан. Каменныя будынкі ў Гародні зроблены з плінфы, змацаванай цамянкай-вапнай з дамешкай саломы і тоўчанай цэглы. Усе дамы пабудаваны ў тэхніцы раўнаслойнай муроўкі, калі рад плінфы клаўся на слой рошчыны, роўны па таўшчыні плінфе. Дзеля эканоміі плінфы звонку ў сцены дадаткова ўмуроўваліся рознакаляровыя шліфаваныя камяні, якія адначасова аздаблялі фасад і надавалі яму асаблівы каларыт. Дадаткова фасады ўпрыгожваліся ўстаўкамі з паліваных керамічных плітак жоўтага, зялёнага і карычневага колераў, выкладзеных у выглядзе крыжоў, што надавала храмам святочны выгляд і прыгажосць. З такіх самых плітак, выкладзеных складаным геаметрычным арнаментам, рабілася і падлога. Знутры храмаў у сцены ўмуроўваліся гліняныя

## Імя ў гісторыі

**Пётр Міланег** працаваў у Гародні ў другой палове XII ст. на працягу, прыкладна, 12 – 15 гадоў, традыцыі гродзенскай школы дойлідства распаўсюджваў у будаўніцтве цэркваў у Чарнігаве, Оўручы, Белгарадзе. З 1194 года быў асабістым архітэктарам кіеўскага князя Рурыка Расціслававіча.

збаны-галаснікі, якія аблягчалі вагу сцен і стваралі добрую акустыку. Такая сістэма ўпрыгожвання фасадаў нідзе больш не сустракаецца. Сярод помнікаў гэтай школы вылучаюцца культавыя і свецкія пабудовы. Усе гродзенскія храмы мелі трохнефавую, трохапсідную планіроўку з шасцю слупамі, на заходнюю пару якіх абапіраўся купал.

### 2. Ніжняя і Прачысцінская царквы

Першым вядомым мураваным збудаваннем Гродна з'яўлялася Ніжняя царква, пабудаваная на дзядзінцы. Даследчыкі не могуць назваць дакладны час яе пабудовы. Мікалай Варонін лічыў, што яна пабудавана ў часы князя Усевалада Давыдавіча ў другой чвэрці XII ст. Паводле Алега Трусава і Міхася Ткачова, Ніжнюю царкву пабудавалі ў сярэдзіне XII ст. пры Мсціславе Усеваладавічы, калі ў Гродне пачаў працаваць дойлід **Пётр Міланег.**



Галаснік з Барысаглебскай царквы

У будаўніцтве гродзенскіх храмаў удзельнічалі майстры з Полацка і Валыні, якім дапамагалі гарадзенскія рамеснікі і будаўнікі. Ніжняя царква была простакутнай у плане пабудовай памерам 16,8 х 11,6 м з выступаючай паўцыркулярнай цэнтральнай апсідай і схаванымі ў тоўшчы сцяны бакавымі апсідамі. Вуглы царквы, як і вуглы квадратных у плане слупоў, на якія абапіраліся скляпенні і барабан купала, былі зрэзаны пад вуглом у 45 градусаў. У паўночна-заходнім кутку храма знаходзіўся ўваход на хоры. Дах Ніжняй царквы быў пакрыты свінцовымі лістамі і завяршаўся купалам. Паводле Мікалая Вароніна, царква мела званіцу, аб чым сведчаць кавалкі звона, адзін з якіх важыў 27 кілаграмаў і меў надпіс, ад якога захавалася толькі частка: «...рабу... ».

Яшчэ адна царква, вядомая па дакументах XVI ст. пад назвай Прачысцінская, знаходзілася на



Знакі на тарцах гарадзенскай плінфы XII ст.



Ніжняя царква XII ст. Рэканструкцыя



Маёлікавая падлога Ніжняй царквы. Рэканструкцыя М. Малеўскай

тэрыторыі гандлёва-рамесніцкага пасада на паўночны ўсход ад дзядзінца. Яе памеры - 19,1 х 12,7 м. Па планіроўцы і аздабленню яна падобная на Ніжнюю царкву і адрозніваецца ад яе толькі тым, што мела не паўкруглую, а прамавугольную сярэднюю апсіду. Прачысцінская царква згарэла прыкладна ў 1654 г.

### 3. Свецкія пабудовы Гародні

Акрамя культавых пабудоў, у Гродне вялося і свецкае будаўніцтва, да помнікаў якога належаць княскі палац і мураваныя сцены дзядзінца. Палац быў пабудаваны пасля ўзвядзення Ніжняй царквы ў паўднёвай частцы дзядзінца. Уваход у яго знаходзіўся з боку царквы пасярэдзіне паўночна-усходняй сцяны. Рэшткі палаца сведчаць, што ён быў двухпавярховым. На першым паверсе было два памяшканні – вялікае ў заходняй частцы будынка і малое. Сцены вялікага памяшкання былі аздоблены нішамі, перакрытымі аркамі. Падлога другога паверха была пакладзена на драўляных бэльках і выкладзена маёлікавымі пліткамі. Сцены яго зроблены з плінфы. Звонку ўмураваны амаль неапрацаваныя камяні. Верагодна, з'яўляючыся часткай мураванага замка Вітаўта, палац выконваў і абарончыя функцыі. Будынак быў разбураны падчас перабудовы Старога замка Стэфанам Баторыем у XVI ст.

Да свецкіх пабудоў горада таксама адносяцца мураваныя сцены. Яны захаваліся часткова на даўжыню 22 і 6 м. Па-




**Прачысценская царква. Паводле медзярыта  Адэльгаўзэра - Цюндта 1567-1568г.**



**Раскоп Прачысцінскай царквы, 1980 г.**



Фрагменты княскага палаца XII ст.

водле меркавання даследчыкаў, даўжыня толькі паўночнай сцяны дасягала 42–45 м. Сцены былі пабудаваны з плінфы, якая засталася пасля будаўніцтва храмаў у канцы XII ст., і мелі вышыню больш за 5 м пры таўшчыні 1,5 м. Завяршаліся яны галерэямі са страхой над баявым ходам. Падобных мураваных абарончых сцен у тыя часы не мелі нават Кіеў, Ноўгарад і Полацк.

### 4. Барысаглебская царква

Адзіным помнікам, які дае найбольш поўнае ўяўленне аб асаблівасцях гродзенскай школы дойлідства, з'яўляецца царква Барыса і Глеба. Уладзімір Караткевіч гэты цудоўны помнік беларускага дойлідства назваў «вясёлка Каложы». Назву «Каложская» гэты храм атрымаў ад назвы прыгарада Пскова Каложа, жыхары якога былі захоплены ў палон Вітаўтам у 1405 г. і паселены бліз царквы. Царкву заклаў на тэрыторыі аднаго з гродзенскіх пасадаў у пачатку **80-х гадоў XII ст.** гродзенскі князь Мсціслаў Усеваладавіч у гонар святых заступнікаў, памерлых братоў Барыса і Глеба. Пры ўзвядзенні царквы былі ўлічаны ўсе памылкі, дапушчаныя пры будаўніцтве папярэдніх храмаў. Падмуркі закладаліся на глыбіню паўтара метра. У муроўцы сцен выкарыстаны шліфаваныя камяні меншых памераў. Царква захавала ранейшую шасціслуповую трохапсідную планіроўку. Унутраная прастора храма здавалася большай дзякуючы ўпершыню выкарыстаным тут круглым слупам.

Былі ўдасканалены і ўскладнены некаторыя архітэктурныя дэталі. Звычайныя хоры дапаўняліся бакавымі, да якіх вялі дзве лесвіцы, схаваныя ў тоўшчы сцен. Уся ніжняя частка сцен, свабодная ад галаснікоў, прарэзана дэкаратыўнымі нішамі. Падлога храма была ўпрыгожана рознакаляровым дыванам з маёлікавых плітак.

Змяніўся і знешні выгляд царквы. У адрозненне ад папярэдніх, Ніжняй і Прачысцінскай, Барысаглебская царква мае тры выступаючыя паўцыркулярныя апсіды. Больш складана ўпрыгожаны фасад, багата аздоблены вонкавыя сцены дэкаратыўнымі маёлікавымі пліткамі, якія добра спалучаліся з ўстаўкамі з невялікіх рознакаляровых камянёў. Яе таксама вылучаюць абпаленая чырвоная плінфа, белая цамянка, прыродны колер камянёў, бліщчастыя маёлікавыя пліткі, якія ззялі на сонцы і надавалі царкве святочны выгляд і прыгажосць.

Час не пашкадаваў Барысаглебскую царкву. З прычыны шматлікіх крыжацкіх навал і войнаў абваліліся купал і скляпенні царквы. У выніку вясновых паводкаў **1853 і 1889** гадоў абвалілася ў Нёман паўд-



Адзін з шматлікіх варыянтаў рэканструкцыі Барысаглебскай царквы



Каложская царква. 40-я г. XIX ст. Мастак М. Кулеша



Руіны Барысаглебскай царквы. 70-я гг. XIX ст. Малюнак Н. Орды



Барысаглебская царква. Унутраны выгляд. 80-я гг. XX ст.

нёвая сцяна з апсідай і частка заходняй. Пазней страчаныя часткі муроў былі заменены лёгкімі драўлянымі і пакрыты звычайным дахам. У такім выглядзе царква захавалася да нашых дзён, не страціўшы сваёй прыгажосці.

## Пытанні і заданні

1. Якія мураваныя пабудовы адносяцца да гродзенскай школы дойлідства?
2. На падставе якіх архітэктурных і мастацкіх асаблівасцей гэтыя помнікі вылучаюцца?
3. Вызначце агульныя рысы і асаблівасці планіроўкі культавых збудаванняў Гродна.
4. З якой мэтаю ў муроўцы сцен выкарыстоўваліся камяні і паліваныя пліткі?
5. Якую функцыю выконвалі галаснікі?

# § 9. Ад княства Гродзенскага да ВКЛ

"

*«Гародня стаяла на «юру».*
***Уладзімір Караткевіч «Зямля пад белымі крыламі»***

**Пасля азнаямлення з параграфам вы павінны:**

- **характарызаваць палітычнае становішча Гродзенскага княства ў XI–XIII стст.;**
- **характарызаваць адметныя рысы абарончых збудаванняў горада XIII стагоддзя;**
- **мець уяўленне аб архітэктурных асаблівасцях Верхняй царквы Старога замка;**
- **правільна фармуляваць і ўжываць наступныя паняцці: данжон, бруствер-забарол, Верхняя царква.**

## 1. Палітычнае становішча Гродзенскага княства

У сярэдзіне XIII стагоддзя становішча Гродзенскага княства рэзка пагаршаецца. Выклікана гэта было знешнепалітычнымі ўмовамі. У гэты час, выкарыстаўшы аслабленне Кіева, узвышаецца Галіцка-Валынскае княства, якое пачынае прэтэндаваць на Панямонне, дзе ўжо фарміравалася будучае Вялікае Княства Літоўскае. Горад стаў аб'ектам



**Аблога горада. Малюнак з Радзівілаўскага летапісу пач. XIII ст. Лучнік страляе з-за вялікай абарончай тарчы, якую нясуць тры ваяры. З другога боку гарадскіх муроў патаемна падносяць драбіну. З горада ў вяроў кідаюць камянямі.**

## Імя ў гісторыі



**Міндоўг (каля 1195 - 1263)** заснавальнік і першы князь ВКЛ. Аб'яднаў пад сваёй уладай летапісныя землі Літвы з Наваградскім княствам. Праз свайго стаўленіка замацаваўся ў Полацку, што дало пачатак утварэнню ВКЛ. Паводле Густынскага летапісу Міндоўг у 1246 г. у Наваградку ахрысціўся ў праваслаўе. Каля 1248 г . Міндоўг захапіў уладанні сваіх пляменнікаў Эдзівіда і Таўцівіла, што справакавала мяцеж, які падтрымалі жамойцкі князь Выкінт, Даніла Галіцкі, Лівонскі ордэн і Рыжскае арцыбіскупства. Гэтая палітычная сітуацыя змусіла Міндоўга яшчэ раз змяніць веравызнанне. У 1251 г. князь ВКЛ прыняў каталіцтва і атрымаў падтрымку Лівонскага ордэна. 6 ліпеня 1253 г. Міндоўг каранаваўся ў Наваградку каралеўскай каронай, якую даслаў Папа Інакенцій IV. Афіцыйна княства рабілася каралеўствам. Гэта спрыяла стабільнасці ў стасунках з еўрапейскімі дзяржавамі. Аднак такой еўрапейскай арыентацыі Міндоўг трымаўся нядоўга. Ужо на пачатку 1260-х гадоў ён разарваў стасункі з Лівонскім ордэнам, а пасля і з Рымскім Папам і пачаў адкрытую вайну супраць сваіх былых хаўруснікаў. Быў забіты ў 1263 г. у выніку змовы.

## Імя ў гісторыі



**Даніла Галіцкі (1201-1264)** князь Галіцка-Валынскай зямлі. З 1211 г. княжыў у Галічы, але падчас адной з усобіц быў выгнаны мясцовымі баярамі. З 1221 г. княжыў на Валыні. Разам з іншымі рускімі князямі Даніла Галіцкі ў 1223 г. бярэ ўдзел у бітве з мангола-татарамі на рацэ Калка.

У 1229 г. завяршыў аб'яднанне Валынскіх зямель, у склад якіх былі ўключаны беларускія гарады Бярэсце, Кобрын, Камянец і падляшскія Бельск і Дарагічын. Яму падпарадкоўваліся пінскія і тураўскія князі. У 1239 г. стаў вялікім князем кіеўскім. Заснаваў гарады Львоў і Холм. Апошні зрабіў сталіцай свайго княства. Ваяваў супраць Польшчы і Венгрыі. У 1249-1252 гг. ладзіў паходы супраць князя ВКЛ Міндоўга. У 1252 г. князь Галіцка-Вылынскай зямель вырашыў пачаць барацьбу з татарамі. За дапамогай звярнуўся да Папы Рымскага Інакенція IV, які планаваў зарганізаваць кааліцыю дзяржаў: Польшчы, Чэхіі, Маравіі, Памераніі, і заклікаў да крыжовых паходаў супраць татара-манголаў. У такіх умовах Даніла Галіцкі прыняў ад Папы Рымскага карону караля Галіцкага. Каранаванне адбылося ў 1254 годзе ў Драгічыне. З 1254 па 1255 гг. вызваліў ад татара-манголаў землі на Паўднёвым Бугу, Случы, здабыў Зв'ягель (Наваград-Валынскі). У 1264 г. Даніла Галіцкі памёр.

## Крыніцы сведчаць

«Пруси же и Бартеве, выехавше из города, удариша на не ночь и избиша е все, а другие изомаша и в город ведоша... »; «Столп бо бе камен высок стоя перед вороты города, и бяху в нем заперлися Прузи, и не бысть им мимо онъ пойти к городу, побивахуць бо со столпа того; и тако присту-пиша к нему и взяша и, страх же велик и ужасть паде на городе, и быша аки мертвее стояще на заборолех города, о взятьи столпа, зане то бысть упование их».



Ваяр XIII ст.



Конская вупраж і амуніцыя вершніка XII-XIII стст. Гэты рыцарскі скарб быў знойдзены ў 1988 годзе на беразе Нёмана вучнямі СШ № 24

**У гэты час на Беларусі з'яўляецца купалападобны шалом з паўмаскай, якая ахоўвала твар воя. Аналагі такога шалома мелі прусы і датчане.**

**Кальчуга нагадвала сваім кроем кашулю з кароткімі рукавамі. У XIII ст. яе пачалі вырабляць не з круглых, а з пляскатых кольцаў, яны навіваліся з жалезнага дроту і з дапамогай спецыяльнага штампу рабіліся пляскатымі. Асноўнай зброяй быў меч. Лепшыя клінкі мячоў на Беларусь прывозіліся з берагоў Рэйна. Сякера была неад'емнай зброяй як княскіх дружыннікаў, так і простых вояроў. Нарманскі шчыт замяніла трохкутная тарча, больш лёгкая і зручная.**

жорсткай барацьбы паміж галіц-ка-валынскімі і літоўскімі князямі. У канцы 40-х гадоў XIII ст. намаганнямі Міндоўга і Эрдзівіла Гродна трапіў пад уладу літоўскіх князёў. Гэта выклікала супрацьдзеянне галіцка-валынскіх князёў, якія імкнуліся падпарадкаваць Панямонне сабе. У 1252 годзе князь Данііл Галіцкі захапіў горад, а ў 1253 годзе далучыў яго да Галіцка-Валынскага княства.

У летапісе ўзгадваецца: «…посла з братам і сынам Раманам людзі свая, і взяста Городзен…, таго ж лета прысла Міндог к Данілу, прася міру…».

У выніку перамоў паміж Данілам і Міндоўгам быў заключаны мір. Але праіснаваў ён нядоўга, бо ўжо ў 1259 годзе Данілу Галіцкаму прыйшлося адваёўваць горад ізноў. Пасля смерці Даніла Галіцкага Гродна перайшоў да яго сына Шварна Данілавіча. Пасля яго смерці Уладзімір Васількавіч Валынскі не змог утрымаць Гродна, і ў 1270 годзе горад перайшоў у рукі літоўскага князя Тройдзена. У 1274 г. гродзенская дружына захапіла Драгічын на р. Буг, "ізбіша ўсе ад мала і да вяліка". У адказ на гэта галіцка-валынскія войскі двойчы, у 1275 і 1276 гадах, бралі горад у аблогу. Каб умацаваць сваё становішча, Тройдзен пасяліў пад Гродна і Слонімам прусаў, якія ўцяклі ад крыжакоў. У 1277 годзе галіцка-валынскія князі Мсціслаў, Юрый і Уладзімір ізноў арганізавалі паход на Гродна. Яны абрабавалі аколіцы і размясціліся без аховы і даспехаў у сяле пад горадам. І калі раніцай князі спрабавалі захапіць горад, гараджане мужна яго абаранілі.

Захапіць горад не ўдалося, і справа скончылася выдачай палонных. Аблога 1277 года была апошняй спробай валынскіх князёў вярнуць Гродна пад сваю ўладу. Міжусобіцы і пагроза мангола-татарскай навалы прымусілі іх утаймавацца. З гэтага часу Гродна ўвайшоў у склад Вялікага Княства Літоўскага.

## 2. Абарончыя збудаванні ў XIII стагоддзі

Зразумела, што ва ўмовах пастаяннай ваеннай пагрозы людзі клапаціліся аб сваім жыцці, таму займаліся будаўніцтвам і падтрымкай гарадскіх умацаванняў. Менавіта ў гэты час на Старым замку была пабудавана вежа-стоўп, якая ўпершыню ўзгадваецца ў сувязі з аблогай



**Вежа-данжон (франц.dojon)**
**Галоўная шмат'ярусная вежа замка.Падчас ваенных дзеянняў была назіральным і камандным пунктам, служыла месцам апошняй абароны. Магла выконваць функцыі аўтаномнай цытадэлі, дзе зберагаўся запас правіянту і ваеннага рыштунку.**

Гродна галіцка-валынскімі князямі. Яна была падобная на знакамітую Белую вежу ў Камянцы. Гэты новы тып абарончых умацаванняў быў шырока распаўсюджаны ў Заходняй Еўропе пад назвай «данжон». Упершыню на ўсходнеславянскіх землях з'яўляюцца ў XIII ст. на Валыні; верагодна, што і гродзенскі стоўп быў пабудаваны валынскімі дойлідамі ў часы, калі горад знаходзіўся ва ўладзе валынскіх князёў. Існуе некалькі меркаванняў аб месцазнаходжанні вежы. Магчыма, што, з'яўляючыся асноўнай кропкай абароны дзядзінца, яна знаходзілася побач з брамай дзядзінца і выступала за лінію сцяны. Такое зручнае месцазнаходжанне давала магчымасць абаронцам трымаць пад абстрэлам мост, браму і частку сцяны, што прымыкала да брамы. Дзядзінец, як і раней, меў драўляныя сцены-горадні, па версе ішла баявая галерэя, прыкрытая брустверам-забаролам. Захаваліся і мураваныя сцены XII ст.

### 3. Матэрыяльная культура горада

Становішча Гродзенскага княства было вельмі складаным. Раздзёртае міжусобнымі войнамі літоўскіх князёў, яно было вымушана адначасова



Верхняя царква. Часткі пабудовы выяўлены Ю.Ядкоўскім падчас археалагічных даследаванняў у 1931-37 гг. Рэканструкцыя А. Трусава. 1988 год

абараняцца ад моцнага ворага – крыжакоў. Бесперапынныя войны, пастаянная пагроза знішчэння, зразумела, не спрыялі развіццю горада. З цэнтра княства ён пераўтвараецца ў памежную крэпасць на шляху крыжацкай навалы. Археалагічныя раскопкі на Старым замку выявілі трохметровы культурны пласт XIII–XIV стст. Ён напоўнены зброяй, пераважна наканечнікамі стрэл. Знаходак, якія б сведчылі аб стане рамяства, настолькі мала, што многія даследчыкі гавораць аб замаруджванні ці нават аб спыненні развіцця горада ў гэты перыяд.

Менавіта ў гэты час, у канцы XIII – сярэдзіне XIV стагоддзяў, на дзядзінцы, на месцы Ніжняй царквы, якая абвалілася ў 1183 годзе, была пабудавана новая мураваная царква, якую цяпер называюць Верхняй. Гэта быў невялікі квадратны ў плане храм (9,8 х 9,9 м) з адной паўкруглай *апсідаю*. Вуглы сцен, як і ў ранейшых помніках гродзенскай архітэктурнай школы, былі зрэзаны пад вуглом у 45 градусаў. Сцены былі зроблены з вялікапамернай брусковай цэглы, пакладзенай на вапнавую рошчыну ў тэхніцы *лусковай муроўкі*, калі з цэглы выкладваліся толькі бакі, а сярэдзіна складалася з валуноў. У муроўцы сцен таксама былі выкарыстаны плінфа і шліфаваныя камяні, узятыя з развалін Ніжняй царквы. Спачатку перакрыцце царквы было драўляным. Пазней былі пастаўлены слупы і зроблены крыжовыя скляпенні, якія накрылі дахоўкаю. Царква выконвала ролю ўнутрызамкавага храма і была разабрана падчас будаўніцтва палаца Стэфана Баторыя ў апошняй чвэрці XVI ст.



**Бронзавы вадаліў з Барысаглебскай царквы. Першая палова XIII ст.**

## ? Пытанні і заданні

1. Якім было палітычнае становішча Гродзенскага княства сярэдзіны XIII ст.?
2. Чым было выклікана цяжкае становішча горада на працягу XIII ст.?
3. Які новы тып абарончых збудаванняў з’явіўся ў Гродне і якую ролю ён адыграў у гісторыі горада?
4. Як можна ахарактарызаваць матэрыяльную культуру горада ў XIII ст.?

# § 10. У складзе Вялікага Княства Літоўскага

**Пасля азнаямлення з параграфам вы павінны:**

- ведаць і разумець ролю Давыда Гарадзенскага ў гісторыі горада;
- умець расказваць пра барацьбу паміж Ягайлам і Вітаўтам у Гродне;
- уяўляць месца і ролю Гродна ў палітыцы ВКЛ;
- мець уяўленне пра будаўніцтва ў горадзе касцёла Найсвяцейшай Маці Божай (Фары Вітаўта);
- правільна фармуляваць і ўжываць наступныя паняцці і назвы: Ноенгартэн, Фара Вітаўта, Магдэбургскае права.



Крыжакі ў XIII ст. Крайні злева – рыцар Тэўтонскага ордэна, крайні справа – рыцар ордэна Мечаносцаў. Пасярэдзіне – пешы ваяр

*Князь спрытна сядае і шпорыць каня,*
*За ім беларусаў лавіна.*
*Зь зямлі высякаючы іскры агню –*
*На ворага мкнецца дружына.*

*Дружыны тае не патрапіць стрымаць*
*Ні пушча, ні вецер, ні гоні!*
*Давыдавы вoi на конях ляцяць*
*На покліч крылатай пагоні.*
***Апанас Цыхун.***
***Балада пра Давыда Гарадзенскага.***

## 1. Горад у час крыжацкай навалы

Гродна заўсёды быў ключом да земляў беларускага Панямоння. Каля 20 нападаў на наш горад здзейснілі крыжакі Тэўтонскага ордэна. Хто толькі не пабываў пад сценамі непрыступнага Старога замка! “Паход на Гартэн” лічыўся вышэйшай адзнакаю і гонарам рыцарства Германіі, Францыі, Швецыі, Галандыі, Даніі, Італіі, Іспаніі, Чэхіі і Англіі. Пяць разоў удавалася крыжакам захапіць Гродна. У 1284 годзе пад сцены Старога замка раптоўна прывёў свае войскі магістр Конрад Цірнберг. Ён прыйшоў скарыць прусаў, якіх восем гадоў назад пасяліў у Грод-



**Давыд Гарадзенскі.
Мастак Д. Іваноўскі**

## Імя ў гісторыі

**Стараста Давыд Даўмонтавіч (Гарадзенскі) (каля 1287 г. – 1326 г.)** – сын нальшчанскага князя Даўмонта (княства Нальшчанскае знаходзілася на тэрыторыі цяперашніх Ашмянскага і Смаргонскага раёнаў). Мужны і адважны Давыд заслужыў давер Віценя ў паходах і баях. І той даручыў яму абарону Гродна. Дваццаць пяць гадоў Давыд Гарадзенскі (так сталі яго называць) абараняў дарогу ў Панямонне. За часы яго староства крыжакі шэсць разоў прыходзілі, каб захапіць Гродна.

У 1314 г. ваярам Давыда Гарадзенскага Віцень даручыў дапамагчы Навагрудку. Гарадзенцы знішчылі запасы на шляху адступлення крыжакоў, захапілі іх лагер, дзе перабілі абарону, узялі баявых коней, правіянт і ваенны рыштунак, спалілі караблі ордэнскага флоту на Нёмане. У 1322 і 1323 гадах войска Давыда па просьбе пскавічоў абараняла іх родны горад ад лівонскіх рыцараў.

На пачатку сакавіка 1324 года, у Вялікі пост, тры рыцары і 600 воінаў з Натангіі (Прусія) здзейснілі патаемны рэйд у ваколіцы Гродна. Яны напалі на маёнтак Давыда Гарадзенскага (Давыдзішкі ці Верцялішкі), забілі яго жонку і двух сыноў і яшчэ 38 чалавек.

У 1324 годзе Давыд Гарадзенскі здзейсніў набег на Мазовію, саюзніцу братоў-рыцараў, знішчыў г. Пултуск, спаліў 120 мястэчак і вёсак, зруйнаваў 30 касцёлаў і захапіў у палон 4000 чалавек.

У 1326 годзе Давыд Гарадзенскі на чале 1200 коннікаў і з атрадам польскага войска здзейсніў спусташальны рэйд на Брандэнбург. У час вяртання з паходу князь зрабіў у Мазовіі прывал – тут і напаткала яго смерць. Падкуплены крыжакамі мазавецкі рыцар Анджэй Гост знянацку ззаду напаў на князя ў намёце і забіў яго дзідай. Цела Давыда воіны прынеслі на шчытах дамоў і, паводле легенды, пахавалі ля сцен царквы Барыса і Глеба.



**Герб "Калюмны" ці Гедэмінавы слупы – першапачатковы сімвал Вялікага Княства Літоўскага.**



**Пагоня - герб Вялікага Княства Літоўскага**

не вялікі князь Тройдзень. Гарнізон замка доўга абараняўся, але з-за здрады прусаў Скомунда і яго брата брама была адчынена і крыжакам удалося ўварвацца ў горад. Гэта адзін з нямногіх выпадкаў поспеху крыжакоў, ды і то захапілі яны толькі Ніжні замак. Спалілі і абрабавалі дамы, а жыхароў забілі, або забралі ў няволю.

Падчас аблогаў уваход у брамную вежу зачыняўся сталёвай кратаўкай. Мост да замка ў той час быў даволі выгнутым, што дазваляла абстрэльваць ворага з муроў, вокнаў і вежаў. Частка мосту падымалася на моцных ланцугах.

У 1296 годзе крыжакі двойчы спрабавалі захапіць Гродна. Горад неаднаразова гарэў і адбудоўваўся. Верагодна, што ў гэтыя часы змяншаецца і колькасць насельніцтва, частка якога загінула ці трапіла ў палон. Толькі ў часы княжання Віценя, калі ў 1312 г. гродзенскім старастам стаў староста Давыд Гарадзенскі, гарадзенцы атрымалі доўгачаканы перадых у бесперапынных бойках з крыжакамі.

У 1328 г. гросмайстру Тэўтонскага ордэна з атрадам колькасцю 60 рыцараў і 300 простых ратнікаў удаецца авалодаць горадам пасля трохтыднёвай аблогі. Замак быў спалены, жыхары заплацілі вялікую кантрыбуцыю. Напады на горад былі ў 1362 і 1364 гг. Як адзначаў рыцарскі храніст, «крыжакі бесчалавечна спусташалі ваколіцы горада, забіраючы шмат людзей у няволю».

У 1373 годзе адбыўся яшчэ адзін разбуральны крыжацкі паход. У 1375, 1377 і 1379 гадах былі здзейснены беспасляховыя набегі Альберта фон Заксена, Тэадорыха фон Эльнера. У 1393 г. пасля трохдзённай аблогі Гродзенскі замак быў захоплены і спалены, шмат воінаў і жыхароў узятыя ў палон. У 1402 годзе рыцары спрабавалі захапіць Гродна, калі вялікі князь Вітаўт быў у Кракаве. Зноў пацярпелі аколіцы горада, былі захоплены палонныя і трафеі. Гэта быў, відаць, апошні паход крыжакоў на Гродна. У Гродне ёсць тапанімічны напамін пра тагачасныя напады – вёска Падкрыжакі, якая нядаўна ўвайшла ў межы горада.

## 2. Барацьба паміж Вітаўтам і Ягайлам

У 1376 годзе Гродна становіцца ўладаннем літоўскага князя Вітаўта. Гродзенцы падтрымалі яго ў барацьбе з Ягайлам

### Таямніца гісторыі

**Ноенгартэн.** Крыжакі пабудавалі яго на левым беразе Нёмана насупраць Старога замка. Праз год, пасля заключэння міра з Ягайлам, калі неабходнасць у падтрымцы ордэна адпала, Вітаўт захапіў і спаліў гэты замак. Навукоўцы не могуць дакладна вызначыць месцазнаходжанне Ноенгартэна.

## Імя ў гісторыі



**Вітаўт Вялікі** (**у каталіцтве Віганд, у праваслаўі Аляксандр; 1350-27 кастрычніка 1430 гг.)** адзін з выдатных дзяржаўных дзеячаў ВКЛ. Сын Кейстута, стрыечны брат Ягайлы. З юнацкіх гадоў удзельнічаў у войнах супраць Вялікага княства Маскоўскага і Тэўтонскага ордэна. У 1374 г. атрымаў у валоданне гарадзенскае княства. Пасля смерці Вялікага князя Альгерда (1377 г.) падтрымаў свайго бацьку ў барацьбе за трон. У 1382 г. падчас перамоваў з Ягайлам у Вільні Вітаўт разам з бацькам Кейстутам быў схоплены і адпраўлены у Крэўскі замак. Кейстут быў задушаны, а Вітаўт дзякуючы дапамозе жонкі здолеў уцячы. У 1383 г. прыняў у каталіцтве імя Віганд. Разам з крыжакамі ўдзельнічаў у паходзе на Літву. У 1385 г. заключыў мірнае пагадненне з Ягайлам і падпісаў Крэўскую унію. Праз некаторы час прыняў праваслаўе і імя Аляксандр. У 1392 г. пасля Востраўскага пагаднення Вітаўт становіцца намеснікам Ягайлы ў ВКЛ. Ён праводзіў самастоўную ўнутранную і знешнюю палітыку. Ажыцяўляў цэнтралізацыю дзяржавы і рабіўся незалежным ад Ягайлы і Польшчы. У 1395 г. падпарадкаваў Смаленскае княства, а ў 1395 г. дамогся прызнання залежнасці Ноўгарада Вялікага ад ВКЛ. Каб аднавіць на троне Залатой Арды свайго стаўленіка хана Тахтамыша ў 1399 г. зарганізаваў вялікі паход у паўднёвыя стэпы, які закончыўся паражэннем у бітве на рацэ Ворскле.

У 1401 г. заключыў Віленска-Радомскую унію з Польшчай, атрымаўшы тытул Вялікага Князя Літоўскага.

Па выніках вайны з Вялікім Маскоўскім княствам у 1406-1408 гг. вызначыў мяжу ВКЛ па рэках Угра і Ака. Падчас Вялікай вайны ВКЛ і Польшчы з Тэўтонскім орэнам 1409-1411 гг. узначальваў войскі ВКЛ, якімі кіраваў пад Грунвальдам у 1410 г. (рабіў гэта непасрэдна з поля бітвы). У выніку Таруньскага міра 1411 г. была спынена крыжацкая агрэсія. Падпісаў Гарадзельскую унію 1413 г., якая замацоўвала яго ўладу ў княстве. Падчас праўлення Вітаўта ВКЛ дасягнула найбольшай магутнасці зямельных памераў: ад Пскоўскай мяжы да Чорнага мора і ад ракі Акі і Курска да Галіцыі. Каб канчаткова замацаваць суверынітэт дзяржавы, ён двойчы намагаўся атрымаць каралеўскі тытул і карону. Але гэтаму перашкаджалі магнаты з Польшчы, якія не адмаўляліся ад намераў аб'яднаць Літву з Польшчай. Памёр Вітаўт 27 кастрычніка 1430 года ў Троках. Пахаваны ў Віленскім кафедральным саборы.



Пячатка вялікага князя Вітаўта



**Гарадзенскі замак XV - XVI стст. Перабудаваны Вітаўтам у гатычным стылі. Малюнак І. Місюры.**

за ўладу ў ВКЛ. У выніку перамоў паміж Вітаўтам і Ягайлам у 1384 годзе Гродна становіцца «другой» сталіцай ВКЛ. У гэтыя часы па загаду Вітаўта ў горадзе будуецца першы драўляны каталіцкі касцёл Найсвяцейшай Маці Божай, так званая Фара Вітаўта, які ўпершыню згадваецца ў **1389** годзе. Гэты храм меў двухсхільны дах і шмат'ярусную вежу.

Разумеючы, што замірэнне з Ягайлам не вельмі трывалае, Вітаўт пачаў рыхтавацца да новай вайны. Аднавіў і ўмацаваў сцены Старога замка, а ў 1390 годзе заключыў дамову з крыжакамі для сумеснай барацьбы супраць Ягайлы, даручыўшы абарону горада маркграфу Зальцбаху. У гэтым самым годзе абаронцы Гродзенскага замка вытрымалі 50-дзённую аблогу польскага войска на чале з Ягайлам. Прыйшоўшы з крыжакамі на дапамогу гарадзенцам, Вітаўт паспрабаваў дапамагчы свайму гарнізону. З супрацьлеглага берага да муроў Старога замка быў працягнуты жалезны ланцуг, каб з дапамогаю прымацаваных да яго лодак даставіць у замак усё неабходнае. Але польскія рыцары, пусціўшы зверху па рацэ бярвенні, парвалі ланцуг. Не атрымаўшы дапамогі, абаронцы вымушаны былі здаць горад Ягайлу. Каб заручыцца падтрымкай гарадзенцаў, ён у **1391** годзе дае гораду першы прывілей на самакіраванне па Літоўскім праве і ўзмацняе гарнізон крэпасці атрадам польскіх вояроў. Але калі Вітаўт разам з крыжакамі падышоў да горада, гарадзенскія ваяры зачынілі польскіх салдат у вежы і здалі крэпасць. За дапамогу ў барацьбе з Ягайлам Вітаўт дазваляе крыжакам пабудаваць у сваіх уладаннях замкі. Сярод іх быў Ноенгартэн.



Рыцар Вялікага Княства Літоўскага пач. XV ст.

Для ВКЛ XIV - пачатак XV стст. быў перыядам бесперапынных войнаў. Рыцарства Вялікага Княства працягвала ўжываць традыцыйныя віды зброі, адначасова засвойваючы баявы вопыт сваіх супраціўнікаў як з Захаду, так і з Усходу, выкарыстоўваючы новыя элементы узбраення. У другой палове XIV ст. на Беларусі з'яўляецца заходнееўрапейскі пласцінавы даспех.
Разам з шлемам даспех важыў 25-30кг., не скоўваў рухаў рыцара і дазваляў яму біцца як на кані,так і пешшу.





Дэнарый (пенязь) Вітаўта. Тып выпуска 1401-1430 гг. Манетны двор Вільні.



Фара Вітаўта. Малюнак І. Саранчуковай.
Паводле гравюры Адэльгаўзэра-Цюндта 1567-1568 г.

## Помнік долідства

**Фара Вітаўта** – на працягу шасці стагоддзяў у розных архітэктурных стылях храм нёс імя свайго заснавальніка, князя гарадзенскага, а затым Вялікага Князя Літоўскага Вітаўта. Дакладная дата фундацыі касцёла невядомая, але ён узгадваецца ў княскім прывілеі, дадзеным гарадзенскім жыхарам у 1389 годзе.

Гэта быў першы каталіцкі храм у горадзе. Спачатку касцёл быў збудаваны з дрэва і быў асвечаны ў гонар Унебаўзняцця Найсвяцейшай Марыі Панны. Агульна таксама названы Касцёлам Маці Божай. Стаў улюбёным храмам каралевіча Казіміра. Ён некалькі разоў гарэў, перажываў рабаўнічыя напады. Вядома, што касцёл быў адноўлены ў 1494 годзе каралём Аляксандрам Ягелончыкам. У 1551 г. каралева Бона Сфорца загадвае яго рамантаваць. Паводле гравюры М. Цюндта 1568 года, на якой касцёл названы "Польскім храмам у горадзе", уяўляе сабой аднанефавы прамавугольны ў плане будынак з двухсхільным дахам і прылеглай вежай званіцы.

## Імя ў гісторыі

**Святы Казімір (3 кастрычніка 1458 – 4 сакавіка 1484 гг., Гродна)** сын Вялікага князя Літоўскага і караля Польшчы Казіміра Ягелончыка. Апякун Польшчы, Літвы і Беларусі. Заступнік моладзі. З маладосці быў вельмі набожны. Клапаціўся аб патрэбах звыклых людзей і апекаваўся касцёламі. Быў абраны венгерскім каралём, але хутка адмовіўся ад трона, каб цалкам прысвяціць сябе малітве і служэнню Богу. Захварэў на сухоты і на шляху ў Люблін памёр у Гародні 4 сакавіка 1484 г. Пахаваны каралевіч Казімір ў капліцы Маці Божай Віленскага катэдральнага касцёла. Традыцыя сведчыць, што “пры магіле яго, як кажуць, адбываюцца цуды”. У 1602 г. кананізаваны. 4 сакавіка — дзень святога Казіміра, заступніка раместнікаў. У гэты дзень у нашым горадзе ладзіцца кірмаш рамёстваў “Казюкі”. У міжваенны час у Гародні існавала вуліца Святога Казіміра. У гарадзенскім Фарным касцёле больш за трыста год існуе алтар святога Казіміра.



**Святы Казімір. Скульптура XVIII ст. Лідскі Крыжаўзвіжанскі касцел.**

Барацьба паміж Вітаўтам і Ягайлам завяршылася падпісаннем Востраўскага пагаднення ў 1392 годзе. Вынікам пагаднення стала пераможная вайна супраць Тэўтонскага ордэна. У 1410 годзе гродзенская харугва ў складзе войскаў Вялікага Княства, якімі кіраваў Вітаўт, прымала чынны ўдзел у бітве пад Грунвальдам. Вітаўт і Ягайла неаднаразова сустракаліся ў Гродне: святкавалі ў 1414 годзе Каляды і вяселле Вітаўта з Юльянай у 1416 г.

Пасля смерці Вітаўта ў 1430 г. Гродна неаднаразова наведвае яго пераемнік Свідрыгайла. У 1440 годзе Гродна пераходзіць да вялікага князя Казіміра, які ў 1444 годзе дарue гораду другі прывілей на самакіраванне па Літоўскаму праву. Тут, у Гродне, у каралеўскім замку, Казімір Ягелончык і памёр 7 чэрвеня 1492 г.

У Гродне неаднаразова адбываліся пасяджэнні сойму, на якіх вырашаліся пытанні ўнутранай і знешняй палітыкі дзяржавы. Напрыклад, на гродзенскім сойме ў 1492 годзе вялікім князем быў абраны Аляксандр.

### Пытанні і заданні

1. Раскажыце пра дзейнасць на пасадзе гродзенскага старасты палкаводца Давыда Гарадзенскага.
2. Якую ролю адыгралі гродзенцы і горад у барацьбе паміж Вітаўтам і Ягайлам?
3. Якія змены адбыліся ў Гродне ў часы праўлення Вітаўта?
4. Ахарактарызуйце ролю Гродна ў палітычным жыцці ВКЛ.
5. Што цяпер у горадзе нагадвае нам пра падзеі барацьбы з крыжацкай навалай?

# § 11. Жыццё горада паводле магдэбургскага права

"

*«Наданне "майдэборскіх правоў" абумовіла якасна новае становішча паселішча ў сацыяльнай іерархіі, адрознівала і вылучала яго з навакольных населеных пунктаў».*
***Анатоль Цітоў, беларускі гісторык***

**Якія прывілеі на самакіраванне мелі жыхары Гродна?**

**Пасля азнаямлення з параграфам вы павінны:**

- **умець аргументавана тлумачыць сутнасць гарадскога самакіравання паводле магдэбургскага права;**
- **характарызаваць змест самакіравання ў Гродне ў XIV – XVI стст. і параўноўваць яго з заходнееўрапейскім;**
- **ведаць гісторыю гродзенскіх сімвалаў самакіравання – герба і ратушы;**
- **правільна фармуляваць і ўжываць наступныя паняцці і назвы: камуна, юрыдыка, ратуша, лава, радца, магістрат, войт, бурмістр.**



**Пячатка Гародні з выпісу з бурмістраўска-радзецкіх кніг за 1641г.**

## 1. Правы гарадскога самакіравання

Гродна адным з першых гарадоў Вялікага Княства Літоўскага атрымаў права самакіравання, якое ў гісторыі набыло назву "магдэбурскае права" (лац. jus theutonicum magdeburgense). Да прыкладу Вільня карысталася магдэбургскім правам з 1387 года намінальна (магістрат існаваў, але горадам кіраваў вялікакняскі цівун), а з 1432 года – фактычна, Менск з 1499 года, Полацк – з 1498, Берасце – з 1511(?) года, Гомель – з 1560 (?) года, Магілёў – з 1577 года.

Першымі гарадамі ВКЛ, якія атрымалі правы самакіравання сталі Вільня (1387), Бярэсце (1390), Гародня (1391). Але падобна на тое, што гэта было асаблівае, так званае рускае ці



**Сімвалічны ключ ад г.Гародня, адшуканы Ю. Ядкоўскім**

літоўскае права. Калі яно і арыентавалася на магдэбурскае права, то было ў значнай ступені абмежаваным. Узнікненне асаблівага юрыдычнага статусу гарадоў паводле магдэбургскага права ў ВКЛ напрыканцы XIV ст. сведчыла аб значнай ролі тагачаснага гарадскога насельніцтва ў эканамічным, культурным і нават у палітычным жыцці дзяржавы. Магдэбургскія правы гарадам ВКЛ надаваў звычайна Вялікі Князь Літоўскі. Але адбывалася гэта ўжо напрыканцы XV ст.



Гарадзенская ратуша XVI ст. Паводле Г.Адэльгаўзэра-Цюндта (1567-1568 гг.)

## Гісторыя сведчыць

Юрыдычныя правы асобных заходнееўрапейскіх гарадоў узніклі як вынік барацьбы гараджан са сваімі сен'ёрамі з канца XI ст. і паступова распаўсюдзіліся па ўсёй Еўропе. Магдэбургскае права з'явілася юрыдычным афармленнем поспехаў мяшчанаў у замацаванні самастойнасці ўласнага горада. Яно даравала гораду права на самакіраванне і ўласны суд, права зямельнай уласнасці і вызваленне ад большай часткі феадальных павіннасцяў, права ствараць рамесныя аб'яднанні – цэхі.

Найбольш ранняя форма гарадскога самакiравання ў некаторых італьянскіх, французскіх і нямецкіх гарадах – камуна (ад познелац. Communa – грамада), якая арганізоўвала выбары з ліку гараджан гарадской Рады і адказных асоб, ажыццяўляла ўласны гарадскі суд, утрымлівала гарадское апалчэнне, асобныя фінансы і падаткаабкладанне. Права на самакіраванне сен'ёр пацвярджаў хартыяй, па якой горад быў абавязаны штогод выплачваць пэўную суму грошай – рэнту – і падчас вайны выстаўляць войска. Не ўсе, нават вялікія гарады, як, напрыклад, Парыж, карысталіся такім правам у поўным аб'ёме. Нярэдка сен'ёр згаджаўся на частковае самакіраванне і тады выбарныя органы дзейнічалі сумесна зураднікам, які прызначаўся сеньёрам. Найбольш поўныя правы на самакіраванне атрымлівалі імперскія (каралеўскія) і біскупскія гарады. Менавіта ў гэтыя часы і ўзнікла нямецкая прыказка "Der Schtadtluft macht frei " (гарадское паветра робіць вольным).

Сярод еўрапейскіх гарадоў, якія паступова набывалі найбольш поўныя правы на самакіраванне, вылучыўся горад на Эльбе Магдэбург (вядомы з 805 г., з 968 г. – цэнтр Магдэбургскага архібіскупства). Пачаткам магдэбургскага права на самакіраванне, якое канчаткова склалася ў XIII ст. і паступова набыло шырокую вядомасць, былі прывілеі, якія даў у 1188 г. гарадскому патрыцыяту тагачасны архібіскуп Віхман. Незвычайная папулярнасць менавіта магдэбургскага права тлумачыцца тым, што яно мела ўніверсальны характар: тлумачыла розныя віды прававых адносін (дзейнасць гарадскіх выбарных уладаў, яе кампэтэнцыю і парадак судовай вытворчасці), пытанне зямельнай уласнасці, парушэнні ўладання, захопу маёмасці. Асабліва месца займалі нормы, якія рэгулявалі гандаль і рамёствы, дзейнасць цэхаў і купецкіх гільдый, парадак падаткаабкладання.

## 2. Магдэбургскае права

Наданне Гродна магдэбургскага права Вялікім Князем Літоўскім Аляксандрам адбылося ў Берштах – вялікакняскім двары, дзе ў той час праходзіў сойм, у Дзень святога Бенядзікта (згодна з каталіцкімі святамі, 11 ліпеня) 1496 года (Да ведама: праваслаўныя адзначаюць Дзень св. Бенядзікта 27 сакавіка, але вялікі князь, які пахаваны ў маўзалеі Віленскага кафедральнага сабору, безумоўна быў каталіком).

Згодна з вялікакняскім прывілеем, гораду надавалася войтаўства і ствараўся гарадскі орган самакіравання – магістрат. Магістрат адыгрываў ролю адміністрацыйнай улады (з наданнем яму судовых функцый), сачыў за гандлем, збіраў падаткі. Гэтай установе падпарадкоўваліся мяшчане – усе жыхары горада-места, акрамя тых, хто жыў у юрыдыцы. Горад вызваляўся ад гандлёвых пошлін, атрымаў дазвол на пабудову ратушы і «тройчы ў год кожны кірмашы мець згодна з іх багаццем і згодна звычаю праводзіць".

Прывілей Аляксандра Казіміравіча вызваляў гродзенцаў ад абавязкаў рамантаваць вялікакняскі замак, прадстаўляць падводы вялікакняскім ураднікам, акрамя выпадкаў, калі асобы прад'яўлялі адкрытыя лісты з вялікакняскай пя-



Радцы ад рамесніцкіх цэхаў на паседжанні Магістрата

чаткай. Гродзенцы павінны былі вялікаму князю таксама «ўсе і кожны асобна несці трэці грош ад усякіх чыншаў, працэнтаў, дараванняў, судоў, він праўных і прыходаў якіх-небудзь», а таксама асвятляць шлях падчас вялікакняскага палявання.

У адпаведнасці з нормамі магдэбургскага права гараджане абіралі раду і лаву. Рада абіралася з ліку купцоў і заможных майстроў, цэхмайстраў. Узначальвалі раду войт і бурмістры. Войт выконваў абавязкі старшыні крымінальнага суда. Ён звычайна не абцяжарваў сябе выкананнем бягучых абавязкаў і для гэтых мэтаў прызначаў намесніка – лентвойта. Бурмістраў было двое – праваслаўны і каталік. Іх мяшчане абіралі з ліку радцаў штогод.

Такім чынам, вялікі князь пазбавіў мяшчан падсуднасці перад вялікакняскімі чыноўнікамі, перадаўшы права «судити и рядити» іх войту і бурмістрам у прысутнасці райцаў ці то гродскім (бурмістрава-радным), ці то лаўным судом. Гарадская рада разглядала "грамадзянскія" (побытавыя) справы паміж мяшчанамі, прызначала апекуноў над сіротамі і непаўналетнімі, а крымінальныя справы накіроўвала ў лаву, у войтава-лаўны суд. Апеляцыйныя скаргі накіроўваліся вялікаму князю. У такім выпадку і мяшчан, і самога войта князь абавязаны быў судзіць па законах магдэбургскага права.

Змяшчаўся магістрат у Ратушы, якая знаходзілася на Рынку (сёння – Савецкая плошча). Найвялікшай каштоўнасцю, здабыткам магдэбурскага права стаўся гарадскі герб – сімвалічнае ўвасабленне вольналюбівага характару горада.



**Гараджанін XVII ст. Малюнак Ч. Роя**

## Дакументы сведчаць

У Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў Гродне захоўваецца копія прывілея на наданне Гродна магдэбургскага права «найяснейшага Аляксандра, князя літоўскага»: «Мы, Аляксандр з ласкі Божай вялікі князь літоўскі, рускі, жамойцкі і г.д., Гаспадар і Пераемнік, Заяўляем словамі гэтымі, каму належыць усім сучаснікам і потым будучым, якія аб гэтым вядомасць мець будуць: так як Мы ўзбагачэння паспалітага ўвесь час прагнучы і жадаючы, каб фінансавае становішча нашага Гродна было лепшае і каб людзі яго насяляючыя парадкам добрым і слушным у сваіх уладаннях сталі багацейшымі ... з Права Літоўскага ці Рускага і якога яшчэ раней атрыманага на Права нямецкае Майдэборскім празванае прызначаем, якое вечныя часы павінна цягнуцца згодна свайго поўнага і цэлага кшталту, адцясняючы адсюль усякае права, раней атрыманае, і спосабы і звычаі ўсе існуючыя, якія б таму сапраўднаму праву Тэўтонскаму Майдэборскаму маглі перашкаджаць...»



Вялікі Князь Літоўскі і Кароль Польскі Аляксандр на Сойме. Размаляваны дрэварыт 1506 г.

## Імя ў гісторыі

**Аляксандр Ягелончык (5 жніўня 1461- 19 жніўня 1506 гг.)** , сын Казіміра Ягелончыка і Альжбеты Габсбург. Вялікі князь літоўскі з 1492г. і кароль польскі з 1501 г. Адразу пасля абрання Аляксандр выдаў свой прывілей 1492 г., якім значна пашырыў правы паноў-рады ВКЛ. Гэты прывілей, фактычна, замацаваў прынцыпы міжнароднай палітыкі дзяржавы, вызначыў асновы цывільнага і крымінальнага права. У 1505 увёў Радомскую канстытуцыю, якая значна пашырала правы шляхты і прызнавала за сеймам права выдаваць законы.

У перыяд 1492-1494 і 1500-1503 гг. Аляксандр вёў войны з Маскоўскім княствам, у выніку якіх ВКЛ страціла значную частку сваіх усходніх тэрыторый з гарадамі Бранск, Вязьма, Гомель, Чарнігаў і іншымі.Шмат клопатаў спраўлялі хаўруснікі Масквы крымскія татары, якія неаднаразова спусташалі Валынь, Галіцыю і Берасцейшчыну. У 1506 г. удалося спыніць напады крымскіх татараў і нанесці ім сур'ёзнае паражэнне ў Клецкай бітве. Аляксандр Ягелончык памёр ва ўзросце 45 год у Вільні, там і быў пахаваны. Вялікім князем Літоўскім , а пасля і каралём польскім быў абраны яго брат Жыгімонт І Стары(1506-1548)

## Імя ў гісторыі



**Бона Сфорца д'Арагона (2 лютага 1494 г. – 19 лістапада 1557 г.)**, каралева польская і вялікая княгіня літоўская, другая жонка Жыгімонта І Старога, маці Жыгімонта ІІ Аўгуста. Бона ўмацоўвала палітычную ўладу і эканамічную моц манархіі, абмяжоўвала ўплыў магнатаў, аб'ядноўвала вакол сябе прагрэсіўных адукаваных людзей. Каралева жыла пераважна ў Вільні і добра авалодала старабеларускай мовай. Садзейнічала асваенню сялянамі лясоў і ператварэнню іх у сельскагаспадарчыя палеткі. Па яе загадзе была праведзена рэформа ў сельскай гаспадарцы (уведзена валочная памера), шмат будавалася школ, храмаў, шпіталяў, многія гарады атрымалі магдэбургскае права. Садзейнічала ўвядзенню ўнармаванага падаткаабкладання, якое пазней было распаўсюджана на ўсе дзяржаўныя маёнткі ВКЛ. Каралева значна пашырыла ўплыў найноўшых заходнееўрапейскіх культурных і тэхнічных дасягненняў і гэтым самым далучала шляхту да моды, культуры, адукацыі эпохі Рэнесансу. Бона адкрыла для беларусаў салату, капусту, памідоры, шпінат і іншую гародніну, а таксама ўвяла ў карыстанне відэлец.

### 3. Самакіраванне ў дзейнасці

Прававы статус Гродна садзейнічаў развіццю горада. Напрыклад, у часы каралевы Боны гараджане падалі скаргу на бурмістраў за злоўжыванне ўладай. Пасля разгляду скаргі Вялікая княгіня літоўская і Каралева польская Бона загадала гродзенскім бурмістрам і радцам штогод даваць справаздачы аб выдаткаванні гарадскіх грошай. Акрамя таго, загад Боны вызначаў паўнамоцтвы войта, бурмістра і радцаў.

Найбольш выразна роля лаўнікаў праяўлялася ў судовай дзейнасці гарадскіх устаноў. У беларускіх гарадах яна была больш разнастайнай, чым дзейнасць, якая была прадугледжана магдэбургскім правам. Так, у Гродне магістрацкія кнігі выразна падзялялі дзве судовыя ўстановы: бурмістрава-радны суд і войтава-лаўны суд. Пасяджэнні кожнага з судоў адбываліся асобна. Тыя, хто разлічваў атрымаць патрэбнае для сябе рашэнне, звярталіся ў той ці іншы суд не згодна з яго кампетэнцыяй, а зыходзячы з уласных разлікаў. Невыпадкова ў кнігах войтава-лаўнага суда Гродна захаваліся запісы спраў, якія цалкам адпавядаюць справам бурмістрава-раднага суда.

Неаднаразова князі давалі гораду розныя прывілеі: на будаўніцтва млына, на набыццё зямлі і карыстанне лясамі, вы-




Вокладка актавай кнігі гарадзенскага магістрата за 1659 г.

значалі падаткі і мытныя пошліны. Магістрат кіраваў пабудовай млына на Нёмане, трох корчмаў, лазні, камяніцы для ўтрымання ў ёй вагаў, васкабойні, прыбыткі ад якіх ішлі на карысць горада.

Акрамя рамеснікаў і гандляроў, у горадзе жылі духавенства, шляхта і магнаты (апошнія, дакладна кажучы, наведвалі горад з нагоды якой-небудзь падзеі), якія мелі ў горадзе свае рэзідэнцыі. Іх насельнікі – юрыдычане – падпарадкоўваліся толькі ўладальнікам зямлі і не плацілі падаткаў у гарадскую казну. Спробы ўлады зменшыць колькасць юрыдык вынікаў не далі.

## Пытанні і заданні

1. **Растлумачце сутнасць мясцовага гарадскога самакіравання ў сярэдневяковай Еўропе.**
2. **Вызначце асаблівасці самакіравання ў ВКЛ.**
3. **З прыведзенага тэксту прывілея 1496 г. на самакіраванне Гродна вызначце фразу, якая бездакорна даказвае, што ўсе папярэднія правы горада на самакіраванне не былі магдэбургскімі.**
4. **Якія змены адбыліся ў жыцці жыхароў Гродна з наданнем гораду магдэбургскага права?**
5. **Уявіце працэс гарадскога самакіравання ў Гродне XVI ст. Вызначце магчымыя праблемы гарадскога жыцця ў гэтыя часы.**

# § 12. Развіццё гарадской планіроўкі ў XV-XVI стст.

**Вызначце асноўныя этапы гісторыі будаўніцтва горада да XV ст.**

**Пасля азнаямлення з параграфам вы павінны:**

- **умець апісваць гарадзенскія вялікакняскія замкі;**
- **расказаць пра планіровачнае развіццё і забудову вуліц горада;**
- **умець тлумачыць выяву Гродна на гравюры М. Цюндта;**
- **правільна фармуляваць і ўжываць наступныя паняцці і назвы: замак Вітаўта, замак Баторыя, контрфорсы, Гандлёвая плошча, верацяно, доўгі рынак, валочнае вымярэнне Гродна**

## 1. Планіроўка вулічнай сеткі

Даследчык горадабудаўніцтва Юрый Кішык выявіў у Гродне канца XV ст. шэсць асобных, але планіровачна ўзаемазвязаных паміж сабой раёнаў. Першы размяшчаўся на беразе Гараднічанкі і быў вынікам доўгай трансфармацыі дагістарычнай вёскі-авальніцы, якая ўзнікла на гандлёвай дарозе з Вільні ў Гродна.

Другі планіровачны раён склаўся побач з умацаванымі падградамі, там, дзе сёння стаяць Новы замак і Абласны драматычны тэатр. Асобным раёнам стаў Падол, размеркаваны на ніжняй тэрасе. Яго планіроўка вызначалася дарогай па беразе Нёмана і веерам спускаў-праходаў да берагавой лініі. Ён засяляўся адначасова з вышэйназваным, размеркаваным на верхняй тэрасе. Абодва раёны злучыла крывалінейная вуліца.

Чацвёрты раён сфармаваўся дзякуючы ўтварэнню доўгага рынка альбо верацяна. Апошняе ўзнікла з двух трохкутнікаў: адзін склалі сучасныя вуліцы Маставая і Стэфана Баторыя, другі – вуліцы Савецкая і Калючынская. Пасярэдзіне верацяна апынулася галоўная плошча горада, на якой размясціліся галоўныя грамадска-палітычныя і сацыяльна-эканамічныя будынкі. У паўднёва-ўсходнім ад Рынку раёне стала складвацца мяккая перакрыжаваная сістэма планіроўкі. Гэтая тэрыторыя засвойвалася як бы слаямі, з утварэннем даволі шырокіх блокаў забудавання. Апошні па часе засялення раён Занёмання меў тыповую для вёскі аднабаковую забудову вуліцы.

На працягу XVI ст. адбываліся змястоўныя змены ў аб'ёмна-прасторавай структуры Гродна. Даследчык Юры Кішык датуе асноўныя працэсы перапланіроўкі горада 1533-1541 гг. і звязвае іх з каралевай Бонай Сфорцай. «Валочнае вымярэнне Гродна» С. Дыбоўскага 1560 г. ужо зафіксавала новую планіроўку.

> *«У XV ст. умацаваліся гандлёвая і культавая функцыя асноўнай плошчы – цэнтра гарадскога самакіравання, ансамбль яе забудовы стаў дамінуючым звяном усёй сістэмы грамадскага цэнтра».*
> ***Уладзімір Чантурыя, гісторык, архітэктар***



**"Каралеўскі Дом" у Гародні. Паводле медзярыта Адэльгаўзэра-Цюндта, 1567-1568 гг.**




**Выява Гародні паводле Ф. Хогенберга 1574г.**

Сярэднявечнае разуменне горада як цэласці ў прыроднай прасторы пераходзіць да паняцця горада як цэласці, складзенай з асобных, звязаных паміж сабой комплексаў. У выніку лакалізацыі вулічная сетка ўпершыню будуецца па вызначаных геаметрычных стэрэатыпах, горад робіцца больш шчыльным. Важна адзначыць, што новая планіроўка стваралася на старой канве: захоўваліся былыя напрамкі каардынат гарадской структуры, палажэнне цэнтральнага ядра і другарадных вузлоў, прынцып іх супадпарадкаванасці.

Рынак з верацяна з торгам пасярэдзіне ператварыўся ў вялікую і квадратную плошчу з бокам каля 150 м. Ад яго адыходзіла восем вуліц. Галоўным стрыжнем і ўсходнім трактам стала вул. Язерская (сённяшняя К. Маркса), з усходняга боку былі прабіты яшчэ дзве вуліцы – Дзям’янаўская (Свярдлова) і Мірсніцкая (Кірава), з двухбаковай забудовай. Узніклі папярочныя вуліцы Златарская (Урыцкага), Навікоўская (Маладзёжная) і іншыя, якія злучылі тры вышэйназваныя шырокія вуліцы. Важным вузлом стаў Нямецкі рынак – квадратная плошча з бокам каля 40 м, створаная ў раёне заходняга напрамку ад Віленскай вуліцы (цяпер аўтастаянка




**Рэканструкцыя планіроўкі на 1560 год паводле А. Квітніцкай. 1 – рынак; 2 – Віленская; 3 – Калючынская; 4 – Мірсніцкая; 5 – вуліца, якая ідзе ўздоўж дома Хайноўскага да вады; 6-Азёрская; 7-Навакоўская вуліца з вуліцы Азёрскай; 8- вуліца, якая ідзе з вуліцы Азёрскай; 9 – Дзям'янаўская; 10 – Аліскоўская вуліца з вуліцы Дзям'янаўскай; 11- з рынку на Падол; 12 – Залатарская; 13 – Габрэйская вуліца з рынку да замку; 14- Школьная; 15 – Цесная вуліца з вуліцы Вялікай Замкавай; 16- над ровам Гарадніцы; 17 – Плябанская; 18-Нямецкі рынак; 19-вуліца з Нямецкага рынку да рэчкі Гарадніцы; 20-вуліца з боку Нямецкага рынку да Віленскай вуліцы; 21-Вялікая да маста на Падоле; 22-ад рова да перавозу; 23- вуліца на беразе Нёмана; 24 – вуліца ўздоўж двара пана Халецкага да Нёмана; 25-ад Нёмана да Чэснахрэсцкай царквы; 26-Плутніцкая; 27- вуліца за Вераб'ём; 28-вуліца ад Філімона; 29-Садоўніцкая; 30 – рынак 31 – Горніцкая; 32-Навадворская; 33-Лабенская; 34-Рабіёўская; А-замак, Б - каралеўскі дом, В - мост да каралеўскага дома. Цэрквы: Г- саборная Прычысценская (Прасвятой Багародзіцы), Д- Васкрасенская, Е- Малая царква і праваслаўны кляштар, Ж-Чэснахрэсцкая, З-могілкі і капліца Саборнай царквы, І-Сямёнаўская, К – Траецкая, Л - Мікалаеўская, М - Барысаглебская, Н - Фарны касцёл і каталіцкія могілкі, О- Касцёл Св.Духа, П-Сінагога, Р- габрэйскія могілкі, С – ратуша, Т-крамы, У - карчма, Ф - каралеўскія стайні, Х - мост цераз Нёман, Ц - перавоз, Ч- звярынец, Ш – курган**




**Панарама Гародні 1600г. Рэканструкцыя Ю. Кішыка.1- Верхні замак перыяда Баторыя,1580-я гг.; 2-Васкрасенская царква,XII ст;. 3 – Барысаглебская царква, XII ст.; 4 – саборная Прачысценская царква, XIIст.; 5 – Царква Іллі Прарока, XIIст.; 6 – Малая царква, XIIст.; 7 – Сінагога; 8 – Фарны касцёл,1391,1494,1580-я гг.; 9 – Ратуша,пачатак XVI ст.; 10 – Рынкавая плошча; 11 – Сямёнаўская царква, XV ст.; 12- Касцёл Святой Троіцы,1494г.; 13 – Касцёл Святога Духа,1553 г.; 14 – Касцёл Бернардынцаў, 1600 г.; 15 – Чэснахрэсцкая Царква, XVст.; 16- праваслаўныя могілкі і саборная каплічка, XVI ст.; 17- Курган.; 18- Нямецкі рынак.; 19- габрэйскія могілкі, XIV–XV ст.; 20 – крыты мост; 21 – звярынец; 22 – Занёманскі рынак; 23 – перавоз на Нёмане**

каля крамы «Абухаўская»). У Занёманскім раёне, які ў 1560 г. быў аднесены да горада, планіровачным вузлом стала вялікая прамавугольная плошча памерам 120х180 м.

Планіровачная структура і шчыльнасць забудавання ў XV-XVI стст. адпавядалі канкрэтным горадабудаўнічым умовам: ландшафтнай сітуацыі (водападзелы, плата, яры, лашчыны, пераправы), размернасці рэльефных форм, прасторава-пластычным якасцям рэльефа.

## 2. Рэзідэнцыя вялікага князя

Адным з планіровачных раёнаў сярэднявечнага Гродна была Замкавая гара, будаўніцтва на якой, як вам ужо вядома, пачалося ў X ст. Пры Вітаўце Стары замак і палац князя ў 1398 годзе згарэў. Вітаўт і яго жонка Ганна выратаваліся, дзякуючы сваёй хатняй малпачцы, а ўвесь замак, у тым ліку, і палац прыйшлося будаваць новы. Гарадзенскія рамеснікі пад кіраўніцтвам прафесійнага архітэктара-будаўніка (прозвішча яго невядома) узнеслі ў 1400 г. мураваны

замак з каменя-валуна і цэглы ў гатычным стылі. Муры замка трымаліся на амаль мятровых падмурках, а сцены былі ўмацаваны котрфорсамі.

Замак меў пяць вежаў, злучаных паміж сабой тоўстымі (да 3 м) сценамі, працягласць якіх дасягала 300 м, а вышыня – 6-8 м. Круглая вежа-данжон захавалася з XIII ст., чатыры вежы былі квадратныя (12х12 м): вежа-брама, наступная з боку Нёмана, затым на самым мысе над вусцем Гараднічанкі і ў паўночна-ўсходнім куце. Вежа-брама мела зубчатую баявую пляцоўку. Каля яе быў пад'ёмны мост праз глыбокі яр. Пад вежай знаходзілася замкавая турма. Да ўсходняй сцяны замка, паміж круглай вежай і вуглавой, прымыкаў двухпавярховы палац гатычнага стылю (як і ўвесь замак). Муры палаца адначасова з'яўляліся мурамі замка і былі прыстасаваны да абароны, бо мелі вузкія вокны-байніцы. На першым паверсе палаца знаходзіліся гаспадарчыя памяшканні, на другім – пакоі князя. Візуальны вобраз замка Вітаўта XV ст. можна ўбачыць на гравюры М.Цюндта.

На старым дзядзінцы размяркоўваліся гаспадарчыя пабудовы, драўляныя дамы. Двор каля палаца і брамы быў выбрукаваны, а паміж дамамі зроблены драўляны ходнік.

У 1580 годзе па праекце італьянскага архітэктара Скота з Пармы замак быў перабудаваны для караля Стэфана Баторыя. З умацаванняў Вітаўта былі выкарыстаны толькі сцены і некаторыя вежы (з боку Нёмана і Гараднічанкі, уязная). Палац, які меў памеры 60х21 м, быў пабудаваны нанова ў стылі рэнесансу. Двухпавярховы будынак быў прыстасаваны для абароны, таму сцены былі тоўстыя, адсутнічаў парадны вестыбюль. Сцены магутных паўкруглых скляпенняў першага паверха былі зроблены з цэглы і атынкаваны, падлога выкладзена з цэглы, дзверы дубовыя ці жалезныя. Тут месціліся канцылярыя, архіў, вартоўня, іншыя службовыя і гаспадарчыя памяшканні.

Каралеўскія пакоі і тронная зала знаходзіліся на другім паверсе. Сцены былі аздоблены шліфаваным гіпсам і пазалотай, тканінамі з арнаментам, габеленамі. Падлога выкладзена мармуровымі, каменнымі, керамічнымі і паліванымі пліткамі. Кесонная столь была пакрыта багатай разьбой, расфарбавана ў розныя колеры ці пазалочана (як на Вавелі ў Кракаве). У пакоях стаялі мармуровыя і каменныя каміны, выкладзеныя рэнесанснымі маёлікавымі кафлінамі. Пераход паміж першым і другім паверхамі знаходзіўся ў галоўнай парадный лесвіцы, якая размяшчалася пасярэдзіне фасада. Як выглядаў палац, можна ўбачыць на гравюры радзівілаўскага гравёра Тамаша Макоўскага 1600 г.

На двары замка, каля муроў з боку Нёмана, стаялі некалькі будынкаў, дзе размясцілася гаспадарчая частка: жыллё для прыслугі, склады, пякарня, вазоўня і іншае. У вежы над брамай знаходзілася капліца.



**Замак Вітаўта. Рэканструкцыя Ф.Селязнёва**



**Замак Баторыя. Рэканстукцыя У.Старасціна**



Рынак 1600 год. Рэканструкцыя Ю. Кішыка

## Помнік гарадской планіроўкі

Сучасная Савецкая плошча мела розныя назвы: Рынак, Ратушная, Гандлёвая, Парадная, Саборная, Фарная плошча, пляц Стэфана Баторыя, Кірхпляц. Забудова плошчы была моцна пашкоджана падчас Першай сусветнай вайны, падзеяў 1939 года, у 1941 і 1944 гг. У 1961 годзе быў узарваны касцёл Найсвяцейшай Маці Божай. У выніку „рэканструкцыі" 2005-2006 гг. былі пашкоджаны падмуркі палаца Радзівілаў, Ратушы, гандлёвых радоў, знішчаны калодзеж і значная частка культурнага слою.

### 3. Грамадскі і эканамічны цэнтр горада пераносіцца ў раён Рынку

Гэтаму спрыялі наступныя фактары. Пасля Грунвальдскай перамогі над крыжакамі зменшылася роля Старога замка, а жыхары атрымалі магчымасць мірна працаваць дзеля развіцця горада. Як вам ужо вядома, Гродна атрымаў магдэбургскае права, што садзейнічала яго ўздыму. Еўрапеізацыя жыцця ў ВКЛ спрыяла ўкараненню еўрапейскіх традыцый у горадабудаўніцтве.

Галоўным будынкам на Рынку была збудаваная згодна з магдэбургскім правам ратуша. Невядома, ці была яна мураванаю адразу, але на гравюры Цюндта мы бачым двухпавярховы каменны будынак. Ён знаходзіўся на рагу плошчы, у канцы вуліцы, якая ішла з замка (на месцы сённяшняга Палаца тэкстыльшчыкаў). На першым паверсе ратушы знаходзіліся склады і «коморы для подстригания сукна», на другім – зала пасяджэнняў магістрата. Вакол другога паверха ішла адкрытая абходная галерэя. Ратуша мела дзве вежы: у цэнтры знаходзілася самая высокая ў горадзе шмат'ярусная вежа з дазорнай пляцоўкай і гадзіннікам, а ў тарцы будынка – нізкая.



**Архіўны чарцеж касцёла Св. Духа 1817 г.**

Другім выдатным збудаваннем на плошчы быў гандлёвы будынак. У прамавугольным памяшканні знаходзіліся лаўкі. Адпаведна іншым еўрапейскім гарадам, лаўкі размяшчаліся ў жылых дамах, якія атачалі Рынак. Недалёка ад гэтага будынка быў магдэбургскі калодзеж, які ўваходзіў у сістэму гродзенскага водаправода (XVI-XVII стст). Падчас земляных прац 1958 года былі знойдзены яго драўляныя трубы. На рагу вул. Віленскай і плошчы стаяла мураваная “карчма, гарадскі гасцінны дом” (рэшткі можна ўбачыць у падвале сучаснай крамы “Ратушная”). У 1569 годзе Гродна быў нададзены прывілей, у якім гаварылася, што карчма будуецца “для лепшага парадку і для знаходжання прыезджых гасцей”.

На галоўнай плошчы горада стаялі два храмы: Сімяонаўская царква і касцёл Найсвяцейшай Маці Божай (Фара Вітаўта). Царква, верагодна, знаходзілася на месцы, дзе цяпер знаходзіцца комплекс кляштара і касцёла св. Францішка Ксаверыя (сённяшні Фарны касцёл). Гэта была тыповая раманская



Злева ў версе Харальная сінагога XVI ст. Малюнак Н. Орды 1856 г.

мураваная базіліка. У плане чатырохкутная і трохнефавая. Мураваны касцёл быў перабудаваны ў стылі рэнесансу з драўлянай гатычнай Фары Вітаўта ў 1584-1587 гг. Фундатарам стаў вялікі князь літоўскі і кароль польскі Стэфан Баторый. У будаўніцтве прымалі ўдзел італьянскі муляр Антоні Дзігрэп і архітэктар Дж.М. Бернардоні. Амаль два стагоддзі касцёл быў галоўным каталіцкім храмам горада. У ім дзейнічалі брацтвы св. Тройцы і Анёлаў-Захавальнікаў, на сродкі вернікаў і каралевы Боны ўтрымліваўся прытулак св. Духа.

## 4. Забудова сярэднявечных вуліц

Насупраць замка Вітаўта (Верхняга замка) праз мост знаходзіўся Каралеўскі дом у Ніжнім замку (сяр. XVI ст.). У раёне перадгістарычнага града (сённяшняя тэрыторыя каля крам “Абухава” і “Крышталь” па вул. Вялікая Траецкая) быў пабудаваны касцёл св. Тройцы (1494 г.). Амаль насупраць размясціўся Нямецкі рынак, за якім, на высокім беразе Гараднічанкі, знаходзіліся габрэйскія могілкі (XIV-XV стст.). У палове XVI ст. у гэтым раёне (цяпер вул. Вялікая Траецкая) узнікла сінагога. Спачатку яна была драўляная, а ў 1575-1578 гг. перабудавана ў мураваную Мардухаем Яфэ. Недалёка ад месца ўпадзення ручая Юрысдыкі ў Гараднічанку (за будынкам гарвыканкама) з першай паловы XVI ст. існавала царква св. Мікалая.

На вул. Замкавай, у раёне сённяшняга Палаца тэкстыльшчыкаў, знаходзіўся мураваны трохпавярховы будынак (сяр. XVI ст.), які належаў Стэфану Баторыю і называўся “замкавы двор” (ці “Баторыеўка”, на думку гісторыка Ігара Трусава). На сённяшняй вул. Савецкай, на месцы,

дзе помнік маршалу Сакалоўскаму, на фундуш каралевы Боны пабудавалі ў 1553 годзе касцёл Св. Духа. Месца гэтае называлася Пушкарскім – верагодна, тут у сярэдзіне XVI ст. месцілася абарончая мяжа Гродна. Пры касцёле быў прытулак для 24 чалавек-убогіх і 2 служак.

На вуліцы, якая ішла з Рынку да Нёмана (Мastавая), па фундацыі вялікага князя літоўскага Аляксандра Ягелончыка ў 1494 годзе быў пабудаваны драўляны касцёл бернардзінцаў. Да 1595 года ў асноўным завершана будаўніцтва мураванага касцёла бернардзінцаў. Гэтаму пасадзейнічала рыцарства, якое вярталася з пераможнага паходу на Маскоўскае княства – ахвяравалі па талеру з капыта. 3000 талераў дадаў канцлер ВКЛ Леў Сапега. У касцёле выразна бачныя рысы готыкі: стрэльчатыя вокны, апсіды, контрфорсы. На канцы вуліцы з Рынку, каля маста праз раку, была пабудавана маставая вежа. Дарэчы, першы ўспамін пра пастаянны мост праз Нёман адносіцца да 1503 г.

На суседняй вуліцы, паралельнай Нёману, на Падоле, стаяла Чэснахрэсцкая царква (XV ст., круглая ратонда). На праваслаўных могілках XII ст. з'явілася капліца саборнай царквы (XVI ст.) – круглая ратонда, увянчаная купалам з балюстрадай. У занёманскай частцы ўзнік свой пасад. У гэты час тут было 4 вуліцы, аптовы рынак і звярынец. У апошнім разводзілі жывёл, на якіх потым палявалі вялікі князь літоўскі і кароль польскі, яго акружэнне.



**Касцёл Найсвяцейшай Маці Божай (Фара Вітаўта). Рэканструкцыя А. Квітніцкай, Т. Габрусь.**

## Сведка падзей

Георг Браўн у сваёй працы «Гарады зямнога свету», выдадзенай у 1617 годзе, напісаў пра Гродна, дзе ён пабываў, будучы папскім легатам, наступнае: "... Пасля Вільні другі па важнасці горад у Літве ёсць Гродна на р. Кронан, цяпер называемы Ніему... Горад гэты пабудаваны часткова на гары, часткова ў даліне, па звычаі краіны. У ім вельмі мала дамоў, якія цягнуліся б запар, шчыльна пабудаваныя адзін да аднаго, мала дамоў цагляных, больш збітых проста з бярвенняў. Горад не акружаны сцяною, не ўмацаваны, без брамы і без абарончых сцен...».



**Чэснахрэсцкая царква. Паводле гравюры Адэльгаўзэра-Цюндта 1567-1568 гг.**

У 1560 г. Себасцьян Дыбоўскі і Лаўрын Война склалі “Валочнае вымярэнне горада Гродна”. У ім былі пазначаны вуліцы горада, плошчы і ўладальнікі ўсіх зямельных участкаў (пляцаў). У тыя часы Гродна меў 34 вуліцы і 3 рынкі.

Канструкцыі дамоў гарадзенцаў бачны на гравюры Цюндта. Яшчэ ў XVI ст. яны былі фахверкавымі (драўляны каркас, прамежкі ў якім запаўняліся цэглай). Цікава адзначыць, што дамы мелі тарцовую вулічную арыентацыю. Дах (двухсхільны, радзей вальмавы) быў пакрыты дахоўкай ці дранкай. Каралева Бона забараніла саламяныя дахі, як пажаранебяспечныя. Заможныя жыхары будавалі двух- ці трохпавярховыя дамы. На першым паверсе знаходзіліся майстэрні ці крамы, на другім – жылыя памяшканні. На двары стаялі гаспадарчыя пабудовы, меліся агароды. У сярэднім плошча сядзіб гараджан была каля 50 кв. м.

Такім чынам, у вывучаемы час у Гродне склалася разнастайная горадабудаўнічая структура (ве-




Касцёл бернардзінскага кляштара. Медзярыт Т. Макоўскага 1600г.

рацяно, радыяльная, парадкавая, галінастая, перакрыжаваная) з разгалінаванай вулічнай сеткай, выразнымі архітэктурнымі дамінантамі, пабудовамі жыллёвага, грамадскага і вытворчага прызначэння. Гродна быў сапраўдным еўрапейскім горадам. У прывілеі 1444 года ён вылучаўся як адзін з сямі лепшых гарадоў ВКЛ.

## Пытанні і заданні

1. Пра якія планіровачныя раёны Гродна XV-XVI стст. вы даведаліся з дадзенага параграфа?
2. Як выглядалі замкі Вітаўта і Баторыя?
3. З чым было звязана перамяшчэнне эканамічнага і грамадскага жыцця з Замкавай гары на Рынак?
4. Якія будынкі знаходзіліся на Рынку?
5. Як былі забудаваны вуліцы сярэднявечага Гродна?
6. Якія помнікі архітэктуры XV-XVI стст. можна ўбачыць на гравюры М. Цюндта?




**Гародня на гравюры М. Цюндта 1568 г. паводле малюнка Г. Адэльгаўзэра**




## Крыніца гарадской гісторыі

Гравюра Цюндта. У ліпені 1567 г. нямецкі мастак Ганс (Ян) Адэльгаўзэр намаляваў карціну «Выгляд Гродна з выездам пасольстваў падчас сойма  ў Гродне ў 1567 г.». Адэльгаўзер быў сведкам намаляванай ім падзеі. Мацей (Матэуш, Мацiас) Цюндт (1498-1586) – нюрнбергскі мастак, залатых спраў майстар, картограф, гравёр зрабіў па гэтым малюнку гравюру «Vera designatio urbis in Litavia Grodnae» – «Праўдзівае адлюстраванне Гродна ў Літве». Дзякуючы гэтай гравюры, мы – сведкі сустрэчы 24 ліпеня 1567 г. пасольства Маскоўскага княства да вялікага князя літоўскага і караля польскага Жыгімонта Аўгуста. На пярэднім плане гравюры каралеўскі маршалак Астафі Валовіч і галава маскоўскага пасольства Фёдар Іванавіч Колычаў (Разумны) падаюць адзін аднаму рукі. Твор Цюндта з'яўляецца гістарычнай крыніцай не толькі па палітычнай гісторыі Гродна, але і планіроўцы і забудове горада. Гравюра Цюндта была ўзорам для наступных выданняў гравюр Гродна.

# § 13. Этнаканфесійная структура насельніцтва і гаспадарка Гродна ў першай палове XVI стст.

“

*«Эканоміка сярэднявечнага Захаду мела на мэце забяспечыць людзей сродкамі існавання. Далей гэтага яна не рушыла».*
***Жак Ле Гоф, французскі гісторык***



Герб “Пагоня” з рукапіснага гербоўніка Э.Коміна 1575г.

**Пасля азнаямлення з параграфам вы павінны:**

- **ведаць этнаканфесійную структуру горада XVI ст.;**
- **характарызаваць заняткі гараджан;**
- **даваць ацэнку ўзроўню эканамічнага развіцця горада ў складзе ВКЛ;**
- **правільна фармуляваць і ўжываць наступныя паняцці і назвы: будаўніча-дрэваапрацоўчыя, металаапрацоўчыя, адзежна-скураныя, харчовыя рамёствы; рамёствы, звязаныя з пераапрацоўкай сыравіны і прадуктаў жывёльнага паходжання, Рынак, Нямецкі рынак.**

## 1. Этнаканфесійная структура насельніцтва горада

Размешчаны на мяжы дзяржаў (Вялікага Княства Літоўскага і Польскага каралеўства), народаў (беларусы, палякі, габрэі, літоўцы), культур (усходне- і заходнеславянскай) і рэлігій (праваслаўя, іудаізму, каталіцызму, і пратэстантызму, якія толькі нараджаўся на беларускіх землях), Гродна меў стракатае ў этнаканфесійных адносінах насельніцтва. У XV–XVI стст. большасць яго складалі беларусы. Гарадское насельніцтва папаўнялася, галоўным чынам, за кошт сялян з навакольных вёсак і мясцовай шляхты, выхадцаў з другіх рэгіёнаў краіны і замежжа.

У горадзе жылі нашчадкі прусаў, якіх у канцы XIII ст. выгнала са сваёй радзімы крыжацкая навала. Вялікі літоўскі князь Тройдзен даў ім прытулак у сваёй дзяржаве і пасяліў у ваколіцах Гродна. З пачатку XV ст. у горадзе з’явіліся рускія. Гэта вялікі князь Вітаўт у 1405 годзе, пасля паходу



Мяшчане XVII ст. Малюнак Ч. Роя

на Пскоў, пасяліў ў раёне Барысаглебскай царквы частку захопленых у палон жыхароў пскоўскага прыгараду Каложа. Яшчэ адна група "масквіцінаў" трапіла ў Гродна пасля бітвы пад Воршай 1514 г. У 1526 годзе рускія насельнікі горада атрымалі ад Жыгімонта Старога "поспол з местом права ... майборского вживати".

Каля 10% гарадского насельніцтва складалі габрэі. Яны з'явіліся тут яшчэ ў часы Вітаўта, які ў 1389 года даў ім граматупрывілей. Згодна дэкрэту вялікага князя Аляксандра 1494 года, які патрабаваў "жидову из Литвы выбити", гарадзенскіх габрэяў выгналі з Вялікага Княства Літоўскага, а іх пляцы перадалі хрысціянам. У 1503 годзе Аляксандр дазволіў ім вярнуцца ў сваю дзяржаву і выкупіць у Гродна адабраную ў іх маёмасць. У 1506 годзе вялікі князь Жыгімонт Стары, а ў 1578 годзе Стэфан Баторый пацвердзілі прывілеі гродзенскіх габрэяў.

На мяжы XV–XVI ст. у Гродне з'яўляюцца нямецкія перасяленцы: рамеснікі, майстры-будаўнікі з Германіі і Прусіі. Жыхарамі Гродна былі таксама польскія купцы і рамеснікі.

Да 1380-х г. у горадзе дамінавала праваслаўе. Пасля Крэўскай уніі 1385 г. тут пачынаецца пашырэнне каталіцызму, а са з'яўленнем габрэйскай абшчыны – іудаізму. Нямецкае насельніцтва Гродна з пачаткам рэфармацыйнага руху вызнавала лютэранства. Паводле інвентарнага апісання Гродна, праведзенага каралеўскімі рэвізорамі ў 1558–1560 г., у горадзе было 9 цэркваў, 2 касцёлы і сінагога. Надпіс на адваротным баку гравюры Цюндта 1568 г. з выявай Гародні сведчыць, што ў гэты час у горадзе былі тры мураваныя храмы, астатнія былі драўлянымі. З мураваных храмаў "адзін … належыць каталікам, а два – праваслаўным. Ужо тады пачалі атаясамляць рэлігійную прыналежнасць з этнічнай.

У 1575–1578 гг. у Гродне была пабудавана першая каменная сінагога. У 1587 годзе па загаду Баторыя ўзвялі мураваны Фарны касцёл. У 1591 г. праваслаўныя жыхары Гродна стварылі брацтва – культурна-рэлігійную арганізацыю, якая супрацьдзейнічала пашырэнню каталіцызму. Брацтва мела сваю друкарню і школу. Напярэдадні Брэсцкай уніі 1596 г. у Гродне дзейнічалі 7 праваслаўных цэркваў, 3 касцёлы, 2 каталіцкія манаскія ордэны, пасля 1596 года – 2 уніяцкія кляштары.

Яшчэ ў 1494 годзе вялікі князь літоўскі Аляксандр ахвяраваў участак зямлі ў Гродне каталіцкаму манаскаму ордэну бернадзінцаў. У 1595 – 1618 гг. яны пабудавалі тут свой кляштар, а ў 1602 годзе заклалі касцёл Адшуканага св. Крыжа, які быў пабудаваны і аздоблены на сродкі Жыгімонта III Вазы, Льва Сапегі і іншых магнатаў. У 1503 годзе ў горадзе быў заснаваны ордэн аўгусцінцаў. У 1584 годзе Баторый запрасіў ў Гродна езуітаў – гэта для іх ён пачаў будаўніцтва Фары Вітаўта, але тыя пэўны час ад гэтага запрашэння адмаўляліся.



Манах ордэна дамініканаў. Малюнак А. Радновай




Фрагмент вялікакняскага прывілею аб правах габрэйскага насельніцтва



Бондар. Мініяцюра з кодэксу Б. Бэхэма 1502 - 1505 гг.

## 2. Развіццё рамяства і гандлю

У Гродне існавала каля 50 рамесных прафесій. Звернем увагу на будаўніча-дрэваапрацоўчыя рамёствы. Да іх адносіліся мулярства, стрыхарства (выраб цэглы), вапніцтва, мялоўніцтва (здабыча крэйды), ганчарства, цяслярства, гантарства (вытворчасць гонту на дах), будаўніцтва мастоў, бандарства, вытворчасць шкла. Цікава адзначыць, што гліну для вырабу плінфы, маёлікавай пліткі і чарапіцы бралі ў раёне сённяшняй вуліцы Цагляная. Гліна дабывалася тут да канца XVIII ст. Вапну здабывалі таксама ў межах сучаснага Гродна, дзе было шмат выхадаў мела і мергеля (узгадайце Крэйдавыя горы).



Шкляная кварта з Гародні XVI ст.

Значную ролю адыгрывалі прадстаўнікі металаапрацоўчых рамёстваў: кавалі, слесары, катляры, мечнікі, замочнікі, платнеры (займаліся аздобай халоднай зброі), злотнікі (выраблялі ювелірныя рэчы). Попытам карысталіся вырабы прадстаўнікоў адзежна-скураных рамёстваў: шаўцоў, чабатароў (абутак), краўцоў (вопратка), кушняроў (футра), гарбароў (скуры), рымароў (збруя), пастрыгачоў сукна. З даўніх часоў развіваліся ў горадзе рамёствы, звязаныя з пераапрацоўкай сыравіны: рагожнікі (выраблялі шнуры, вяроўкі, рыбацкія сеткі); васкаўнічыя, свечнікі і сальнікі (воск, свечы, свечачны лой).

Несумненна важнае месца сярод рамёстваў займалі харчовыя. У Гродне будаваліся рознай канструкцыі млыны: водныя і млыны-плаўкі (на лодках) на Нёмане і Ласасянцы, ветракі. Вырабам хлеба займаліся хлебнікі, пекары. Карысталіся попытам вырабы піваўвараў і саладоўнікаў (піва, мёд). Пераапрацоўкай прадуктаў жывёльнага паходжання займаліся рэзнікі і мяснікі. Рыбакі лавілі рыбу, а таксама засольвалі, вялілі і вэндзілі яе. Былі і лаўцы ракаў. У ваколіцах Гродна размяркоўваліся пасекі і борці, адкуль у горад пастаўлялі мёд – галоўную слодыч жыхароў таго часу.

Жыццёва неабходнымі былі прадстаўнікі прафесій, якія звязаны з медыцынскай дапамогай. У той час лекарскай практыкай займаліся цырульнікі, дактары. Прыбытковай справай было ап-

тэкарства. Не выключана, што першая аптэка ўзнікла ў Гродне ў XVI ст., на што ўскосна ўказвае існаванне ў горадзе шкляной гуты, сярод вырабаў якой быў і аптэчны посуд. Сярод іншых прафесій, якія абслугоўвалі жыхароў горада, успомнім інтралігатараў (пераплётчыкаў), майстроў-гадзіншчыкаў, музыкантаў.

У кнігах магістрата і земскага суда, інвентарах гарадской нерухомасці, Літоўскай метрыцы, “Валочным вымярэнні Гродна” Дыбоўскага і Войны (1560-1561 гг.) сустракаюцца прозвішчы рамеснікаў, якія жылі ў Гродне. Яны сведчаць, што ў горадзе склалася разгалінаваная прафесійная структура, якая была шматэтнаканфесійнай.

Горад па прывілеях вялікіх князёў Казіміра, Аляксандра валодаў землямі і сялянамі ў навакольных вёсках: Грандзічах, Лапенках, Капліцы, Малахавічах, Цвіклічах, Малой і Вялікай Альшанцы, Гібулічах, Палаткова і іншых. Займаліся земляробствам (агародніцтвам) і ў самым горадзе. Жылі тут таксама садоўнікі. З XV ст. вядомы “сад на Коложенях подле Немана”. Даравальнай граматай у 1500 годзе вялікі князь Аляксандр падараваў яго Барысаглебскай царкве.

Гандаль адбываўся, як мы пісалі ў папярэднім параграфе, у лаўках, якія размяшчаліся на першым паверсе ратушы, у спецыяльным гандлёвым будынку і ў дамах, размешчаных вакол Рынку. У XVI ст. з’явіліся яшчэ дзве рыначныя плошчы – Нямецкі рынак і Занёманскі рынак. У 1496 годзе прывілеем вялікага князя Аляксандра гораду было нададзена права “тройчы кожны кірмашы мець згодна з іх багаццем і згодна з звычаем праводзіць. Першы – на дзень свята падняцця св. Крыжа (1 верасня), другі на свята св. Магдалены (22 ліпеня), трэці – на свята св. Андрэя (30 лістапада). А кожны з іх павінен цягнуцца тыдзень”. Было таксама дазволена вазіць тавары ў Коўна па Нёмане і ў Прусію (у Кёнігсберг) па Неце; пабудаваць камяніцу для захоўвання вагаў і васкабойні. У 1540 годзе каралева Бона, пацвярджаючы магдэбургскае права Гродна, нагадала аб дазволе праводзіць тры кірмашы. Гандлёвыя кантакты горад меў з нямецкімі землямі, Польшчай, Чэхіяй, Вугоршчынай ды іншымі краінамі.

Прыбытковым лічыўся гандаль алкагольнай прадукцыяй. У 1579 годзе Стэфан Баторый дазволіў гродзенскім мяшчанам пабудаваць на Рынку карчму і прадаваць у ёй віно з платай падатку гораду. Уладальнікамі корчмаў былі не толькі мяшчане, а і павятовая шляхта, рамесныя аб’яднанні, прадстаўнікі гарадской улады.

Вельмі прыбытковым быў гандаль соллю яшчэ ў першай палове XIX ст. Жыгімонт III у 1596 г. даў гродзенскаму магістрату прывілей на права вядзення аптовага гандлю хлебам, соллю і селядцамі і ў 1601 г. пацвердзіў гэтае права, забараняючы яго габрэям.



**Збройнік. Медзярыт другой паловы XV ст.**



**Ганчарная майстэрня. Медзярыт XVI ст.**



**Габрэй-ліхвяр. Мініяцюра**



Дэнарый (1495-1506).
Манетны двор Вільні.

Гандаль селядцамі на гарадскім рынку.





Знак гарадзенскага цэха ганчароў, цесляроў і муляроў. XVII ст.

## 3. Карпаратыўныя аб'яднанні рамеснікаў

Згодна з першакрыніцамі, у першай палове XVI ст. у Гродне і Гродзенскай каралеўскай эканоміі існавалі аб'яднанні рамеснікаў пад назваю сотні: кавальская сотня, санніцкая, камянецкая на чале з сотнікамі. У другой палове XVI ст. з'явіліся першыя цэхі. 13 лютага 1570 г. гродзенскі магістрат зацвердзіў статут аб'яднанага цэха кавалёў, кацельшчыкаў, мечнікаў, слесараў (металістаў).

Другі цэх аб'яднаў у сваіх шэрагах муляраў, ганчароў, цесляроў, бандароў. Ён атрымаў прывілей ад Стэфана Баторыя ад 2 красавіка 1579 года. У гэтым жа годзе прывілей ад Баторыя атрымаў кравецкі цэх. У 1593 годзе створаны аб'яднаны цэх домнікаў, стрыхароў, муляраў, цесляроў, ганчароў. Шавецкі цэх меў прывілей ад Стэфана Баторыя, пацверджаны 6 чэрвеня 1633 года Жыгімонтам III.

Цэх – гэта замкнутая прафесійная арганізацыя (карпарацыя) гарадскіх рамеснікаў, створаная з мэтаю манапалізацыі рамяства і для супольнага выканання некаторых жыццёвых функцый (цэхавы суд, святы, пахаванні, дапамога сябрам цэха, адпраўленне рэлігійных абрадаў). Цэх вёў барацьбу з няцэхавымі рамеснікамі ("партачамі"), не дазваляючы ім працаваць у дадзеным рамястве і прадаваць выраблены тавар.

Цэх быў іерархічнай арганізацыяй, у якой існаваў прынцып бясспрэчнага падпарадкавання і паслушэнства тых, хто стаяў на

ніжэйшых прыступках лесвіцы, тым, хто стаяў вышэй за іх, а ўсіх – цэхмайстрам. Цэх складаўся з вучняў (у статутах іх яшчэ называлі “хлопцы”, “хлопята”), падмайстраў (“челядь”, “товарищ”, “молодшие”), майстроў (“брат”, “братчик”). Прадугледжваўся пераход з адной прыступкі на другую. Вучань пасля вызначанага тэрміну навучання сваёй прафесіі мог стаць падмайстрам. Апошні пасля “вандроўкі” – павышэння кваліфікацыі ў буйных цэнтрах рамяства ў ВКЛ ці Польшчы (2-3 гады), здачы экзамену – вырабу ўзорнага твора свайго рамяства (“робить штуку”) мог стаць майстрам. Ён быў паўнапраўным сябрам цэха і падпарадкоўваўся толькі цэхмайстру, якога абіралі штогод на агульных сходах з ліку майстроў адной спецыяльнасці.



**Скрыня-скарбец XVIIст., работа гарадзенскага майстра**



**Карчма ў Вялікім Княстве Літоўскім. З “Касмаграфіі” С. Мюнстэра. Дрэварыт XVI ст.**

## Пытанні і заданні

1. **Якім быў этнаканфесійны склад насельніцтва горада?**
2. **Апішыце галіновую структуру рамёстваў горада.**
3. **Ад назваў якіх заняткаў паходзяць прозвішчы Ганчарук, Краўцэвіч, Шаўцоў, Мулярчык, Кушнярэвіч?**
4. **Як развіваўся гандаль?**
5. **Назавіце гродзенскія цэхі. З якой мэтай яны ўтварыліся?**
6. **Якой была іерархічная структура цэхаў?**

# § 14. Горад часоў Стэфана Баторыя

“

*«Ніводны з каралёў польскіх і вялікіх князёў літоўскіх не надаваў столькі ўвагі развіццю дабрабыту Гродна, як Стэфан Баторы...»*
***Анатоль Грыцкевіч, беларускі гісторык***

**Пасля азнаямлення з параграфам вы павінны:**

- **даць ацэнку перамен у горадзе, звязаных з прысутнасцю ў Гродне Стэфана Баторыя; параўноўваць замкі Вітаўта і Стэфана Баторыя;**
- **характарызаваць ролю Баторыя ў гісторыі Гродна;**
- **апавядаць пра акалічнасці смерці караля і вынікі даследавання яе прычын;**
- **правільна фармуляваць і ўжываць наступныя паняцці і назвы: замак Стэфана**
- **Баторыя, Баторыеўка.**

## 1. Гродна – каралеўская рэзідэнцыя

Упершыню Стэфан Баторый наведаў Гродна ў 1579 годзе. Ён прыбыў у горад 3 лютага дзеля ўдзелу ў пашыранай нарадзе Сената разам з прадстаўнікамі шляхты. Ішла Лівонская вайна (1558–1582). Абмяркоўваліся далейшы ход вайны і фінанса-

### Імя ў гісторыі



**Стэфан Баторый (27 верасня 1533 г. – 12 снежня 1586 г., Гродна)** – прадстаўнік старажытнага венгерскага магнацкага роду, ураджэнец Румыніі (г. Шомліо), дзяржаўны дзеяч, палкаводзец. Атрымаў адукацыю ў Вене і Падуі. Ведаў венгерскую, нямецкую, італьянскую і лацінскую мовы. У 1571 г. стаў князем трансільванскім. 12 снежня 1575 г. на элекцыйным сойме Рэчы Паспалітай быў абвешчаны каралём польскім і вялікім князем літоўскім. Каранаваны ў Кракаве 1 мая 1576 г. Імкнуўся да ўмацавання каралеўскай улады, але і падтрымліваў шляхту. Прызнаў раўнапраўе Вялікага княства Літоўскага з Польскім каралеўствам у складзе Рэчы Паспалітай. Увайшоў у гісторыю як рэфарматар, мецэнат навукі і культуры. Падтрымліваў каталіцкую царкву і езуітаў.



Дзівоснае з'яўленне Еўстаху. Пінасела. 1440г.

"Статкі лясной звярыны,баравая дзічына,-
Ўсё захапляе цешыць мужоў добрародных,
Пасля паходаў прыбылых у восені ў пушчу
Папаляваць,адпачыць ад вайсковых цяжараў"
*М.Гусоўскі "Песня пра зубра"*

вы ўклад у яе Вялікага Княства Літоўскага. Вызначылі напрамак удару: спачатку – Полацк, які 16 гадоў таму Масква адабрала ў Княства, потым – Пскоў. Пасля той нарады ў Гродне Баторый накіраваў пасла ў Маскву для прапаганды ідэі уніі з Рэччу Паспалітай, для разведкі настрояў.

З гэтага часу Баторый зрабіў Гродна сваёй рэзідэнцыяй. Тут ён, пазбавіўшыся прыдворных уплываў, мог праводзіць самастойную палітыку. Тут ён быў бліжэй да тэатра баявых дзеянняў Лівонскай вайны і ў той жа час не надта аддаляўся ад сталіцы Рэчы Паспалітай – Кракава. Горад быў размешчаны ў цэнтры вялізных пушчаў, дзе кароль мог уволю паляваць. Паляванне было яго любімым заняткам. Урэшце, яго побыт у Гродне вынікаў з патрабаванняў ліцвінскай шляхты – аб працягу ягелонскай традыцыі знаходжання манарха на тэрыторыі ВКЛ.

Стэфану спадабаўся Стары замак на высокім маляўнічым абрыве Нёмана, і ён загадаў яго перабудаваць. Дзеля гэтага ў Гродна былі выкліканы знакамітыя італьянскія архітэктары Скота з Пармы і Антоній дэ Грэта. Яны пастараліся захаваць пабудовы Вітаўта і толькі перарабілі іх згодна з патрабаваннямі таго часу. Замак стаў больш прыстасаваным для жыцця караля і яго двара, але ён не перастаў быць магутным абарончым збудаваннем.

Кароль палюбіў Гродна – лічыў яго наймілейшым горадам «і для часовага жыхарства, і для



Замак Баторыя. Від з усходняга боку. Рэканструкцыя У. Бачкова

## Сведка падзей

Нямецкі падарожнік **Самуэль Кіхель,** які наведаў горад улетку 1586 г., пісаў: "Яго вялікасць польскі кароль мае ў гэтым гарадку Гродна свой дом, які загадаў узвесці зусім нанова. І хоць той яшчэ не даведзены да канца, кароль тут многа спыняецца, бо мае добрую магчымасць паляваць. Да гэтага ў яго каралеўскай вялікасці асаблівае жаданне і ахвота, так што нярэдка на працягу 8 дзён не вяртаецца ў горад. 26-га [чэрвеня], а гэта была нядзеля, я бачыў у Гродне Яго Вялікасць польскага караля Стэфана, ехаўшага на кані ад замка да храма [Фарны касцёл]. ... Калі ён так едзе, выглядае трыумфальна, велічна і шыкоўна. Перад ім і за ім рухаецца шмат дзяржаўных людзей, рыцараў і шляхціцаў, побач з ім гвардзейцы, якія адзін ля аднаго стаяць па вуліцы ад замка да храма. Гэта яго гусары і гайдукі, народ магутны і сярдзіты. Можна пабачыць шмат прыгожых... коняў... Я ўвайшоў у храм, у якім цягам цэлай гадзіны чыталі казанні па-лацінску для яго каралеўскай вялікасці. 27-га [чэрвеня] з самай раніцы кароль выправіўся з Гродна на паляванне, бо звычайна ён толькі ў нядзелю застаецца ў горадзе, і на той час прызначаюцца прыёмы ..."



Замак Баторыя. Від з паўночнага боку. Рэканструкцыя У. Бачкова

вечнага спачынку». Налічваюць да дзесяці прыездаў Стэфана Баторыя ў наш горад. У 1580 годзе кароль наведаў Гродна двойчы. У 1581 г. ён сустракаўся ў Старым замку з пасламі Івана Жахлівага. У 1582 г. правёў тут нараду Сената для разгляду дамаганняў Швецыі.

Шмат часу Стэфан Баторый праводзіў у Гродне пасля заканчэння Лівонскай вайны, г.зн. пачынаючы з 1582 г. З гэтага часу каралеўская сядзіба над Нёманам ператварылася ў неафіцыйную сталіцу краіны. Тут ён вырашыў справу жыхароў Рыгі, якія не прынялі новы грыгарыянскі каляндар. У лютым 1584 г. прыняў англійскага пасла.

У 1579–1582 гг. Баторый неаднойчы збіраў у Гродне войска Рэчы Паспалітай, адсюль рушыў на пераможныя бітвы з рускім царом Іванам Жахлівым і здолеў пераламіць ход Лівонскай вайны. Паходам 1581–1582 г. на Пскоў ён аслабіў Маскоўскую дзяржаву, узняў міжнародны прэстыж Рэчы Паспалітай.

У Гродне ў караля Стэфана выспеў дзёрзкі план барацьбы за шапку Манамаха – выкарыстаўшы цяжкія часы ў Крамлі, выкліканыя смерцю Івана Жахлівага, далучыць Рускую дзяржаву да Рэчы Паспалітай шляхам уніі пад скіпетрам Баторыя, а калі тая не захоча далучыцца добраахвотна, узяць сілай. Потым ён разлічваў, выкарыстоўваючы вайсковы і эканамічны патэнцыял Рускай дзяржавы, разбіць Турцыю і аб’яднаць пад сваім скіпетрам падзеленую Венгрыю.

2 лістапада 1585 года Стэфан Баторый ізноў прыехаў у Гродна і пражыў тут цэлы год. Любаваўся новым замкам на маляўнічым беразе Нёмана, уволю паляваў і разгарнуў інтэнсіўную дыпламатычную дзейнасць, арганізоўваючы паход праз Маскву на Стамбул: вёў шматлікую карэспандэнцыю, рыхтаваў міжнародную глебу для паходу, вёў перамовы з Рымам, Масквой, а таксама з Рыгай, дзе тады абвастрылася каляндарнае пытанне. Праз ганцоў падтрымліваў пастаянную сувязь з Кракавам і Вільняй. Раскручваў машыну збору падаткаў. У жніўні 1586 г. Баторый прымаў у Гродна пасольства рускага цара Фёдара. На люты 1587 года рыхтаваў вальны сойм Рэчы Паспалітай, ад якога чакаў падтрымкі сваёй задумы.



Гусар 2-паловы XVI ст.

## 2. Баторый – апякун горада

У лістападзе 1576 года Баторый пацвердзіў Гродна прывілей на самакіраванне. Жыхарам ён надаў шэраг ільгот: права манапольнага продажу солі, якая прывозілася з Каралеўца і Коўна; зменшыў падаткі з гродзенскіх саладоўняў і бровараў; выдаў прывілей для саборнай Прачысценскай царквы.

Са знаходжаннем Баторыя ў Гродне звязана змена архітэктурнага аблічча горада. Па яго ініцыятыве быў умацаваны Стары замак і перабудаваны каралеўскі палац. Баторыю належыць ініцыятыва стварэння ў Гродне езуіцкага калегіума





**10 дукатаў (партугал) Стэфана Баторыя. 1580 г. Віленскі манетны двор.**

– буйной для таго часу навучальнай установы. У 1584 годзе ён запрасіў у гродзенскі замак правінцыяла ордэна езуітаў Кампана і на працягу трох дзён вёў з ім перамовы аб адкрыцці ў Гродне езуіцкага калегіума. У Ватыканскім архіве захоўваюцца 12 лістоў Кампана з Гродна да генерала ордэна езуітаў. З іх вядома, што кароль абавязаўся аддаць езуітам пляцы гродзенскай Фары – «самага вялікага і самага прыгожага касцёла ў Вялікім Княстве Літоўскім» і ў найбліжэйшы час збудаваць побач з драўляным новы мураваны касцёл, а ў ім – маўзалей сабе.

Восенню 1584 года быў падрыхтаваны праект, закладзены падмуркі і пачалося будаўніцтва. Аўтар праекта невядомы. Адны мяркуюць, што ім быў архітэктар з Пармы Скота, другія называюць імя таленавітага італьянскага архітэктара Санці Гучы, трэція – Яна Марыі Бернардоні. Ёсць




**Выява фарнага касцёла (Фара Вітаўта) на гравюры Т. Макоўскага. Пачатак XVII ст.**

звесткі, што перабудову касцёла і Старога замка праводзіў італьянец Антоні дэ Грып.

Касцёл быў збудаваны ў рэкордна кароткі тэрмін – за 2 гады і стаў галоўнай дамінантай у сілуэце горада. Гродзенцы па традыцыі называлі новы касцёл «Фара Вітаўта». Пасля смерці Баторыя езуіты ад-

## Імя ў гісторыі



**Каспар Бекеш (1520-1579 гг., Гродна).** Паходзіў з венгерскага шляхецкага роду. Вызначыўся ваенным талентам і асабістай мужнасцю ў Інфлянцкай вайне1558–1582 гг., у тым ліку ў полацкай кампаніі 1579 г. Карыстаўся павагай Стэфана Баторыя. Па хадайніцтве шляхты ў 1579 годзе атрымаў шляхецтва ВКЛ і дадатковыя маёнткі, у тым ліку ў Гарадзенскім павеце. Бекеша лічылі атэістам калі ён памёр ў Гародні, каталіцкі касцёл і праваслаўная царква забаранілі хаваць яго на сваіх могілках, пахаваны ў Вільні на Лысай гары, якую пазней назвалі гарой Бекеша.

мовіліся ад арганізацыі ў Гродна калегіума. Да гэтай ідэі яны вярнуліся ў XVII ст.

Стэфан Баторый сябраваў з мысліцелем, кіраўніком антытрынітарыяў на Гродзеншчыне Каспарам Бекешам. Ніводзін з каралёў польскіх і вялікіх князёў літоўскіх не надаваў столькі ўвагі развіццю і дабрабыту Гродна, як Баторый. Нездарма сучаснікі і нашчадкі называлі Гродна «горадам Баторыя».

### 3. Загадка смерці караля

Раптоўная смерць караля ў Гродзенскім замку 12 снежня 1586 года спыніла яго рэфарматарскія пачынанні і грандыёзныя планы. Усеагульнае ўяўленне пра Баторыя як пра чалавека жалезнага здароўя аказалася міфам. На самай справе ён усё сваё жыццё пакутаваў: з маладосці меў на назе незагойную гнойную рану, у спадчыну ад бацькі яму дастаўся яшчэ адзін дэфект – эпілепсія. Час ад часу з ім здараліся прыступы са стратай прытомнасці. Але пра рэальны стан здароўя караля ведала толькі яго бліжэйшае акружэнне. На паляваннях і войнах ён вёў сябе так, нібыта хваробы яго не турбуюць.

Дні з 25 лістапада па 7–8 снежня 1586 г. (паводле новага календара) былі на Гродзеншчыне выключна марознымі, ветранымі, імглістымі, нават мясцовыя жыхары цяжка пераносілі такое надвор'е. Але Баторыя непагадзь не палохала. На незлічоных паляваннях ён гартаваў сваё цела, рыхтаваўся да гіганцкага паходу, які мог змяніць карту Еўропы.



**Карона, берла, яблык, шабля і капа Стэфана Баторыя намаляваныя пры адкрыцці труны з яго целам у 1877 г.**

4 снежня кароль вярнуўся з палявання хворы, з ціскам у грудзях і прыступамі задышкі. Аднак 7 снежня, пагрэбаваўшы перасцярогай медыка, зноў сеў на каня і паехаў у Фару Вітаўта на набажэнства. Наступныя дні яго арганізм змагаўся са смерцю. Паміж прыдворнымі медыкамі Міколам Бучэла з Падуі і Сімонам Сіміоніям з Лукі не было аднадумства ні адносна дыягназу, ні метадаў лячэння. Перыядычныя прыступы з сутаргамі і стратай прытомнасці адзін з іх прыпісваў астме, другі – эпілепсіі. Баторый захоўваў надзею на выздараўленне, але хвароба ака-



Надмагілле Баторыя. Вавельскі замак, Кракаў.

залася мацнейшай. 12 снежня 1586 года а шостай гадзіне вечара яго не стала.

Назаўтра паведамленне пра смерць караля, нягледзячы на тое, што гэта ўтойвалі, разышлося па горадзе. Яно зрабіла моцнае ўражанне. З усіх бакоў горада пачалі збягацца да каралеўскай рэзідэнцыі людзі, настойліва допытваючыся пра праўдзівасць гэтай сумнай навіны. Гэта вестка хутка разнеслася па Рэчы Паспалітай, па Еўропе і ўсюды выклікала шок. Адны смуткавалі, ворагі цешыліся.

Завязалася спрэчка аб прычынах смерці Стэфана Баторыя. Прыдворных лекараў абвінавачвалі не толькі ў нядбайным лячэнні, але нават у атручванні

караля. Сімоній і Мікола Бучэла пачалі ўскладаць адзін на другога віну за няправільнае лячэнне каранаванага пацыента. Іх палеміка расцягнулася на 3 гады. Апісанне хваробы Баторыя атрымалася вялікае – 1000 старонак друкаванага тэксту. Яно з'яўляецца важнай гістарычнай крыніцай, але прычыны смерці не высвятляе. Дзеля знаходжання ісціны 14 снежня цела нябожчыка анатаміравалі. Гэта было першае анатаміраванне на тэрыторыі Еўропы. Ускрыццё рабіў гарадзенскі цырульнік Ян Зігуліс.

Цела Баторыя паўтары гады спачывала ў Фары Вітаўта, дзе ён завяшчаў сябе пахаваць. Але потым, насуперак яго запавету, было перазахавана ў Кракаве. 29 красавіка гродзенцы развіталіся з дастойным жыхаром і апекуном горада. У сумнай урачыстасці перазахавання рэшткаў Баторыя ўдзельнічала вялікая колькасць польскіх і ліцвінскіх сенатараў і ўраднікаў, высокае духавенс-




**Бюст Стэфана Баторыя, а пад ім табліца з надпісам. Гарадзенскі катэдральны касцёл.**

тва. Пасля набажэнства труну памясцілі на пахавальныя дрогі, і працэсія рушыла праз мост на Нёмане на стары тракт, які вёў да Варшавы. 23 мая 1588 года ў Кракаве адбылося ўрачыстае перапахаванне.

## Пытанні і заданні

1. Раскажыце пра жыццё караля Стэфана Баторыя ў Гродне.
2. Чаму Стэфан Баторый часта наведваў Гродна?
3. Якія архітэктурныя помнікі былі ўзведзены ў горадзе ў часы Баторыя?
4. Якім чынам кароль спрыяў развіццю гарадской гаспадаркі?
5. Якія рамесныя цэхі былі заснаваны ў горадзе ў часы Стэфана Баторыя?
6. Дзе Стэфан Баторый памёр і якой была яго апошняя воля?




**Гародня на гравюры Т. Макоўскага. Пачатак XVII ст.**

## Крыніца гарадской гісторыі

Гродна на гравюры Тамаша Макоўскага (каля 1562 – 1630), якая датуецца 1600 годам. Гледзячы на гравюру, няцяжка ўявіць, якія велізарныя змены адбыліся ў горадзе ўсяго за некалькі дзесяцігоддзяў (параўнайце з гравюрай Мацея Цюндта). Мы бачым цалкам перабудаваны з гатычнага замка палац Стэфана Баторыя, які набыў формы італа-нідэрландскага рэнесансу. У самым канцы 16 ст. узведзены касцёл і кляштар бернардзінцаў. У цэнтры кампазіцыі – парафіяльны прых-




одскі касцёл, больш вядомы нам як знакамітая Фара Вітаўта. Гэты мураваны рэнесансны касцёл паўстаў па загаду Стэфана Баторыя каля драўлянага касцёла, закладзенага яшчэ Вітаўтам (адшукайце яго на гравюры Цюндта). Некаторыя аб’екты, аднак, добра знаёмы нам яшчэ з гравюры Цюндта – напрыклад, круглая царква Чэснага крыжа на Падоле або мост праз Нёман, які застаўся на тым самым месцы, што і трыццаць гадоў таму, толькі накрыты спецыяльным дахам.

# § 15. Гродзенскія соймы і соймікі

**Вызначце ролю Гродна пасля аб'яднання ВКЛ і Кароны Польскай.**

**Пасля азнаямлення з параграфам вы павінны:**

- **ведаць пра прычыны і гісторыю правядзення гродзенскіх соймаў;**
- **разумець, якую ролю соймы адыгралі ў гісторыі горада;**
- **аргументавана расказаць пра Новы замак як помнік барока XVIII стагоддзя;**
- **правільна фармуляваць і ўжываць наступныя паняцці і назвы: Новы замак, канвакацыйны сойм, соймікі.**

*Адзіны гук нязменна перакрываў гоман мітуслівага жыцця; якім бы разнастайным яно не было, ён не змешваўся ні з чым і ўзносіў усё, што мінае, у сферу парадку і зразумеласці. Гэта перазвон.*

***Ёхан Хейзінга. «Восень Сярэднявечча.»***



**Герб Рэчы Паспалітай часоў панавання Саксонскай дынастыі.**

## 1. Соймы ў Гродне: пачатак і храналогія

Пастанова аб пасяджэннях кожнага трэцяга вальнага сойма Рэчы Паспалітай на тэрыторыі ВКЛ была прынята на сойме 1673 г. Паколькі пасяджэнні соймаў звычайна адбываліся ў гарадах, дзе былі каралеўскія замкі (Пётркаў, Кракаў, Варшава), месцам соймаў у ВКЛ быў выбраны Гродна, дзе таксама знаходзіўся каралеўскі замак. У 1685 годзе яшчэ раз было пацверджана, што кожны трэці сойм, акрамя канвакацыйных, элекцыйных і каранацыйных, будзе адбывацца ў Гродне.

Пры Яне III Сабескім збіраліся 4 соймы: 1678, у Гродне 1679, 1688, 1692–1693 гадоў, але арганізаваны прайшоў толькі адзін – першы. Паўночная вайна перарвала ход соймаў, якія праводзіліся ў ВКЛ. Надзвычайны сойм 1703 года ў Любліне паслы ад Вялікага Княства Літоўскага прынялі як гродзенскі, папярэджваючы, што гэтае рашэнне было вымушаным з-за асаблівых умоў, але на будучае «пасля склікання двух соймаў каронных сойм трэці... у Гродне скласці абвяшчаем».

Рэалізаваць гэта змаглі толькі ў 1718 годзе, а ўсяго за час панавання Аўгуста II Моцнага соймавыя паслы збіраліся ў Гродне яшчэ 4 разы: у 1718, 1726, 1729, і 1730 гг. Пры Аўгусце III два гродзенскія соймы ў 1744 і 1752 гадах былі сарваны.

Пры Станіславе Аўгусце Панятоўскім адбыліся два соймы: у 1784 і 1793 гадах.

Месцам пасяджэнняў першых двух соймаў (1678, 1688) быў Стары замак. У 1673–1678 гг. яго спецыяльна адрамантавалі і перабудавалі. Для сенатарскай залы прыстасавалі Вялікую замкавую залу, для пасольскай палаты пабудавалі афіцыны з боку Нёмана.

Наступныя чатыры соймы (1718, 1726, 1730) працавалі ў палацы Сапегаў, які быў перабудаваны ў рэзідэнцыю Аўгуста I (будынкі па вуліцы Брыгіцкай, цяпер К. Маркса).

Такім чынам, соймы ў Гродне адбываліся нерэгулярна, месца іх правядзення неаднаразова мянялася, крызісныя праявы ў палітыцы Рэчы Паспалітай неаднойчы прыводзілі да іх зрываў. І ўсё ж соймавыя пасядэнні абуджалі правінцыяльны ход жыцця Гродна - ў XVII – першай палове XVIII ст.



Палац Сапегаў. Фрагмент малюнку Н. Орды

## 2. Гродна – соймавы горад

Згодна з планам 1718 г., да камяніцы, вядомай цяпер, як Баторыеўка, дабудавалі драўлянае паўночнае крыло, да бакавых крылаў – драўляныя двухпавярховыя галерэі, якія звязалі яе з соймавым будынкам. На другім паверсе была Вялікая зала для прыёмаў, налева ад яе – Сенатарская зала, далей – дзве каралеўскія залы, спачывальня караля, пры ёй – кабінет і два гардэробы. На другім паверсе палаца па вуліцы Брыгіцкай знаходзіліся пасольская і сенатарская палаты. Сенатары, паслы і публіка маглі трапіць у іх з боку вуліцы Брыгіцкай, а кароль – па калідоры галерэі.

Палацы Баторыя і Сапегі не зусім адпавядалі густам паслоў, сенатараў і караля. Трэба было пабудаваць спецыяльны замак з лепшымі ўмовамі і для пасяджэнняў. Месца для яго знайшлося хутка – там, дзе раней стаяў Каралеўскі дом (Domus regia), на высокім узвышшы насупраць Старога замка (паглядзіце на гравюру Цюндта).

На сойме 1726 г. кароль узняў пытанне аб будаўніцтве Новага замка, а ў 1738 г. пачаліся інтэнсіўныя будаўнічыя работы.

Да сойма 1752 г. рыхтаваў замак Іахім Яух, а яго пераемнікам стаў ягоны намеснік Джузэпе Сака, які кіраваў будаўніцтвам у Гродне ў 1774–1780 гг. і рыхтаваў замак да сойма 1784 г.

Першыя соймы павінны былі прайсці ў Новым замку ў 1744 і 1752 гг., але яны не адбыліся. Упершыню соймавыя пасяджэнні былі



Шляхціц у гарадзенскім ваяводскім мундзіры. Малюнак Р. Долбіка



Новы замак XVIIIст. Малюнак Ч. Роя

## Помнік дойлідства

**Новы замак.** Двухпавярховы палац складаўся з трох прамавугольных корпусаў з мансардамі. Да цэнтральнага корпуса з боку дваровага фасада прымыкала вылучаная ў самастойны аб'ём капліца-капэла з шатровай званіцай. Капліцу будаваў І. Кнобель, які таксама часткова змяніў і праект палаца. З левага боку месціліся корпусы з канцылярыяй, стайняй ды службовымі памяшканнямі.

Цэнтральны ўваход у палац быў вылучаны неглыбокім трохвосевым рызалітам, распрацаваным падвойнымі пілястрамі і капітэлямі, якія былі дэкараваны лепкай у стылі ракако. Прывабную маляўнічасць палацу надавала спалучэнне чырвонай дахоўкі, зялёнага колеру сцен і белых элементаў архітэктурнай пластыкі і ляпнога дэкору. Планіроўка памяшканняў калідорная. Шырокі вестыбюль вёў у авальную залу, якая з'яўлялася кампазіцыйным цэнтрам палаца. Ад яе адыходзілі парадныя памяшканні. Інтэр'еры капліцы-капэлы, Сенатарскай, Пасольскай і Круглай залаў вылучаліся багаццем дэкаратыўнай апрацоўкі: жывапісам, разьбой, залачонай лепкаю ў стылі ракако. Асаблівасцю гэтых памяшканняў з'яўлялася паркетная падлога. Жылыя памяшканні размяшчаліся на другім паверсе і ў мансардзе, службовыя памяшканні – у скляпенчатых падвалах. У 1789 г. палац рэканструяваў Дж. Сака. Падчас панавання Расійскай Імперыі тут быў вайсковы шпіталь. Замак быў разбураны ў ліпені 1944 года і зноў адбудаваны ў 1950-х гадах, у выніку чаго ў першапачатковым выглядзе захавалася толькі ўязная брама са скульптурамі сфінксаў і дэкаратыўнай ваеннай арматурай (уплыў французскага архітэктара Ф. Бландэля). У савецкія часы Новы замак займаў Гродзенскі абкам КПБ. Сёння тут размешчаны Гісторыка-археалагічны музей і абласная бібліятэка імя Я.Ф. Карскага.

## Імя ў гісторыі

**Матэвус Даніэль Пёпельман** (1662–1736) – нямецкі архітэктар. Прадстаўнік позняга барока. У спраектаваным Пёпельманам палацавым ансамблі саксонскіх курфюрстаў Цвінгер у Дрэздэне (Германія) (1711–1722) дасканаласць планіроўкі спалучаецца з вытанчанасцю і дынамікай формаў і скульптурнага дэкору.

ў 1784 г., а наступны, і апошні гарадзенскі сойм адбыўся ў 1793 г.

Соймы ўносілі ў жыццё горада пэўны рух, але змены ў штодзённым жыцці горада не адчуваліся. Пытанні палітычныя, якія турбавалі дэпутатаў Рэчы Паспалітай, далёка не заўсёды закраналі штодзённае жыццё гродзенцаў.

## 3. Гродзенскія соймікі

Соймікі праходзілі пачаткова ў старым замку. Пазней у XVII-XVIII стст., месцам пасяджэнняў былі касцёльныя будынкі, бернардзінаў і іезуітаў. У іх пасяджэннях прымалі ўдзел павятовая шляхта дадзенага рэгіёну і сенатары.

На сойміках, якія папярэднічалі перад соймам, выступаў пасланец караля, які даносіў да сабраных пытанні, прапанаваныя на пасяджэнні сойма. Іх абмяркоўвалі, пункты, па якіх усе прысутныя былі згодныя, запісвалі і ўключалі ў праекты, прадстаўляемыя пасламі на сойме. Апошніх выбіралі большасцю галасоў. Ім давалі інструкцыі, адпаведна з якімі яны павінны былі дзейнічаць на сойме.

Напрыклад, у інструкцыях гродзенскім паслам на сойм прапаноўвалася настойваць на рамонце Гродзенскага замка на сродкі Рэчы Паспалітай, каб наступны сойм мог адбыцца ў Гродне. У інструкцыях паслам раілі патрабаваць, каб генеральныя соймы скліkaліся па чарзе ў Гродне і Варшаве, а таксама дабіцца пераносу пасяджэнняў Літоўскага галоўнага трыбунала з Навагрудка ў Гродна, прасіць аб забароне ўвозу прадметаў раскошы з-за мяжы. Пасля сойма скліkaліся праз старастаў або ваяводаў рэляцыйныя соймікі. Яны адначасова пачыналіся па ўсёй Рэчы Паспалітай, і іх праца працягвалася толькі адзін дзень. Паслы рабілі справаздачу аб ходзе сойма, знаёмілі шляхту з прынятымі пастановамі. Тыя з іх, што датычыліся павета або ваяводства, заносіліся ў земскія ці гродскія кнігі.



Гарадзенская пячатка на дакумантах XVIII ст.



Праект дэкарацыі Сенатарскай залы Новага замка ў часы праўлення Саксонскай дынастыі



Шляхецкі соймік у касцёле. Малюнак Я. Норбліна

## Дакументы сведчаць

Калісьці на сцяне Старога замка знаходзілася мемарыяльная дошка, на якой на лацінскай мове было напісана: «Пры сходзе ў Гродне найсвятлейшых асоб польскіх і літоўскіх сенатаў уступаем на цудоўны Капітул. Калі вайна, вораг міра, страшэнным спусташэннем ператварыла ў руіны і брыдкім зрабіла, дык у памяць міра і роўнасці людзей, а таксама для асвячэння соймавых пасяджэнняў пры найсвятлейшых каралях Міхаіле і Яне ІІІ. Кшыштаф Пац, маршалак брэсцкі і 20-ы раз пасол на сойм, з прывязанасцю да Айчыны змайстраваў.

Няхай для Бога, караля, Айчыны і права ганаровая пліта, каралём забяспечаная, гербам Пацаў «Лілеяй» упрыгожаная, расходамі казны ВКЛ адноўленая, доўга існаваць будзе. Вы ж, якія з'яўляецеся аздобаю польскага пурпуру, ваша слушная думка-рада і вялікасць, падтрымка права. Грамадзянскага году 1678, месяца снежня, перад адкрыццём сейма 14 дня».

## Пытанні і заданні

1. Калі было прынята рашэнне аб паседжаннях кожнага трэцяга вальнага сойма Рэчы Паспалітай у Гродне?
2. У якіх будынках горада праходзілі пасяджэнні соймаў?
3. Раскажыце аб месцы ў гісторыі Гродна архітэктара Джузэпе Сака.
4. Падрыхтуйце паведамленне аб гісторыі і архітэктурным абліччы Новага замка.

# § 16. Гродна ў войнах XVII – XVIII стст.

**Успомніце ваенную гісторыю Гродна XIII – XVI стст.**

**Пасля азнаямлення з параграфам вы павінны:**

- **умець распавядаць пра падзеі вайны 1654 –1667 гг. у Гродне;**
- **даваць аргументаваную характарыстыку Гродна напярэдадні падзей Паўночнай вайны.**
- **ведаць, якім чынам падзеі Паўночнай вайны закранулі горад;**
- **уяўляць памеры ваенных спусташэнняў XVII – XVIII стст. для горада.**

## 1. Ваеннае спусташэнне 1655 –1659 гг.

У часы страшэннай вайны Маскоўскай дзяржавы з Рэччу Паспалітай 1654 –1667 гг. Гродна, быў спустошаны. Неаднаразова горад і ваколіцы станавіліся тэатрам ваенных дзеянняў. У 1655 годзе пасля захопу рускімі войскамі Вільні іх асобныя часткі рабілі вынішчальныя рэйды, у тым ліку і на Гродна. У адказ войскі на чале з Паўлам Сапегам з 1 кастрычніка 1658 года ўзялі ў аблогу горад, маючы на мэце вызваліць яго ад маскоўскіх захопнікаў. Новая ваенная кампанія зімы 1658 –1659 гг. на чале з ваяводам князем Іванам Хаванскім павінна была ўмацаваць дасягненні рускіх і вярнуць часткова страчаныя імі пазіцыі. Ваенныя дзеянні ішлі з пераменным поспехам. Але аблога Гродна закончылася здачаю царскіх ратнікаў войскам Паўла Сапегі. 9 сакавіка 1659 года ваявода Багдан Апрэлеў капітуляваў. Маскоўскія ваяры ў шматлікай колькасці пераходзілі на бок вялікага гетмана. У горадзе ў той час не было ні хлеба, ні вады.

Гродна быў першым вялікім горадам Беларусі, які вырваўся з расійскай акупацыі, але праз некаторы час ізноў трапіў пад удар войскаў Хаванскага.

*«... Хто ж можа пазбегнуць навалы, калі знаходзіцца на вялікім ваенным шляху сусветнай гісторыі».*
***Павел Фларэнскі, святар, навуковец***

### Імя ў гісторыі



**Павал Ян Сапега (1609 - 30 снежня 1665 гг., Ружаны)** – Ад 1656г. ваявода Віленскі, вялікі гетман ВКЛ.

Вайсковую кар'еру распачаў у 1633 г. пад Смаленскам як ротмістр гусарскай харугвы.

Падчас "Патопу" вызваліў Падляшша ад швецкіх войскаў. Разам з Стэфанам Чарнецкім разграміў маскоўскае войска у бітве пад Палонкай 1660 г., пасля чаго яны вызвалілі значную частку Беларусі. Узначальваў адну з найбуйнейшых магнацкіх партыяў у ВКЛ. Пахаваны ў Бярозе ў касцёле картэзіянаў.



**Карта старых шведскіх умацаванняў Гародні 1655 г., складзеная падчас Паўночнай вайны**

Як і шмат іншых беларускіх гарадоў і мястэчак, Гродна доўгі час аднаўляў панесеныя ў вайну страты. Па словах Бернгарда Танера, «Гродна з фальваркамі і прадмесцямі дашчэнту зруйнаваны маскоўскімі войскамі... І праз дзесяць гадоў ад яго заставалася толькі гарадское смецце».

Ён быў настолькі спустошаны, што спецыяльнай пастановай Варшаўскага сойма 1661 г. гродзенскія мяшчане і габрэі вызваляліся ад уплаты падаткаў на чатыры гады. Хаця



**Крылатыя гусары Рэчы Паспалітай XVII ст.**

## Факт гісторыі

Навала 1659 года. «Гродна спачатку ўзяўся бараніцца, але на бяду гетман, адыходзячы, пакінуў тут зусім маленькую залогу. Хоць камендант і кляўся, што хутчэй памрэ, чым паддасца ворагу, 22 снежня 1659 года Гродна ўсё ж капітуляваў» (з кнігі Генадзя Сагановіча «Невядомая вайна»)

Гродна заставаўся цэнтрам вялікакняскай эканоміі, стан горада не толькі не палепшыўся, але працягваў пагаршацца – істотна зменшылася колькасць вуліц і жылых дамоў. Не выправіла становішча нават наданне Гродна статусу соймавага горада. Прынятая ў 1675 годзе пастанова аб пабудове новага будынка ратушы на той час не была выканана. Актыўна дабудоўваўся толькі кляштар бернардынцаў (будаўніцтва завершаны ў 1693 г.). У 1697 годзе вялікім князем становіцца Аўгуст II Моцны, першыя гады кіравання якога для Гродна адзначаны прывілеямі цэхам муляроў, ганчароў, сталяроў і бондараў; утвараецца новы цэх рыбакоў. Напачатку 1700 года пачынаецца будаўніцтва цаглянага будынка для старэйшай на Беларусі (вядома з 1687 г.) аптэкі езуіцкага калегіума.

Аўгуст II Моцны беспаспяхова імкнуўся прымірыць варожыя магнацкія групоўкі Сапегаў, з аднаго боку і большасць беларуска-літоўскай шляхты, з другога.



Аптэка пры кляштары езуітаў. З акварэлі Н. Орды



Кляштар езуітаў. Малюнак Н. Орды

## Імя ў гісторыі



**Аўгуст II Моцны (12 мая 1670 г. - 1 лютага 1733 г.)** – Курфюрст саксонскі (1694-1733).

Кароль польскі і вялікі князь літоўскі (1697 - 1706, 1709 - 1733). Як саксонскі курфюрст удзельнічаў у Паўночнай вайне (1700-1721) супраць Швецыі, у 1704 уцягнуў у гэтую вайну Рэч Паспалітую, чым парушыў векавы праўны ўклад, калі прыняў лёсавызначальнае рашэнне без згоды на гэта шляхты. Аўгуст II больш клапаціўся пра гаспадарчае і культурнае развіццё Саксоніі, а інтарэсы Польшчы і Вялікага княства падпарадкоўваў дынастычным мэтам. З прычыны выключнай фізічнай сілы і шматлікіх любоўных прыгод быў празваны Моцным.



Саксонскі вайсковец часоў панавання Аўгуста II Моцнага

### 2. Гродна ў эпіцэнтры Паўночнай вайны

Кароль польскі і Вялікі князь Аўгуст II Моцны фактычна распачаў Паўночную вайну, калі здзейсніў аблогу Рыгі (у той час належала Швецыі). І хоць Рэч Паспалітая афіцыйна была ўцягнутая ў ваенныя дзеянні ў 1704 годзе, Гродна і наваколле віхуры вайны ахапілі значна раней. Так, ужо 8 мая 1702 года войска Карла XII займае Гродна на шляху на Варшаву. Навакольныя вёскі былі спалены, на горад накладзена кантрыбуцыя. У Гродне размясціўся гарнізон Карла XII.

А ўжо 11 верасня паплечнік расейскага цара князь Аляксандр Меншыкаў з войскамі знаходзіцца ў Гродне. Агледзеўшы наваколле, ён робіць выснову, што найлепшага месца для дыслакацыі войска не знайсці: недасягальную крэпасць стварыла сама прырода – з двух бакоў роў, ззаду Нёман, натуральная моц і бяспека, з чым вораг нічога зрабіць не здолее. Паколькі цар Пётр I выказаў наконт гэтага сумненні, Меншыкаў прапанаваў яму самому прыехаць і ўпэўніцца ў непрыступнасці Гродзенскай крэпасці.

27 верасня 1705 г. Пётр I прыбыў у Гродна. Адпаведна з яго распараджэннем у горадзе канцэнтруюцца асноўныя сілы расійскай пяхоты – 10 палкоў, у тым ліку Прэабражэнскі, Сямёнаўскі і Інгерманландскі, агульнай колькасцю 35 тысяч чалавек. У гэты ж дзень пачынаецца будаўніцтва ўмацаванняў вакол горада. З надыходам халадоў 13 кастрычніка Пётр I разам з Агільві размяшчае расійскае войска (каля 40 тысяч чалавек) на зімовыя кватэры. 22 кастрычніка ў Гродне адбыўся Савет членаў сандамірскай канфедэрацыі, якая падтрымлівала

## Постаць гісторыі



**Пётр I (30 мая 1672 г. - 8 лютага 1725 г. )** – Расейскі цар з 1682, імператар з 1721.

Правёў сацыяльна – эканамічныя, палітычныя і ваенныя рэформы ў расійскай дзяржаве.

У знешняй палітыцы галоўнай мэтай да якой імкнуўся, быў выхад Расіі да Балтыйскага і Чорнага мораў. Адзін з галоўных арганізатараў антышведскай кааліцыі. Кіраваў расійскімі войскамі у многіх бітвах Паўночнай вайны (1700-1721). У Беларусі вызначыўся тым, што у 1705 г. па яго загадзе было здзейснена забойства уніяцкіх манахаў у Полацку, а у 1708 г. на загад Петра I была зруйнавана адзіная цытадэль праваслаўя ў Рэчы Паспалітай – горад Магілёў.

Аўгуста II Моцнага. Сенатарамі Рэчы Паспалітай – прыхільнікамі Аўгуста, змешчанага з польскага трона – пацвярджаецца саюз з Расіяй супраць Карла XII, выпрацоўваюцца планы барацьбы са шведамі.

6 снежня 1706 г. Аўгуст II Моцны і Пётр I прысутнічаюць на асвячэнні езуіцкага касцёла ў гонар святога Францішка Ксаверыя. Калегіум у гонар манархаў дае абед, школа – тэатральны спектакль.

### 3. Гродзенская аперацыя 1706 года.

8 студзеня Карл XII аддае загад аб маршы свайго войска з Варшавы на Гродна. У той жа дзень Меншыкаў дакладваў цару аб вясёлых калядных святах, жартаваў наконт «польскіх зменлівых вестак » і пераконваў яго, што ўсё ў Гродне спакойна. Яшчэ праз тыдзень (14 студзеня) Меншыкаў атрымаў звесткі пра рух шведаў на Гродна, але прыняў гэта за падманны манеўр Карла XII.



Расійскае войска часоў Паўночнай вайны. Малюнак С.Лецiна

## Дакумент эпохі

1) 17(28) жніўня 1705 г. Пётр I піша з-пад Мітавы (Елгава, Латвія) да фельдмаршала барона Георга Агільві: «Не худо бы, чтоб вам самим вперёд в Гродно ехать и там мосты смотреть, ибо Гродню зело нужно держать, яко пост от Немена» .

2) З ліста Аляксандра Меншыкава да Пятра I: «Хотя неприятель поход свой и к Гродне разглашает, однако ж нам кажется, хочет нас обойти и в Вилне с Левенгауптом случится, к которому о походе и указ выслан».

## Імя ў гісторыі



**Карл XII (17 чэрвеня 1682 г. - 30 лістапада 1718 г.)** кароль Швецыі з 1697 г. Быў выбітным вайсковым кіраўніком. Падчас Паўночнай вайны (1700-1721) шматразова разбіваў войсі кааліцыянтаў (Расеі, Саксоніі, Даніі і Брандэрбургіі). У перыяд 1702-1708 г. разам з 35-тысячным шведскім войскам тройчы прайшоў па Беларусі. У 1706 г. у Камянцы (што на Берасцейшчыне) абвясціў сябе "генеральным распарадчыкам у ВКЛ". Гарантаваў шляхецкія свабоды, вольнасць веравызнання і надзейную абарону ад Расіі.Загінуў у 1718 г. падчас аблогі замка Фрыдэрыксгаль у Нарвегіі.



**Шведская гвардыя часоў Паўночнай вайны. Малюнак С. Лецiна**

Праходзіць яшчэ тыдзень, і 22 студзеня ў Гродне адбываецца Вайсковы савет (старшыня – Аўгуст II Моцны). Разглядаюцца тры пытанні: ці рухацца на ворага, ці чакаць яго ў Гродне і тут абараняцца, ці адступаць да маскоўскай мяжы? Пётр I загадаў застацца ў Гродне, калі Карл XII падыдзе да горада адзін (без падмацавання), і хутка адступаць да Вільні і Полацка, калі шведскае войска аб'яднаецца і пойдзе на штурм.

Карл XII робіць спробу абысці Гродна з поўначы і па лёдзе пераходзіць Нёман каля вёскі Грандзічы. Атрад расейскі драгун спрабуе перашкодзіць гэтаму. Але 600 гвардзейскіх грэнадзёраў шведскага караля адкідваюць іх назад, за абарончыя валы Гродзенскай крэпасці. Стаўка Карла XII размяшчаецца ў Грандзічах. Агледзеўшы ўмацаванні Гродна, Карл XII адмаўляецца ад штурму горада. Ён вырашае блакіраваць горад. У гэты момант Пётр I загадвае пакінуць Гродна і рухацца на Вільню. Аўгуст II Моцны, не ведаючы пра гэта, 28 снежня пад чужым імем пакідае Гродна. Расейскае войска застаецца ў Гродне, а Карл XII

## Дакумент сведчыць

"Мы прыйшлі з Мэмэлю (сёння Клайпеда, Літва) у места Гарадзенскае. Места гэтае мае колькі прыгожых кляштараў. Найлепшы з іх той, што належыць езуітам. З касцёлаў найпрыгажэйшы той, які фундуюць Сапегі. Расейцы абрабавалі гэты касцёл,а таксама палац Сапегаў, які стаіць побач. Наогул дзеля Сапегаў быў збудаваны кляштар і шмат прыгожых будынкаў у гэтым месце, як і іншых местах Польшчы і Літвы" (з кнігі А.Катлярчука "Шведы ў гісторыі й культуры беларусаў")



План размяшчэння саюзных войскаў(Расіі і Рэчы Паспалітай) у Гродне 26 студзеня 1706 г.

## Факт гісторыі

На працягу кастрычніка рускім камандаваннем аднаўляецца разбураны Стары замак як рэзідэнцыя Аўгуста II Моцнага і Пятра I, а таксама для захавання правіянту. Дабудоўваюцца ўмацаванні горада, якія складаюцца ўжо з дзвюх ліній абароны. Знешняя – бруствер і роў, якія абкружалі горад. Унутраная – усе буйныя каменныя будынкі (у тым ліку кляштары і касцёлы), якія спалучаліся між сабой акопамі. Яўстафі Арлоўскі ў «Гродненской старине» так згадвае пра гэтыя падзеі: «Агароджа ўмацаванага ў агульных рысах лагера ўяўляла сабою ланцуг, добра прыстасаваны да абароны скатаў і мясцовасці наперадзе; на Паўночна-Заходняй ускраіне быў заняты Стары замак; на асобнай вышыні, што побач, дзе зараз шпіталь, пабудавана вялізнае ўмацаванне, і ўздоўж берага былі дзве батарэі. Трэба лічыць, што кляштары і іншыя значныя збудаванні ўваходзілі ў сістэму ўнутранай абароны лагера. Прадмесці былі спалены».



Гарматныя бомбы і свінцовая крыга для ліцця куляў. Знойдзеныя ў Нёмане ў 2008 г.

адыходзіць ўсё далей на ўсход і ў рэшце рэшт размяшчаецца ў мястэчку Жалудок.

Гродзенская аперацыя – як яе задумаў і арганізаваў Пётр I, была ажыццёўлена 2-4 красавіка 1706 г. Па зараней падрыхтаваным мосце, выкарыстаўшы крыгаход на Нёмане, расійскае войска пакідае Гродна і хуткім маршам накіроўваецца праз Брэст на Кіеў. З моста ў Нёман Агільві скідвае гарматы і амуніцыю, а мост знішчае. Войскі Карла XII з-за моцнага крыгаходу не мае магчымасці кінуцца ўслед.



**Войскі Рэчы Паспалітай у гады Паўночнай вайны**

## 4. Гродна ў 1707 – 1721 гг

Выратаваўшы найбольш баяздольныя свае палкі, Пётр I загадвае ім ізноў вярнуцца ў Гродна. Рускія ўжываюць тактыку «спаленай зямлі». 17 – 19 лютага царскае войска рабуе горад. Цэнтр горада і замак былі разбураны амаль поўнасцю.

Калі 8 сакавіка Пётр I пакінуў Гродна, праз 2 гадзіны Карл XII з атрадам з 600 кірасіраў падышоў да горада. У гэты час у горадзе пачынаецца жудасная эпідэмія чумы, якая працягваецца і ў 1710 г., да якой дадаецца моравая язва.

У 1711 года расійскае камандаванне павялічыла суму падатку на ўтрыманне войска на 1 злоты 15 грошаў (з кожнага жыхара), а пазней грашовае ўтрыманне замяніла натуральным. А з 1712 года ў Гродне кватараваўся яшчэ і саксонскі полк. Гродзенскі соймік прызначыў на яго ўтрыманне 50 709 тынфаў. Але саксонцы былі не задаволены ўстаноўленым утрыманнем і займаліся адкрытым рабаваннем гараджан.

Дзеля прымірэння шляхты і Аўгуста II Моцнага напачатку ў Гродне быў скліканы Генеральны сойм. (Успомніце з айчыннай

### Дакумент сведчыць

«Выступать из Гродно надлежит зело тайно таким образом: прежде всего поставить такой крепкий караул, чтоб из жителей никто не токмо выйти, ниже выполсть не мог; в то время собраться как возможно скоро тайно ... хотя б нужное что и в артиллерии какое было, не жалей ничего, что возможно беречь людей » (з ліста Пятра I да Агільві ад 3 (14) лютага 1706 г.).

## Недаказаны гістарычны факт

Амаль усе афіцыйныя выданні Польшчы, Беларусі і Расіі паведамляюць, што ў 1706 і 1707 гг. манетны двор у Гродне выпускае манеты (шасцігрошавікі – т.зв. шастакі і трохгрошавікі (траякі) з ініцыяламі падскарбія ВКЛ Людвіка Пацея – «LP». Эмісія шастакоў Людвіка Пацея ажыццяўлялася не ў Гродне, а, магчыма, ў Саксоніі ці Маскве. У гэтым пераконваюць ускосныя звесткі: асаблівасць тэхналогіі вытворчасці манет і абсалютная адсутнасць якіх-небудзь слядоў існавання ў Гродне манетнага двара (Віктар Какарэка, гродзенскі нумізмат і краязнаўца).



Герб Аўгуста II Моцнага

гісторыі абставіны канфлікту паміж Аўгустам II і шляхтай.) Паседжанні праходзілі ў касцёле св. Францішка Ксаверыя. Шляхта дамаглася вываду з тэрыторыі Рэчы Паспалітай замежнага войска і абмежавання ўлады караля і вялікага князя. Таксама было прынята рашэнне аб стварэнні пастаяннага войска колькасцю 24 тысячы чалавек (што не было выканана, бо шляхта не пагадзілася плаціць падаткі на ўтрыманне).

Аўгуст II Моцны пацвярджае ўсе прывілеі, якія даваліся гораду ў мінулым: Аляксандрам Ягелончыкам, Жыгімонтам I Старым, Бонаю Сфорца, Жыгімонтам II Аўгустам, Стэфанам Баторыем, Жыгімонтам III Вазам, Уладзіславам IV, Янам II Казімірам, Міхалам Карыбутам Вішнявецкім, Янам III Сабескім.

У 1720 годзе Гродна значна пацярпеў ад пажару: горад быў знішчаны агнём настолькі, што Аўгуст II Моцны вызваліў гараджан ад ваенных пастояў і ўсялякіх натуральных павіннасцяў. Аднавіўся горад толькі ў 1740-я гады.



Расейская баявая гармата часоў Паўночнай вайны. Знойдзена ў Нёмане ў 1966 г.

## Пытанні і заданні

1. Успомніце ход ваенных дзеянняў на тэрыторыі Беларусі. Пры якіх абставінах расійскія войскі зышлі з нашых земель? Чым скончыліся ваенныя дзеянні паводле Андрусаўскага пагаднення?
2. Як адбіліся падзеі вайны Маскоўскай дзяржавы і Рэчы Паспалітай 1654 – 1667 гг. на лёсе горада?
3. Растлумачце, як вы разумееце геапалітычнае становішча Гродна напярэдадні Паўночнай вайны. Пацвердзіце свае думкі фактамі з айчыннай і сусветнай гісторыі.
3. У якія перыядзе Паўночнай вайны Гродна станавіўся эпіцэнтрам барацьбы?
4. На які перыяд вайны прыпала Гродзенская аперацыя Пятра I?
5. Якія наступствы для горада мелі падзеі Паўночнай вайны?

# §17. Гаспадарка Гродна ў XVII – XVIII стст.

“

*«Новая эра для Гродна пачалася з прызнаннем выбітнага з літоўскіх дзеячоў, Антонія Тызенгаўза...»*
***Адам Кіркор «Живописная Россия.»***

**Успомніце, якія рамёствы развіваліся ў Гродне ў XV – XVI стст.**

**Пасля азнаямлення з параграфам вы павінны:**

- умець аргументавана расказаць аб стане гандлю і рамёстваў у Гродне часоў Рэчы Паспалітай;
- даць ацэнку перадумовам, характару і вынікам рэформаў А. Тызенгаўза;
  расказваць аб навуковай дзейнасці Жана-Эмануэля Жылібера;
- параўноўваць стан развіцця горада напярэдадні рэформаў А. Тызенгаўза і пасля іх;
- правільна фармуляваць і ўжываць наступныя паняцці і назвы: Гарадніца, батанічны сад, рэформы Антонія Тызенгаўза, гродзенскія мануфактуры, Гродзенская эканомія.

**Помнік дойлідства**



Дом Рыбака знаходзіўся на вуліцы Замкавай. Пабудова адносіцца да XVIII ст. Разбураны савецкімі ўладамі ў 70-гады XX ст.



Да нашых дзён захаваўся цэхавы знак у выглядзе рыбы.

## 1. Рамяство і гандаль

З XV да сярэдзіны XVII стагоддзя Гродна ператварыўся ў адзін з найбуйнейшых гандлёва-рамесніцкіх цэнтраў Беларусі. Тут паспяхова развіваліся розныя рамёствы. У Гродне працавалі мастакі, скульптары, гравёры, пераплётчыкі, ювеліры і іншыя. Захоўвалася цэхавая вытворчасць. У 1612 годзе цэх кавалёў, кацельшчыкаў, мечнікаў, слесараў атрымаў прывілей ад караля Жыгімонта III. У 1639 годзе было прынята рашэнне аб утварэнні самастойных цэхаў кожнай названай вышэй спецыяльнасці. У 1630 годзе Жыгімонт III даў прывілей на арганізацыю цэха злотнікаў. У 1649 годзе арганізаваны цэхі гарбароў і цырульнікаў. Прывілеем Аўгуста II ад 30 снежня 1698 года створаны цэх рыбакоў і лаўцоў ракаў. У 1777 годзе ў Гродне налічвалася 15 цэхаў. Яны ўсё больш станавіліся перашкодаю для развіцця індыві-

дуальных здольнасцяў і выТворчай працы рамеснікаў. У гэты час павялічыўся прывоз замежных тавараў, вырасла канкурэнцыя. Усё гэта не спрыяла развіццю цэхаў, але яны праіснавалі яшчэ больш за 100 гадоў.

У XVI – XVII стст. у Гродне на правым беразе Нёмана былі два гасціныя двары: Стары рынак – на месцы, дзе цяпер Савецкая плошча, і Рыбны – каля сучаснай вуліцы Давыда Гарадзенскага. На левым беразе, куды можна было прайсці праз пастаянны драўляны мост, знаходзіўся адзін рынак і вуліцы, дзе жылі рамеснікі, якія залежалі ад замка.

На гарадскія кірмашы прыязджалі купцы з гарадоў і мястэчак ВКЛ, а таксама з Расіі, Польшчы, Чэхіі, Прыбалтыкі. У 1760-я гады ў горадзе прайшло некалькі кірмашоў. Ажывіўся гандаль у часы рэформаў апошняй трэці стагоддзя. Была створана купецкая кантора «Бекю і К.», якая вывозіла прадукцыю мясцовых мануфактур за мяжу і прывозіла сыравіну, падтрымлівала зносіны з замежнымі гандлёвымі фірмамі.

## 2. Антоні Тызенгаўз

Пасля працяглага перыяду правінцыяльнага жыцця нашаму гораду пашчасціла. Яго старастам стаў энергічны, гаспадарлівы чалавек, сапраўдны рэфарматар Антоні Тызенгаўз (1733 – 1785). Паваротным момантам у жыцці гэтага чалавека стала ягоная сустрэча з сябрам – каралём Станіславам Аўгустам. Яна паспрыяла пачатку бліскучай кар'еры. У 1761 г. Тызенгаўза абралі паслом на сейм у Варшаве, у 1763 г. – прызначылі вялікім пісарам літоўскім, у 1764 г. – вялікім канюшым літоўскім. Кароль узнагародзіў яго ордэнам св. Станіслава, прызначыў арандатарам Брэсцкай, Шавельскай і Гродзенскай каралеўскіх эканомій і ўпраўляючым каралеўскімі мануфактурамі.



Антоні Тызенгаўз (1733-1785 гг.)



Гарадзенскі палац Тызенгаўза.
Пабудаваны ў 1760-70-я гады (арх.Мёзер, Дж.Сака). Палац з'яўляўся кампазіцыйным цэнтрам ансамбля Гарадніцы. Гэта быў аднапавярховы з бакавымі выцягнутымі крыламі-флігелямі будынак, у якім маляўніча спалучаліся зялёны колер стен, белыя дэталі дэкору і чырвань дахоўкі.



Дом рамесніка (басняцкі домік) XVIII ст. разбураны савецкай уладай пачатак 60-х гг. XX ст.

## Сведка гісторыі

«Не было спакою ні палацам, ні хатам. У пачатку 1960-х нам з Карпюком не ўдалосяся адстаяць каштоўны запаведнік – частку вуліцы Ажэшка, забудаваную дамамі рамеснікаў і майстроў XVIII ст. Дарма мы пратэставалі, прасілі. Старшыня Гродзенскага гарвыканкама Ахрыменка адказаў камандай: "Ускорить снос!" Адзін домік, праўда, часова пакінулі.»

**З кнігі Барыса Клейна "Недосказаное. Имена"**.



Будынак "Канторы" Тызенгаўза XVIII ст. на Гарадніцы. Разбураны савецкай уладай у другой палове XX ст.

У 1765 г. Тызенгаўз – надворны падскарбій літоўскі, гродзенскі староста і кіраўнік Гродзенскай эканоміі. Вось тады ён і задумаў у кароткі тэрмін стварыць у адсталай земляробчай краіне ўсе галіны прамысловасці, якія існуюць у развітых дзяржавах Еўропы. Для гэтага ў яго былі ўлада, фінансы, давер караля, а таксама паплечнікі.

Новы раён горада на месцы былой вёскі – Гараднiца стаў цэнтрам гаспадарчых і культурных рэформаў. За 15 гадоў Тызенгаўз узвёў тут каля 80 будынкаў. Сёння мы бачым толькі іх рэшткі. Ужо на плане Гродна 1849 года няма 30 пабудоў. У 1958 годзе захоўвалася 20 будынкаў ансамбля XVIII ст., а ў 1988 годзе – толькі 7: будынкі Гродзенскай медыцынскай акадэміі, Тэатральнай (крывой) афіцыны, афіцыны віцэ-губернатара, гасцінай афіцыны, лясной адміністрацыі, «Басняцкі домік», лямуса. Тызенгаўз адчыніў звыш 20 мануфактур, 16 з якіх знаходзіліся ў межах сучаснага Гродна. На каралеўскіх мануфактурах працавала да 3 тыс. прыгонных рабочых і каля 400 вучняў, да 70 майстроў і наглядальнікаў з Францыі, Італіі, Германіі, Расіі, Швейцарыі і іншых краін. На мануфактурах выраблялі тое, што спажывала шляхта, – панчохі, сукно, палатно, шаўковую матэрыю, літыя паясы, падобныя да слуцкіх, карункі, ювелірныя вырабы, экіпажы накшталт парыжскіх, шкляны посуд, металічныя вырабы, піва.


XXXV.
GAZETA GRODZIENSKA
ROKU 1778. DNIA 27. SIERPNIA.

Першая газета ў г. Гародні




Праектны план Гараднiцы 1780 г. 1 – афіцына віцэ-адміністратара; 2 – гасціная афіцына; 3 – музычная афіцына; 4 – тэатральная афіцына; 5 – лямус; 6 – медыцынская акадэмія. А – палац Тызенгаўза, Б – мануфактуры, В – фальварак, Г – басняцкія дамы, Д – опергаўз, бровар, шпіталь.



Карчма "Раскоша". Складалася з трох аднапавярховых квадратных у плане будынкаў, якія прылягалі адзін да аднаго вугламі і ўтваралі паўадкрыты двор. У цэнтральным размяшчалася гасцініца, у бакавых – стайні. Рэканструкцыя Т. Габрусь.



Гарадзенскае шкло, выраблянае на мануфактурах А.Тызенгаўза. Слоік аптэчны з часоў Станіслава Аўгуста Панятоўскага

У розных месцах Гродзенскай эканоміі адчыняліся водныя і паветраныя млыны, аляярні, крупярні, бровары, гарбарні. Інтэнсіўна эксплуатаваліся лясы і пушчы. Тызенгаўз будаваў новыя дарогі, рамантаваў старыя гасцінцы, узводзіў масты і плаціны, расчысціў рэчышча Нёмана ад Гродна да Віліі, пабудаваў Каралеўскі канал, па якім можна было адпраўляць прадукцыю да портаў Каспійскага і Чорнага мораў.

Нездарма Антоні Тызенгаўз называў Гродна «квітнеючай Галандыяй». Шмат намаганняў ён накіраваў на развіццё не толькі эканомікі, але і культуры нашага горада.

Пільную ўвагу звярнуў Тызенгаўз на адукацыю. На Гарадніцы ўзнік шэраг школ: будаўнічая, бухгалтарская, землямераў, медыцынская (са шпіталем), музычная, кадэцкі корпус. Французскі прафесар Жан-Эмануэль Жылібер стварыў у Гродне Каралеўскі ба-



Карчма "Галеча". Складалася з кампактнага двухпавярховага будынка гасцініцы і стайні.Будынкі былі накрыты высокім двухсхільным дахам. Рэканструкцыя Т. Габрусь.

танічны сад, дзе ў 1778 г. было каля 2 тыс. відаў раслін.

Планавалася адкрыццё астранамічнай абсерваторыі, для якой абсталяванне набывалася ў Галандыі, Германіі, Англіі. З-за адстаўкі Тызенгаўза не адчынілася ў Гродне Акадэмія навук.

Нямала зрабіў Тызенгаўз у галіне культуры. У будынку езуіцкай калегіі была заснавана каралеўская друкарня, у якой выдавалі падручнікі, малітоўнікі, адну з першых на тэрыторыі Беларусі газет на польскай мове "Gazeta Grodzeńska", а таксама "Каляндар гаспадарскі Літоўскі".

У 1780 годзе Тызенгаўз быў адхілены ад кіраўніцтва каралеўскімі эканоміямі. Некаторы час жыў у віленскім прадмесці Сніпішкі, а потым – у Варшаве, дзе і памёр. Пахаваны ў фамільным склепе кармяліцкага кляштара ў мястэчку Жалудок. Сёння яго астанкі знаходзяцца ў склепе касцёла Ушэсця ў Жалудку. У Фарным касцёле Гродна стаіць помнік Тызенгаўзу, узведзены ў 1896 – 1900 гг. Імя Тызенгаўза носяць плошча ў Гродне, мясцовыя капэла і мастацкая галерэя.




Кніга Ж.Э.Жылібера "Флора Літвы"

## Імя ў гісторыі




**Жан Эмануэль Жылібер (21 чэрвеня 1741 - 2 верасня 1814 гг.).** Ужо ў 12-гадовым узросце ён марыў прысвяціць сваё жыццё вывучэнню натуральнай гісторыі: «Схільнасць, якую я заўсёды меў да навукі, складала шчасце майго жыцця, прыносіла чароўныя моманты поспехаў, ратавала ад роспачы ў бядзе». Поспехамі можна лічыць кіраўніцтва Медыцынскай акадэміяй, напісанне кнігі «Флора Літвы» – першага грунтоўнага выдання па прыродзе Панямоння. Сярод выклікаў лёсу – адстаўка яго паплечніка Тызенгаўза, а потым ... пасада мэра ў родным Ліёне ў крывавы, рэвалюцыйны 1793 год. Нягледзячы на ўсё гэта, Жан-Эмануэль Жылібер заўсёды заставаўся навукоўцам.



Барэльеф Антонія Тызенгауза змешчаны на помніку ў Гарадзенскім катэдральным касёле.

## Лёс гродзенскага рэфарматара

**Антоні Тызенгаўз** меў характар самаўладны і дэспатычны. За пятнаццаць гадоў стараства зрабіў многае, але нажыў ворагаў. Жыхары эканомій, у якіх ён забіраў дзяцей на працу на мануфактуры або на вучобу ў школы, называлі Тызенгаўза д'яблам. Кансерватыўныя магнаты, старапольская партыя лічылі яго вар'ятам, бо баяліся, што рэформы прывядуць да ліквідацыі тагачаснага ладу. Патрыёты адхіліліся ад Тызенгаўза, бо лічылі яго паслухмянай зброяй караля. Тызенгаўз настроіў супраць сябе каралеўскую сям'ю. Пляменнік караля Станіслаў Панятоўскі зрабіў у 1776 г. даволі аб'ектыўную справаздачу аб стане гаспадарання А. Тызенгаўза. Адмоўнага ў ёй было нямала. Кароль вагаўся да 1780 г. Але, калі Тызенгаўзу ўпершыню не хапіла грошай, каб задаволіць ягоныя патрэбы, манарх згадзіўся забраць у падскарбія каралеўскія эканоміі. На сойме 1780 г. Тызенгаўзу здрадзілі нават самыя блізкія людзі. Ён абараняўся доўга, шматслоўна і непераканаўча. Скончыў выступленне прадказаннем, што пераемнікі будуць горшыя за яго...

## Сведка часу



**Помнік Антонію Тызенгаўзу ў катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя.** Каля сярэдняга пілона паўночнага нефа езуіцкага касцёла знаходзіцца помнік знакамітаму гродзенскаму рэфарматару. Ён быў выкананы ў 1886 – 1887 гг. ў Варшаве львоўскім скульптарам Тамашам Дыкасам. Абеліск з лабрадарыту з бронзавым медальёнам Тызенгаўза і урнай на вяршыні. Бронзавая фігура жанчыны ў кароне, якая прыхінулася да абеліска, ускладае пальмавыя галінкі. Фундатарка помніка – Марыя Пшэздзецкая (стрыечная пляменніца А. Тызенгаўза). На помніку надпіс: «Antoni hr/ Tyzenhauz, starosta grodzieński podskarbi W.Ks.Lit. 1733 – 1785. Marja z hr. Tyzenhauzów Aleksandrowa hr. Przezdziecka, spelniają wole ojca I brata, pomnik ten wzniosła».

## Помнік дойлідства

**Басняцкі домік** – «Дом майстра – музей гісторыі Гарадніцы». Помнік архітэктуры барока. Пабудаваны ў 1768 – 1773 гг. на тэрыторыі Гарадніцы. З'яўляецца адзіным уцалелым будынкам з дваццаці так званых «басняцкіх дамоў», узведзеных па двух тыповых праектах Ёзэфа Мёзера. Прыклад першай на Беларусі тыповай жылой забудовы.



## Пытанні і заданні

1. Якія віды рамяства развіваліся ў горадзе ў XVII-XVIII стагоддзях ?
2. З якімі краінамі гандлявалі гродзенскія купцы?
3. Якія прычыны абумовілі рэформы Антонія Тызенгаўза?
4. Якія якасці характару спрыялі паспяховаму правядзенню рэформ Антонія Тызенгаўза?
5. Чаму перыяд стараства А. Тызенгаўза можна лічыць часам духоўнага і эканамічнага адраджэння нашага горада?
6. Як памяць аб славутым гродзенскім рэфарматары замацавана ў сучасным Гродне?
7. Якія будынкі Гарадніцы захаваліся да сённяшняга часу?

# § 18. Гродзенскія каралеўскія рэзідэнцыі

1. Што вы ведаеце пра Стары і Новы замкі?
2. Згадайце, што звязвае Вітаўта Вялікага з Гродна.
3. Якую ролю адыгралі ў эканамічным жыцці Гродна Ягелонавічы?
4. Чаму Гродна і сёння называюць «горадам Стэфана Баторыя»?
5. Якую ролю адыграў Станіслаў Аўгуст Панятоўскі ў падзелах Рэчы Паспалітай?

**Пасля азнаямлення з параграфам вы павінны:**

- умець доказна расказваць аб Гродне як горадзе-рэзідэнцыі вялікіх князёў літоўскіх і каралёў польскіх;
- параўноўваць архітэктурнае аблічча і гісторыю Аўгустоўкі, Станіславова і Панямуньскай рэзідэнцыі;
- ведаць, што з архітэктурнага багацця каралеўскіх рэзідэнцый дайшло да нашых дзён;
- правільна фармуляваць і ўжываць наступныя паняцці і назвы: Станіславова, Панямунь, Аўгустовак, эркеры, пілястры, курданёр.

*«То быў час, калі “дзяржава зачынілася ў палацы».*
***Васіль Ключэўскі, рускі гісторык***



Габелен з гербам Рэчы Паспалітай (абіўка трона Станіслава Аўгуста Панятоўскага). Гародня. Другая палова XVIII ст.

## 1. Гродна – вялікакняскі горад

Падарожнікі XVII – XVIII стагоддзяў у сваіх нататках называлі Гродна каралеўскім горадам. І не толькі таму, што ягоны архітэктурны воблік разам з касцёламі і цэрквамі вызначалі замкі і палацы. Галоўным было тое, што гаспадароў дзяржавы заўсёды прываблівaў гэты горад, і яны імкнуліся не толькі як мага часцей наведваць яго, але і жыць тут у поўным сэнсе гэтага слова, толькі зрэдку наведваючы сталіцы – Вільню і Кракаў. Так было з Казімірам Ягелончыкам, Аляксандрам Казіміравічам, Жыгімонтам II Аўгустам, Стэфанам Баторыем, Аўгустам Моцным, Станіславам Аўгустам Панятоўскім.

Акрамя Жыгімонта II Аўгуста, у былым замку Вітаўта некаторы час жыў і француз Генрых Валуа, які 11 мая 1573 г. быў абраны каралём польскім і вялікім князем літоўскім. Аб гэтым сведчыць каляровая гравюра 1574 г. з выявай Гродна, якую Франц Гогенберг зрабіў па ўзору Цюндта. Толькі, у адрозненне ад гравюры 1568 г. з гербам караля польскага і вялікага князя літоўскага Жыгімонта Аўгуста, цэнтральная частка герба на гравюры Гогенберга – тры лілеі (герб роду Валуа).

Пераемнік Стэфана Баторыя Жыгімонт Ваза, а затым Ян Казімір таксама з задавальненнем карысталіся каралеўскімі рэзідэнцыямі ў Гродне. Пры Міхаіле Карыбуце Вішнявецкім падчас вайны 1654 – 1667 гг. замак Стэфана Баторыя быў разбураны і адноўлены толькі ў 1678 годзе пры Яне Сабескім. Служыў гэты замак прытулкам і Аўгусту

## Імя ў гісторыі



**Аўгуст III (17 кастрычніка 1696г. 5 кастрычніка 1763)** Курфюрст Саксонскі, кароль Польскі і Вялікі князь Літоўскі (1733-63). Сын Аўгуста II Моцнага. За гады яго праўлення ў краіне пашырылася феадальная анархія, знізіўся міжнародны прэстыж Рэчы Паспалітай, пачаўся глыбокі палітычны крызіс. Аднак пры Аўгусце III ажывіліся культурнае жыццё і эканоміка (развіццё мануфактур), пачалася адукацыйная рэформа ордэна піяраў.

Моцнаму ў 1674 – 1706 і 1709 – 1733 гг. А вось караля Рэчы Паспалітай Аўгуста III гэты замак, здаецца, не задавальняў. І не дзіўна: ліхія гады Паўночнай вайны не прайшлі для замка дарэмна. У 1737 – 1751 гг. на месцы колішняга Ніжняга замка Аўгуст III пабудаваў каралеўскі палац, вядомы як Новы замак. З 1764 г. Новы замак – рэзідэнцыя апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага.

У XVI – XVIII стст. у Гродзенскай каралеўскай эканоміі існавалі фальваркі. Частка іх належала вялікаму князю літоўскаму і каралю польскаму Станіславу Аўгусту Панятоўскаму. Гэта былі шыкоўныя загарадныя дамы-рэзідэнцыі вялікага князя: Станіслававa, Аўгустовак і Панямонь. Цяпер яны ўваходзяць у тэрытарыяльныя межы сучаснага Гродна. Калі дзве з іх называліся па імені ўладальніка: Станіслававa і Аўгустовак, то ў назве трэцяй рэзідэнцыі – Панямонь – адчуваецца назва ракі, над якой красуецца сядзіба.



Палац XVIII ст. Стары замак. Рэканструкцыя.

## Імя ў гісторыі

**Джузэпе Сака (1735–1798)** – італьянскі архітэктар. Прадстаўнік архітэктуры барока і класіцызму. З 1773 г. у Гродне. Як прыдворны дойлід Антонія Тызенгаўза кіраваў будаўнічай школай на Гарадніцы. Сярод архітэктурных твораў Дж. Сака – Гродзенская Аўгустоўская сядзіба, Свяцкі палацавы ансамбль, палац Станіславоўскай сядзібы, Гродзенскі палац Тызенгаўза. Удзельнічаў у рэканструкцыі езуіцкага касцёла ў 1773 г. З'яўляецца аўтарам знакамітага Шчорсаўскага палацава-паркавага ансамбля магнатаў Храптовічаў.

### 2. Станіслава

У 1760-х гг. яшчэ малады вялікі князь пабудаваў сябе рэзідэнцыю на паўночны ўсход ад Гродна (сёння гэта вядомы помнік садова-паркавай архітэктуры «Станіславоўская сядзіба» па вуліцы Ціміразева).

Станіслаў Аўгуст Панятоўскі бавіў тут час у зімовы перыяд, асабліва часта наведваў рэзідэнцыю ў два апошнія гады жыцця ў Гродне. Пасля яго ад'езду ў Санкт-Пецярбург сядзіба была канфіскавана ў расійскую казну. У сярэдзіне XIX ст. яна трапіла ў маёмасць сям'і Друцкіх-Любецкіх, якой належала да 1939 г. Адным з першых уладальнікаў быў Францішак-Ксаверы – гродзенскі губернатар у 1816 г., міністр скарбу Каралеўства Польскага. На мяжы XIX – XX ст. гаспадарыў у Станіславове Уладзіслаў Друцкі-Любецкі, які заснаваў цагельню. У міжваенны перыяд (1919 – 1939 гг.) спадчыннікам быў яго сын Ян, які значна перабудаваў палац, хаця не часта тут бываў.

Пасля Другой сусветнай вайны будынак палаца быў перабудаваны, сёння тут знаходзіцца аграрны ўніверсітэт: надбудавалі другі паверх над бакавымі крыламі, замуравалі франтальны аркадавы порцік.

Каралеўскі палац у Станіслава. Сучасны стан.







Палац у Станіславова. Малюнак Н. Орды 1867 г.

## Помнік дойлідства

**Станіславоўская сядзіба.** Аўтар праекта італьянскі архітэктар Джузэпе Сака. Ансамбль уключаў сядзібны дом, два флігелі, гаспадарчыя пабудовы, парк. Першапачатковы выгляд сядзібы можна пагледзець на малюнку Н.Орды. Цэнтральнае месца займаў сядзібны дом, размешчаны на вяршыні пакатага схілу. Аднапавярховы дом спачатку быў мураваным, прамавугольным ў плане з двухпавярховай цэнтральнай часткай, з вылучаным на дваровым фасадзе паўкруглым эркерам, з манаграмай караля (SAR – Stanislav August Rex і датай: 1766). Гэтая манаграма, але ўжо без даты, захавалася да сённяшняга дня. На галоўным – рызаліт з атыкавым завяршэннем і шырокай тэрасай. Пазней пабудавалі другі паверх. У дэкоры фасада выкарыстаны пілястры, раскрапаваныя карнізы, філёнгі, лепка. Прамавугольныя і арачныя вокны. Унутраная планіроўка калідорная з цэнтральнай групай парадных памяшканняў: вестыбюль, ніжняя і верхняя (тэатральная) залі. Да пачатку Другой сусветнай вайны на сценах апошняй залы можна было ўбачыць фрагменты малюнкаў на міфалагічныя сюжэты. Ад канца XIX ст. у вестыбюлі захаваліся дзве печы ў стылі неаготыкі, якія абліцаваны паліванымі керамічнымі пліткамі цёмна-карычневага колеру.

Аднапавярховыя прамавугольныя ў плане флігелі размешчаны ніжэй, яны сіметрычныя адзін да аднаго. Створаны флігелямі парадны курданёр абнесены з боку ўезду невысокай цаглянай агароджай з брамай. Перад цэнтральным уваходам быў круглы газон, абсаджаны кустамі бэзу. За заходнім флігелем размешчаны гаспадарчыя пабудовы. За домам знаходзіўся парк рэгулярнага тыпу з радыяльна-прамянёвай планіроўкай. Ад парку, які займаў 3 гектары, захавалася некалькі старых ліп.



Бюст С.Панятоўскага з гарадзенскага Дамініканскага касцёла

## 3.Аўгустовак

Рэзідэнцыя ўзнікла ў 1770-я гады ў паўднёвым занёманскім напрамку ад Гродна (зараз вуліца Рэпіна) дзякуючы архітэктару Джузэпе Сака, які пабудаваў у стылі барока дом-палац і спраектаваў парк з сажалкамі.

У 1793 годзе, якраз падчас апошняга сойма Рэчы Паспалітай, на тэрыторыі Аўгустоўка вядомыя навукоўцы Марцін Пачобут-Адляніцкі і Ян Снядэцкі назіралі сонечнае зацьменне.

Пасля Панятоўскага сядзіба была перададзена Кацярынай II генералу ад інфантэрыі Маўрыкію дэ Лясы (Лясэй) – выхадцу са старажытнага ірландска-нарманскага роду. З 1819 года маёнтак па купчай перайшоў яго пляменніку англійскаму капітану Патрыку. Пры ім быў перабудаваны палац. Патрык перадаў сядзібу сыну Аляксандру, пасля смерці якога гаспадарыў ягоны сын, былы лейтэнант расійскага флоту Цярэнці О'Брыен дэ Лясы. Ад Першай сусветнай вайны да рэвалюцыі 1917 г. і ў 1920 – 1926 гг. маёнткам кіравала маці Цярэнція. У 1919 г. ён налічваў каля 12 тысяч гектараў (фальваркі, лес, луг). Да 1932 г. у сядзібе жыў Цярэнцій, тут і памёр, пахаваны ў сямейнай капліцы.

Пры сядзібе была карчма, якая ў 1920 г. належала Маўрыкію О'Брыен дэ Лясы – прэзідэнту Гродна – і брату Цярэнція. З 1921 г. яна была перабудавана ў «панскі» дом. Тут былі пошта, тэлеграф, тэлефон, радыё. Адпачываючым прапаноўвалі гульню ў тэніс, катанне на лодцы, пляжы на Нёмане і Ласасянцы, фартэпіяна, можна было збіраць грыбы і ягады.

Зараз палац не існуе. Захаваўся толькі будынак карчмы. Пасля вайны гэты дом аднаўлены на старым падмурку з захаваннем элементаў класіцызму; сёння тут размешчаны клуб «Пунцовыя ветразі».



Палац у Аўгустоўку. Рэканструкцыя




Аўгустовак, спалены падчас Першай сусветнай вайны. Нямецкая паштоўка.

## Помнік дойлідства

**Палац Аўгустова.** Палац быў аднапавярховы з мансардай па цэнтры. Элементы дэкору былі ў стылі Людовіка XVI. Першапачаткова ў палацы было каля 10 памяшканняў, якія размяркоўваліся анфіладна. У цэнтры знаходзіліся авальны салон і тэатральная зала. У салоне быў узорысты паркет, фрэскі на сценах, партрэты Кацярыны II і Паўла I, камін, прыгожы плафон. З правага боку салона быў простакутны салон з плафонам да 12-свечнай сярэбранай люстры. У кабінеце быў камін. Да тэатральнай залы  вяла дубовая лесвіца. Адміністрацыя і служба размяшчаліся ў левым ад палаца флігелі, а кухня і кладоўка – у правым. У 1802 г. з'явілася капліца, якая нагадвала базіліку св. Пятра і Паўла ў Рыме. У алтары віселі абразы Маці Божай, а па баках – апосталаў Пятра і Паўла. У склепе капліцы знаходзілася крыпта з пахаваннямі роду О'Брыен дэ Лясы.

Парк займаў амаль 20 гектараў. Тут раслі елка, сасна, граб, асіна, клён, бяроза і іншыя дрэвы. Меліся тры сажалкі, якія былі злучаны паміж сабой каналамі. Уся сядзіба была акружана паўкруглай агароджай са штыкетніку паміж мураванымі слупамі. Ад дзвярэй авальнага салона да ўскраіны парку ішла ліпавая алея. На адной з палян расла велізарная лістоўніца, пасаджаная, паводле мясцовага падання, Станіславам Аўгустам Панятоўскім. У канцы парк плаўна пераходзіў у лес, а на правым баку – у агароды і сад. Падчас Першай сусветнай вайны парк амаль цалкам загінуў – сядзіба была спалена расійскімі войскамі.

## Імя ў гісторыі



**Марцін Пачобут-Адляніцкі (30 верасня 1728, в.Саламянка Гарадзенскага пав. - 20 лютага 1810)**. Вучыўся ў Гарадзенскім езуіцкім калегіуме (1738-1745). Асветнік, астраном, матэматык. Доктар філасофіі і тэалогіі.Сябра Лонданскага, Варшаўскага і іншых навуковых таварыстваў. Стварыў у Віленскім універсітэце астранамічную абсерваторыю. У 1793 назіраў у Гародні за зацьменнем сонца. Вітаў прыняцце канстытуцыі 3 мая 1791г.Паспяхова абараняў рэформы ў галіне асветы на гарадзенскім сойме 1793 г. Падтрымаў паўстанне 1794 г. Ахвяраваў значныя сродкі на патрэбы войска. Кавалер ордэна Святога Станіслава. У гонар Марціна Пачобута-Адляніцкага названы кратэр «Пачобут» на Месяцы.

### 4. Панямунь

Пабудавана на ўсход ад Гродна ў 1771 г. па праекце архітэктара Ю. Аляхновіча ў стылі позняга барока. Як выглядала гэтая рэзідэнцыя ў XIX ст., добра бачна з малюнка Напалеона Орды.

Станіслаў Аўгуст Панятоўскі бываў тут часцей летам. Разам з расійскімі вяльможамі Рапніным і Валконскім ён абмяркоўваў у Панямуньскай сядзібе лёсы Рэчы Паспалітай. Панятоўскі з’яўляўся вялікім аматарам мастацтваў і навук. Яго сябрам быў вядомы беларускі навуковец, астраном Марцін Пачобут-Адляніцкі. Ён спрыяў дзейнасці Адукацыйнай камісіі, а для паэтаў, мастакоў і музыкаў заснаваў медаль «Sapere ande» (Таму, хто адважыўся быць мудрым).

Пасля Панятоўскага сядзібу набыў гродзенскі павятовы віцэ-маршалак Раман Ляхніцкі. У XIX ст. на ўездзе ў сядзібу пабудавалі капліцу рэтраспектыўна-гатычнага стылю (яна захавалася да сённяшняга дня). На галоўным фасадзе прастакутнага ў плане будынка капліцы ўзвышаецца шатровая васьмігранная званіца. У другой палове XIX ст. сядзіба перайшла да Нямцэвічаў. Напрыканцы XIX ст. тут гаспадарыла Ядзвіга з Друцкіх-Любецкіх. Пасля яе смерці сядзібай стаў валодаць яе брат Уладзіслаў, вядомы як уладальнік Станіславова. Пры ім 9 лютага 1892 г. у палацы адзначылі 25-годдзе літаратурнай дзейнасці Элізы Ажэшкі. Сярод гасцей быў беларускі паэт Францішак Багушэвіч. Апошняй гаспадыняй Панямуні была дачка Уладзіслава Яніна. Цяпер будынкі належаць Гродзенскім райаграпрамтэхніцы і райаграпрамсэрвісу. Захаваўся фрагмент кутняй вежы, якая вылучаецца плаўнымі абрысамі, тонкай і складанай прафіліроўкай карнізаў і абрамленняў.



Каралеўская рэзідэнцыя ў Панямуні. Малюнак Н. Орды

## Помнік дойлідства

**Палац у Панямуні.** Аднапавярховы палац размяшчаўся ў глыбіні пейзажнага парку, над правым берагам Нёмана, умацаваным падпорнымі сценкамі тэрас. З усходу і поўначы сядзіба абмежавана глыбокім ровам. Спачатку палац быў цагляны, з цягам часу частка разбураных сцен заменена драўлянымі. Дваровы фасад упрыгожаны чатырохкалонным порцікам на высокім цокалі. Палац быў атынкаваны і не меў амаль ніякіх дэкаратыўных элементаў на знешніх фасадах. Планіроўка дома анфіладная з выхадам у цэнтральную вялікую парадную залу. У палацы было каля 10 пакояў. Захаваўся фрагмент вуглавой вежы, якая мае плаўныя абрысы, тонкую і складаную прафіліроўку карнізаў і абрамленняў, здвоеныя пілястры з ажурнымі капітэлямі, гарызантальную рустоўку.

Пейзажны парк разбіты перад палацам і на схілах рова. Ён умоўна падзяляўся на высокую, раўнінную і нізінную часткі. Пасярэдзіне яго ішла шырокая цэнтральная пад'язная дарога, абапал якой раслі ліпы, клён, таполі і іншыя дрэвы. У нізіннай частцы раслі елка, сасна, граб, размяшчалася невялікая аранжарэя.

### Пытанні і заданні

1. Параўнайце архітэктурны выгляд каралеўскіх рэзідэнцый і іх сучасны стан. Зрабіце высновы.
2. Хто і як выкарыстоўваў каралеўскія гродзенскія сядзібы?
3. Якія ўстановы размешчаны цяпер у памяшканнях былых каралеўскіх сядзіб?
4. З якімі знакамітымі гродзенцамі звязана гісторыя каралеўскіх рэзідэнцый?

# §19. Горад у часы сойма 1793 г. Паўстанне 1794 г.

**Што вы ведаеце пра гродзенскія соймы Рэчы Паспалітай?**

**Пасля азнаямлення з параграфам вы павінны:**

- аргументавана расказваць аб падзеях Гродзенскага сойма 1793 г. і яго выніках;
- умець параўноўваць падзеі паўстання 1794 г. у Гродне з падзеямі ў іншых рэгіёнах Беларусі;
- правільна фармуляваць і ўжываць наступныя паняцці і назвы: Гродзенскі сойм 1793 г., "маўклівае" пасяджэнне.

“

*Хочаце быць свабоднымі? Дык будзьце імі!*
***Якуб Ясінскі, паўстанец, паплечнік Т. Касцюшкі***



Герб Рэчы Паспалітай абодвух народаў

## 1. Гродзенскі сойм 1793 г

Сярод шматлікіх соймаў, якія мелі месца ў нашым горадзе, адзін застаўся не толькі ў гісторыі Гродна, але ўсёй краіны. Гэта быў сойм 1793 года. У маі гэтага года ў Гродна пачалі з'язджацца сенатары, паслы, біскупы, іншыя высокія асобы. Сойм Рэчы Паспалітай праходзіў з 17 чэрвеня па 23 лістапада.

Першы перыяд сойма працягваўся да 22 ліпеня. Востра дыскутавалася пытанне аб заключэнні трактата з Расіяй. Каб паўплываць на паслоў, пад Гродна сцягваліся дадатковыя вайсковыя расійскія часткі. Кацярынінскі пасол у Варшаве Якаў Сіверс пагражаў, што не выпусціць нікога з залы, пакуль не будзе вызначана дэлегацыя для падпісання трактата.

5 ліпеня прымаецца інструкцыя дэлегацыі, а 10 ліпеня выбрана дэлегацыя: кароль падкрэсліў у прапанаваным спісе тых асоб, якія задавальнялі Сіверса, а паслы зацвердзілі іх. Сярод удзельнікаў дэлегацыі былі магнаты Міхаіл-Геранім Радзівіл, Міхаіл Клеафас Агінскі.

Каб прыспешыць падпісанне трактата, Сіверс пагражаў выслаць войскі для экзекуцыі ў каралеўскія эканоміі, маёнткі, кватэры і пасяленні паслоў сойма, канфіскацыяй маёмасці Рэчы Паспалітай.




Кніга ў стылі вялікага гістарычнага рэпартажа апавядае пра падзеі паўстання 1794 г.



**Гарадзенскі каралеўскі палац. Тут у 1765 - 1793 гг. адбываліся паседжанні Скарбовай камісіі ВКЛ і захаваўся скарбовы архіў**

22 ліпеня, як жадаў Сіверс, трактат з Расіяй быў падпісаны.

Другі перыяд працы сойма пачаўся ўмоўна 22 ліпеня і працягваўся да 25 верасня. Галоўным пытаннем стала падпісанне трактата з Прусіяй. 3 жніўня дэлегацыя, якая падпісала трактат з Расіяй, была ўпаўнаважана зрабіць гэта з Прусіяй.

13 жніўня надышоў час ратыфікацыі трактата з Расіяй. Заставалася шмат паслоў, якія былі супраць трактата з Расіяй. 17 жніўня пасля бурлівага пасяджэння, калі патрыёты спрабавалі перашкодзіць чытанню трактата, ён быў ратыфікаваны 66 галасамі супраць 21.

Пасля 25 верасня пачаўся апошні перыяд працы Гродзенскага сойма, на якім галоўнымі пытаннямі былі заключэнне саюзнага трактата з Расіяй і прынящце новай (Гродзенскай) канстытуцыі. 23 лістапада канстытуцыя была прынята.

## Дакументы сведчаць

**13 ліпеня дэлегацыя атрымала трактат аб падзеле. Галоўныя пункты яго наступныя:**

1. Вечны мір паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай.
2. Акрэслены будучыя межы.
3. Уступка занятых тэрыторый і гарантыі цэласнасці рэштках Рэчы Паспалітай.
4. Адмова ад усялякіх захопаў і прэтэнзій з абодвух бакоў.
5. Гарантыі з боку Расіі вольнасці, перамен і рэформ у форме кіраўніцтва.
6. Абвяшчэнне вольнасці веравызнання католікам, захавання маёмасці касцёлаў і духавенства.
7. Гарантыі ратыфікацыі на працягу шасці тыдняў.

## Імя ў гісторыі



**Якаў Яфімавіч Сіверс (19 жніўня 1731г. - 23 ліпеня 1808г.)** - расійскі генерал, дыпламат. Быў надзвычайным паслом і паўнамоцным міністрам Кацярыны II у Рэчы Паспалітай. Місію гэту выконваў ад 16 лютага да 28 снежня 1793 г. З карысцю для Расійскай імперыі правёў другі падзел Рэчы Паспалітай, які быў зацверджаны пад дуламі расійскіх гармат на Гарадзенскім сойме 1793г.

## Факт у гісторыі

Зламаць апазіцыю можна было толькі сілаю. Гродна быў акружаны войскам так, што ніхто не мог выйсці з дому без білета (пашпарта) каменданта. Два батальёны грэнадзёраў з 4 гарматамі, пры якіх стаялі з запаленымі кнотамі кананіры, размясціліся ў замкавым двары. У калідорах замка стаяла варта. Генерал Раўтэнфельд з 12 расійскімі афіцэрамі ўвайшоў у залу пасяджэнняў, усе селі на пасольскія лавы. Арбітры ў залу не дапускаліся, а паслы маглі ўвайсці, але выхад забараняўся. Названыя меры былі прыняты 2 верасня, і маршалак сойма Бялінскі растлумачыў іх тайнаю змоваю супраць караля.

23–24 верасня адбылося знакамітае «маўклівае» пасяджэнне. У пачатку яго паслы патрабавалі выпусціць арыштаваных. Калі Сіверс адмовіўся зрабіць гэта, А.Рачынскі прапанаваў запратэставаць, абвясціць дэкларацыю аб гвалтах і «зачыніцца ў абсалютным маўчанні», якое, на яго погляд, будзе самым лепшым тлумачэннем «нашых пачуццяў і стану». Яго падрымаў кароль, сказаўшы, што там, дзе нельга гаварыць, выказваючы свае погляды, застаецца толькі маўчаць.

Пры поўным маўчанні чытаецца праект трактата. Прачыталі дэкларацыю графа Анквіча, якая тлумачыла сітуацыю і неабходнасць паддацца сіле. Зноў маўчанне. Сакратар прачытаў праект зацвярджэння дэлегацыі для падпісання трактата з Прусіяй – маўчанне. Гадзіннік прабіў тры гадзіны пасля поўначы. Раўтэнфельд падышоў да караля і папрасіў, каб ён аддаў праект на галасаванне. Той адказаў, што не мае ўлады прымусіць паслоў загаварыць. Генерал сабраўся ісці па грэнадзёраў, тады Ст. Бялінскі запытаў паслоў: «Вы згодныя?». Некаторыя з патрыётаў прамармыталі, што не згодныя на трактат з Прусіяй.

Маршалак сойма прыступіў да галасавання: «Вы згаджаецеся, каб дэлегацыя падпісала праект?». У адказ маўчанне. Потым Бялінскі яшчэ два разы пытаў пра гэта ў паслоў, але зноў была цішыня. Тады Бялінскі сказаў: «Такім чынам, згода, адзінагалосна! Выклікаю канстытуцыйную дэлегацыю да подпісу». Маўчанне. Дэлегацыя падпісвае праект. У 3.30 кароль зачыняе пасяджэнне.



Расійскія войскі.
Канец XVIII ст.

## 2. Паўстанне 1794 г

Рэакцыяй на падзел Рэчы Паспалітай стала шляхецкае паўстанне. 24 сакавіка 1794 г. на рынку Кракава Тадэвуш Касцюшка (1745–1817) прыносіць урачыстую прысягу «ваяваць за Айчыну і зламаць яе кайданы». У ноч з 22 на 23 красавіка атрад Якуба Ясінскага – стваральніка тайнай арганізацыі «Віленская змова» – пачаў паўстанне і захапіў Вільню. Расійскія войскі адышлі да Гродна. Адступленне суправаджалася жорсткасцю: палілі вёскі, двары, карчмы. На абарону «вольнасці, роўнасці, незалежнасці» падняліся на землях Беларусі звыш 30 тысяч чалавек. Пад сцягі Касцюшкі таксама сталі гродзенцы.

У Гродне знаходзіўся расійскі гарнізон генерала Паўла Цыцыянава. Ён заняў вельмі зручныя пазіцыі каля Гарадніцы над Нёманам (маецца на ўвазе рака Гараднічанка каля Старога замка). Цыцыянаў меў 6615 чалавек, а таксама 20 гармат. Падышлі рэшткі рэзэрву Віленскага корпуса (2007 чалавек і 8 гармат), а таксама іншыя расійскія часці, якія адыходзілі з этнічнай Літвы і заходніх раёнаў Беларусі. Пагражаючы гораду абстрэлам, Цыцыянаў прымусіў гродзенцаў заплаціць кантрыбуцыю, завалодаў касамі казначэйскай камісіі і Гродзенскай каралеўскай эканоміі, а таксама запасамі сукна былых мануфактур А. Тызенгаўза.

9 мая ў мястэчку Саколка прадстаўнікі гродзенцаў і мясцовыя жыхары пад кіраўніцтвам свайго маршалка Францішка Боўфала абвясцілі аб далучэнні да паўстання. Была абрана мясцовая рэвалюцыйная ўлада – Гродзенская распарадчая камісія, якая 14 мая (калі з горада выйшаў Цыцыянаў) распачала пасяджэнні ў Новым замку, у той самай зале, дзе зусім нядаўна засядаў апошні сойм Рэчы Паспалітай. 15 мая ў Гродне было працягнута падпісанне «Звароту



Кавалерыст войскаў Рэчы Паспалітай. 1794г.

### Імя ў гісторыі

**Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка (4 лютага 1746г., Мерачоўшчына - 15 кастрычніка 1817г.).** Дзяржаўны і вайсковы дзеяч Рэчы Паспалітай. Кіраўнік нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 г. Нацыянальны герой Польшчы і ЗША, ганаровы грамадзянін Францыі. 24 сакавіка 1794г. на Кракаўскім рынку абвесціў Акт паўстання. Стаў найвышэйшым начальнікам узброеных сіл. Выдаў Паланецкі універсал, якім абвяшчалася асабістая свабода сялян. Перамог расійскія войскі ў бітве пад Рацлавіцамі (4.4.1794), у ліпені-жніўні 1794 узначальваў абарону Варшавы ад прускіх і расійскіх войск. Напрыканцы верасня 1794г. Касцюшка прыязджаў у Гародню для вайсковай нарады, у часе якой уручыў удзельнікам паўстання ў ВКЛ залатыя пярсцёнкі з надпісам "Айчына свайму абаронцу". У бітве каля Мацяёвіц паранены, трапіў у палон і зняволены у Петрапаўлаўскую крэпасць. Пасля вызвалення (1796) выехаў у ЗША, у 1798 вярнуўся у Еўропу. Памёр 1817 г. у Швейцарыі. Перапахаваны ў Кракаве на Вавелі.





a



b



c

Войскі ВКЛ 1792-1794 гг.: a – афіцэр артылерыі, b – афіцэр пяхоты, c – афіцэр пешай Гвардыі.

## Імя ў гісторыі

**Міхал Клеафас Агінскі (7 кастрычніка 1765г. - 15 кастрычніка 1833г.)**

Дзяржаўны і ваенны дзеяч ВКЛ, кампазітар. Удзельнік паўстання 1794г., сябра Найвышэйшай Літоўскай рады. У 1802 г. вярнуўся з эміграцыі і жыў ў Залессі каля Смаргоні. У 1810г. распрацаваў і падаў Аляксандру I план аднаўлення ВКЛ у складзе Расійскай Імперыі. У 1823 г. выехаў з сям'ёй у Італію, памёр у Фларэнцыі. Аўтар папулярных паланэзаў для фартэпіяна, найбольш вядомы з іх – “Развітанне з Радзімай”.



да паўстання». Усяго – 378 подпісаў. Сярод падпісантаў былі Міхаіл Клеафас Агінскі, Якуб Ясінскі, Яўхім Храптовіч, Канстанцін Ельскі, Францішак Боўфал.

З 23 жніўня па 1 кастрычніка ў Гродне мела сваю рэзідэнцыю Цэнтральная дэпутацыя ВКЛ – выканаўчы орган паўстанцаў у межах ВКЛ. Такім чынам, горад стаў часовай сталіцай ВКЛ. У ноч з 29 на 30 верасня Касцюшка меў нараду ў Гродзенскай парадкавай камісіі. Было сфармавана новае войска, якое налічвала каля пяці тысяч чалавек. Гісторык Юзаф Ядкоўскі пісаў: «Мяшчане гродзенскія масава ўступілі ў шэрагі службы аховы краю».

## Імя ў гісторыі



**Якуб Ясінскі (24 ліпеня 1761г. - 4 лістапада 1794г.)** Ваенны і палітычны дзеяч ВКЛ. Адзін з кіраўнікоў паўстання 1794 г. Належаў да радыкальнай групоўкі “Віленскіх якабінцаў”. Як камандуючы ўзброенымі сіламі ВКЛ прыдухіліў пагрозу заняцця Вільні расійскімі войскамі, якія (7.5.1794г.) пацярпелі паражэнне ад яго дывізіі каля в. Паляны. У 2-й палове траўня дывізія Ясінскага ўдзельнічала ў бітве пад Ліпнішкамі. 29 верасня 1794 года ўзнагароджаны Тадэвушам Касцюшкам у Гародні пярсцёнкам “Айчына свайму абаронцу”. Працягваў камандаваць дывізіяй ў войску ВКЛ. Загінуў пры абароне Прагі (прадмесце Варшавы) ад расійскіх войскаў А. Суворава.

## Імя ў гісторыі



**Станіслаў Аўгуст Панятоўскі (17 студзеня 1732г. Воўчын - 12 лютага 1798 г.).** Апошні кароль Рэчы Паспалітай. У час паўстання1794 года адхілены ад улады, хоць фармальна захоўваў трон.Пасля паразы паўстання, паводле загаду Кацярыны II, выехаў у Гародню, дзе жыў у каралеўскім палацы. Тут ён даведаўся пра трэці падзел Рэчы Паспалітай, і 25 лютага 1795 года падпісаў акт адрачэння ад кароны на карысць Кацярыны II. Гэтым актам было спынена існаванне Рэчы Паспалітай.

### 3. Пасля паўстання

Калі паўстанне было падаўлена расійскімі войскамі на чале з Аляксандрам Суворавым, 11 кастрычніка 1794 г. у Гродне быў надрукаваны ўніверсал Паўла Цыцыянава да сялян, «каб усялякае паслушэнства згодна з традыцыямі, не аглядваючыся на былыя ўніверсалы Касцюшкі, аказвалі». Каб зразумець гэтыя радкі, успомнім, што адным з напрамкаў палітыкі Тадэвуша Касцюшкі было дэкдараванне вызвалення сялян з-пад прыгону. Пэўная частка арыштаваных паўстанцаў знаходзілася ў Старым замку.

12 лістапада Гродна стаў рэзідэнцыяй Эстляндскага, Курляндскага і Віленскага генерал-губер-



Фарны касцёл (Фара Вітаўта) і могілкі. Кан. XVIII ст. Малюнак Г. Тышкевіч

## Імя ў гісторыі



**Мікалай Васільевіч Рапнін (11 сакавіка 1734г. - 12 мая 1801г.).** У 1794 г. быў генерал-аншэфам, эстляндскім, Курляндскім і Віленскім генерал-губернатарам (рэзідэнцыя ў Гародні). Падаўляў паўстанне 1794 г., займаўся "ўладкаваннем" літоўскіх губерняў. Быў камандзірам Літоўскай дывізіі і ваенным губернатарам Рыгі.

натара і цэнтральным урадавым пунктам для кіравання і мірнага ўладкавання літоўскіх і беларускіх губерняў. 4 снежня 1794 г. з'явіўся ўказ імператрыцы «аб прыняцці і пасяленні караля польскага на жыхарства ў Гродне». У першы дзень новага 1795 г. Станіслаў Аўгуст Панятоўскі апынуўся ў Гродне пад вайсковым эскортам рускіх. Кароль прыехаў са сваім дваром, які налічваў спачатку каля 180, а потым каля 200 чалавек. Панятоўскі жыў на другім паверсе Новага замка: тут каля авальнай залы для аўдыенцый была яго апачывальня, бліз яе – пакоі доктара, сакратара, камердынера. Вялікага князя літоўскага і караля польскага лічылі, фактычна, арыштантам.



"Прыбыццё караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага ў Гародню 1795 г. дня 9 студзеня для падпісання адрачэння". Мастак Я. Пешка.

9 ліпеня 1795 г. у горадзе пад старшынствам генерал-губернатара было заснавана Вярхоўнае літоўскае праўленне. Яно складалася з чатырох аддзяленняў: казённага, крымінальнага, грамадзянскага і эканамічнага.

25 лістапада 1795 г. у Новым замку (па іншых дадзеных, у былым палацы Тызенгаўза, дзе была рэзідэнцыя Рэпніна) Станіслаў Аўгуст Панятоўскі падпісаў сваё адрачэнне ад прастола. 15 лютага 1797 г. Панятоўскі пакінуў Гродна і пасяліўся ў Пецярбурзе.

Памёр апошні Вялікі князь літоўскі і кароль польскі ў Расіі. У 1938 г. парэшткі Панятоўскага перавозяць з Пецярбурга ў мястэчка Воўчын (цяпер Брэсцкая вобласць). У 1987 г. гродзенцы – гісторык Міхась Ткачоў, выкладчык універсітэта Аляксандр Мілінкевіч, мастак Уладзімір Кіслы знаходзяць тут некаторыя рэліквіі, якія належаць апошняму каралю. Яны былі перададзены ў Музей культуры Беларусі, некаторая частка знаходак трапляе да польскіх даследчыкаў. У 1989 годзе гарадзенцы самі праводзяць археалагічныя раскопкі ў Воўчынскім касцёле, і ўсе знаходкі і зямлю з касцянымі фрагментамі перадаюць у замкавае сховішча ў Варшаве.



**Фрагмент картуша з выяваю герба Рэчы Паспалітай. XVIII ст. Знаходзіцца ля ўвахода ў Новы Замак .**

## Практычнае заданне

**Прачытайце дакумент і вызначце тыя характарыстыкі грамадска-палітычнай атмасферы, аб якіх сведчыць змест дадзенай крыніцы. Падмацуйце свае высновы фактамі гісторыі.**

"З дазволу канфедэрацый абодвух народаў. Аўстрыйска-пруска-маскоўская антрэпрыза будзе мець гонар даць на днях перад шаноўнай публікай Гродна і аколіц прадстаўленне камедыі ў трох актах, складзенай асабіста Яго Вялікасцю каралём Прусіі, якая з 1772 г. не прадстаўлялася, пад назваю «Падзел Польшчы». Перад першым актам – трыа: Вольнасць, Роўнасць, Незалежнасць. Праспяваюць яснавяльможныя паслы суседніх краін пад акампанемент бізуноў.

Акт другі: «Не дазволяць – усё роўна расцягнем!»

Перад трэцім актам будзе паказаны балет пад назваю: «Пацешныя гульні Прасвятой Тройцы», у якім Шчэнсны-Патоцкі, Жэвускі і Браніцкі пратанцуюць урачысты паланэз пад акампанемент гарматных залпаў на фоне дэкарацыі з вёсак і гарадоў, ахопленых полымем. У канцы, для поўнага іх задавальнення, адбудзецца ўсеагульная разня грамадзян, якія не належаць да канфедэрацыі.

Білеты па даступных цэнах, нават у крэдыт, можна атрымаць у Я. Сіверса, Бухгольца і ў некаторых польскіх і літоўскіх саноўнікаў». (афіша на дошцы аб'яў у Гродне 1793 г.)

## ? Пытанні і заданні

1. **Якія пытанні абмяркоўваліся ў першы перыяд дзейнасці Гродзенскага сойма?**
2. **Як вырашалася галоўнае пытанне другога перыяду пасяджэнняў?**
3. **Апішыце «маўклівае пасяджэнне» Гродзенскага сойма 1793 г.**
4. **Што ў Гродне нагадвае пра падзеі 1793 –1794 гг.?**

# §20. Культурнае жыццё горада ў XVII–XVIII стст.

**Успомніце асаблівасці забудовы горада гэтага часу.**
**Як развівалася культура Гродна ў XV- XVI стст.?**

“

*«У XVII–XVIII стст. магутна ўскінула каменныя хвалі франтонаў і мачты сваіх званіц барока.*
*Той, хто не бачыў гродзенскага Фарнага, комплексу манастыра Брыгітак або Францішканскага касцёла над Нёманам – уяўленне таго ад нашага захаду заўсёды будзе не поўным».*
***Уладзімір Караткевіч «Зямля пад белымі крыламі».***

**Пасля азнаямлення з параграфам вы павінны:**

- Аргументавана расказваць аб разнастайнасці культурнага жыцця горада;
- Ведаць пра дзейнасць у горадзе езуіцкага калегіума і Медыцынскай акадэміі;
- Ацэньваць узровень культурнага жыцця Гродна ў межах тагачаснай Беларусі;
- Вызначыць архітэктурную стылістыку свецкіх і культавых пабудоў горада;
- Аргументавана расказаць аб адлюстраванні канфесійнай палітыкі ў ВКЛ у XVII– XVIII стст. у культавым дойлідстве;
- Правільна фармуляваць і ўжываць наступныя паняцці і назвы: «Літоўская капэла», Езуіцкі калегіум у Гродне, Медыцынская акадэмія ў Гродне, фундатары, лямус.

## 1. Мастацкае жыццё і архітэктура.

У XVII – XVIII стст. горад меў розныя перыяды развіцця культуры. Быў час заняпаду, выкліканы ваеннымі спусташэннямі і адначасовай актыўнасцю палітычнага жыцця ў Вільні, Кракаве і Варшаве. Гэтак было ў XVII – першай палове XVIII ст. Зусім іншы час надышоў пры гаспадаранні Антонія Тызенгаўза. Гэта быў час культурнага росквіту Гродна.

Археалагічныя знаходкі пацвярджаюць, што Гродна быў цэнтрам ювелірнага, ткацкага, ганчарнага і іншых рамёстваў. У Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі захоўваюцца знаходкі з майстэрні ювеліра: тыглі, льячкі, ліцейныя формачкі, зробленыя з вапняку (у іх адліваліся завушніцы і пацеркі). Рамеснікі-ганчары выраблялі рознакаляровую кафлю з узорамі. На гродзенскіх каралеўскіх мануфактурах пад кіраўніцтвам Антонія Тызенгаўза ткалі сукно і шоўкавыя матэрыі, рабілі каштоўныя карункі, залатую і



Гарадзенскі касцёл Францішка Ксаверыя ў 1-ай пал. XVIII ст. Фрагмент малюнка з лавы гарадзенскага катэдральнага касцёла.



Грызельда Сапега
Тып сарматскага жаночага партрэта. Твор гарадзенскага майстра (каля 1630г.).

срэбную ніткі, галуны, некаторыя ювелірныя вырабы, экіпажы накшталт парыжскіх, паясы падобныя на слуцкія, ворсавыя дываны і шпалеры, шкляны посуд (бакалы, келіхі, пляшкі і штофы). У XVII ст. у Гродне працавалі жывапісцы Францішак Лякштыцкі і Гіляр Хаецкі. З удзелам мясцовых майстроў былі аздоблены інтэр'еры касцёлаў езуітаў, бернардзінцаў, Францішканцаў. У бернардзінскім касцёле ўражваюць скульптурна-дэкаратыўны ансамбль "Святая сям'я" (сюжэтныя кампазіцыі «Чатыры евангелісты», «Святая сям'я», «Маленне аб чашы»), багатая архітэктурная пластыка, выявы 12 апосталаў і 12 дзеячоў ВКЛ і Польшчы, намаляваныя ў 1788 г., 14 кулісных алтароў. У Францішканскім касцёле цікавымі творамі мастацтва з'яўляюцца драўляны амбон XVIII ст., галоўны алтар у стылі барока з кампазіцыяй «Ушанаванне Багародзіцы», алтарная перагародка, мастацкае афармленне аргана. Ва ўсіх касцёлах ёсць абразы XVII–XVIII стст.

Значны ўплыў на архітэктуру горада зрабіла пашырэнне ўплыву каталіцкай царквы. Каталіцкія ордэны вялі шырокую будоўлю, і культавыя пабудовы – спачатку драўляныя, а потым мураваныя – істотна змянялі архітэктурнае аблічча горада.



**Хрыстафор Весялоўскі (1636г.) Сармацкі партрэт XVII ст.**

**Х. Весялоўскі загадваў дзяржаўнай эканоміяй у Гародні. Пасля чумы, пажару і голаду 1624-1625 гг. ён унёс трэцюю частку ўсіх дабрачынных ахвяраванняў на адраджэнне нармальнага жыцця ў горадзе. Разам з партрэтамі ягонай прыёмнай дачкі Грызельды Сапегі і жонкі Аляксандры партрэт Х.Весялоўскага захоўваўся да 1966г. у Гарадзенскім Брыгіцкім кляштары.**



**Бернардзінскі жаночы(на першым плане) і бернардзінскі мужчынскі (на другім плане) кляштары. Малюнак Н. Орды 1856 г.**

## Каталіцкія храмы



Касцёл і кляштар бернардынаў



Езуіцкі касцёл Францішка Ксаверыя

Старэйшай святыняй Рынку горада быў парафіяльны касцёл **Унебаўзяцця Найсвяцейшай Маці Божай**. У XVII–XVIII стст. гэты будынак нішчыўся некалькі разоў: падчас акупацыі горада расійскімі войскамі (1655–1661), у Паўночную вайну, пры пажарах 1753, 1782 гг.

На колішняй вуліцы Віленскай (цяпер Савецкая) стаялі будынкі шпіталя і касцёла **святога Духа**. У архітэктуры касцёла спалучаліся рысы готыкі (спічастая форма скляпення і высокі шчыт) і рэнесансу (паўкруглая апсіда). Да грунтоўнай перабудовы шпітальнага будынка ў другой палове XVIII ст. прычыніўся віленскі біскуп Ігнацій Масальскі.

У 1596–1597 гг. у горадзе распачалося ўзвядзенне кляштара бернардынаў разам з касцёлам **Адшукання св. Крыжа.**

У 1605–1617 гг. касцёл быў грунтоўна перабудаваны. У архітэктуры касцёла спалучаюцца элементы готыкі (контрфорсы, спічастыя вокны апсіды), маньерызму і барока (галоўны фасад-шырма, дэкаратыўнае афармленне галоўнага алтара). Сучасны барокавы фасад быў узведзены ў 1682–1686 гг. У 1682 г. гэтаксама былі пабудаваны новыя корпусы кляштара. У 1788 г. свой сучасны выгляд атрымала касцёльная званіца, да якой дабудаваны два ярусы.

У 20-30-я гады XVII ст. у Гродне заснавалі свае сядзібы шматлікія каталіцкія ордэны. У 1622 г. тут пасяліліся езуіты. Каля 1637 г. паблізу Рынку манахі паставілі невялікі драўляны **касцёл св. Пятра і Паўла.** У 1678–1700 гг. яны ўзвялі мураваны храм, асвечаны ў імя Францішка Ксаверыя, а ў будынку старога размясцілі школу. Галоўны фасад касцёла ўпрыгожвалі карынфскія пілястры, каваныя дзверы, выкананыя ў 1744 г. кавалём Ежы Біршам, скульптуры апосталаў Пятра і Паўла, пастаўленыя разьбяром Георгіем Гісам у 1768 г., і св. Ксаверыя. Яны знаходзяцца ў арачных нішах. На адну з барочных вежаў у 1725 г. быў перанесены ратушны гадзіннік. У 1750–1752 гг. муляр Хрысціян Бурман надбудаваў вежы. Сваёй прыгажосцю вылучаўся інтэр'ер храма. Галоўны алтар касцёла пабудаваў у 1736–1737 гг. рэзчык Ян Хрысціян Шміт з Рэшаля. На пачатку XVIII ст. у касцёле пабудавана 12 бакавых алтароў, аўтарам праекта якіх быў Хрысціян Поўкер з Караляўца. Мастацкім элементам інтэр'ера з'яўляецца амбон, аздоблены скульптурнымі выявамі еван-

гелістаў і анёлаў, пазалочаны разьбой у стылі ракако. Майстар Ёган Майльфельт паставіў новыя канфесіяналы. У сярэдзіне XVIII ст. быў выкананы фрэскавы цыкл – 14 сюжэтных кампазіцый на тэму жыцця апекуна **касцёла св. Францішка Ксаверыя.**

У 30-я гады XVII ст. у Гродне з'явіліся дамініканцы. Фундатарам кляштара дамініканцаў быў мсціслаўскі ваявода Фрыдрык Сапега і ягоная жонка Крысціна з роду Пацеяў. Першыя пабудовы манахі паставілі з дрэва на вуліцы Віленскай (цяпер Савецкая). Пасля пажару 1708 г. пабудавалі мураваны барокавы **касцёл Найсвяцейшай Маці Божай.**

У 1737 г. пачалося ўзвядзенне двухпавярховага мураванага дамініканскага кляштара, якое расцягнулася ажно на 30 гадоў.

У 1621 г. на сродкі манаскіх пасагаў і з фундацыі літоўскага падканцлера Казіміра Сапегі былі ўзведзены будынкі кляштара бернардынак з барокавым касцёлам **Нараджэння Найсвяцейшай Маці Божай.**

У першай палове XVII ст. у горадзе заснавалі сваю сядзібу брыгіткі. Фундатарамі кляштара былі літоўскі маршалак Кшыштаф Весялоўскі і яго жонка Аляксандра Сабеская. Драўляны касцёл брыгітак пачалі ўзводзіць у 1642 г.

У 1645–1651 гг. манашкі паставілі **мураваны храм Дабравешчання Найсвяцейшай Маці Божай.** Барочны фасад касцёла ўпрыгожваюць фрыз, аформлены ў тэхніцы зграфіта, а кляштарную агароджу – раннебарочныя парталы з маньерыстычным арнаментам. У канцы XVII ст. на тэрыторыі кляштара быў пастаўлены **драўляны лямус,** які захаваўся да нашага часу.

У 1635 г. упіцкім старастам Яўстафіем дэ Курчам ды ягонай жонкай Зузанай Тышкевіч быў фундаваны кляштар францішканцаў. Францiш-



**Касцёл і кляштар дамініканаў**



**Касцёл і кляштар брыгітак**



**Лямус XVII ст. Знаходзіцца на тэрыторыі пабрыгіцкага кляштарнага комплекса**



Касцёл і кляштар францішканаў



Кляштар базыльянак. Пасля ліквідацыі царызмам уніяцкай царквы будынкі кляштара і касцёла перайшлі да праваслаўных

канцы пачалі будавацца на старадаўнім занёманскім рынку, ад якога вяла дарога да нёманскага перавозу. У крыніцах 1675 г. згадваецца драўляны **касцёл Маці Боскай Анёльскай,** на месцы якога ў першай палове XVIII ст. быў узведзены мураваны храм у стылі барока.

У другой палове XVII ст. у Гродне пасяліліся манахі ордэна кармелітаў босых. Новы барочны **касцёл імя Узвышэння Святога крыжа** быў узведзены ў сярэдзіне XVIII ст.

У 1673 г. была ліквідавана сядзіба гродзенскага кляштара аўгустыянцаў, заснаванага ў часы Аляксандра Казіміравіча ў канцы XV ст. У 1688 г. манахі-аўгустыянцы звярнуліся да караля Яна III Сабескага з просьбай аднавіць кляштар. Адзіным ордэнам, які ў XVIII ст. узвёў у Гродне кляштар, былі баніфраты. Кляштарныя пабудовы знаходзіліся на вуліцы Дзям'янаўскай (сучасная вуліца Свярдлова). У XVII–XVIII стст. у Гродне існавалі два у ніяцкія манастыры. Мужчынскі базыльянскі манастыр знаходзіўся побач з **Барысаглебскай царквой на Каложы,** жаночы – ля сярэднявечнай царквы **Прачыстай Багародзіцы.**

Драўляныя збудаванні базыльянак у 1655 г. былі знішчаны. У 1720–1751 гг. на сродкі мітрапаліта Лявона Кішкі быў узведзены новы мураваны **кляштар Раства Багародзіцы** з царквой. Аўтарам праекта будоўлі быў італьянскі архітэктар Юзаф Фантана.



Касцёл імя Узвышэння Святога Крыжа ордэна Кармелітаў

## 2. Тэатральнае жыццё.

У 1650–1754 гг. пры езуіцкай калегіі існаваў школьны тэатр. Па дайшоўшых да нас звестках адбылося 26 пастановак на лацінскай і польскай мовах. Іх аўтарамі былі настаўнікі паэтыкі і рыторыкі. Сюжэты чэрпаліся імі са Свяшчэннага пісання, агіяграфій ці апісання жыцця святых, антычнай міфалогіі і гісторыі. У часы Тызенгаўза быў заснаваны новы тэатр і ўзведзены яго будынак. Тэатр складаўся з вакальнай групы і балетнай трупы. Першая ў 1776 г. налічвала 17 чалавек, другая мела ў 1779 г. больш за 30 чалавек. Вядомы гродзенскія пастаноўкі камедый «Севільскі цырульнік» П.Бамаршэ, «Вясковы балет» і «Балет пекараў» І.Пецінеці, оперы «Маніфік» («Непараўнальны») А. Грэтры.

## 3. Музычнае жыццё.

Музыка займала значнае месца ў школьных спектаклях езуіцкага калегіума (1650–1754). Пастаноўкі ўключалі інструментальныя, вакальныя і танцавальныя нумары. У названых вышэй касцёлах былі арганы і хоры.

У музычным жыцці Гродна XVIII ст. вялікую ролю адыгралі гродзенскія капэла музыкальнай бурсы езуітаў і капэла Тызенгаўза. Першая пачала дзейнічаць у 1707 г., мела ў 1773 г. 11 інструменталістаў і вакалістаў, уключала 7 скрыпак, басэтлю, квартвіёлу, 5 труб, 5 валторнаў, 2 флейты, арган і іншыя інструменты. У рэпертуары былі творы царкоўнай і свецкай музыкі. Капэла Тызенгаўза – адзін з найбуйнейшых і высокапрафесійных калектываў у ВКЛ. У яе склад уваходзілі італьянскі кампазітар і капельмайстар Абатэ, чэхі Эндэрле і Геранім, мясцовыя музыканты. У 1779 г. налічвалася 30 музыкантаў і 7 «хлопцаў з капэлы» (вучняў). Музыканты атрымоўвалі адукацыю ў Гродзенскай музычна-тэатральнай школе, пры дварах магнатаў у Нясвіжы і Слоніме. У рэпертуары капэлы былі араторыі, сімфоніі, месы, побытавая музыка, музыка да сцэнічных твораў. Тызенгаўз напісаў месу і, магчыма, кантату. У 1780 г. капэла ўвайшла ў склад Нацыянальнага тэатра ў Варшаве. З Гродна звязаны некаторыя унікальныя музычныя факты – выступленне ў 1795 г. рагавога аркестра, раннія звесткі пра існаванне балалайкі і гармоніка (выява першага захоўваецца на фрэсках Францішканскага касцёла, а на другім граў музыкант Беня для Станіслава Аўгуста ў 1795 г.).




"Тэатр А.Тызенгаўза", пабудаваны пасля адстаўкі Антонія Тызенгаўза, але паводле яго плану.

## 4. Асвета.

Пытаннямі адукацыі займаліся манаскія ордэны і брацкія



Музычная школа “Крывая афіцына”, пабудавана па праекце Джузэпе Сака ў 1780г. Рэканструкцыя

школы перш за ўсё езуітаў, піяраў і базіліян. Побач з езуіцкім касцёлам быў узведзены езуіцкі калегіум – сярэдняя навучальная ўстанова.

У час рэфармацыйных пераўтварэнняў Антонія Тызенгаўза ў горадзе з’явілася першая свецкая навучальная ўстанова. Медыцынская акадэмія на чале з Жанам-Эмануэлем Жыліберам.

Відавочна, што Гродна апошняй трэці XVIII ст. з'яўляўся цэнтрам развіцця культуры ў краі. Ён вабіў, запрашаў, затрымліваў дзеячаў культуры і навукі з розных краін Еўропы. Аднак росквіт яго быў непрацяглы. Уваходжанне ў склад Расійскай імперыі па выніках гвалтоўнага трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай цалкам змяніла жыццё гараджан.

## Адукацыя



**Бібліятэка гродзенскага езуіцкага кляштара** вылучалася багатай літаратурай, якая прапаноўвалася вучням калегіума. Вядома, што езуіты выкладалі навукі і выхоўвалі па самых перадавых методыках, адукацыя, атрыманая ад іх настаўнікаў, лічылася адной з лепшых. Кнігі, якія дазвалялася чытаць студэнтам, распавядалі пра апошнія дасягненні навук. І толькі кнігі з адзінаццатай шафы маглі быць дадзены для карыстання з асобнага дазволу вышэйшага кіраўніцтва калегіума і не кожнаму вучню. Гэта былі выданні, унесеныя ў сумнавядомы «Індэкс забароненых кніг».



Гарадзенская медыцынская акадэмія часоў А.Тызенгаўза. Малюнак Н. Орды

## Адукацыя

**Медыцынская акадэмія ў Гродне.** Шпіталь на 60 ложкаў, кабінет натуральнай гісторыі з багатай калекцыяй мінералаў, гербарыяў, фізічных прылад, шкілетаў жывёл і людзей, калекцыя 300 гравюр раслін на медзі – усё гэта было прадметам гонару Жана-Эмануэля Жылібера і яго паплечнікаў Хінсельмана і Караля-Юзэфа Вірыёна. Асобным прадметам гонару была бібліятэка з 3000 тамоў. Тут была Французская энцыклапедыя Дзідро, энцыклапедыя Планшэ, рэдкія медыцынскія і астранамічныя выданні. Багаты кніжны фонд гэтай бібліятэкі – найвялікшай у XVIII стагоддзі на Гарадзеншчыне – быў перададзены ў Віленскі ўніверсітэт. Над уваходам у анатамічны кабінет акадэміі было напісана: «Тут сама смерць на карысць чалавецтву абарачаецца». Была заснавана школа акушэрак. Цяпер у будынку Медыцынскай акадэміі, спраектаваным Джузэпе Сака ў 1786 г. і архітэктурна змененым у канцы XIX ст., знаходзіцца ваенная ўстанова.

## Пытанні і заданні

1. Што ў мастацкім жыцці Гродна XVII–XVIII стст. сведчыць аб агульнаеўрапейскіх уплывах?
2. Раскажыце пра езуіцкі тэатр і тэатр Антонія Тызенгаўза.
3. Якія калектывы адыгрывалі галоўную ролю ў музычным жыцці горада ў разглядаемы час?
4. Якія істотныя перамены адбыліся ў арганізацыі адукацыі Гродна ў часы А. Тызенгаўза?
5. Раскажыце аб Медыцынскай акадэміі ў Гродне.
6. Назавіце архітэктурныя стылі, уласцівыя забудове горада ў адзначаны час.
9. Раскажыце пра культавыя аб'екты, якія існавалі ў горадзе ў XVII-XVIII стст.
10. Як называўся самы стары касцёл горада, і дзе ён знаходзіўся?



Галоўны алтар езуіцкага касцёла. Разбяр Ян Шмідт з Каралеўца 1736 г.



Гарадзенскі абраз Маці Божай Кангрэгацкай (Студэнцкай) XVII ст.



„Сцена з жыцця св. Фрацішка Ксаверыя”. Гарадзенскі езуіцкі касцёл 1752 г.



Амбон езуіцкага касцёла, зроблены ў сярэдзіне XVIII ст. у стылі ракако



**Інтэр'ер касцёла Кармелітаў перад разбурэннем 1904 г.**



**Інтэр'ер Брігіцкага касцёла ў 1930-я гг.**



**Абраз "Танец Смерці". XVII ст.**

# Гродна ў складзе Расійскай імперыі (1795-1917гг.)

## § 21. Губернскі Гродна

**Пасля азнаямлення з параграфам вы павінны:**

- ведаць, якія перамены ў адміністрацыйным і тэрытарыяльным статусе горада адбыліся пасля ўваходжання яго ў склад Расійскай Імперыі;
- умець расказваць аб змесце герба Літоўска-Гродзенскай губерні;
- аналізаваць змены ў сацыяльна-палітычным жыцці Гродна як губернскага горада;
- правільна фармуляваць і ўжываць наступныя паняцці і назвы: маршалак шляхты, Дваранскі дэпутацкі сход, гарадская дума

“

*«Цень бясконцай імперыіі ценю Фары даўжэй.».*
***Алесь Чобат, беларускі паэт і публіцыст***



Герб Гродзенскай губерні 1802 г.

### 1. Адміністрацыйны статус горада.

Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай паводле ўказа Кацярыны II ад 14 снежня 1795 года была створана Слонімская губерня, у склад якой у якасці цэнтра павета ўвайшоў Гродна. У ім знаходзіліся павятовыя ўлады (адміністрацыйная і судовая) і гараднічы. Потым Гродна лічыўся павятовым горадам Літоўскай губерні. А калі паводле ўказа Аляксандра I ад 9 (21) верасня 1801 года Літоўская губерня была падзелена на Віленскую і Літоўска-Гродзенскую (так яна называлася да 1840 г.) губерні, наш горад стаў губернскім цэнтрам. Фактычна, Літоўска-Гродзенская губерня пачала існаваць з 1 (13) студзеня 1802 г., калі а 12 гадзіне апоўначы адбылося першае пасяджэнне губернскага праўлення. Прызначаны літоўскім генерал-губернатарам Л.Л. Бенігсенам чыноўнікі сабраліся ў былым палацы Тызенгаўза, дзе размяшчаліся губернскія ўстановы.

Гродна стаў губернскім цэнтрам з эканамічных меркаванняў. Да таго ж горад меў добрыя будынкі, у якіх можна было размясціць губернскія ўлады.



Гусары Расійскай імперыі 1809-1811 гг. На першым плане афіцэр гродзенскага гусарскага палка.



Гродзенскі палац Тызенгауза. У XIX ст. быў рэзідэнцыяй гродзенскіх губернатараў. Разбураны ў 1915 г.

Гродзенскую губерню склалі Брэсцкі, Гродзенскі, Ваўкавыскі, Кобрынскі, Лідскі, Навагрудскі, Пружанскі і Слонімскі паветы. З 1843 года ў склад губерні ўключаліся Беластоцкі, Бельскі (злучаны з Драгічынскім) і Сакольскі паветы.

Цікава, што зноў узнікла пытанне аб губернскім горадзе. Гродна «перамог» Беласток. Гэта было абумоўлена дэмаграфічнымі паказчыкамі, геаграфічнай зручнасцю для развіцця эканомікі, гістарычнай спадчынай. Такое адміністрацыйна-тэрытарыяльнае ўладкаванне захоўвалася да 1921 г.

11 (23) ліпеня 1802 г. Найвышэйшым указам Сената быў зацверджаны герб Літоўска-Гродзенскай губерні: у верхняй частцы шчыта на чырвоным полі размяшчаўся «ездок в латах, скачущий на белом коне в правую сторону, у которого в правой руке поднятая вверх сабля, а на левой надет серебряной щит с красным осьмиконечным крестом» (Пагоня), у ніжняй – выява зубра на сярэбраным полі; пасля 1845 г. на шчыце застаўся толькі зубр на чырвоным полі. У 1878 г. была зменена выява зубра («золотой зубр с черными глазами и языком»), гербу нададзены расійская імператарская карона, стужкі і лісце дуба.

## 2. Гродзенскія губернатары.

28 жніўня (9 верасня) 1802 г. былі зацверджаны штаты прысутных месцаў Гродзенскай губерні. Вышэйшай службовай асобай губерні, надзеленай адміністрацыйнай, судовай, ваеннай і палітычнай уладай, з'яўляўся губернатар. Ён прызначаўся царом па прадстаўленні міністра ўнутраных спраў з ліку асоб, якія належалі да вышэйшых колаў імперскага дваранства.

Сярод гродзенскіх губернатараў былі самыя розныя асобы: масон Міхаіл Бутаўт-Анджэйковіч, ініцыятары даследавання Друскеніцкіх крыніц Міхаіл Бабяцінскі і Георгій Дапель-



Лявонці Бенігсен
(1745 - 1826 гг.)
Расійскі ваеначальнік



**Ксаверы Друцкі-Любецкі. Гродзенскі губернатар з 22.01 па 20.07. 1816 г.**



**Міхаіл Мураўёў-Вешальнік. Гродзенскі губернатар з 24.08.1831 па 12.01.1835 г.**



**Пётр Сталыпін. Гродзенскі губернатар з 30.05.1902 па 15.02.1903 г.**

майер, браты рэвалюцыянераў Стэфан Урсын-Нямцэвіч і Дзмітры Крапоткін; вешальнік польскіх і беларускіх паўстанцаў Міхаіл Мураўёў; рэфарматары Ксаверы Друцкі-Любецкі і Пётр Сталыпін.

Тры асобы кіравалі Гродзенскай губерняй у трагічны час вайны 1812 г. Ад уваходжання французскіх войскаў у Гродна 30 чэрвеня да стварэння Гродзенскай канфедэрацыі 4 ліпеня Жазэфам Банапартам быў прызначаны губернатарам камандзір дывізіі лёгкай кавалерыі Аляксандр Ражнецкі. Пасля яго губернатарстваваў некалькі дзён (не пазней як да Мірскай бітвы 9 – 10 ліпеня) былы варшаўскі губернатар, камандуючы 18-й дывізіі V корпуса Людвік Камянецкі. З 21 ліпеня ўлада перайшла ў рукі французскага маршала ле Бруна.

## 3. Губернская сістэма кіравання.

Другой асобаю ў губерні быў віцэ-губернатар. Ён павінен быў быць непасрэдным памочнікам губернатара па ўсіх пытаннях кіравання. Віцэ-губернатар наглядаў за справаводствам, добраўладкаваннем і парадкам у губернскім праўленні і канцылярыях іншых прысутных месцаў. У адсутнасць губернатара выконваў яго абавязкі.

Паводле «Учреждения для управления губерний», агульнае кіраванне губерняй ажыццяўляла губернскае праўленне. У яго склад уваходзілі губернатар, некалькі дарадцаў, віцэ-губернатар і губернскі пракурор. У кампе-




**Пячатка Гродзенскай гарадской управы**

тэнцыю губернскага праўлення ўваходзіла выкананне некаторых судовых функцый.

У губернскім горадзе дзейнічаў магістрат. Ён вырашаў пытанні эканамічнага і культурнага жыцця горада, а таксама судовыя справы па крымінальных злачынствах. Пасля гарадской рэформы 1870 г. справа кіравання горадам была даручана гарадской думе (выбарнаму органу гараджан на аснове маёмаснага і ўзроставага цэнзаў) і гарадской управе – выканаўчаму органу думы, які складаўся з 2 – 3 асоб, выбраных думай. На чале гарадской управы быў галава, які адначасова з'яўляўся старшынёй думы. Сябры ўправы займаліся пытаннямі гаспадаркі і добраўпарадкавання гарадоў, супрацьпажарнымі мерапрыемствамі, ажыццяўлялі нагляд за развіццём мясцовай эканомікі, культуры, надавалі ўвагу пытанням аховы здароўя і адукацыі.

У Гродне знаходзілася сядзіба дваранскага дэпутацкага сходу, дзе былі канцылярыя губернскага маршала, архіў дваранс-



Гродна. Рынкавая плошча. Малюнак Н. Орды 1856 г.

тва, памяшканні для пасяджэнняў. Падчас з’ездаў дваранскіх дэпутатаў жыццё Гродна на два тыдні актывізавалася і напаўнялася новымі падзеямі і асобамі. На павятовых дваранскіх сходах вырашаліся саслоўныя справы павятовага маштабу: складанне спісу дваран з вызначэннем праў кожнага з іх на ўдзел у пасяджэннях сходу, выбары дэпутата для рэвізіі справаздачы аб выкарыстанні і становішчы дваранскай казны, кандыдатаў на пасады ў павятовыя ўстановы.

У кампетэнцыю губернскага дваранскага сходу ўваходзілі: выбары на пасаду ў саслоўныя дваранскія органы (маршалкі, сакратар дваранскага сходу, засядацелі ў дваранскую апеку, верхні і ніжні земскі суды, “совестный” і павятовы суды і інш.); рашэнне пытанняў, прапанаваных урадам; права хадайніцтва праз спецыяльна абраную дэпутацыю перад генерал-губернатарам, Сенатам і царом; вядзенне дваранскіх кніг і выключэнне з дваранства; складанне капіталаў для саслоўных патрэб; распараджэнне маёмасцю дваранскага таварыства.

На дваранскіх сходах выбіралі маршалка шляхты (пас-



Знак члена гродзенскай гарадской управы.




Адметныя рысы Гродзенскай губерні на выявах др. п. XIX ст.



Герб Гродзенскай губерні 1878 г.

ля паўстання 1863 г. гэтую пасаду ў Беларусі, таксама, як і ў Расіі, пачалі афіцыйна называць «прадвадзіцелем дваранства». Пасля паўстання 1863 г. выбарнасць дваранскіх службовых пасадаў у Беларусі ўвогуле была скасаваная). Павятовы прадвадзіцель дваранства загадваў унутранымі справамі дваранскай карпарацыі: кіраваў пасяджэннямі сходаў, апекаваў сірот і хворых, выдаваў пасведчанні аб дваранскім паходжанні. На практыцы павятовыя прадвадзіцелі дваранства былі актыўнымі дзеячамі мясцовай адміністрацыйнай улады: старшынствавалі на пасяджэннях павятовых дарожна-будаўнічых, воспавых, харчовых і іншых камітэтаў і камісій, збіралі для начальнікаў губерняў статыстычны матэрыял аб ураджайнасці, цэнах на харчаванне і будаўнічыя матэрыялы, аплаце падаткаў.

## Пытанні і заданні

1. Калі і як была створана Гродзенская губерня?
2. Што ў атрыбутыцы губернскага горада сведчыла аб яго правінцыйным становішчы ў складзе Расіі?
3. Пра якія рысы дзяржаўнай палітыкі ў беларускім краі сведчыла губернская сістэма кіравання?

# §22. Гродна ў вайне 1812 года

**Пасля азнаямлення з параграфам вы павінны:**

- **умець характарызаваць акупацыю Гродна напалеонаўскімі войскамі;**
- **аналізаваць наступствы вайны для горада і яго гараджан;**
- **правільна фармуляваць і ўжываць наступныя паняцці і назвы: Гродзенская канфедэрацыя, Гродзенскі дыстрыкт, муніцыпальная рада.**

## 1. Напярэдадні франка-расійскай вайны.

Вялікае нашэсце Напалеона на Расію не абмінула наш горад. На заходняй мяжы Расійскай імперыі знаходзіліся тры расійскія арміі. Частка войск была размешчана на тэрыторыі Гродзенскай губерні. У Гродне кватараваў Данскі казачы корпус атамана Мацвея Платава (7 палкоў). Некаторы час у палацы графа Валіцкага (былы архіерэйскі дом на Гарадніцы, зараз вул. Горкага, 2) жыў корпусны начальнік Ф. Вінцэнгеродэ. Улічваючы стратэгічную ролю Гродзенскай губерні, Аляксандр I па дарозе ў Вільню 17 мая 1812 г. заехаў у Гродна, дзе правёў агляд войск, аддаў шмат загадаў губернатару Васілю Ланскому.

Рыхтуючыся да вайны, Напалеон таксама звярнуў увагу на Гродзеншчыну. Паводле яго задумы, тут павінна была адбыцца генеральная бітва, якая вырашыла б лёс вайны. Захопам Гродна завяршылася б Нёманска-Віленская аперацыя, пасля чаго французскі імператар меркаваў застацца на зімоўку ў Смаленску і Мінску.

Напярэдадні вайны пачалася эвакуацыя з Гродна. У Віленскую казённую палату адправілі грошы. У Пскоў трэба было вывезці з вайсковай казённай аптэкі



Палац Валіцкага. Малюнак Н. Орды XIX ст.

*«Вайна! Не было на Літве ні куточка, ні пушчы, дзе гук бы яе не дайшоў».*
***Адам Міцкевіч «Пан Тадэвуш.»***



Мацвей Платаў (1753-1818 гг.). Генерал ад кавалерыі расійскага імператарскага войска, атаман войска Данскога.

лекі, з Сафійскай царквы – багатыя рызы і царкоўнае начынне. Апошнія абозы з казённай маёмасцю, амуніцыяй, зброяй і прадуктамі харчавання пакідалі Гродна 28 чэрвеня пад агнём ворага. Разам з чыноўнікамі Гродна пакінулі губернатар Васіль Ланскі і віцэ-губернатар Міхаіл Бутаўт-Анджэйковіч.

## 2. Гродна падчас французскага панавання.



**Жэром Банапарт (1784-1860 гг.) Малодшы брат Напалеона, Вестфальскі кароль,камандуючы правым крылом "Вялікай арміі".**

Абарончыя баі з Напалеонам ля Гродна вёў Мацвей Платаў. Яму супрацьстаяў авангард Жэрома Банапарта. Батальёну ўнутранай аховы на чале з прапаршчыкам Іўшыным не ўдалося стрымаць напалеонаўскія войскі. Казакі Платава адыходзілі з Гродна праз Бераставіцу — Ліду — Шчучын.

Гродна заняла лёгкая кавалерыя Юзафа Панятоўскага, пляменніка апошняга караля польскага і вялікага князя літоўскага. Гэта было зроблена французскім камандаваннем для таго, каб падкрэсліць, што «польскі» горад вызваліла польскае войска. Сам Жэром Банапарт са світаю ў 80 коннікаў 30 чэрвеня з'явіўся ў Гродне. Перад горадам яго сустрэў новы мэр, а шляхта і чыноўнікі-палякі віталі караля Вестфальскага на кватэры, у каменным доме віцэ-губернатара Максімовіча (цяпер будынак, які належыць Гродзенскаму аблвыканкаму па вул. Э. Ажэшкі, 3). Галоўны штаб размясціўся ў доме Валіцкага, а Панятоўскі - у губернатарскім доме. З 1 па 3 ліпеня ў Гродне знаходзілася французская кавалерыя. 4 ліпеня Жэром Банапарт пакінуў Гродна і накіраваўся на Наваградак, каб дагнаць адступаючую 2-ю армію Баграціёна.



**Юзаф Панятоўскі (1763-1813 гг.). Ваенны і дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай, князь, маршал Францыі. У час паходу Напалеона ў Расію камандаваў 5-м корпусам "Вялікай арміі".**

Калі баявыя дзеянні перамясціліся на ўсход, лад гарадскога жыцця падпарадкаваўся французскай адміністрацыйнай палітыцы. Па даручэнні Жэрома Банапарта была склікана Гродзенская канфедэрацыя. Яна стала часткаю Генеральнай канфедэрацыі Княства Польскага. У горадзе была створана рада пад старшынствам маршалка Людвіка Панцажынскага. У склад яе ўвайшлі 12 чалавек, яны ўтварылі чатыры аддзелы: правіянцкі, паліцэйскі, фінансавы, палітычны. Аднак праз 15 дзён, 29 ліпеня ў Гродна прыехаў упаўнаважаны Камісіі часовага ўрада ВКЛ князь Антон Гедройц, і пад яго кіраўніцтвам была арганізавана новая структура мясцовай улады.



Дом віцэ-губернатара Максімовіча. Сёння адзін з будынкаў аблвыканкаму (вул. Ажэшкі).

Былі створаны органы кіравання дэпартамента: прэфектура, функцыі якой выконвала адміністрацыйная камісія Гродзенскага дыстрыкта; падпрэфектура з павятовай камісіяй горада; муніцыпальная рада на чале з мэрам. Ім стаў былы гродзенскі дэлегат у Найвышэйшай радзе літоўскага народа ў 1794 г. Францішак Мучынскі. Рада складалася з аддзяленняў - паліцэйскага, фінансавага, правіянцкага, кватэрмайстарскага і богаўгодных спраў. У паліцэйскіх адносінах Гродна быў падзелены на тры кварталы, на чале якіх стаялі назіральнікі. Разам з тым, у Гродне заставаліся ваенны губернатар дэпартамента генерал барон ле Брун, камендант горада Лебрэн і інтэндант Шасенон.

Горад падтрымаў Напалеона. Шмат дабраахвотнікаў далучаліся да французскага войска. Дзейнасць усіх створаных мясцовых адміністрацыйных органаў была накіравана галоўным чынам на забеспячэнне напалеонаўскай арміі. У шпіталі на 1200 чалавек, які ўтрымліваўся за кошт грашовай павіннасці жыхароў горада і Гродзенскага дыстрыкта, лячыліся салдаты і афіцэры напалеонаўскай арміі.

Усе гродзенцы павінны былі плаціць падаходны падатак на карысць новай улады. Акрамя гэтага, было шмат іншых грашовых пабораў: «асабовае адзіначасовае ахвяраванне», часовы падатак з асоб духоўнага звання, даплаты пры наборы рэкрутаў, на ўтрыманне жандараў і г.д. Сучаснікі адзначалі, што «нельга было разабрацца, дзе заканчваецца рэквізіцыя і пачынаецца рабаўніцтва». У Гродне быў разрабаваны езуіцкі касцёл, Сафійскі сабор пераўтвораны ў склад для сена, аўса і збожжа. Адсюль забралі ўсё начынне, выламалі іканастас, абразы выкарыстоўвалі замест дроў. Гродзенцы прынялі ўдзел у арганізацыі вайсковых фарміраванняў Народнай гвардыі якая



Аляксандр Ражнецкі (1774-1849 гг.). На чале 4-й кавалерыйскай дывізіі Напалеона (28-й і 29-й брыгад уланаў), ён 25 чэрвеня ўвайшоў у Гродна. Быў Гродзенскім губернатарам да пачатку ліпеня 1812 г.



Дзяніс Давыдаў (1784-1839 гг.). Падпалкоўнік Ахтырскага гусарскага палка расійскага войска, паэт.

складалася з дзвюх рот агульнай колькасцю 290 чалавек.

### 3. Вяртанне расійскай улады.

Увосень і ўзімку 1812 года ваенныя дзеянні вярнуліся на Гродзеншчыну. 20 снежня авангард партызанскага атрада Дзяніса Давыдава сутыкнуўся каля Гродна з аванпастамі аўстрыйскага корпуса. Апошні налічваў каля 3 - 4 тысяч чалавек пяхоты і кавалерыі, 30 гармат, але войскі генерала Фрэйліха адышлі без бою. Дзяніс Давыдаў увайшоў у Гродна 21 снежня. На Парадней плошчы ён зачытаў гродзенцам свой зварот і аддаў шмат загадаў аб кіраванні горадам. Насельніцтва ў кароткі тэрмін павінна было здаць усю агнястрэльную зброю і спаліць алегарычныя карціны, якія праслаўлялі французаў, а на іх месцы размясціць тыя, якія «праслаўляюць вызваліцеля Расіі ад нашэсця адукаваных варвараў». Для патрулявання па горадзе «дзённа і ночна» была выдзелена сотня казакаў. Ксяндзу загадвалася сказаць у касцёле прамову, у якой ён павінен быў праклясці Напалеона, яго войска і саюзнікаў, «ухваліць расійскага імператара, народ і войска».

Усе магазіны і склады былі апячатаны, каля іх выстаўлены каравулы. Кіраўнік габрэйскай грамады – кагала павінен быў скласці спіс усіх чыноўнікаў і абываценляў, якія запісаліся на службу Варшаўскага Княства. Усе гарадскія чыноўнікі павінны былі з’явіцца да Давыдава з віншаваннямі. Горад быў асветлены, цэлыя суткі гучалі званы ва ўсіх цэрквах.

У Гродне Давыдаў жыў насуп-



Эпізод кампаніі 1812 г. Мастак А. Лалоз

## Факт у гісторыі

**З выступу Дзяніса Давыдава перад гродзенцамі 20 снежня 1812 года:**

“- По приему, сделанному русскому войску жителями Гродна, я вижу, что до них ещё не дошел слух о событиях; вот они: Россия свободна, все наши силы вступили в Вильну 1-го декабря, теперь они за Неманом. Из полумиллионной неприятельской армии и тысячи орудий, при ней находившихся, только пятнадцать тысяч солдат и четыре пушки перешли обратно за Неман. Господа поляки! В черном платье! Редкий из вас не лишился ближнего по родству или по дружбе: из 80 тысяч ваших войск, дерзнувших вступить в пределы наши, пятьсот только бегут восвояси; прочие – валяются на большой дороге, морозом окостенелые и засыпанные снегом русским. Я вошел сюда по средству мирного договора: мог то же сделать силою оружия, но я пожертвовал славою отряда моего для спасения города, принадлежащего России, ибо вам известно, что битва на улицах кончается грабежами в домах, а грабеж пожарами…»

рацъ Ратушы, у пакоях старажытнага палаца Радзівілаў. 25 снежня ён атрымаў загад рухацца на Ганёндз (цяпер мястэчка ў Польшчы). Атрад выступіў без затрымкі, аднак сам Давыдаў з прычыны хваробы вымушаны быў застацца ў Гродне яшчэ на пяць дзён. Пасля адыходу атрада Давыдава ў горад увайшла рэгулярная расійская кавалерыя. Напамінам аб падзеях 1812 года з’яўляецца помнік генерал-лейтэнанту Сяргею Ланскому, удзельніку гэтай вайны, пастаўлены на гродзенскіх праваслаўных могілках Партрэт яго знаходзіцца ў галерэі 1812 года Зімовага палаца ў Санкт-Пецярбурзе.






**Помнік расійскаму генерал-лейтэнанту Сяргею Ланскому на гродзенскіх праваслаўных могілках.**

### Пытанні і заданні

1. Якую ролю адыгрываў Гродна ў планах Расіі і Францыі напярэдадні вайны?
2. Апішыце становішча ў горадзе падчас французскай акупацыі.
3. Як у Гродна вярнулася расійская ўлада?
4. Падрыхтуйце рэферат на тэму «Французскі акупацыйны рэжым у г. Гродна».

# § 23. Рэвалюцыйны і грамадскі рух у Гродне ў першай палове XIX ст.

**Успомніце падзеі паўстання 1794 года ў Гродне і ваколіцах.**

**Пасля азнаямлення з параграфам вы павінны:**

- **умець тлумачыць абставіны разгортвання рэвалюцыйнага руху на Гродзеншчыне і ў Гродне;**
- **вызначаць адметныя рысы рэвалюцыйнага руху ў Беларусі ў параўнанні з расійскім;**
- **расказваць аб месцах і будынках горада, звязаных з эпізодамі дзейнасці сяброў тайных арганізацый;**
- **параўноўваць характар падзей паўстання 1830–1831 гг. у Гродне з іншымі раёнамі паўстання;**
- **правільна фармуляваць і ўжываць наступныя паняцці і назвы: «Таварыства ваенных сяброў», масоны, «Сябры чалавецтва».**

*«1. Верыць толькі ў Бога.*
*2. Любіць усіх людзей... ».*
***Пункты абавязкаў таварыства «Заране».***



Міхал Рукевіч (1796-1841 гг.)



Канстанцін Ігельстром (1799-1851 гг.)

## 1. Рух дзекабрыстаў.

Месцазнаходжанне Гродна на заходніх рубяжах тагачаснай імперыі рабіла яго месцам масавага расквартаравання вайскоўцаў. З другога боку, гродзенская шляхта ўжо мела пэўны досвед жыцця пад уладай Расіі. Гарадзенцы яшчэ добра памяталі пра часы Тадэвуша Касцюшкі. Памяталі яны і пра супярэчлівыя падзеі вайны 1812 года. Усё гэта стала добрай глебаю для ідэй новага сацыяльна-палітычнага руху – дзекабрысцкага. Нягледзячы на правінцыяльны стан горада, некаторыя сябры патаемных дзекабрысцкіх таварыстваў былі звязаны з Гродна.

Летам 1825 г. у Літоўскім асобным корпусе, размеркаваным на тэрыторыі Гродзенскай губерні, афармілася тайная палітычная арганізацыя «Таварыства ваенных сяброў». Яе кіраўнікамі з'яўляліся былы філамат Міхаіл Рукевіч і афіцэр Канстанцін Ігельстром. Следчая камісія ў Беластоку дапытала і сясцёр Рукевіча – Карнелію і Ксаверыю. Яны не толькі ведалі пра існаванне тайнага таварыства, але і прымалі ўдзел у некаторых яго пасяджэннях. Сёстры Рукевіч зрабілі вялікую паслугу арганізацыі. Калі Ігельстрома арыштавалі, яго слуга Павел Паршнёў прывёз Ксаверыі зялёны куфэрак з паперамі.

Тое, што гэтыя дакументы не трапілі ў рукі следства, дапамагло «ваенным удзельнікам» прадставіць сябе ўдзельнікамі асветніцкай арганізацыі. І таму прысуды беластоцкага ваеннага суда былі больш мяккімі ў параўнанні з прысудамі Пецярбургскага следчага камітэта. Па царскай канфірмацыі «сясцёр шляхціца Рукевіча Ксаверыю і Карнелію замест вызначанай ім Яго Высокасцю карай трымаць у кляштары: Ксаверыю — адзін год, а Карнелію — шэсць месяцаў». Яны сядзелі ў гродзенскім

## Дакументы сведчаць

«Вярнуўшыся з Беластока ў Завыкі ў нядзелю, я знайшла сястру сваю, якая ад'язджала ў касцёл, і паслала з ёй амаль усіх людзей. Сама засталася ў хаце, дачакалася, калі штотыднёвы вартаўнік запаліў печ у маім пакоі. Спачатку паклала ў печ паперы, потым адарвала абцугамі ад куфэрка петлі, кінула ў печ спачатку крышку, а потым куфэрак з замком і жалезам. Петлі кінула ў кладоўку да іншых жалезных рэчаў, а ключык — у раку. Калі сястра вярнулася з касцёла і ўвайшла да мяне, дык у печы яшчэ гарэла, але ніякіх прымет спальвання куфэрка ўжо не было» (Ксаверыя Рукевіч).

кляштары брыгітак: Ксаверыя – з 22 мая 1827 па 3 чэрвеня 1828 г., Карнелія – з 22 мая па пачатак снежня 1827 г.

Пасля разгрому паўстання на Сенацкай плошчы ў Пецярбургзе, калі пачаліся арышты, праз наш горад у Варшаву спрабаваў выехаць паэт і дзекабрыст Вільгельм Кюхельбекер. З 19 па 22 студзеня 1825 г. ён знаходзіўся ў гродзенскай турме.



Вільгельм Кюхельбекер (1797-1846 гг.)

Дзекабрысты з Гродна былі расійскімі афіцэрамі, але адначасова яны з'яўляліся носьбітамі, традыцый і гістарычнай памяці. Гэта набліжала іх да філаматаў і філарэтаў і прымушала быць больш крытычнымі адносна расійскага дзекабрызму.

***Успомніце мэты і задачы дзекабрыстаў. Чым яны адрозніваліся ад мэт філаматаў і філарэтаў? Што іх аб'ядноўвала? Зрабіце ўласныя высновы аб гродзенскіх дзекабрыстах.***

### 2. Гродзенскае масонства.

Масонства ў вызначэнні розных даследчыкаў – гэта рэлігійна-філасофскі, рэлігійна-этычны, рэлігійна-містычны або маральна-рэлігійны рух. Масон (ад французскага слова franc.masoni – вольны муляр) – удзельнік гэтага руху, сябра асобнай арганізацыі, таварыства (ложы), структура і традыцыі якой запазычаныя ад сярэднявечных цэхаў будаўнікоў-муляроў. Масонства нарадзілася на пачатку XVIII ст. Масоны ў Гродне былі з часоў Рэчы Паспалітай. Сярод знакамітых гродзенцаў-масонаў таго часу можна прыгадаць Жана-Эмануэля Жылібера. «Сябры чалавецтва» – так называлі сябе



Пячаткі гродзенскай масонскай ложы "Сябры чалавецтва на ўсходзе".



Іван Дзібіч
(1785-1831 гг.).
Расійскі фельдмаршал

масоны, якія стварылі ў 1817 годзе ў Гродне ложу з такою назваю. Сярод вядомых гродзенцаў масонамі былі віцэ-маршалак, гаспадар Румлёўскага маёнтка Ігнаці Ляхніцкі, віцэ-губернатар Літоўска-Гродзенскай губерні Міхаіл Бутаўт-Анджэйкавіч, інспектар Гродзенскай управы Бернард Міхельсон, губернскі межавы суддзя Рамуальд Данкевіч. Росквіт масонства ў Беларусі прыходзіцца на 1816–1821 гг. Эліза Ажэшка ў сваіх «Успамінах» занатавала: «...Бацька мой быў вальнадумцам, як гэта тады называлася, вальтэрыянцам; ведаю, што паміж 1825 і 1840 гг. належаў да адной з масонскіх ложаў, якія існавалі ў Літве». Вядома, што Б. Паўлоўскі быў з 1821 г. масонам ІІІ ступені.

### 3. Паўстанне 1830-1831 гг. і яго наступствы.

З 13 снежня 1830 г. на землях Беларусі зноў было абвешчана ваеннае становішча. Разгортвалася Лістападаўскае паўстанне 1830-1831 гг. У Гродне і павятовых гарадах з'явіліся атрады казакаў для падтрымання парадку. За падазронымі асобамі ўсталявалі паліцэйскі нагляд. Самых уплывовых памешчыкаў губернатар запрасіў у Гродна і, па сутнасці, пасадзіў пад хатні арышт «да пазбаўлення ад хваробы». Адначасова ў жыхароў Гродна і памежных ваколіц (Гожа, Грандзічы, Пышкі ці Пярэселка, Чахаўшчызна) узялі падпіскі аб спыненні зносін з Каралеўствам Польскім, канфіскавалі значную колькасць зброі.



Памятны медаль
у гонар паўстання 1831 года.
Біты з медзі ў 1832 годзе

З 10 студзеня па 11 лютага 1831 года ў Гродне знаходзілася галоўная кватэра галоўнакамандуючага расійскай арміяй фельдмаршала графа Дзібіча-Забалканскага. Да 27 студзеня паміж Гродна–Беластокам–Брэстам сканцэнтравалася ўся расійская армія, якая 5–6 лютага перайшла мяжу, каб разбіць паўстанцаў на тэрыторыі Каралеўства Польскага. У Гродне арганізоўваюць харчовы склад, шпіталь на 1200 чалавек, артылерыйскі парк. Гродзенцаў можна было сустрэць у шэрагах паўстанцкіх партызанскіх атрадаў Яна Жылінскага і Казіміра Гоўвальда, якія дзейнічалі ў Гродзенскім павеце, а таксама ў атрадах Яўгена Ронкі і Карла Нямцэвіча, Якава Шрэцера ў Белавежскай пушчы. У маі-чэрвені 1831 года адбыліся выступленні вучняў Гродзенскай дамініканскай гімназіі.

З 8 снежня 1831 года ў Гродне засядалі губернскія следчыя



Паўстанец Прынёмання

камісіі «для вызначэння ступені віны мяцежнікаў, секвестра і канфіскацыі іх маёнткаў». Спісы ўдзельнікаў паўстання захаваліся ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў Гродне. Паўстанне было падаўлена, але напамін аб ім яшчэ працяглы час адчуваўся ў нашым горадзе.

Ужо пасля падаўлення паўстання працягваў змагацца ўраджэнец Слонімскага павета Міхал Валовіч, эмісар польскай рэвалюцыйнай эміграцыі, сябра «Таварыства Літоўскага і Рускіх зямель» і «Нацыянальнага Польскага камітэта» у Парыжы. Яму ўдалося стварыць невялікі партызанскі атрад, які ў адрозненне ад іншых складаўся ў асноўным з сялян (10 чалавек). Тры разы атрад Валовіча спрабаваў нападаць на пошту з мэтай захопу грошай, але няўдала. Не ўдалося наладзіць кантакты з суседнімі атрадамі. Арыштаваных паўстанцаў на Гродзеншчыне звозілі ў губернскі цэнтр, дзе трымалі ў астрозе, размешчаным у былым езуіцкім кляштары. Камендант горада стварыў Камісію ваеннага суда. Паводле яго рашэння 2 жніўня Міхал Валовіч быў павешаны каля Скідзельскай заставы (сёння раён аўтавакзала). За экзекуцыяй назірала шмат гарадзенцаў. Усяго ў Гродне праз суды прайшло каля 150 чалавек.




**Міхал Валовіч (1806-1833 гг.)**



**Падворак гарадзенскай турмы. Малюнак Н.Орды сяр. XIX ст.**

## Пытанні і заданні

1. **Якім чынам рух дзекабрыстаў быў звязаны з Гродна?**
2. **Якія падзеі адбываліся ў Гродне падчас паўстання 1830-1831 гг.?**
3. **Хто з эмісараў польскай эміграцыі дзейнічаў на Гродзеншчыне?**
4. **Раскажыце пра масонскі рух у Гродне.**
5. **Напішыце рэферат аб дзеячах паўстанцкага руху, звязаных з Гродна.**

# §24. Эканамічнае развіццё горада ў складзе Расійскай імперыі

**Якая эканамічная спадчына засталася ад рэформаў А. Тызенгаўза?**

**Пасля азнаямлення з параграфам вы павінны:**

- даваць ацэнку ўзроўню развіцця рамеснай і прамысловай вытворчасці Гродна;
- расказваць аб найбольш выбітных прыкладах прамысловай вытворчасці ў Гродне;
- параўноўваць узровень развіцця сельскай гаспадаркі і гандлю Гродна і іншых буйных гарадоў Беларусі;
- тлумачыць, якія перамены ў жыцці гараджан адбыліся ў сувязі з новымі тэхнічнымі вынаходніцтвамі на транспарце і ў сродках сувязі;
- правільна фармуляваць і ўжываць наступныя паняцці і назвы: Пецярбургска-Варшаўская чыгунка, Гродзенскі паштамт, Гродзенская паштова-тэлеграфная акруга, тытунёвая фабрыка Шарашэўскіх, маклерства, фактарства, ліхвяры.

*«Наогул гандаль Гародні значны, але куды меншы, чымся яму трэба было быць пры такім дагодным геаграфічным палажэнні гэтага месца».*
***Аркадзь Смоліч, беларускі палітык і географ***



**Герб Гродзенскага млынарскага цэху 1843 г.**



**Пячатка гродзенскага ганчарска-мулярскага цэха. Др.п. 40-х гг. XIX ст.**

## 1. Рамяство і прамысловасць.

Эканамічнае развіццё Гродна ў XIX ст. зведала ўсе перамены і рэформы, якія адбываліся ў Расійскай імперыі. Крызіс прыгону, буржуазныя рэформы, парэформеннае развіццё гаспадаркі, пачатак капіталістычных працэсаў, праявы нацыянальнай палітыкі самадзяржаўя ў эканоміцы – усё гэта адбівалася на тэмпах і характары гаспадарчага жыцця губернскага Гродна.

Спрадвеку горад жыў рамеснай вытворчасцю. У Гродне былі гарбары, краўцы, шаўцы, кушняры, шапашнікі, кавалі, ганчары, муляры, брукары, фурманы, піўвары і г.д. Колькасць гарадскіх рамеснікаў дасягала ў 1800 г. – 1699 чалавек, 1859 г. – 489, 1899 г. – 1982. Сярод іх няма-ла было габрэяў. Напрыклад, у 1835 годзе рамеснікамі былі 1269 габрэяў і 556 хрысціян. Значная частка рамеснікаў, як і раней была аб’яднана ў цэхі. У першай



**Сяляне з ваколіц Гродна**

палове XIX ст. цэхі паступова страчвалі свой уплыў на развіццё рамёстваў. У 1852 годзе Сенат Расійскай імперыі выдаў указ аб ліквідацыі цэхавай арганізацыі ў гарадах і мястэчках, дзе колькасць рамеснікаў была нязначная. 27 красавіка губернатар распарадзіўся перадаць маёмасць цэхаў стварaемым рамесным упраўленням у Гродне і Беластоку.

У XIX - пачатку XX ст. у Гродне пераважна развіваліся наступныя галіны прамысловасці, звязаныя

з мясцовай сыравінай: цукровая, піваварная, спіртавая, вінная, тытунёвая, мукамольная, дрэваапрацоўчая (лесапільныя, кардовыя прадпрыемствы), папяровая (фабрыкі пашпарту, альбомаў, канторскіх кніг, пераплётныя), сілікатна-будаўнічая (цагляныя, кафляныя, вапнавыя заводы), гарбарная (пальчаткавая фабрыка), тэкстыльная (суконныя і палатняныя прадпрыемствы). У 1806 годзе ў горадзе было 3 прадпрыемствы: тытунёвае, скуранное і шарсцяное; у 1821 годзе – 7 прадпрыемстваў. У гродзенскай індустрыі ў той час працавалі суконныя, капялюшныя, свечныя, касцяныя, цагляныя, тытунёвыя, піваварныя прадпрыемствы, млыны і друкарні. У канцы XIX стагоддзя часткаю гарадской прамысловасці становяцца коркавыя, кордавыя, вінакурныя, мёдаварныя, піваварныя, лесапільна-мукамольныя, цагляныя і адно механічнае прадпрыемствы.

Адным з найбуйнейшых прадпрыемстваў не толькі ў Гродне, але і ў Расійскай імперыі была тытунёва-махорачная фабрыка пецярбургскага купца Іосіфа Шарашэўскага. Пачатак яе дзейнасці прыходзіцца на 1862 г. У 1880-1896 гг. на фабрыцы было 3 паравыя машыны, 2 паравыя катлы, 3 прэсы, 3 сталы, 14 станкоў для рэзкі папе-




Тытунёвая фабрыка Шарашэўскага на вул. Маставой XIX ст.




Этыкетка вырабаў фабрыкі Шарашэўскага



Гродзенскі бровар. Быў створаны ў 1877 г. у былым палацы Сапегаў. Першым яго ўладальнікам быў аўстрыйскі купец Іосіф Кунц. У год стварэння піўзавода ў горадзе працавала яшчэ 4 меншыя бровары.



Запалкавая  фабрыка на вул. Ерусалімскай (сення вул. Антонава)




Выява Гродзенскай фабрыкі пераплётных вырабаў. Пач XX ст.

ры і 18 крышыльных станкоў. Колькасць рабочых, занятых на фабрыцы, пастаянна павялічвалася: у 1885 г. – 823 чал, у 1914 г. – 1400 чал. Яны выраблялі тытунь, цыгары, папяросы, курыльную і нюхальную махорку. На базе тытунёва-махорачнай фабрыкі ў 1906 годзе было створана акцыянернае таварыства "Шарашэўскіх".

Далёка за межамі горада былі вядомы тытунёвыя мануфактуры Эльяшава і Ваўка, Фінкельштэйна, таварыства «Ручной труд» і цагельныя заводы князя В. Друцкага-Любецкага і А. Бадылькеса, піваварныя прадпрыемствы Кунца і Слуцкага, вінакурныя заводы А.Ф. Яффе і Веллера; лесапільні Шалопа і С.Ландаў.

## 2. Гандаль і сфера абслугоўвання.

У 1845 годзе з дазволу Міністэрства ўнутраных спраў у Гродне быў заснаваны Іванаўскі кірмаш, які пачынаўся 25–26 чэрвеня і працягваўся адзін месяц. Аднак



Гродзенскі кірмаш на Сенным рынку. Фота пач. XX ст. (унутраны двор дамоў паміж Фарным і  Бернардынскім касцёламі).




Рэклама тагачаснай гродзенскай крамы.

ён не вытрымліваў канкурэнцыі з Зэльвенскім кірмашом. Таму ў 1857 годзе гродзенскі губернатар хадайнічаў аб пераносе кірмашу з Зэльвы ў Гродна, але Міністэрства ўнутраных спраў гэтую прапанову адхіліла. Сяляне прывозілі ў горад зерне, крупы, мёд, воск, хмель, солад, сена, скуры і інш. На гродзенскіх рынках гандлявалі рамеснікі і прамыслоўцы, якія задавальнялі патрэбы сялян і мяшчан. Сярод купецтва і гандляроў у XIX ст. пераважалі габрэі. У 1886 годзе ў Гродзенскай губерні яны складалі 84% ад усіх гандляроў, але ў гандлёвым звароце на іх долю прыпадала толькі 66%. У сярэднім абароты купца-хрысціяніна перавышалі абароты купца-габрэя ў 3 разы.

Паступова пашыралася сетка стацыянарнага гандлю: лавак, піцейных дамоў, тракціраў і «рэйнскіх» паграбоў, дзе прадавалі спіртныя напоі. У кафейнях і кандытарскіх можна было паласавацца печывам, піражнымі, цукеркамі, тортамі, выпіць кавы або гарбаты. У харчэўні можна было доб-



Параход “Дэвайціс” у раёне маёнтка Панямунь, 1903 год. Ужо ў пачатку XX ст. па Нёмане хадзілі каля паўтара дзясятка пасажырска-грузавых параходаў, якія здзяйснялі рэгулярныя рэйсы ў Масты, Друскенікі, Коўна



Чыгуначны мост праз Нёман. Паштоўка. 1910г.

ра паесці. У пачатку 1860-х гг. з'явіліся ў Гродне першыя дзве крамы. Пасля адмены прыгоннага права гандлёвыя ўстановы сталі больш разнастайныя і адпавядалі развіццю капіталізма: лаўкі, крамы, аптовыя склады з большым асартыментам тавараў. Звычкаю гродзенцаў было завітаць у булачную Мураўёва або Акумішава, у аптэку Гінзбурга або Фейшнера, набыць тавары ў палатнянай лаўцы Смажановіча. Асобнае месца ў гарадскім гандлі займалі так званыя «каланіяльныя тавары»: тытунь, селядцы, гарбата. Модніцы Гродна не абыходзілі крамы абутку Шварца і Сокала, за вопраткаю яны ішлі да Гершуні, Грынберга альбо Ліўшыца. Жвава ішоў гандаль посудам у Вігорскага, мэбляй – у Піка і Вінштэйна. Усяго ў гарадскім гандлі функцыянавала 107 гандлёвых кропак.



Гродзенскі чыгуначны вакзал. Паштоўка. 1910г.




Паўночна-Заходні чыгуначны шлях (Варшава - Гродна - Вільня - Санкт-Пецярбург) 1862 г. Паштоўка пач. XX ст.

Значную ролю ў міжрэгіянальным і знешнім гандлі адыгрывала Гродзенская прыстань. У міжрэгіянальным гандлёвым абмене Гродна быў звязаны з Масквой, Кіевам, Харкавам, Палтавай, Краменчугом, Пецярбургам. Магазіны-склады гродзенскіх купцоў былі ў Маскве, Пецярбурзе, Адэсе, Кіеве, Вільні, Бярдзічаве. Памежнае месцазнаходжанне горада садзейнічала пасрэдніцкай дзейнасці купцоў і гандлю памешчыкаў з Каралеўствам Польскім, Аўстра-Венгрыяй, Прусіяй (Данцыг, Каралевец).

У сферы абслугоўвання працавалі пераплётныя майстэрні Р.Іонаса, Э.Лейзера, братоў Харыных, фотамайстэрні Якава Салавейчыка, Ліпы Блоха, Зельмана Карасіка. У горадзе было 13 пастаялых двароў, 65 піцейных дамоў, 4 вінныя склепы, шматлікія корчмы і харчэўні.

## 3. Шляхі зносін, банкі, сувязь.

На «Карте промышленности Европейской России...» 1842 г. бачна, што Гродна звязаны галоўнай паштовай дарогай з Саколкай-Беластокам-Бельскам і вялікай паштовай дарогай – з Лідай. Праз апошнюю Гродна звязваўся з Вільняй і Наваградкам. На «Карте сухопутных, водных и телеграфных сообщений Европейской России и Кавказского края» 1859 года да згаданых напрамкаў дадаліся новыя: вялікія паштовыя шляхі злучылі Гродна з Ваўкавыскам і Слонімам, праз Ліду і Наваградак – з Мінскам, праз апошні – з Барысавам – Оршай – Смаленскам; Бабруйскам і Магілёвам. Шаша злучыла Гродна з Беластокам, далей ішоў вялікі паштовы шлях на Бельск – Брэст, Варшаву.

Праз 25 гадоў пасля таго, як пачаўся рух па першай у Расійскай імперыі чыгунцы Пецярбург-Царскае Сяло, у 1862 годзе



**Сялянскі пазямельны банк. Пабудаваны ў 1913 г. Паводле праекта архітэктара Б. Астравунава. Прыклад архітэктуры стылю мадэрн. (Фота часоў Першай сусветнай вайны).**

была здадзена ў эксплуатацыю Пецярбургска-Варшаўская чыгунка. Беларускі ўчастак Гродна – Парэчча склаў 50 вёрстаў. Тады, у 1868 годзе, была адчынена чыгуначная станцыя 3-га класа ў Гродне. У 1886 годзе была пабудавана чыгунка Баранавічы –Слонім –Ваўкавыск –Гродна –Беласток, у 1907 годзе – Масты –Гродна.

Для паспяховага развіцця гандлю патрэбны адпаведны стан банкаўскай сістэмы. У 1883 годзе ў Гродна пачало дзейнічаць гродзенскае аддзяленне




**Паштова-тэлеграфная кантора па вул. Садовай. З пач. ХХ ст. вуліца займела назву Мураўёўская, цяпер - вул. Э. Ажэшкі**

Расійскага дзяржбанка. З 1885 года існуе Сялянскі пазямельны банк, які ў 1913 годзе пераехаў у новы будынак, што захаваўся да нашых дзён (вул. Леніна, 22). З канца XIX ст., акрамя названых, дзейнічалі: аддзяленне Пецярбургскага камісійнага Рускага гандлёва-прамысловага камерцыйнага банка, Таварыства ўзаемнага крэдыту, банкаўскія канторы «Ашкеназі», «Вайсбрэм», «Ландау», «А. Тарлоўскага». 24-8

З 1800 года на тэрыторыі Літоўскай губерні дзейнічае Літоўскі паштамт. Паштовая сувязь усё болей уніфікавалася з агульнарасійскай. Першы ў Гродне тэлеграф пачаў працаваць у 1843 годзе, і праз чатыры гады тэлеграфная лінія Гродзенскай губерні складала 153,5 вярсты, на якіх было размеркавана 18 пастоў (тэлеграфічных сігналаў). У 1861 годзе ў горадзе была адчынена электрамагнітная тэлеграфная станцыя, якая злучыла Гродна з Каралеўствам Польскім. З пабудовай чыгункі ў Гродне можна было карыстацца і яе тэлеграфам. У 1877 годзе з дапамогай тэлеграфа на чыгуначнай станцыі можна было перадаць тэлеграмы простыя, з аплачаным адказам, з паведамленнем аб дастаўцы, дэпешы з некалькімі адрасамі. Указам Сената Расійскай імперыі ад 1885 года. стваралася ўпраўленне Гродзенскай паштова-тэлеграфнай акругі. Першая тэлефонная станцыя была адчынена ў 1907 годзе. Яна звязала ў першую чаргу ўрадавыя ўстановы.



**Беларускія габрэі XIX ст.**

**Габрэйскі рамеснікі з'яўляліся рухаючай сілай эканомікі Гродна. У 1835 годзе ў горадзе працавала 556 рамеснікаў-хрысціян і аж 1269 рамеснікаў-габрэяў. У 1859 годзе з 575 рамеснікаў габрэі складалі 70%.**

## Пытанні і заданні

1. Прадстаўнікі якога рамяства працавалі ў горадзе?
2. Якія галіны прамысловай вытворчасці развіваліся ў Гродне?
3. Якія формы гандлю развіваліся ў горадзе?
4. Што сабой ўяўляла фінансавая дзейнасць і банкаўская сістэма?
5. Што сведчыць пра істотныя перамены ў развіцці транспарту і сувязі ў горадзе?
6. Якую ролю адыгрывалі ў эканамічным развіцці Гродна габрэі-прадпрымальнікі і гандляры?

# §25. Падзеі ў горадзе напярэдадні і падчас паўстання 1863 – 1864 гг.

**Успомніце падзеі паўстанняў 1794 і 1830-1831 гг. і іх наступствы**

**Пасля азнаямлення з параграфам вы павінны:**

- умець аргументавана апавядаць пра ўдзел гарадзенцаў у паўстанні 1863 –1864 гг.
- даваць ацэнку вынікам гэтых паўстанняў для жыхароў Гродна.
- параўноўваць ступень удзелу гродзенцаў у паўстанні з маштабамі паўстанцкага руху ў Беларусі.
- тлумачыць памятныя дошкі аб падзеях паўстання на будынках Новага замка і чыгуначнага вакзала ў Гродне.
- правільна фармуляваць і ўжываць наступныя паняцці і назвы: патрыятычныя спевы, гродзенская рэвалюцыйна-дэмакратычная арганізацыя, гродзенская ваенна-следчая камісія, камітэты "белых" і "чырвоных".

“

*«Славуты "мяцеж" у нашай старонцы грымеў даўжэй і з большым размахам, чым у суседняй Польшчы».*
***Сакрат Яновіч, беларускі пісьменнік***



**Кастусь Каліноўскі (1838-1864 гг.). Фота А. Банольдзі 1862 г.**

## 1. Прадвеснікі паўстання на Гродзеншчыне.

Подых хвалявання ў горадзе пачаў адчувацца яшчэ задоўга да непасрэдных падзей паўстання. У Фары Вітаўта спявалі патрыятычныя гімны, прамаўлялі палымяныя казанні, жанчыны і мужчыны апраналіся ў жалобную вопратку. З Якушоўкі, маёнтка бацькі, у Гродна для стварэння гродзенскай рэвалюцыйна-дэмакратычнай арганізацыі прыехаў Кастусь Каліноўскі. Арганізацыя дзейнічала ў 1861 – 1864 гг.: падрыхтавала і ўзначаліла паўстанне на тэрыторыі Гродзенскай губерні. На Саборнай вуліцы (цяпер – Савецкая, 7) Каліноўскі пражываў і, магчыма, рыхтаваў да выдання нелегальную газету «Мужыцкая праўда», якая выходзіла па-беларуску.

Улады ў адказ на паводзіны патрыятычна настроеных жыхароў праводзяць адпаведныя мерапрыемствы. 5 жніўня 1861 года была заведзена следчая справа на трох гарадзенскіх жыхароў за спяванне польскага гімна «Boże, coś Polskę»



MUŽYCKAJA PRAUDA.

**"Мужыцкая праўда" №6**

у Фарным касцёле. 23 жніўня генерал-губернатар Назімаў прадпісаў віленскаму, ковенскаму і гродзенскаму губернатарам прыняць надзвычайныя меры для спынення вызваленчага руху. Услед за гэтым у Гродна з Ваўкавыска пераводзіцца лёгкая 5-я батарэя 3-й палявой артылерыйскай брыгады. Гродзенскі паліцмайстар аб'явіў аб забароне спявання польскіх патрыятычных гімнаў і правядзення маніфестацый. На заставах з'явіліся ваенныя патрулі. 3 верасня ў Гродне і Гродзенскай губерні было абвешчана ваеннае становішча.

30 кастрычніка ў Гродне знайшлі адозву «Расійскім ваярам», у якой асуджаліся меры расійскага ўрада ў адносінах да заходніх губерняў Расійскай імперыі і гаварылася пра тое, што ад вольнасці Польшчы залежыць і вольнасць Расіі. У рапарце начальніка штаба корпуса жандараў гаварылася: «Некаторыя са служачых у Гродне і Вільні чыноўнікаў... распаўсюджваюць чуткі аб тым, што ў студзені ці лютым месяцы ў Каралеўстве Польскім адначасова з заходнімі губернямі выбухне рэвалюцыя, распаўсюджваюць сярод народа адозвы і нейкае пасланне ад імя каталіцкага духавенства ў Варшаве... Ахвяруюць з заробку 2 % на набыццё зброі». У снежні выйшаў пяты нумар «Мужыцкай праўды». Па ўсім было бачна, што нямала гараджанаў спачувала рэвалюцыянерам і падзяляла іх погляды. Праз хуткі час Гродна стане адным з цэнтраў вызваленчага ўзброенага паўстання.



Панарама Гродна. Фота другой пал. XIXст.



Сям'я Здановічаў. Сядзіць Аляксандар Здановіч, выкладчык Віленскага дваранскага інстытута. Стаіць разам з жонкай Ігнат Здановіч, сын Аляксандра, кандыдат матэматычных навук Пецярбургскага універсітэта. Ігнат Здановіч, паплечнік Кастуся Каліноўскага, быў паўстанцкім начальнікам Вільні. Павешаны паводле загаду Мураўёва ў снежні 1863 г. Здымак зроблены ў гродзенскай фотамайстэрні Штумана.

## Факты гісторыі

У Гродне была пабудавана невялікая, 3-га класа, чыгуначная станцыя, а вось у невялічкім Парэччы – значна большая, 2-га класа. Гэта было зроблена знарок інжынерамі і будаўнікамі чыгункі, французскімі падданымі з эмігрантаў-палякаў або іх нашчадкамі. Яны будавалі чыгунку з перспектывай выкарыстання яе ў будучым паўстанні. У 5-6 вярстах ад Парэчча ў напрамку Берштаў і Ліды пачыналіся буйныя лясы, дзе маглі размяшчацца базы паўстанцаў.



Паўстанцы выходзяць з Гродна на зборны пункт. Гравюра XIX ст.



Валер Урублеўскі (1836-1908 гг.)




Сцяг паўстанцаў

## 2. У полымі паўстання.

Надышоў 1863 г. У студзені Кастусь Каліноўскі і Валеры Урублеўскі стварылі гродзенскі рэвалюцыйны камітэт, улада якога распаўсюджваецца на пяць паветаў. Сябрамі яго сталі Эразм Заблоцкі, Ян Ванькові́ч, Станіслаў Сангін, Ян Казлоўскі, Фелікс Ражанскі. Камітэт «белых» узначальваў губернскі маршалак шляхты граф Віктар Стажынскі.

1 лютага 1863 года на тэрыторыі Гродзенскай губерні пачынаюцца ўзброеныя дзеянні паўстанцаў. А ўжо 26 студзеня рэскрыптам імператара Аляксандра III быў арганізаваны гродзенскі губернскі ваенна-следчы камітэт па палітычных справах.

9 сакавіка ў тэлеграме гродзенскага губернатара віленскаму генерал-губернатару Назімаву было напісана: «У Гродне ўсё спакойна». Але ён не ведаў пра падрыхтоўку выступлення.

17 сакавіка 1863 года губернатар Галер даносіў віленскаму генерал-губернатару: «Намер напасці на Гродна быў з учарашняга дня такі галосны, што мне паведаміла аб гэтым земская паліцыя». У канцы сакавіка паўнамоцным рэвалюцыйным камісарам Гродзенскага ваяводства (губерні) стаў Кастусь Каліноўскі. Месцам яго знаходжання быў Беласток. Пасля бою пад Мілавідамі Каліноўскі правёў



Царскія войскі. Злева направа: афіцэр пяхоты, фельфедбель лейб-гвардыі Літоўскага палка, шараговы пяхоты, жандар, драгун, казак.

у Гродне нараду, прыняў ад падначаленых рапарты, зрабіў новыя прызначэнні, аддаў загады. У ліпені 1863 года выйшаў сёмы (апошні) нумар «Мужыцкай праўды».

10 верасня 1863 года адбыліся новыя ператрусы на кватэрах 15 жыхароў Гродна. Арыштаваныя былі сябры гродзенскага гарадскога паўстанцкага кіравання. У кастрычніку ў Гродне і ваколіцах шырока распаўсюджваюцца адозвы цэнтральнай і ваяводскай паўстанцкай улады. Афіцыйная ўлада адказвае на гэта новымі ператрусамі, арыштамі падазроных. 11 лістапада гродзенскі губернатар Іван Скварцоў выдаў павятовым ваенным начальнікам загад аб пошуку Кастуся Каліноўскага. Узімку і ўвясну 1864 г. арышты працягваюцца. На поўную моц запрацавала гродзенская ваенна-следчая камісія па палітычных справах. Следства адкрыла ўладам, што губернскі горад пэўны час быў цэнтрам кіравання ўзброеным паўстаннем. Гродзенская шляхта была ў першых радах паўстанцаў. Гэтую актыўнасць гараджан у 1863 годзе расійскі ўрад не забудзе ніколі.




Рускі медаль за падаўленне "мяцяжа" 1863 г.



## Напамін пра гісторыю

**Памятная дошка на будынку чыгуначнага вакзала.**

14 сакавіка група моладзі (вучняў Гродзенскай гімназіі, служачых мясцовых органаў кіравання, рабочых і служачых чыгункі, служачых друкарні, аптэкарскіх вучняў – усіх каля 100 чалавек) на чале з начальнікам станцыі Лявонам Кульчыцкім паспрабавала выехаць цягніком з Гродна ў Парэчча з мэтаю злучэння з партызанскім атрадам Людвіка Нарбута. Машыніст Вінтар са сваім памочнікам Якімовічам паспелі адчапіць лакаматыў ад таварных вагонаў, у якіх знаходзіліся паўстанцы. З Кульчыцкім ад'ехала 7 ці 8 чалавек. Астатнія пасля кароткага бою разбегліся пад покрывам цемры. Казімір Самулінскі і Казімір Талочка былі паранены. Арганізатарамі выезду, магчыма, былі гродзенскі ваявода Эразм Заблоцкі і вайсковы начальнік Гродна Цалесцін Цэханоўскі. Сувязным ад атрада Нарбута быў у Гродне Вільгельм Грабоўскі. А ў Парэччы чакаў гродзенскую групу Баляслаў Нарбут, брат камандзіра паўстанцкага атрада Людвіка.

Самулінскі і Талочка прысудам ваенна-следчай камісіі былі пазбаўлены правоў стану і сасланы на тры гады катаржных работ. Зуброўскі і Далянскі пазбаўлены правоў стану і сасланы на жыхарства ў аддаленыя губерні: першы – у Пермскую, другі – у Табольскую. 16 чалавек прысуджаны да службы шараговымі ў сібірскіх вайсковых часцях. Маёмасць усіх прыгавораных канфіскоўвалася ў казну.

Памятная дошка ў гонар паўстанцаў 1863 г., усталяваная ў 1995 г. на будынку Чыгуначнага вакзала. Аўтары Ул. Панцялееў і Ю. Мацко



Чыгуначны вакзал. Агульны выгляд. Малюнак Н. Орды. Каля 1864 г.



Малюнак Н. Орды. 1865 г.

**"Дом Ромэраў". У пачатку 60-х гг. XIX ст. тут быў цэнтр, дзе збіралася дэмакратычна настроеная грамадскасць Гродна. Яго ўладальнік Севярын Ромэр за ўдзел у паўстанні 1863 - 1864 гг. быў высланы ў Табольскую губерню. Будынак быў канфіскаваны і пазней у ім адчынілі гатэль "Маскоўскі". У 1919 г. у гэтым будынку знаходзіўся ўрад БНР.**

## Сведчанне гісторыка

Паводле гісторыка Н. Лісейчыкавай, першую палову 1860-х гг. Гродна пражыў супраціўляючыся накінутай чужынскай уладзе. Пасля расстрэлу мірнай дэманстрацыі ў Варшаве ў лютым 1861 г. у моду ўвайшла так званая «нацыянальная жалоба». Галоўнай прыкметай жанчын-патрыётак з красавіка 1861 г робіцца жалобнае адзенне і гарыбальдаўкі. Мужчыны насілі жалобныя нашыўкі (плярэзы) на рукавах або каўнерах, канфедэраткі, венгеркі і доўгія боты. Акрамя таго, у моду ўвайшлі ўпрыгожванні (медальёны, завушніцы, бранзалеты, паясы, запінкі і інш.) з выразнымі эмблемамі, прычым, не толькі ўласна польскімі. Напрыклад, аднагаловы арол спалучаўся з Пагоняй - гербам ВКЛ. Пасля пачатку паўстання горад быў напоўнены расійскімі войскамі і жандарамі. Нашэнне жалобнай вопраткі было забаронена, ў крамах нельга было гаварыць на польскай мове, кожны чалавек вечарам павінен быў хадзіць па вуліцы з ліхтаром. Некалькі дзясяткаў гарадзенцаў выслалі ў Сібір, у горадзе адбыліся два пакаранні смерцю. Адное з іх апісана астрожным доктарам І.Мітрапольскім. Пакаранне мусіла адбыцца на плошчы перад астрогам а 6-й гадзіне раніцы. Плошча была запоўнена гараджанамі са злоснымі панурымі тварамі, жанчынамі са слязьмі на вачах. Брама астрога адчынілася, адтуль выйшаў бледны з мутнымі безжыццёвымі вачыма, невысокага росту чалавек. Прагучала каманда, асуджанага акружылі салдаты, ксёндз з крыжом і кнігай у руках стаў побач і картэж рушыў. Картэж рухаўся даволі хутка, асуджаны, часта спатыкаўся. На плошчы быў падрыхтаваны слуп, перад ім выкапаная яма. Прагучала каманда, быў прачытаны прысуд. На асуджанага апранулі саван. Ксёндз, які ўвесь шлях штосьці гаварыў асуджанаму на польскай мове, сказаў апошнія словы і паднёс да вуснаў асуджанага крыж. Чалавека прывязалі да слупа, завязалі вочы. Заракатаў барабан, наперад выйшлі дванадцаць радавых з унтэр-афіцэрам. Быў паданы знак, грымнулі дванадцаць стрэлаў і асуджаны, прывязаны да слупа, здрыгануўся, схіліў галаву.

### Пытанні і заданні

1. **Што адбывалася ў Гродне напярэдадні паўстання?**
2. **Хто ўзначальваў паўстанцкі камітэт у Гродне?**
3. **Чаму Гродна можна лічыць адным з цэнтраў паўстання 1863 г. у Беларусі?**
4. **Якія наступствы мела паўстанне 1863 г. для жыхароў нашага горада?**

# § 26. Гродзенцы ў час рэвалюцыі 1905 – 1907 гг.

**Успомніце асаблівасці сацыяльна-эканамічнага і грамадска-палітычнага жыцця ў Гродне і вызначце прычыны ўдзелу гродзенцаў у рэвалюцыі 1905-1907 гг.**

*«Калі ў памятным 1905 г. зрабілася завіруха, у Расіі ў кожнага чалавека стала будзіцца душа да новага жыцця, да новага шчасця, то і ў беларуса будзіцца стала пачуццё свайго Я, стала муляць доўга дрэмлючая думка, што і мы – людзі».*
***Янка Купала.***

**Пасля азнаямлення з параграфам вы павінны:**

- **ведаць палітычныя арганізацыі, якія ажыццяўлялі сваю дзейнасць у Гродне ў час рэвалюцыі;**
- **аргументавана апавядаць аб падзеях рэвалюцыйнай барацьбы ў горадзе;**
- **даваць ацэнку рэвалюцыйным падзеям у Гродне ў параўнанні з падзеямі на астатняй тэрыторыі Беларусі;**
- **правільна фармуляваць і ўжываць наступныя паняцці: сацыял-дэмакраты, Бунд, тэрор, “Наша Ніва”, Дума .**

## 1. Гурткі і партыі.

Рэвалюцыйны рух, які актыўна пашыраўся паўсюль у Расіі, знайшоў сваіх прыхільнікаў і ў Гродна. На рубяжы 80 – 90-х гг. у Гродне дзейнічаў рэвалюцыйны гурток на чале з Сяргеем Галюном. У ім гараджане знаёміліся з нелегальнай, у тым ліку і марксісцкай літаратурай.

Былі і іншыя гарадскія аб’яднанні рэвалюцыйнага зместу: марксісцкі гурток Пятра Шумава, аб’яднанні Бунда і Польская сацялістычная партыя (ППС). У студзені 1906 г. была створана Гродзенская група РСДРП. Таксама на рабочы рух у Гродне ўплывала сацыял-дэмакратыя Каралеўства Польскага і Літвы.




**Вуліца Мураўёўская (сёння вуліца Ажэшкі). У пач. XX ст. адна з цэнтральных вуліц Гродна, вяла да чыгуначнага вакзала**



**Вясна 1905 года. Малюнак С. Маслоўскага**

## 2. Рэвалюцыя на ўздыме.

Як вядома, рэвалюцыя пачалася з «крывавай нядзелі» 9 (22) студзеня 1905 г. у Пецярбурзе. Гэтая падзея доўгі час была асноўным фактам агітацыйнай дзейнасці партый у Гродне. 22 студзеня мясцовая арганізацыя РСДРП заклікала рабочых выйсці на вуліцы пад лозунгам «Прэч самадзяржаўе!», выпусціла лістоўкі, распаўсюдзіла пракламацыю «Да ўсіх грамадзянаў!», у якой гаварылася аб пачатку рэвалюцыі ў Расіі. 26 і 27 студзеня 1905 года на кватэрах Рэзнікоўскай і Міхлеўскага паліцыяй былі знойдзены друкарскія станкі і гектограф, шрыфты і пракламацыі на польскай і габрэйскай мовах з заклікам да ўдзелу ў рэвалюцыі.

У першы год рэвалюцыі ў Гродне, па няпоўных дадзеных, адбылося 76 пратэстаў. У іх прынялі ўдзел рабочыя перап-лётнай і тытунёвай фабрык, дзяржаўнай губернскай і прыватнай друкарняў, цагельні, гарбарняў, чыгункі, віннага склада. Страйкі насілі як эканамічны, так і палітычны характар.

Працоўныя горада святкавалі 1 мая. Гандлёва-прамысловае жыццё ў горадзе было спынена, вечарам былі запушчаны ў неба ракеты. Па вуліцах Дамініканскай і Мураўёўскай ППС і Бунд наладзілі дэманстрацыю. У рэвалюцыйных падзеях удзельні-

### Імя ў гісторыі

**Сяргей Фёдаравіч Галюн (11 кастрычніка 1866г., - ?)**. Скончыў ваенна-медыцынскую акадэмію ў Пецярбурзе (1891), у Гродна са снежня 1891 – урач 104-га Усцюжскага пяхотнага палка. З 1892 г. – сябра, а з 1893 – кіраўнік Гродзенскага рэвалюцыйнага гуртка. Арыштаваны ў жніўні 1894 г. і царскім указам ад 18.10.1895 г. выключаны з вайсковай службы, сасланы на жыхарства ў Астраханскую губ. пад нагляд паліцыі на тры гады. Пасля ссылкі жыў у эміграцыі, а з 1901 г. працаваў земскім урачом у Варонежскай і Цвярской губ.




**Будынак тагачаснага Пушкінскага вучылішча. Сення корпус Гуманітарнага каледжа.**

чала і вучнёўская моладзь: вучні габрэйскага рамеснага вучылішча, рэальнага вучылішча, гімназіі і гарадской школы імя А. Пушкіна.

Служачыя акруговага суда, казённай палаты, пажарнай каманды, паліцэйскія таксама ўдзельнічалі ў рэвалюцыйных падзеях. На барацьбу паўсталі нават вязні гродзенскай турмы. Пад кіраўніцтвам ваенна-рэвалюцыйнай арганізацыі на бок рэвалюцыі перайшлі салдаты Гродзенскага гарнізона: 26-й артылерыйскай брыгады, 103-га пяхотнага Петразаводскага палка, сапёры. Адбыліся салдацкія мітынгі. Падчас мітынгаў і дэманстрацый, маніфестацый і сходаў на вуліцах Мураўёўскай, Саборнай, Дамініканскай, Траецкай, плошчы Параднай, у Ласосна распаўсюджваліся ўлёткі, пракламацыі, адозвы, заклікі, часам раздаваліся стрэлы ў бок паліцыі і войска, узрывалі бомбы.

Знакамітую «Булыгінскую» думу прадстаўнікі абедзвюх сацыялістычных партый на сходзе каля старога форта за Нёманам прынялі рашэнне байкатаваць. А вось Маніфест 17 кастрычніка яны сустрэлі з радасцю. Па гэтай прычыне на многіх прадпрыемствах была спынена праца, у кафедральным саборы адбыўся ўрачысты малебен, губернатар зачытаў Маніфест, рабочыя спрабавалі вызваліць палітвязняў з турмы.

### 3. Адступленне рэвалюцыі.

У 1906 годзе ў горадзе адбылося, па няпоўных дадзеных, каля 33 выступленняў. Характэрнымі з'явамі гэтага года былі байкот выбараў у І Дзяржаўную думу, уцягванне ў барацьбу тых слаёў




**Наша Ніва, студзеньскі нумар 1908 года**

## Старонкі «Нашай Нівы»

«Наша ніва» за 19 студзеня 1907 г. паведамляла: «Гродна, 11 января. Двое неякіх людзей зранілі на вуліцы, стрэляючы з рэвольвэроў, – турэмнага надзірацеля Каханскаго і кінуліся на ўцёкі. Аднаго злавілі каля касцёла, і вялі ўжо; ў тым з народу пасыпаліся стрэлы параніўшые вёўшых, і той ўцёк. Другі схаваўся ў домик на Масцерскім пераулку, і стуль выстрэламі забіў акалодачнага і гарадавога. Жыцелі вышлі з таго дому і войска абстрэляла тое месца. Па гэтым знайшлі таго чалавека трупа, браўнінг і многа патронаў.»

## Старонкі «Нашай Нівы»

«11 лютага 1907 г. У Гродне архіерэй... адслужыў перад выбарамі абедню і казаў выбаршчыкам чарнасоценную пропаведзь (казанне). У гэтым казанні ён з крыжам у руках лаяў габрэяў з апошніх слоў, гаварыў, што найлепшыя сябры мужыкоў – толькі памешчыкі і прызваў выбіраць іх імем Хрыста. Да выбараў мужыкоў нікуды не пускалі, запёршы іх ў казённай кватэры. Мужыкі, ашалеўшыя і перапалоханыя архіерэем, усе прадаліся памешчыкам і выбралі ў Думу пяць мужыкоў не па сумленні, а па жаданні архіерэя і памешчыкаў.»




Вокладка часопіса "Школа", які выдаваўся ў Гродне ў 1900 г.

рабочага класа, якія не ўдзельнічалі ў рэвалюцыйным руху 1905 г.

Усеагульны палітычны страйк адбыўся ў Гродне 1 мая 1906 г. Шмат людзей выйшла на цэнтральныя вуліцы горада. Уласную маніфестацыю арганізавалі палітвязні гродзенскай турмы. Там быў вывешаны чырвоны сцяг. Неаднаразова стралялі ў паліцэйскіх і жандараў, кідалі бомбы ў фабрыкантаў Харына і Хазана, у прыстава Сачка, забілі за ўдзел у Беластоцкім габрэйскім пагроме жандарскага падпалкоўніка. Але ў асноўным адбываліся эканамічныя страйкі, бо крымінальнага пераследу за «мірны» ўдзел у іх не было. Вынікі барацьбы часцей за ўсё былі для рабочых паспяховымі: гаспадары прадпрыемстваў задавальнялі патрабаванні цалкам або часткова.

### 4. Заняпад рэвалюцыі.

Ва ўмовах пераходу ўрада да адкрытага ваеннага тэрору, распаўсюджвання ў Гродне «Палажэння аб узмоцненай ахове» колькасць выступленняў рэзка скарацілася да аднаго дзесятка за пяць месяцаў 1907 г. Ад страйкаў і мітынгаў працоўныя перайшлі да іншых формаў барацьбы – прафсаюзнай і выбар-



Карцары ў лагеры 103 пяхотнага петразаводскага палка ў Гродна. Паштоўка пач. ХХ ст.



**Парадная плошча. Паштоўка пач. XXст.**

чай. 13 – 17 сакавіка 1907 года адбыўся ўстаноўчы з'езд «Усеагульнага саюза гарбароў», на якім было прынята рашэнне аб стварэнні сацыял-дэмакратычных прафсаюзаў. 21 сакавіка гродзенскі прафсаюз рабочых-металістаў заклікаў байкатаваць фабрычную краму Левітана на фабрыцы Шарашэўскага, бо там прадаваліся тавары па завышаным кошце. Значна радзей адбываліся тэрарыстычныя акцыі. «Губернскія ведамасці» паведамлялі пра стрэлы ў турэмнага наглядальніка Каханскага.

Рэвалюцыя зыходзіла, і рэвалюцыйная актыўнасць гараджан была жорстка прыдушана шэрагам антырэвалюцыйных урадавых мер.

## Пытанні і заданні

1. Якія партыі дзейнічалі ў Гродне напярэдадні і ў час рэвалюцыі?
2. Як адчуваліся рэвалюцыйныя падзеі ў горадзе ў 1905 годзе?
3. Пералічыце асноўныя падзеі 1906-1907 гадоў рэвалюцыі.
4. Чаму рэвалюцыйны рух у нашым горадзе прывёў да актыўнасці габрэйскага насельніцтва горада?

# § 27. Гродна ў культурнай палітыцы Расійскай Імперыі

**Успомніце факты і падзеі з культурнага жыцця Гродна ў XVII-XVIII стст.**

**Пасля азнаямлення з параграфам вы павінны:**

- умець аргументавана расказваць аб стане культурнага жыцця горада ў часы Расійскай Імперыі;
- параўноўваць становішча ў Гродне ў галіне адукацыі і навукі са становішчам па ўсёй Беларусі;
- арыентавацца ў планіроўцы сучаснага горада, у якім засталіся пабудовы, гістарычна звязаныя з культурай XIX – пачатку XX ст.;
- правільна фармуляваць і ўжываць наступныя паняцці і назвы: кінатэатр «Эдэм», Гродзенскае таварыства аматараў драматычнага і музычнага мастацтва «Муза», «Памятная книжка Гродненской губернии», «Гродненские губернские ведомости».

> *«Тут складваўся пласт шматкультурнай інтэлігенцыі, прадстаўнікі якой залічалі сябе адначасова да некалькіх культураў. Традыцыя шматкультурнасці існавала на беларускіх землях здаўна. Яна дапамагала народам, якія тут жылі, ратавацца ад поўнай русіфікацыі, а пры спрыяльных умовах магла служыць невычэрпнай скарбніцай развіцця беларускай нацыянальнай элітарнай культуры».*
>
> ***Захар Шыбека, беларускі гісторык***

## 1. Адукацыя.

У 1800-1807 гг. у горадзе знаходзілася аддзяленне Пецярбургскага 1-га кадэцкага корпуса. Сюды перавялі заснаванае ў Шклове шляхецкае вучылішча. У 1801 годзе ствараецца народнае вучылішча. Была адкрыта ланкастэрская школа (школа навучання старэйшымі вучнямі малодшых). З 1825 года павятовае вучылішча было пераўтворана ў дамініканскую гімназію з трохкласным пры ёй вучылішчам і шляхетным пансіёнам, багатай бібліятэкай, добры-




Мужчынская класічная гімназія (вул.Саборная – сёння Савецкая). Паштоўка пач. XX ст.

## Імя ў гісторыі



**Яўстафій Арлоўскі (26 красавіка1863 – 15 снежня1913 гг., Гродна)** – педагог, гісторык і краязнавец. З 1885 г. жыў у Гродне і працаваў амаль трыццаць год у Гродзенскай гімназіі, выкладаў гісторыю, геаграфію і грэцкую мову. Ён быў, як тады казалі, «Настаўнікам - Чалавекам», «Чалавекам навукі». «Очерк истории Гродны», «Основание г. Гродны и его история до 1241 г.», «Исторический очерк Гродненской гимназии», «Гродненская старина. Часть 1. гор. Гродна» і іншыя – без гэтых прац Арлоўскага далейшае вывучэнне Гродзеншчыны проста немагчыма.



Е. Орловскій.

ГРОДНЕНСКАЯ СТАРИНА.

ЧАСТЬ I.

Гор. ГРОДНА.

Съ гравюрами.

ГРОДНА.

Вокладка "Гродзенскай старыны" Я.Арлоўскага

мі мінералагічным і заалагічным кабінетамі, хімічнай лабараторыяй. Гімназістамі вяліся метэаралагічныя назіранні, вынікі якіх накіроўваліся ў Віленскі ўніверсітэт. Аднак за ўдзел вучняў у паўстанні 1830 – 1831 гг. гімназія была зачынена, і з 1834 па 1915 г. на яе базе працавала мужчынская класічная гімназія. У 1915 г. у ёй навучаўся 621 чалавек. Настаўнікам гэтай гімназіі ў свой час працаваў Яўстафій Арлоўскі.

Сярод яе выпускнікоў нямала знакамітых асобаў краю. Гэта, напрыклад, Віктар Каліноўскі, брат героя вызваленчага паўстання 1863 г. Навукоўцамі сталі браты Урублеўскія: Зыгмунт – прафесар фізікі Ягелонскага ўніверсітэта, Эдвард – прафесар хіміі Пецярбургскага тэхналагічнага інстытута, Станіслаў – дырэктар Цэнтральнага ўпраўлення ваеннай прамысловасці Польшчы і Вітаўт – прафесар Вышэйшай тэхнічнай школы ў Варшаве. Сярод выпускнікоў гімназіі (1882 год) быў Эміль Абрамовіч, урач, адзін з першых прапагандыстаў




Жаночая Марыінская гімназія (сёння будынак ГрДзУ імя Янкі Купалы).

марксізму ў Беларусі. Наведваў у свой час гродзенскую гімназію Іван Саланевіч – журналіст, філасаф і пісьменнік, адзін з ідэолагаў манархічнага руху ў рускай эміграцыі пасля бальшавіцкай рэвалюцыі. Гродзенскім гімназістам быў Павел Аляксюк – старшыня Гродзенскага гуртка беларускай моладзі, карэспандэнт «Нашай Нівы», заснавальнік Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны (1915 год), адзін з ініцыятараў абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Гімназію скончыў і Станіслаў Юльян Касцялкоўскі, польскі гісторык, аўтар грунтоўнай манаграфіі «Антоній Тызенгаўз, надворны падскарбі літоўскі».

Пры евангелісцка-лютэранскай царкве з 1846 года пачала працаваць прыходская школа. З Супрасля было пераведзена ў Гродна павятовае духоўнае вучылішча. Сёння галоўны корпус ГрДУ імя Я. Купалы месціцца ў будынку былой жаночай Марыінскай гімназіі. У гэтай гімназіі дзяўчат навучалі рускай, нямецкай і французскай мовам, гісторыі і геаграфіі, арыфметыцы і геаметрыі, асновам педагогікі. "Памятныя кнігі Гродзенскай губерні", выдадзеныя на мяжы XIX – XX стст., паведамляюць пра мужчынскую прыватную гімназію М. Хныкіна, жаночую габрэйскую гімназію Т. Астрагорскай і Л. Вальдман, жаночую прыватную гімназію К. Баркоўскай. Сярод выпускніцаў апошняй у 1912 годзе была знакамітая беларуская пісьменніца і дзяячка Зоська Верас (Людвіка Сівіцкая). У 1890 годзе адчынілася Аляксандраўскае рамесніцкае 3-х класнае вучылішча, якое рыхтавала слесараў і токараў. Вельмі запатрабавана была гродзенская павівальная школа.

У горадзе існавала шмат габрэйскіх навучальных установаў: хедэры (давалі пачатковую адукацыю), талмуд-торы (з бясплатным навучаннем), з 1849-1854 гг. – казённыя мужчынскія вучылішчы 1 і 2 разрадаў, пачатковая жаночая школа, прыватныя пансіёны і гімназіі.



Зоська Верас (1892-1991 гг.). Сівіцкая Людвіка Антонаўна, па мужу Войцік. Беларуская дзіцячая пісьменніца, мемуарыст, публіцыст.



Будынак Гродзенскага хэдэра




Пячатка навучальнай установы г. Гродна



Лазар (Людвік) Заменгоф (1859 – 1917) – лекар і грамадскі дзеяч, стваральнік міжнароднай мовы эсперанта (што перакладаецца як "надзея"). З канца 1893 да канца 1897 гг. жыў у Гродне па вуліцы Паліцэйскай (цяпер Кірава) у доме №5, дзе меў прыватную практыку ўрача-акуліста. У 1896 г. разам з урачом В. Шэнбергам правёў агляд усіх гарадзенскіх дзяцей школьнага ўзросту на прадмет хваробаў зроку. Працягваў працаваць над удасканаленнем эсперанта, пераклаў на яе аповесць Э. Ажэшкі "Марта". У Гродне ёсць вуліца Л. Заменгофа. Дом па вуліцы Кірава, у якім ён жыў, знаходзіцца пад пагрозай разбурэння.

## 2. Навука. Таварыствы.

У 1834 г. была адкрыта гарадская публічная бібліятэка. У канцы стагоддзя ў ёй налічвалася 6719 тамоў кніг і перыёдыкі. Распаўсюджанай з'яваю пачатку XX ст. сталі разнастайныя культурныя таварыствы: літаратурна-музычнае, музычна-драматычны гурток, Гродзенскае таварыства аматараў драматычнага і музычнага мастацтва «Муза» (1907 - 1914 гг.), педагагічнае таварыства. Беларускія вечарыны са спектаклямі, мастацкім чытаннем і спевамі наладжвалі ў 1909-1914 гг. удзельнікі Гродзенскага гуртка беларускай моладзі.

Праца першай у Гродне беларускай арганізацыі пачалася са стварэння ўласнай бібліятэкі, куды сябры гуртка ахвяравалі гадавік «Нашай Нівы», кніжкі Францішка Багушэвіча ды «Люд беларускі» Аляксандра Федароўскага. Была наладжана сувязь з пецярбургскай суполкай «Загляне солнца і ў наша ваконца» і віленскай беларускай кнігарняй. Грошы, атрыманыя ад продажу беларускіх кніжак, якія гуртkoўцы абавязкова павінны былі браць на рэалізацыю, едучы дадому на святы ці канікулы, ішлі на патрэбы бібліятэкі і канцылярыі гуртка.

19 лютага 1910 года адбылася першая ў Гродне беларуская вечарына. Пачалася яна з уступнай прамовы Адама Бычкоўскага і рэферата Паўла Аляксюка «Беларусы і іх нацыянальнае адраджэнне», пасля чаго прагучалі вершы беларускіх паэтаў, граў струнны аркестр. Менавіта ў гэты дзень упершыню ў Гродна Ю. Касацкая і З. Абрамовіч праспявалі песню на словы купалаўскага верша «А хто там ідзе», якая стала гімнам беларускага руху. Іх справу працягваў у 1919 – 1921 гг. гродзенскі драматычны гурток Грамады беларускай моладзі.



Удзельнікі Гродзенскага гуртка беларускай моладзі

### Імя ў гісторыі

**Павел Баброўскі (02 красавіка1832 – 16 лістапада 1905 гг. )**. Афіцэр расійскага Генеральнага штаба. Падрыхтаваў два тамы асноўнага тэксту і два тамы дадаткаў «Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба. Гродненская губерния». Напісаў «Историко-статистический очерк города Гродно», «Законы движения народонаселения Гродненской губернии в 15-летний период: рождаемость, браки, смертность», «Исторические сведения о городах Гродненской губернии», «Историческая монография г. Гродно». Спадчына Паўла Баброўскага і цяпер з'яўляецца каштоўнай крыніцаю ведаў пра мінуўшчыну Гродна і Гродзеншчыны.

## Гісторыя сведчыць

**З успамінаў Людвікі Сівіцкай (Зоські Верас):** «1909 год. Восень. У маленькім памяшканні Францішка Грынкевіча ў Бернардынскіх мурах у Гродне сабралася невялікая грамадка моладзі. Былі там гімназісты апошніх класаў: Адам Бычкоўскі, Ф. Эйсмант, П. Аляксюк, сёстры Ганна і Марыя Салянкі, Галена Шэгідэвічанка (ужо закончыўшыя школу) і я – Людвіка Сівіцкая, вучаніца шостага класа. Абмеркавалі патрэбу стварэння сваёй арганізацыі, узгаднілі назву: «Горадзенскі гурток беларускай моладзі» (ГГБМ), абдумалі, якую зрабіць пячатку, і выбралі праўленне («урад») гуртка... На гэтым першым пасяджэнні праўленне гуртка абмеркавала план працы на бліжэйшы час і акрэсліла яго мэты: згуртаванне беларускай моладзі ў Гродне, галоўным чынам школьнай, самаасвета і шырокая сувязь з вёскай. Нашым кіраўніком быў школьны капелан кс. Францышак Грынкевіч. Гэтая акалічнасць мела істотнае значэнне, паколькі гурток быў нелегальны, а ў памяшканні кіраўніка мог параўнальна бяспечна праводзіць свае сходы».



Ксёндз Францішак Грынкевіч з роднымі

### 3. Мастацтва. Фатаграфія.

Лёсам – нараджэннем або кароткімі перыядамі жыцця – звязаны з Гродна нямала знакамітых людзей У 1797 г. у Гродне нарадзіўся мастак-баталіст Януары Сухадольскі. Пасля амністыі паўстанцаў 1830–1831 гг. ён пэўны час жыў у горадзе, дзе стварыў шэраг палотнаў, прысвечаных паўстанню, вайне 1812 г., руска-іранскай вайне. З 1837 па 1844 г. у горадзе жыў графік і жывапісец Міхал Кулеша. Вядомы яго ландшафтныя і архітэктурныя пейзажы «Царква Барыса і Глеба на Каложы ў Гродне» і «Стары і Новы замкі ў Гродне». У 1859 г. у Гродне нарадзіўся скульптар, акадэмік Акадэміі мастацтваў Ілля Гінцбург – аўтар надмагілля расійскаму крытыку У. Стасаву, помнікаў М. Гогалю, І. Айвазоўскаму, Д. Мендзялееву. Першыя гады жыцця звязвае з Гродна жывапісца, графіка і тэатральнага мастака Льва Бакста. У 1903 г. Гродна наведаў Мікалай Рэрых, напісаў тут эцюды Каложскай царквы.



Януары Сухадольскі (1797-1875 гг.)

Пачынаючы з 1860 г. у Гродне існаваў цэлы шэраг фотамайстэрань. У большасці з іх праца-



Напалеон Орда (1807-1883 гг.) – мастак, музыка. Удзельнік паўстання 1830-31 гг. 1860-1880-х гг. стварыў серыю сваіх знакамітых мастацкіх работ з выявамі гарадоў і мясцінаў Беларусі, Літвы і Польшчы. Сярод іх і каля 40 малюнкаў з выявамі Гродна.



Стары і новы замак. Малюнак М. Кулешы. 1845г.

валі сапраўдныя майстры сваёй справы. У гродзенскай гісторыі вядомы імёны: Ліпа Блох, Якаў Салавейчык, Зельман Карасік, Марк Рубінштэйн, Мордух Папірны. Дакументальныя і мастацкія кадры дазваляюць убачыць выгляд нашага горада, яго вуліцы або кварталы і параўнаць з сучасным іх вобразам, даюць магчымасць усвядоміць розныя гістарычныя падзеі – развіццё архітэктуры, жыллёвага і прамысловага будаўніцтва, транспарту. Адным з заснавальнікаў фотамастацтва ў Заходняй Беларусі быў выбітны фотамастак Ян Булгак (1876–1950). Сярод яго творчай спадчыны нямала здымкаў нашага горада.



Фотаздымкі і рэкламныя віньеткі гродзенскіх фотамайстроў.








### 4. Тэатр і кіно.

У 1802–1809 гг. у Гродне працаваў тэатр, арганізаваны артысткай і антрэпрэнёрам Саламеяй Дэшнер.Ставіліся французкія камічныя оперы і італьянская



Саламея Дэшнер (1759-1809 гг.)

опера-буфа, музычна-сцэнічныя пастаноўкі польскіх кампазітараў, драматычныя творы.

У другой палове XIX ст. у Гродне працавалі рускія антрэпрызы, таварыствы артыстаў. У іх рэпертуары былі ў асноўным вадэвілі, камедыі, меладрамы, п'есы расійскіх класікаў. У 1880-х гадах сцэна гродзенскага тэатра была здадзена па кантракту ўкраінскім артыстам пад кіраўніцтвам Васільева. У той час можна было паглядзець п'есы ўкраінскіх драматургаў. Аматарскія спектаклі з 1890 г. даваліся ў летнім тэатры, а таксама ў будынку ваеннага сходу. У 1894 г. гастраляваў выдатны балетны танцор і балетмайстар Марыус Петыпа.

У 1898 г. адбылася першая дэманстрацыя кінематографа, а ў 1915 г. адчыніўся кінатэатр «Эдэм» (цяпер кінатэатр «Чырвоная зорка»).

### 5. Музыка.

У XIX ст. музычнае жыццё канцэнтравалася ў навучальных установах. У прыватным пансіёне Філжана выкладаліся музыка і танцы. У мужчынскай гімназіі існаваў аркестр пад кіраўніцтвам І. Дабравольскага. У 1837 г. адбыўся канцэрт юнай гродзенскай скрыпачкі Тэафілі Юзафовіч (Бароўскай), якая потым будзе пакараць сэрцы расіян і палякаў. Не абміналі Гродна гастралюючыя музыканты. На вуліцах і плошчах горада гралі аркестры духавой музыкі – пажарнікаў і вайскоўцаў.




Афіша дабрачыннага канцэрта 1908 г. Сярод імёнаў арганізатараў прозвішча Элізы Ажэшкі.

### 6. Літаратура.

Нарадзілася і ўсё жыццё пражыла на Гродзеншчыне польская пісьменніца-дэмакратка, удзельніца паўстання 1863 года Эліза Ажэшка (1841 – 1910). Упершыню яна наведала Гродна ў 1849 г., потым летам



Эліза Ажэшка (1841 – 1910) на верандзе ўласнага дома. Здымак гродзенскага фотамайстра Рубінштэйна




Дом Элізы Ажэшкі па вул. Садовай (сёння вуліца носіць імя пісьменніцы)

1857 г.. жыла ў маёнтку маці ў Румлёва і бывала ў нашым горадзе. У бернардзінскім касцёле 21 студзеня 1858 года Эліза, тады Паўлоўская, пабралася шлюбам з Пятром Ажэшкам. З 1869 годзе яна пасялілася ў Гродне. Вядомы некалькі адрасоў пісьменніцы: дом пры Сенным завулку (каля вул. Свярдлова), а пасля пажару 1885 г. – дамы на вул. Палявой (Карбышава) і Пясочнай (Васілька).

З 1894 г. Эліза Ажэшка жыла ў доме на вуліцы Садовай (цяпер вул. Элізы Ажэшкі). Тут пісьменніца наладзіла патаемныя курсы па польскай мове, літаратуры, гіс-



Кабінет Элізы Ажэшкі ("пакой пад баранамі")

## Імя ў гісторыі


Пажар 1885 г. у Гродна. Малюнак Ч. Янкоўскага

29 мая 1885 г. у Гродне адбыўся моцны пажар. Ветранае і сухое надвор'е дазволіла агню хутка перакінуцца на цэнтральную частку горада. Ад пажару пацярпела 2392 сямейства, усяго душ 7105 чалавек. Для дапамогі пагарэльцам быў створаны часовы Камітэт. Актыўным яго сябрам стала Эліза Ажэшка. Працоўны дзень яе быў вельмі напружаны. Зранку яна раз'язджала па Гродне, выслухоўваючы просьбы і скаргі пацярпелых ад пажару, заспакойвала іх. Ажэшка вяла вялікую перапіску з дзеячамі культуры, заклікала іх дапамагчы пагарэльцам. Акрамя грошаў Ажэшка дапамагала людзям прадуктамі харчавання, рэчамі. «Смела можна сказаць, што Ажэшка была душою ўсёй выратавальнай акцыі, якая разгарнулася для няшчаснага Гродна ў цэлай правінцыі, у краі», – пісалі пра чулую жанчыну тагачасныя газеты.

торыі, культуры, тут размясцілася польская чытальня, адбываліся сходы польскай інтэлігенцыі падчас выбараў у Дзяржаўную думу і пасяджэнні таварыства «Музы». Эліза Ажэшка памерла 23 мая 1910 года. У апошні шлях яе прыйшлі праводзіць 15 тысяч гродзенцаў. Яна была пахавана на каталіцкіх могілках. Нашчадкам засталіся творы, на якія пісьменніцу натхніла Гродна: «Маёр Юзафовіч», «Дзюрдзі», «Над Нёманам», «Хам», «Арганаўты», «Gloria victis! » ды іншыя.

З 1892 па 1896 год у горадзе жыў будучы славуты беларускі


Пахаванне Элізы Ажэшкі ў Гродна



Максім Багдановіч
(1891-1917)



Адам Багдановіч
(1862-1940 гг.)
Бацька паэта.



Маці Марыя Апанасаўна
(1869-1896 гг.) з сынам
Максімам

паэт Максім Багдановіч. Бацька яго, Адам Багдановіч, прымаў удзел у культурным жыцці горада, супрацоўнічаў з газетай «Гродненские ведомости», збіраў беларускі фальклор. Выдаў у 1895 годзе кнігу «Пережитки древнего миросозерцания у белорусов. Этнографический очерк». Маці Максіма Марыя Афанасьеўна таксама мела літаратурныя здольнасці. Вядома, праўда, толькі адно яе апавяданне «Накануне Рождества», надрукаванае ў 1883 годзе ў «Гродненских губернских ведомостях». Яна пахавана на гродзенскіх праваслаўных могілках, на яе магіле ўсталяваны помнік працы скульптара Уладзіміра Панцялеева. Па вул. 1 Мая працуе музей Максіма Багдановіча, створаны напачатку 80-х гадоў XX ст. знакамітай гарадзенскай паэткай Данутай Бічэль.

***Новы Свет даўно не новы...***
*Побач – сад стары кляновы*
*На Малой Садовай вуліцы.*
*Вуліцы, згорбленай бабульцы,*
*Наш амаль вясковы домік.*
*Як забытых вершаў томік,*
*Як снапок валошкаў польных,*
*Запрашае ўсіх бяздольных,*
*Хто згубіўся ў часе нудным,*
*Хто жыве жыццём няўклюдным,*
*Хто ў натоўпе, нібы ў полі,*
*Хто сяброў не меў ніколі –*
*Запрашае абагрэцца*
*Ля паэтавага сэрца!*
*За драўлянымі дзвярыма*
*Неўмяручы свет Максіма...*
***Данута Бічэль «Домік Максіма Багдановіча ў Гародні на Новым Свеце», 1991.***

У 1890 – 1901 гг. і 1916 – 1918 гг. жыў і працаваў у Гродне Лейба Найдус – выбітны габрэй-



Дом – музей паэта ў Гродне



Лейба Найдус (1890-1918 гг.)

скі паэт і перакладчык. Творы Найдуса далі габрэйскай літаратуры новую тэматыку: захапленне прыродай, шчыльна знітаванай з чалавекам.

### 7. Друк, перыёдыка.

З 1838 па 1915 г. у губернскай друкарні друкавалася газета «Гродненские губернские ведомости». На жаль, поўная калекцыя гэтай газеты не захавалася ў беларускіх кнігасховішчах. З 1843 па 1846 г. выходзіў часопіс «Ундына друскеніцкіх крыніц». Шэсцьдзесят сем год, да 1915 г., гараджане і жыхары Гродзеншчыны карысталіся «Адрес-календарём и справочной книжкой Гродненской губернии». Як крыніцу па статыстычнай, дэмаграфічнай інфармацыі горада другой паловы XIX – пачатку XX стст. можна разглядаць 32 кнігі «Обзоров Гродненской губернии за ... год» і «Памятные книжки Гродненской дирекции народных училищ». З 1901 па 1915 г. праваслаўнае насельніцтва Гродна мела магчымасць чытаць газету «Гродненские епархиальные ведомости». Важнай падзеяй для адукаванай часткі гродзенцаў стала выданне гродзенскай друкарняй кніг па гісторыі аўтараў Яўстафія Арлоўскага, Уладзіміра Манасеіна, Дзмітрыя Мілюціна.




Газета "Губернскія ведамасці"




Гаспадарскі каляндар.




Памятная кніжка Гродзенскай губерні

### Пытанні і заданні

1. Якім быў узровень адукацыі?
2. Якія вы ведаеце гродзенскія навукова-асветніцкія ўстановы і таварыствы?
3. Якія мастакі і фотамастакі нарадзіліся, жылі і працавалі ў Гродне ?
4. Якім было музычнае і тэатральнае жыццё горада?
5. Назавіце гродзенскіх літаратараў часоў расійскага панавання.
6. Што вы можаце сказаць пра друк і перыёдыку тагачаснага горада?
7. Параўнайце развіццё культуры і адукацыі ў перыяд, калі Гродна знаходзіўся ў складзе Рэчы Паспалітай і Расійскай Імперыі. Знайдзіце агульныя і адметныя рысы.




**Галоўная сінагога Хаем Адам. Пабудавана каля 1575-1578 гг. Перабудавана у канцы XIX ст. Пасля пажару 1899 г. адрамантавана і набыла рысы стылю мадэрн. Вернута габрэйскай абшчыне на пачатку 1990-х гг.**

**Аляксандраўская (Аляксандра-Неўская) царква. Будаўніцтва царквы было пачата ў 1866 г. Праект храма быў падрыхтаваны архітэктарам Гур'евым, тэхнічная частка праекта была выканана архітэктарам Джэнеевым. У 1906–1907 гг. была праведзена яго рэканструкцыя: з заходняга боку прыбудаваны вялікі прытвор, узведзена некалькі новых купалоў. Разабрана ў 1938 г.**







**Гатэль «Еўропа» - "Большой Европейский" (самы лепшы ў горадзе). Дэкараваны разнастайнымі архітэктурнымі элементамі, з вялікай колькасцю чыгунных балконаў, гатэль "Еўропа" быў шэдэўрам гродзенскай эклектычнай архітэктуры. Быў разбураны савецкай уладай пасля Другой сусветнай вайны**




Кірха. Пабудавана на месцы тракціра часоў А. Тызенгаўза ў канцы 1870-х гадоў. Перабудавана ў 1912 г. Рашэннем гарвыканкама ад 28 верасня 1944 г. кірха была перададзена пад абласны архіў. Пры гэтым частка інтэр'ера храма – мэбля, люстры, арган былі адабраны і ўсталяваны ў зале паседжання гарвыканкама, у парткабінеце ды філармоніі. У пачатку 1990-х храм вернуты гродзенскай пратэстанцкай абшчыне

Свята-Пакроўскі сабор. Пабудаваны ў 1904-1910 гг. на ўшанаванне памяці афіцэраў і ніжніх чыноў 26-й артылерыйскай брыгады і іншых фарміраванняў расійскай арміі, якія загінулі ў расійска-японскай вайне 1904 - 1905 гг. Аўтар праекта храма – архітэктар М. Прозараў, будаўніцтвам кіраваў капітан-інжынер Іван Савельеў. Будынак пабудаваны па распрацаваным у 1900 г. узорным праекце вайсковай царквы для гарнізонаў Расійскай імперыі.



# Наш горад у войнах пачатку XX стагоддзя

## §28. Гродна ў гады Першай сусветнай вайны (1914 – 1918 гг.)

**Пасля азнаямлення з параграфам вы павінны:**

- **умець расказваць, карыстаючыся картай, аб ваенных падзеях і ўмовах жыцця гараджан у 1914 - 1918 гг.;**
- **аналізаваць дзейнасць грамадзянскіх і вайсковых улад у горадзе ў гады вайны;**
- **уяўляць акупацыйную палітыку немцаў у горадзе;**
- **ахарактарызаваць стан беларускага нацыянальнага руху ў акупаваным немцамі горадзе;**
- **ведаць наступствы вайны для горада і яго жыхароў;**
- **правільна фармуляваць і ўжываць наступныя паняцці і назвы: горад-крэпасць, Гродзенская крэпасная акруга, бежанства, кайзераўцы.**

“

*За што лілася кроў людская?*
*За што гібеў і гінуў люд?*
*Гібеў набытак усяго краю,*
*І пакаленняў гінуў труд.*

*І бег народ, бы ў час паморку,*
*Закрыўшы вочы, у белы свет,*
*І толькі дым уздымаўся горкі,*
*Крыжы азначылі іх след.*

***Якуб Колас. Ворагам (1916 г.)***

### 1. Горад-крэпасць у жніўні 1914 – жніўні 1915 гг.

У пачатку XX ст. Гродна быў адным з асноўных абарончых пунктаў заходняга рубяжа Расійскай імперыі. Пасля працяглых, амаль стогадовых захадаў расійскага камандавання па стварэнні на подступах да горада сучаснай ваеннай крэпасці такое ўмацаванне было збудавана. Гэта было здзейснена на працягу 1912 –1915 гг. І хаця ўмацаванні канчаткова дабудаваць не паспелі, 23 жніўня 1913 г. Гродна абвясцілі крэпасцю. Камендантам яе быў прызначаны 60-гадовы ге-

**Маўклівыя сведкі**



**Сучасны выгляд фартоў Гродзенскай крэпасці**

Форты Гродзенскай крэпасці захаваліся да сённяшняга часу. Найбольш ля Навумавічаў і Пагаран. Сваім выглядам яны сведчаць аб высокім узроўні ваенна-будаўнічага мастацтва таго часу: са знешняга боку, г.зн. з боку наступлення праціўніка, іх амаль не было відаць. Фарты быццам бы вырасталі з ўзвышшаў сваім магутным бетонным пакрыццём і мелі добры агляд мясцовасці наперад і па флангах. З «параднага» боку фарты выглядалі як волаты: да 150 м у даўжыню з шэрагам бетонных прыступак да лініі абароны, у выглядзе ланцуга ячэек у бетоне ў разліку на кожнага салдата. З двара хады вялі да сутарэнняў-памяшканняў. У самым нізе фартоў меліся шахты на выпадак падрыву. Наверх, праз бетон, былі выведзены металічныя трубы – паветразаборнікі.

## Дакумент сведчыць

**Стратэгічны агляд Гродзенскай крэпасці:** «1. Перагароджваць Санкт-Пецярбурскую чыгунку і шашу ад Аўгустава і Асаўца на Ліду пры перасячэнні іх з р. Нёман. 2. Аблегчыць свабоду дзеянняў... (расійскіх) войск на абодвух берагах р. Нёман, захоўваючы ў руках чыгуначныя і звычайныя пераправы цераз р. Нёман у Гродне. 3. Разам з умацаваннямі Коўна (цяпер Каўнас) і Аліты (цяпер Алітус) спрыяць наступленню (рускіх) ва Усходняй Прусіі ці трошкі на поўдзень, а таксама наступальнай абароне р. Нёман. 4. Быць апораю (расійскіх) войск перад Нёманам і па верхнім цячэнню р. Бобр. 5. У выпадку аддалення ад крэпасці (расійскіх) палявых войск, захоўваць у руках (расійскіх войск) пераправы цераз р. Нёман і Гродзенскі чыгуначны вузел».

нерал-лейтэнант ад інфантэрыі (пяхоты) Міхаіл Кайгародаў.

Гродзенская крэпасць уяўляла сабою магутнае абарончае збудаванне. Усе яе 13 фортаў і 24 апорныя пункты на адлегласці 8–15 км ад горада адпавядалі тагачаснаму ўзроўню фартыфікацыйнага будаўніцтва. Будаўніцтва крэпасці патрабавала вялікай колькасці працоўных рук жыхароў Гродна і навакольных паветаў.

Ператварэнне горада ў горад-крэпасць абумовіла наяўнасць у Гродне вялікай колькасці вайскоўцаў. Акрамя 12 дружын апалчэння, паветранай роты, крэпасць абаранялі часці: да жніўня 1915 г. – 10-ай, а пазней – 1-ай расійскіх армій. Вайну гараджане адчулі ў жніўні 1914 г. У «Гродненских губернских ведомостях» яны прачыталі адозву Мікалая II да польскага насельніцтва і словы падзякі за малітвы габрэям горада.

У кастрычніку расійскі цар завітаў у Гродна і агледзеў крэпасць. Перад вайной у Гродне налічвалася 57 949 чалавек. За час мабілізацый і ў выніку жахлівага бежанства ў 1914–1915 гг. насельніцтва паменшылася да 24 451 у 1916 г. З першых дзён вайны ў горадзе ўлады за-



Кулямётная каманда 303 Сенненскага палка. Ваколіцы Гродна. 1914 г.



Абраз Маці Божай Калажанскай. Святыня кан. XVII - пач. XVIII ст. Каложскай царквы Барыса-Глебскага мужчынскага кляштара. У 1915 г. пры эвакуацыі расейскіх войскаў быў вывезены ў Расею. Месца знаходжання дагэтуль не вядома.

## Сведка падзей

Протапрасвітар расійскай арміі Георгій Шавельскі са слоў М. Кайгародава: «...Крэпасць наша на той час яшчэ не была завершана. Недабудаваныя форты стаялі без гарматаў. У момант абвяшчэння вайны мяжа супраць крэпасці і сама крэпасць мелі абарону з чатырох палкоў і артылерыйскай брыгады – гэта была ўся наша моц. А насупраць... стаялі тры ці чатыры нямецкія карпусы. Ім нічога не каштавала разбіць нас і накіравацца трыумфальным крокам на Гродна і далей. Жах ахапіў насельніцтва Гродна. 20 ліпеня (2 жніўня) у 4 гадзіны дня гродзенскі архіепіскап Міхаіл з духавенствам служыў на плошчы набажэнства перад святыняю горада Гродна - Калажанскай Маці Божай, якую вынеслі на плошчу. Сабраўся ўвесь горад. Стогн стаяў ад плачу натоўпу... У той вечар Вільгельм павярнуў свае корпусы на Францыю. Гродна быў выратаваны.»

**Успомніце абставіны пачатку вайны. Што ў тагачасным становішчы ваенных падзей пацвярджае настрой, апісаны ва ўспамінах Георгія Шавельскага?**

баранілі ўжыванне нямецкай мовы, быў абмежаваны рух па аколіцах, пад кантролем знаходзіўся гандаль. Новы замак быў аддадзены пад ваенны шпіталь. У хуткім часе актыўнымі гараджанамі былі створаны «Обывательский комитет» на чале з князем Яўстафіем Сапегам, яго намеснікам ксяндзом Аляксандрам Чарняўскім і «Польскае таварыства дапамогі ахвярам вайны». У яго ўваходзіў, у прыватнасці, вядомы ўрач Аляксандр Тальгейм.

У студзені–лютым 1915 г. гарадзенцы сталі сведкамі спроб выратавання 20-га армейскага корпуса. Абкружаны немцамі ў Аўгустоўскіх лясах, ён прарываўся да гродзенскіх



Імператар Мікалай II на фартах Гродзенскай крэпасці




**Карта разгортвання карпусоў 10-й арміі пры наступленні 8 (21) лютага 1915 года (з кнігі М. Каменскага 1921 г.)**

пазіцый. Баі з удзелам часцей 15-га корпуса рускіх і крапасной артылерыі насілі выключна жорсткі характар. Асабліва крывавымі яны былі на вышыні 100,3 ля в. Рацічы. Але дапамога рускім войскам не прыйшла і неўзабаве 20-ы корпус быў амаль знішчаны.

## 2. Баі за Гродна (жнівень–верасень 1915 г.).

Горад і яго ваколіцы вясной былі ўцягнуты ў падзеі так званага «вялікага адступлення». Пад такой назваю засталіся ў гісторыі падзеі масавага, часта прымусовага, бежанства на-




**Штаб генерала 10-й арміі Ф. Сіверса знаходзіўся ў будынку рэальнага вучылішча (цяпер корпус аграрнага універсітэта на вул. Акадэмічнай)**



Расійскія салдаты на здымку гродзенскага фотамайстра З. Карасіка

сельніцтва з тэрыторый Польшчы і Літвы ўглыб Расіі ўлетку і ўвосень 1915 г. Праз Гродзеншчыну ішлі хвалі бежанцаў, у ліпені 1915 г. і Гродна стаў адным з рубяжоў абарончых баёў расійскай арміі, якая адступала пад націскам немцаў.

Штодзень палявыя пазіцыі крапаснога раёна абляталі аэрапланы кайзераўцаў, ішоў актыўны рух часцей праціўніка. Аднак напярэдадні чаканых баёў за крэпасць царскае камандаванне змяніла стратэгічнае бачанне

## Факт гісторыі

«Гарнізон IV форта, які складаўся з дзвюх рот, панёс незваротныя страты, у 4 гадзіны дня ён налічваў толькі да 50 чалавек, былі выведзены са строю ўсе кулямёты, а з ліку накіраваных на дапамогу дзвюх рот прабіліся толькі 60 чалавек. У 5 гадзін 30 хвілін немцы пачалі новы штурм IV фарта, але былі адбіты. І зноў гарматны абстрэл шрапнеллю і фугасамі. Колькасць абаронцаў скарацілася да 30 салдат на чале з камандзірам батальёна 95-га палка капітанам Наркевічам. У казематах форта знаходзілася да 150 параненых салдат. Немцы падняліся на апошні штурм. З форта вырваліся па камандзе капітана толькі 7 чалавек. Парахавое сутарэнне не было падарвана, бо было занята немцамі раней».



Форт Гродзенскай крэпасці (нямецкі здымак)



Расійская крэпасная гармата. Каля  аднаго з фартоў Гродзенскай крэпасці, занятага немцамі

ролі Гродна «...Крэпасць Гродна лічыць умацаванай пазіцыяй на фронце Нёман – Гродна – Брэст, прычым загадана прыступіць адразу да эвакуацыі крэпасных прыпасаў і маёмасці», – было напісана ў загадзе, што прыйшоў у ноч на 6 (19) жніўня 1915 г. Далейшыя баі за Гродна для расійскага камандавання насілі ўжо тактычны характар.

Нягледзячы на зменшаную ролю ў агульных планах абарончых баёў, баі за Гродна былі выключна жорсткімі і ўпартымі. Актыўныя дзеянні разгарнуліся 17 (30) жніўня і працягваліся да 21 жніўня (3 верасня) 1915 г., калі немцы канчаткова ўзялі горад-крэпасць. У аколіцах Гродна і цяпер можна знайсці месцы пахаванняў воінаў абедзвюх армій – нямецкай і расійскай. На-



Нямецкія вайскоўцы на тагачасным Скідзельскім рынку (сення раён аўтавакзала)




Немцы каля руін Гродзенскага вакзала

прыклад, у вёсцы Селіванаўцы на могілках ёсць пахаванні немцаў. Безыменныя брацкія магілы рускіх і немцаў знаходзяцца каля вёсак Каўбаскі, Пласкаўцы, Рацічы, Свяцк.

Асноўныя баявыя дзеянні разгарнуліся вакол IV форта, на паўднёвы захад ад вёскі Караліно і III форта, які знаходзіцца паблізу вёсак Лабна і Агароднікі.

Калі немцы выйшлі на рубяжы Нёмана на Занёманскім фарштаце, баі перасунуліся ў горад. Берагі Нёмана ператварыліся ў абарончыя лініі. Гарэлі Пышкі і Румлёва. Была знішчана значная колькасць пабудоў горада, сярод якіх губернатарскі дом на Дварцовай плошчы (цяпер плошча Тызенгаўза). Моцныя баі ішлі ў раёне чыгуначнага вакзала. Па звестках немцаў, 3 верасня на



Рускія палонныя ў раёне Новага замка



Першае паседжанне магістрата пры наглядзе нямецкай ваеннай адміністрацыі


Grodnoer Zeitung

גראָדנער צייטונג

Grodnoer Zeitung – газета, якая выдавалася падчас нямецкай акупацыі

вуліцах Гродна было ўзята ў палон 2000 рускіх. Таго самага дня пачаўся адыход расійскіх войскаў з гродзенскіх пазіцый. XIII форт на поўнач ад в. Грандзічы быў падарваны, а за ім – умацаванні каля XII форта. У гэты дзень Гродна як заходні фарпост расійскага камандавання перастаў існаваць. Горад занялі нямецкія войскі.

### 3. Нямецкая ўлада.

З восені 1915 г. да вясны 1919 г. Гродна знаходзіўся пад нямецкай

## Сведка падзей

Камандуючы ўсходнімі акупаванымі тэрыторыямі генерал Эрых фон Людэндорф: «У гарадах, а менавіта ў Вільні, Коўне і Гродне, з моманту нашага ўступлення пачаліся сур'ёзныя выбухі незадавальнення. ...Насельніцтва, за выключэннем немцаў, нас цуралася... Палякі трымаліся ўбаку і ставіліся варожа, бо справядліва баяліся, што мы зарыентуемся на літоўцаў. З беларусамі лічыцца не прыходзілася, бо палякі пазбавілі іх нацыянальнай адметнасці і нічога не далі ўзамен. Увосень 1915 г. я хацеў скласці ўяўленне аб тым, дзе жывуць беларусы. Спачатку іх нідзе не было відаць. Але потым высветлілася, што гэта даволі распаўсюджанае, аднак вельмі апалячанае племя, якое стаяла на такім нізкім узроўні культуры, што дапамагчы ім магчыма было толькі працяглым уздзеяннем. Габрэі яшчэ не зразумелі, чаго ім трымацца, аднак яны нам не заміналі, да таго ж мы разумелі адзін аднаго, тады як з палякамі, літоўцамі і латышамі гутарыць было вельмі складана. У выніку адсутнасці адпаведнай нямецкай літаратуры мы мала ведалі побыт і людзей гэтай мясцовасці і бачылі перад сабою як бы новы свет».

**Успомніце, якія працэсы ў развіцці беларускага этнасу працякалі ў XIX – пачатку XX ст. і абмяркуйце ацэнкі германскага военачальніка.**




Краязнаўчая брашура аб Гродна, выдадзеная нямецкай адміністрацыяй у 1916 г.

уладай. Апошнія часткі немцаў пакінулі горад толькі 27 красавіка 1919 г. Улада ў горадзе была ў руках ваенных. Губернатарам быў прызначаны генерал фон Гелд, бурмістрам – Вейсенборн. Са снежня 1915 г. выходзіла газета «Grodnoer Zeitung». Пазней убачыла свет брашура «Grodno», якая ўключала частку з красамоўнаю назваю «Як Гродна стаў нямецкім местам». Фактычна гараджане жылі па загадах і распараджэннях камандарма 12-й арміі генерала Ф. Фабецкі. Іх жыццё рэгламентавалася шэрагам абмежаванняў і прадпісанняў, за невыкананне якіх былі прадугледжаны розныя пакаранні. Забаранялася пасылаць і атрымліваць паштовыя пераводы, лісты, прэсу, гандляваць мясам і мясапрадуктамі па аўторках і пятніцах, хаваць расійскіх вайскоўцаў. Неабходна было здаць уладам каляровыя металы, набыць карткі аплаты для пераходу праз мост. Адметнаю рысаю акупацыйнага жыцця былі частыя перарэгістрацыі насельніцтва. Улік быў жорсткім і абавязковым для ўсіх гараджан. Акупанты прынеслі ў горад новы для яго жыхароў грыгарыянскі каляндар.

Пазіцыйная вайна адбывалася на ўсходзе, падзяліўшы Беларусь на часткі па лініі Дзвінск – возера Нарач – Крэва – Баранавічы – Пінск. Гродна знаходзіўся ў тыле нямецкіх пазіцый на Усходнім фронце. Гэта прымусіла ваенныя ўлады актыўна займацца ўмацаваннем гродзенскіх пазіцый. Былі адрамантаваны галоўныя дарогі, якія звязвалі Гродна з найважнейшымі населенымі пунктамі краю. Усе работы выконваліся з выкарыстаннем працоўнай сілы мясцовага насельніцтва. Увесь перыяд акупацыі горад быў адрэ-




Нямецкія вайскоўцы бяруць грашовы збор за пераход па нёманскім мосце ў Гродна



Бежанцы на вуліцах Гродна

заны ад актыўнага грамадска-палітычнага жыцця Расійскай імперыі. Ізаляванасць зменшылася толькі з афіцыйным заканчэннем вайны ў лістападзе 1918 г.

Каля 103 тысяч мужчын былі прызваны з Гродзенскай губерні да верасня 1915 г. Аднак яшчэ больш выхадцаў з Гродна і навакольных паветаў сталі бежанцамі. Яны былі раскіданы па 23 губернях Расіі. Найбольш шчыльна пражывалі ў Калужскай губерні, куды, дарэчы, было эвакуявана гродзенскае губернскае кіраўніцтва, Саратаўскай і Пензенскай губернях. Вяртанне дахаты бежанцаў з Гродна павольна пачалося ў 1917 г. і расцягнулася да 1923 г. Вярталіся гродзенцы ўжо ў іншую дзяржаву – Польшчу.



Магіла рускіх воінаў, палеглых у лютым 1915 г. каля в. Селіванаўцы. Крыж устаноўлены ў 1990 г. ураджэнцам тых мясцін Янам Лялевічам.

## Пытанні і заданні

1. Што ўяўляла сабою Гродзенская крэпасць напярэдадні Першай сусветнай вайны?
2. Як змянілася жыццё гродзенцаў з абвяшчэннем мабілізацыі?
3. Раскажыце аб баях за Гродна ў жніўні – верасні 1915 г.
4. Падрыхтуйце з дапамогаю дадатковай літаратуры паведамленне «Кайзераўская акупацыя Гродна».
5. Вызначце наступствы і раскрыйце значэнне Першай сусветнай вайны для Гродна і гродзенцаў.

# §29. Горад у 1919-1921 гг.

**Пасля азнаямлення з параграфам вы павінны:**

- аргументавана расказваць пра ўплыў рэвалюцыйных падзей на жыццё гараджан у 1919 –1921 гг.;
- умець аналізаваць ролю органаў гарадскога самакіравання ў Гродне ў канцы Першай сусветнай вайны;
- ведаць змест палітыкі польскіх уладаў у горадзе ў 1919 –1920 гг.;
- тлумачыць стан беларускага руху ў горадзе ў канцы 1918 – пачатку 1919 гг.;
- правільна фармуляваць і ўжываць наступныя паняцці і назвы: Гродзенская рэспубліка, Гродзенскі рэўком, Віленская акруга Грамадзянскага кіравання ўсходніх зямель, савецка-польская вайна.

“

*«Не так страшны сам па сабе пералік стратаў, якія панёс за апошнія гады горад, колькі страшна жыццё з дня на дзень, не маючы пэўнасці ў сваёй будучыні».*

***З выступлення прэзідэнта Гродна Э. Лістоўскага.***

## 1. «Гродзенская рэспубліка».

Рэвалюцыя ў Германіі ў лістападзе 1918 г. прынесла гродзенцам спадзяванне на хуткае заканчэнне нямецкай акупацыі. Актывізуецца грамадскае жыццё ў горадзе. Арганізуюцца грамадскія арганізацыі, партыі, прафсаюзы. Пачынаюць выходзіць мясцовыя газеты: «Наше Утро», «Echo», «Nowe życie».

У канцы лістапада 1918 года ў Гродне ствараецца Часовы камітэт па прыняцці гарадской гаспадаркі ад акупацыйных улад. У яго склад увайшлі прадстаўнікі габрэйскага, польскага і беларускага нацыянальных камітэтаў. На чале камітэта стаў Эдвард Лістоўскі (1861-1922) – паляк па нацыянальнасці, былы палкоўнік расійскай арміі. Усе распараджэнні і абвесткі Часовага камітэта павінны былі выдавацца адразу на трох мовах: габрэйскай, польскай і беларускай. Часовы камітэт дабіўся перадачы ад нямецкага камандавання пад сваё кіраванне ўсёй гарадской гаспадаркі, аднавіў працу судоў і мясцовай міліцыі.



НАШЕ УТРО

Цѣна номера 40 пфг.

Общественно-политическая и литературная газета.

Выходитъ ежедневно, кромѣ субботы.

Адресъ конторы и редакціи: Гродно, Маріинскій пер. № 4.

№ 95 | Гродна. Воскресенье 27 апрѣля 1919. | Годъ изд. 6.

Кино Lux

Уйди грусть

Концерты

„שקל–הגאולה“

אידן!

Воззваніе къ населенію.

Газета “Наше Утро”. Красавік 1919 г.

27 лютага 1919 года ў Гродне адбыліся выбары ў Гарадскую раду. Рада павінна была замяніць Часовы камітэт. Большасць месцаў у Радзе і магістраце занялі прадстаўнікі габрэйскіх і польскіх арганізацый. Першым прэзідэнтам Гродна быў абраны Э. Лістоўскі. Амаль адначасова адбываюцца выбары Праўлення габрэйскай рэлігійнай грамады. На пачатак 1919 года гэтае Праўленне з вузка рэлігійнай арганізацыі ператвара-



Беларускі полк перад палацам Валіцкіх (Архірэйскім палацам)

ецца па сутнасці ў асобны орган габрэйскага самакіравання.

Адначасова ў Гродне адбываецца аб'яднанне мясцовых рэвалюцыйных сіл. 26 студзеня 1919 года ў памяшканні гарадскога тэатра прайшло першае пасяджэнне Гродзенскага гарадскога Савета рабочых дэпутатаў. На чале Савета стаў старшыня падпольнага камітэта РКП(б) Вацлаў Багуцкі. Савет прыняў дэкларацыю «Да ўсяго насельніцтва Гродна і ваколіц». Яна абвяшчала барацьбу за ўстанаўленне дыктатуры пралетарыяту.

Такім чынам, адбываецца пашырэнне ўплыву органаў мясцовага самакіравання на жыццё ў горадзе. Таму апошнія некалькі месяцаў нямецкай акупацыі Гродна зімой – вясной 1919 года атрымалі назву сярод навукоўцаў «Гродзенскай рэспублікі».

## 2. «Другая сталіца БНР».

Восенню 1918 года ў Гродне пачынае дзейнічаць першая легальная беларуская арганізацыя – Сувязь культурна-нацыянальнага адраджэння Беларусі. У яе ўваходзілі галоўным чынам беларускія настаўнікі: А.Грыкоўскі, Я.Натусевіч, А.Якубецкі, Л.Дзекуць-Малей. У хуткім часе Сувязь змяніла назву на Гродзенскі беларускі нацыянальны камітэт.




Пячатка Гродзенскай цэнтральнай беларускай настаўніцкай Рады

### Гістарычны дакумент

«Прачніцеся, браты сяляне! – заклікала адозва гродзенскага Беларускага нацыянальнага камітэта. – …Гляньце навокал! Усе народы ўзяліся за свае справы. Нельга чакаць і нам... ».



**Антон Луцкевіч (1884-1942, або 1943 гг.) Прэм'ер-міністр БНР, закатаваны ў ГУЛАГу.**

У пачатку 1919 года ў Гродна пераязджае ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі. Прэм'ер-міністр БНР Антон Луцкевіч звярнуўся да ўсіх мясцовых беларусаў з заклікам «не кідаць працы на нацыянальнай ніве да таго часу, пакуль Беларусь не стане незалежнай». Адначасова ў горад пераязджае Міністэрства беларускіх спраў пры літоўскім урадзе. Пачынаецца фарміраванне беларускага палка. У горадзе ствараюцца беларускія культурныя таварыствы «Бацькаўшчына», «Лучына», «Беларуская хатка». Выходзяць некалькі беларускіх газет: «Беларускі народ», «Бацькаўшчына», «Зоркі», «Беларусь», «Родны край». За Гродна замацоўваецца неафіцыйны статус «другой сталіцы БНР».

Паэт і ўраджэнец Гродзеншчыны Макар Краўцоў з нагоды прыезду ў горад беларускіх дзеячоў напісаў верш «Паварот да Гародна». Ён заканчваўся наступнымі радкамі:

*Вітай жа, Горадзень, дзяціну*
*Тваіх мuроў, тваёй ральлі.*
*Хоць ты прытулішчам будзь сыну –*
*Выгнанцу роднае зямлі!*



**Макар Краўцоў (1891-1939 гг.) Паэт і перакладчык. У 1939 г. быў арыштаваны савецкай уладай. Закатаваны НКВД.**

### 3. Гродна ў складзе Грамадзянскага кіравання ўсходніх зямель.

З заканчэннем Першай сусветнай вайны паўстае пытанне аб далейшым лёсе Гродзеншчыны. На яе тэрыторыю прэтэндавалі адначасова БНР, Савецкая Расія, Літва, Польшча.

У лютым 1919 года распачынаецца польска-савецкая вайна. Яшчэ ў сярэдзіне студзеня 1919 года ў Гродне з'яўляецца прадстаўнік польскага ўрада. Адзіным фактарам, што стрым-



„БАЦЬКАЎШЧЫНА"

Беларускі Соціялістычны Тыднёвік.

13 сакавіка памер вядомы беларускі дзеяч

А. ГРЫКОЎСКІ,

**Некралог А. Грыкоўскага – актывіста беларускага руху у Гродне**

## Дакументы сведчаць

28 красавіка Цэнтральная Беларуская Рада Гарадзеншчыны звярнулася з адозвай «Да беларускага народа». «Учора, – гаварылася ў звароце, – старая Гродна пабачыла сцягі войскаў Польскай дзяржавы, якія занялі гэтае адвечнае беларускае месца. Сустрэньце, беларусы, новых гасцей свайго краю з поўным спакоем і пэўнасцю... Нас, гаспадароў сваёй зямлі, не зрабіць падуладнымі. Ніхто не зможа адняць нашае права на незалежнае існаванне. ...Толькі ў ...еднасці мы зможам адстаяць сваю волю, сваю незалежную БНР».

## Дакументы сведчаць

З даклада Паўліны Мядзёлкі Беларускай цэнтральнай радзе Віленшчыны і Гродзеншчыны ад 5 кастрычніка 1919 года: «… Робяцца страшэнныя перашкоды з выдачай пропускаў усім беларусам. Затрымліваюцца дакументы, і прыехаўшыя галадаюць, не маючы змогі да хаты дабрацца. На станцыі робяць вобыскі, і калі знойдуць лісты, пісаныя па-беларуску, – жандармерыя арыштоўвае – было ўжо колькі такіх выпадкаў. Па почце такжа беларускія пісьмы не даходзяць. …Павятовыя інспектары …адказваюцца зацвярджаць нашых настаўнікаў. Настаўнікі знаходзяцца ў страшэнна цяжкіх варунках... Горадзенскі Настаўніцкі Саюз без капейкі. Інспектар Вазнякоўскі нічога не выдае з затрыманых грошаў. …Ратуйце галодных настаўнікаў».



Паўліна Мядзёлка (1893-1974 гг.)

ліваў палякаў ад захопу горада, з'яўляўся нямецкі гарнізон. Гродзенская крэпасць павінна была забяспечыць адыход 10-й нямецкай арміі ва Усходнюю Прусію. 5 лютага ў Беластоку было падпісана польска-нямецкае пагадненне. У выніку нямецкая акупацыя Гродна расцягнулася яшчэ амаль на тры месяцы.

28 красавіка 1919 года пасля адыхода нямецкіх часцей, у Гродна ўваходзіць польскае войска.

Гродзенскі павет быў уключаны ў склад Віленскай акругі Грамадзянскага кіравання ўсходніх зямель. Грамадзянскае кіраванне з'яўлялася часовай адміністрацыяй на акупаванай тэрыторыі да часу вызначэння яе дзяржаўнай прыналежнасці. На чале павета стаяў стараста. Старастам Гродна быў прызначаны С. Рагалевіч.

Палітыка польскіх улад была даволі супярэчлівай. З




Амерыканская місія маёра Роса на вакзале ў Гродне. 20 сакавіка 1919 г.




Выхаванцы беларускага прытулку ў Гродне. 1920 год.

аднаго боку, робяцца спробы вырашыць сацыяльныя пытанні: забеспячэнне харчаваннем, арганізацыя аховы здароўя, развіццё адукацыі. Пачынае працу акружны суд. Ствараецца гарадскі музей. Дзейнічаюць розныя арганізацыі культуры, тэатр, кінатэатры. З другога боку, у Гродне зачыняюць беларускія газеты і большасць беларускіх арганізацый. Летам 1919 года ў горадзе адбываюцца арышты мясцовых беларускіх дзеячоў.

У маі 1919 года ў горад прыбыў прафесар львоўскай семінарыі Рафал Вазнякоўскі. Ён прыступіў да абавязкаў польскага школьнага інспектара Гродзенскага павета. За кароткі час ягонай працы была зачынена большая частка беларускіх школ у горадзе і павеце. Прозвішча «Вазнякоўскі» сталася сінонімам польскага пераследу беларускай асветы.

Рэпрэсіі і палітыка паланізацыі прымусілі няпольскую частку жыхароў Гродна спадзявацца на хуткі прыход савецкай улады.

## Дакументы сведчаць

Праз некалькі дзён пасля арыштаў мясцовых беларускіх дзеячоў польская гродзенская газета «Echo» надрукавала артыкул, прысвечаны польска-беларускім адносінам. «...Мы жадаем жыць у згодзе і разам працаваць з беларусамі, – гаварылася ў ім. – Для гэтага ва ўласнай культурнай рабоце мы выступаем не за паспешнасць, а за дакладнасць і грунтоўнасць... Няма дастаткова слоў, каб акрэсліць усе станоўчыя якасці беларускага народа. Аднак у яго не хапае ведаў і творчасці... Няхай беларусы не спяшаюцца апярэдзіць старэйшых вопытам... Актыўнасць іх правадыроў заўчасна... Беларуская глеба яшчэ не падрыхтавана да пасеву. Трэба чакаць і ў чаканні працаваць разам з прыхільна настроенымі палякамі».


МЯСТОВЫ ТЭАТР

ПРАГРАМА

канцэрту 16 студня 1920 года музыкальна-вакальнай сэкцыі Грамады Беларускай Моладзі у Горадні.

I.

1) Беларускі нацыянальны гімн
2) Чаму-ж мне ня пець — сп. хор пад кіраўніцтвам п. Шаха.
3) Сарасатэ—Zigeunerweisen
4) Dudla—Sureniu — п. Кучэускі.
5) Ды ужо сонейко
6) Бульбачка — хор.

II.

7) Украінская бандура—хор.
8) Звенан (Алябьев) Салавей
9) [illegible]—Кол-Нідрэй
10) Шубэрт—Пчолка — п. Кучэускі
11) Мая думка (тріо) — п.п. Шымановская, Палуйчык, Цырук.

Пачатак а 8 гадзіне.

Праграма канцэрту Музычнай секцыі Грамады Беларускай Моладзі ў Гродне. 1920 год

## Факт гісторыі

По выніках савецка-літоўскай дамовы, падпісанай 12 ліпеня 1920 года, Гродна разам з Вільняй адыходзіў да Літвы. Пасля заняцця горада Чырвонай Арміяй яго павінны былі перадаць літоўскаму боку. Насамрэч, савецкае кіраўніцтва, спадзеючыся на хуткую рэвалюцыю ў Літве, не спяшалася выконваць свае абяцанні.



Гая Гай (1887 - 1937 гг.) Ваеннаначальнік кавалерыстаў Чырвонай арміі.

### 4. Гродзенскі рэўком.

4 ліпеня 1920 года бальшавікі перайшлі ў наступленне на ўсім заходнім фронце: ад латышскай мяжы да палескіх багнаў. Гэта была адна з найлепш падрыхтаваных наступальных аперацый Чырвонай Арміі падчас грамадзянскай вайны. 11 ліпеня «чырвоныя» занялі Мінск, а ўжо 14 ліпеня ўвайшлі ў Вільню.

Раніцай 19 ліпеня 3-ці кавалерыйскі корпус Гая пачаў наступленне на Гродзенскую крэпасць. У склад корпуса ўваходзілі 10-я і 15-я кавалерыйскія дывізіі. Вечарам правабярэжная частка горада была канчаткова занята «чырвонай» 15-й дывізіяй. Да поўначы ўвесь корпус Гая пераправіўся на плытах праз Нёман. Аднак каля 9-ці гадзін раніцы 20 ліпеня польскія часці перайшлі ў контрнаступленне. Да 22.30 палякі здолелі адкінуць бальшавікоў на вуліцы Гродна, калі прыйшоў загад генерала Люцыяна Жэлігоўскага адступіць. Тое ж паўтарылася 21 ліпеня: бальшавіцкія часці спачатку займаюць занёманскі фарштат, аднак ізноў страчваюць яго. Там пачынаецца масавае рабаванне польскімі ваеннымі мясцовага габрэйскага насельніцтва. Наступны дзень горад знаходзіўся пад моцным артылерыйскім агнём з польскага боку. 24 ліпеня



Бальшавікі. 1920 г.

## Дакументы сведчаць

Беларускія настаўнікі неаднаразова звярталіся ў савецкія органы па дапамогу. «Наша першая заява, – пісалі настаўнікі беларускай школы ў сваім лісце да рэўкома, – ...разглядаецца вамі ўжо некалькі тыдняў... Калі нашы заявы разглядаліся месяцамі і заставаліся без увагі панамі Вазнякоўскімі, для нас гэта было зразумела, а дадзеныя адносіны да нас – не ясныя. Мы просім не літасцівую падачку, а законную, выпрацаваную зарплату толькі таму, што нам трэба жыць. … Няўвага да нашага становішча дасць нам нагоду думаць, што нам прыдзецца і далей працаваць не ў лепшых варунках, як пры пане Вазнякоўскім...».



Польскія вайскоўцы. 1920 г.

Гродзенская крэпасць канчаткова перайшла ў рукі Чырвонай Арміі.

У горадзе ствараюцца органы савецкай улады. 20 ліпеня са складу палітаддзела і асобнага аддзела 4-й Арміі вылучаецца Гродзенскі ваенна-рэвалюцыйны камітэт. Народны камісар фінансаў БССР выдзеліў рэўкому каля 50 мільёнаў рублёў. У гродзенскім тэатры адбываецца святочны мітынг з нагоды вызвалення горада ад польскай улады.

Аднак дзейнасць савецкай улады таксама была неадназначнай. Савецкія ўстановы прымалі на працу людзей без накіравання створанай біржы працы. Аддзел аховы здароўя пачаў дзейнічаць толькі ў сярэдзіне жніўня, калі большая частка аптэк была ўжо разрабавана. Больш за тое, пачынаюцца рэпрэсіі супраць часткі мясцовага насельніцтва. Беларускія гарадскія грамадскія арганізацыі ліквідуюцца.

На час заняцца Гродна бальшавікамі з беларускіх арганізацый у горадзе засталіся толькі Беларускі нацыянальны камітэт, Беларуская школьная рада і Грамада беларускай моладзі. Аднак за два месяцы са-



Юзаф Пілсудскі на фартах Гродзенскай крэпасці. 1920 год

## Сведка падзей

Гісторык Юзаф Ядкоўскі: «Бальшавіцкае нашэсце прымусіла польскія ўлады… пакінуць Гродна. Амаль дзесяць тыдняў пад вольналюбівымі лозунгамі горад заставаўся ў сферы бальшавіцкага раю. Дзясяткі расстраляных, сотні вывезеных, здзекі з польскага насельніцтва, разбураная гаспадарка, разрабаванне ўсяго, што можна было разрабаваць на працягу гэтага часу…».



**Знішчаны чыгуначны мост у Гродне. 1920 год**

вецкай улады і яны былі ліквідаваныя.

Першыя звесткі аб паразе Чырвонай Арміі пад Варшавай у сярэдзіне жніўня 1920 года выклікалі паніку ў кіраўніцтве горада. 23 жніўня штаб тылу 4-й арміі выдае сакрэтны загад № 10 аб эвакуацыі Гродзенскага рэўкома. Праз чатыры тыдні пасля сваёй арганізацыі, 26 жніўня, Гродзенскі рэўком апынуўся ў Віцебску. Хутка ён быў расфарміраваны. Аднак савецкая вайсковая ўлада праіснавала ў Гродне яшчэ месяц.

## Пытанні і заданні

1. Што ўяўляла сабою «Гродзенская рэспубліка»?
2. Як змянілася жыццё гродзенцаў з прыходам польскіх войскаў?
3. Раскажыце пра баі за Гродна ў ліпені 1920 года.
4. Падрыхтуйце з дапамогаю дадатковай літаратуры паведамленне «Гродзенскі рэўком».
5. Як змянілася жыццё гродзенцаў з прыходам бальшавіцкіх войскаў.

# Гродна ў складзе другой Рэчы Паспалітай (1919-1939 гг.)

## § 30. Сацыяльна-эканамічнае развіццё горада

“

*«Беспрацоўе, эканамічны застой, згасанне ўсякага жыцця асабліва востра даецца ў знакі на беларускіх землях, менавіта з-за геаграфічнага палажэння, з прычыны імперыялістычнай палітыкі Польшчы... ».*
***Браніслаў Тарашкевіч, беларускі палітык, навуковец. Прамова на пасяджэнні Сойма 25 сакавіка 1925 года.***

**Пасля азнаямлення з параграфам вы павінны:**

- **ведаць змены, якія адбываюцца ў сацыяльна-нацыянальным жыцці насельніцтва горада ў 1921 –1939 гадах;**
- **ацэньваць наступствы ўваходжання Гродна ў склад польскай дзяржавы;**
- **параўноўваць стан жыцця гродзенцаў перад і пасля Першай сусветнай вайны;**
- **правільна фармуляваць і ўжываць наступныя паняцці і назвы: Рыжскі мір, «крэсы ўсходнія», павятовы горад.**

### 1. Гродна – павятовы горад на «крэсах усходніх» Польшчы.

У канцы верасня 1920 года польская 2-я армія падышла да Гродна з трох бакоў. У Гродна абаранялася 4-я бальшавіцкая армія. Нягледзячы на перавагу, палякі не здолелі прарваць яе абарону. Раніцай 24 верасня камандаванне 4-й арміі атрымала звесткі, што польскія часткі занялі Друскенікі на тэрыторыі сённяшняй Літвы. З-за пагрозы акружэння Чырвоная Армія пачынае адступленне з горада. Пасля цяжкіх баёў 26 верасня польскія часткі займаюць Гродна.



Польскія вайскоўцы на руінах гарадзенскага Фарштату (восень 1920 г.)



Гродзенцы

У хуткім часе вайна паміж Польшчай і Савецкай Расіяй заканчваецца. 18 сакавіка 1921 года ў Рызе было падпісана польска-савецкае пагадненне. Гродна на доўгі час апынуўся ў складзе польскай дзяржавы.

1 сакавіка 1921 года горад далучаецца да Беластоцкага ваяводства. З цэнтра губерні Гродна ператвары ўся ў адзін з павятовых гарадоў Польшчы на так званых «крэсах усходніх». Пазней неаднаразова паўставала пытанне аб стварэнні асобнага ваяводства з цэнтрам у Гродне. Аднак горад і далей заставаўся ўсяго толькі часткай Беластоцкага ваяводства. Гэта ў значнай ступені вызначыла яго сацыяльна-эканамічнае і культурнае жыццё на працягу наступных дваццаці гадоў.

## 2. Сацыяльна-нацыянальны склад насельніцтва.

Нягледзячы на цяжкасці пасляваеннага часу, Гродна працягваў развівацца. Перад 1914 годам тэрыторыя Гродна складала 710 га (7,1 кв. км). У ліпені 1925 года да горада былі далучаны маёнткі Друцк і Станіслававе. У 1928 годзе яго плошча дасягнула 1554 га (15,5 кв. км). У 1937 годзе гарадскі абшар ахопліваў ужо 1776 га.

Яшчэ больш значнай была дынаміка росту колькасці мясцовага насельніцтва. У канцы 1919 года жыхароў Гродна налічвалася 28 тысяч чалавек. У верасні 1921 года – ужо 34 тысячы, у 1924 годзе – 40 тысяч, а яшчэ праз тры гады – 45 тысяч, на 1939 год – каля 50–55 тысяч чалавек. Гродна меў дастаткова вялікую шчыльнасць насельніцтва. Па дадзеных на 1931 год, на 1 га ў Гродне прыходзіліся 32 жыхары. Гэта было значна больш, чым у іншых гарадах Заходняй Беларусі.



Гродзенцы




Знак 76 пяхотнага палка імя Тэадора Нарбута



Святкаванне 15-годзя 81 Гродзенскага стралецкага палка. Лістапад 1933 г. Фота NAC.

Акрамя гэтага, у горадзе знаходзіўся вялікі вайсковы гарнізон. Ён налічваў некалькі тысяч салдат і каля паўтысячы афіцэраў. У Гродне знаходзіліся камандаванне акругі III-га корпуса, камандаванне 29-й пяхотнай дывізіі, 76-га і 81-га пяхотных палкоў і іншых часцей. Вайскоўцы прымалі актыўны ўдзел у эканамічным і культурным жыцці Гродна.

У нацыянальным складзе горада пераважала як і раней габрэйскае насельніцтва. Аднак доля габрэяў у агульнай колькасці жыхароў Гродна паступова скарачалася. Калі ў 1919 годзе габрэі складалі 69 % насельніцтва, у 1924 – каля 50 %, дык у канцы 1930-х гг. – каля 42 %. Колькасць польскага насельніцтва вагалася паміж 30 – 40 % жыхароў Гродна. Лічба беларускага насельніцтва паменшылася з 7,5 % у 1919 г. да 2,5 % паводле спісу 1931 года.

Сацыяльны партрэт Гродна выглядаў вельмі страката. Рабочыя і іх сем'і складалі 44 % жыхароў горада, дробнае мяшчанства – каля 30 %, мясцовая інтэлігенцыя – 14 %. На 1931 год 40 % гродзенцаў належалі да працаздольнага насельніцтва. З іх большасць – 65,8 % – складалі мужчыны. Амаль палова працаздольных гродзенцаў была занятая ў прамысловасці. Разам з тым, у міжваенны час колькасць беспрацоўных у Гродне дасягала 2–3,5 тысяч чалавек. Разам са сваімі сем'ямі яны складалі каля 10 % мясцовых жыхароў.



Гродзенцы




Знак 81 пяхотнага палка імя Стэфана Баторыя



Тартак "Лес", які ў 1926 г. належаў Калецкаму і К°. Знаходзіўся ў раёне сучаснай Леванабярэжнай вуліцы. Згарэў у 1970 г.

## 3. Развіццё прамысловасці і гандлю.

У міжваенны час Гродна па-ранейшаму быў важным камунікацыйным вузлом на лініі Варшава – Вільня. Аднак чыгуначны мост праз Нёман доўга заставаўся разбураным, да 1924 года цягнікі з Варшавы вымушаны былі ісці толькі да станцыі Ласосна. Горад страціў сваё значэнне і як рачны порт. Па палітычных прычынах (закрытая мяжа з Літвой) суднаходства па Нёмане ў Балтыку было немагчымым.

Найбуйнейшымі прадпрыемствамі ў горадзе ў гэтыя гады з'яўляліся: прадпрыемства керамічнай вытворчасці; ліцейня сельскагаспадарчых прыладаў;




Этыкеткі гродзенскага бровара




Майстры і працоўныя паравога млына ў Гродне




Рэклама гродзенскага бровара Марголіса



Дзяржаўная фабрыка тытунёвых вырабаў

## Факт гісторыі

Гродзенская дзяржаўная фабрыка тытунёвых вырабаў «Нёман». Прыклад стылю канструктывізму. Пабудавана ў 1931 г. У 1975 г. адбылася рэканструкцыя адміністрацыйнага корпуса з надбудовою 4-га паверха.



Вытворчасць цыгарэт на тытунёвай фабрыцы







**Завод ровараў і матацыклаў «Нёман» быў закладзены ў Гродне ў 1894 г. Нохімам і Лазарам Старавольскімі і Ісакам Піваварскім. Найбольшай вядомасці дасягнуў у 1930-я гг. Выпускаў да 10 тыс. ровараў у год . Сваёй канструкцыяй і якасцю ровары мала адрозніваліся ад найлепшых нямецкіх. Роварамі актыўна карысталіся гарадзенскія паштальёны і іншыя службоўцы. У 1934 г. пачата вытворчасць мотаролераў з рухавікамі нямецкай кантрукцыі. Матацыклы пачалі выпускаць каля 1936 г. з рухавікамі ангельскай (фірма Вілерс) вытворчасці.**

фабрыка ігральных картаў Лапіна; дыхтавая фабрыка; фабрыка мазуту Браўна; бровары Слуцкага, Марголіса і Велера; фабрыка запалак «Мар’ёс»; фабрыка веласіпедаў і матацыклаў Старавольскага і інш. У 1938 годзе ў Гродне пачаў дзейнічаць малаказавод. У 1924 годзе ўрад выкупіў усе тытунёвыя фабрыкі ў горадзе і на іх базе стварыў Дзяржаўную фабры-




**Малочная кухня ў Гродне**

ку тытунёвых вырабаў. У 1929 годзе быў пабудаваны новы корпус фабрыкі. На ёй працавалі 700 – 800 чалавек.

У гандлі горада пераважалі мясцовыя габрэі. Аднак калі ў 1919 годзе яны складалі 90 % усіх гандляроў, то ўжо ў 1939 годзе трэцяя частка ўсіх гандлёвых пляцовак знаходзілася ў руках палякаў. Габрэйскія крамы працавалі літаральна з ранку да вечару. Габрэі захоўвалі перавагу ў гандлі мылам, салёнай рыбай, шклянымі і металічнымі рэчамі, будаўнічымі матэрыяламі. У 1930 годзе гарадзенская цукроўня «Арыент» атрымала залаты медаль на міжнародным конкурсе ў Ніццы.

### 4. Стан медыцыны.

Пасля заканчэння польска-савецкай вайны ў Гродне назіраўся рэзкі рост эпідэмічных захворванняў: тыфу, халеры і інш. Галоўнай мэтай гарадскіх уладаў становіцца супрацьдзеянне пашырэнню эпідэмій. За 20 дзён з Гродна было вывезена каля 16

#### Дакументы сведчаць

Гродзенскія газеты пісалі з нагоды перамогі цукроўні “Арыент”: «Гэтае саліднае прызнанне гродзенскай фірмы на міжнародным рынку яскрава сведчыць аб высокай якасці кандытарскіх вырабаў М. Васілевіча. Асаблівай увагі заслугоўваюць слодычы, зробленыя па ўсходніх рэцэптах: з арэхаў, мёду, чыстага цукру, шакаладу, какавы і найлепшых тлушчаў».










Рэклама гродзенскіх тавараў




Габрэйская лаўка ў Гродне. 1926 год. Фота NAC.




Выгляд Фарнай аптэкі на плошчы Стэфана Баторыя. Фота NAC.

вагонаў смецця. Адбываецца агульная дэзінфекцыя. З 1922 года пачынаецца сістэматычная праца мясцовых санітарных уладаў. Праводзіцца бясплатная вакцынацыя насельніцтва. Вызначаецца шэраг санітарных нормаў, якія былі абавязковымі на тэрыторыі горада. Распрацоўваецца арганізацыйны статут Аддзела аховы здароўя.

У сярэдзіне 1920-х гадоў у Гродне было некалькі шпіталяў: гарадскі, псіхіятрычны, інфекцыйны, вайсковы, габрэйскі, гарадскі дом апекі над невылечна хворымі. Працавала таксама некалькі паліклінік. У 1925 годзе адчыніўся пункт маці і дзіцяці. У 1933 –1934 гг. амаль 30 % гарадскога бюджэту прыходзілася на ахову здароўя. Найбольш грошай ішло на ўтрыманне гарадскога шпіталю. У 1932 годзе ў ім было пяць аддзяленняў на 120 месцаў і каля 50 супрацоўнікаў.

У сувязі з эканамічным крызісам у 1930 годзе быў ліквідаваны гродзенскі псіхіятрычны шпіталь, а ў 1932 годзе – гарадскі дом апекі над невылечна хворымі. Даглядаць хворых працягвалі мясцовыя дабрачынныя арганізацыі. Толькі гродзенскае таварыства Чырвонага крыжа ахоплівала каля 1,5 тысяч ча-







Рэклама гродзенскіх аптэк




Этыкетка лекаў з Фарнай аптэкі ў Гродна

лавек. З заканчэннем крызісу і паляпшэннем фінансавай сітуацыі ў 1935 годзе была прынята пастанова аб арганізацыі гарадскога цэнтра здароўя. Пад канец 1930-х гг. у Гродне налічвалася каля 80 урачоў. Яны мелі яшчэ і прыватную практыку. Урачы прымалі хворых звычайна на даму.

У Гродне ў 1936 годзе налічвалася 7 аптэк. У асноўным дзейнічалі прыватныя агульныя аптэкі. Разам з тым, функцыянавалі і аптэкі іншых формаў уласнасці: акцыянерная аптэка, аптэка страхавой касы. Сярод найбольш вядомых аптэк – фарная аптэка Стэмпнеўскага, аптэкі Атовіча і Шварца.

## 5. Асвета і адукацыя.

У міжваенны час у Гродне існавала каля 15 пачатковых школ. Амаль палова з іх былі прыватнымі. Пачатковай адукацыяй займаліся шэсць дзяржаўных пачатковых школ і восем прыватных габрэйскіх школ. Усяго ў



Дзеці-каталікі пасля камуніі ў Фарным касцёле

школах вучылася каля 3,5 тысяч дзяцей. Аднак месцаў у школах не хапала. За міжваенны час у Гродне былі пабудаваны толькі тры новыя школы.

Праблемай заставалася асвета для нацыянальных меншасцяў. Апошняя беларуская школа была зачынена ў 1927 годзе. Габрэйскія школы ўтрымоўваліся за ўласны кошт. Больш за тое, у канцы 1920-х гадоў кожны трэці габрэйскі вучань у Гродне наведваў тарбут-школы. Навучанне ў іх насіла рэлігійны характар. Выкладанне ў іх адбывалася ў традыцыях іудаізму.

У 1920 – 1930-х гадах у горадзе дзейнічалі тры дзяржаўныя гімназіі: мужчынская імя Адама Міцкевіча, жаночая імя Эміліі Плятэр і гімназія Польскай мацежы школьнай.

У горадзе працавалі дзве дзяржаўныя настаўніцкія семі-



Гродзенская гімназія імя Генрыха Сянкевіча (сення адзін з будынкаў СШ №10). Фота НАС.

нарыі, дзве рамесныя школы, сярэдняя гандлёвая школа, музычная школа Урублеўскай і інш. У Гродне не было ніводнай вышэйшай навучальнай установы. Асноўнай мовай выкладання ў навучальных установах была польская. Гарадскія ўлады прыкладалі намаганні для ліквідацыі непісьменнасці сярод жыхароў Гродна, дзеля чаго арганізоўваліся спецыяльныя курсы.



Сінагога на левым беразе Нёмана (у Занеманскім Фарштаце). Фота НАС.

## Факт гісторыі

Вучаніцы жаночай гімназіі павінны былі прытрымлівацца каля 30 правіл. Тычыліся яны і школьнай формы. Дзяўчынкі павінны былі насіць спаднічкі ў складкі. У малодшым класе – блузку з матроскім каўнерыкам з нашыўкай, у старэйшых – блузку з анёльскім каўнерыкам. Таксама трэба было абавязкова мець чорны фартух і берэт са значком гімназіі. Вучаніцы маглі хадзіць па вуліцах без бацькоўскай апекі або апекуноў з 1 кастрычніка да 1 красавіка да 7 гадзін вечара; з 1 красавіка – да 8 гадзін вечара. У грамадскіх месцах яны мусілі рухацца спакойна, галосна не размаўляць і не паводзіць сябе непрыстойна.



Беларуская школа ў Гродна. 1927г. Дырэктар беларускай школы У. Федарук з вучнямі.

## Пытанні і заданні

1. Што ўяўляла сабою сацыльна-нацыянальная структура Гродна ў 1921 – 1939 гадах?
2. Раскажыце пра развіццё эканомікі ў Гродне ў 1919 – 1939 гадах.
3. Як змянілася ахова здароўя гродзенцаў у міжваенны час?
4. Падрыхтуйце з дапамогаю дадатковай літаратуры паведамленне «Развіццё беларускай асветы і адукацыі ў Гродне ў 1919 – 1939 гадах».
5. Вызначце наступствы і значэнне ўваходжання Гродна ў склад Польскай дзяржавы.

# § 31. Грамадска-палітычнае жыццё

**Пасля азнаямлення з параграфам вы павінны:**

- **мець уяўленне пра гарадскую палітыку польскіх уладаў.**
- **умець распавядаць аб дзейнасці грамадскіх і творчых арганізацый г. Гродна;**
- **ведаць пра палітычныя партыі і рухі , што мелі прадстаўніцтвы ў горадзе;**
- **правільна фармуляваць і ўжываць наступныя паняцці і назвы: беларускае дабрачыннае таварыства «Золак», гарнізонны касцёл, прэзідэнт горада, магістрат.**

*«Мясцовае аселае насельніцтва ўжо стамілася ад няпэўнасці, тады як перспектыва новай вайны ці паўстання пагражае канчатковым знішчэннем нават таго, што засталося… Гэта падштурхоўвае беларускіх дзеячоў да працы ў галіне культурніцкай і легальнай. Мара аб незалежнасці, аб незалежнай Беларусі зыходзіць з парадку дня, губляючы адпаведнасць бягучаму моманту».*

***З рапарту польскай выведкі за 1922 год.***

## 1. Органы самакіравання і гарадская палітыка.

Больш за палову 1920-х гадоў кіраванне горадам здзяйсняў гарадскі савет, абраны яшчэ падчас нямецкай акупацыі. Толькі ў студзені 1927 года адбываюцца чарговыя выбары. Наступныя выбары мелі месца ў 1934 і 1939 гадах. У міжваеннае дваццацігоддзе прэзідэнтамі Гродна былі Эдвард Лістоўскі, Эдвард Стэмпнеўскі, Казімір Рагалевіч, Маўрыкі Брыен дэ Лясі, Казімір Суліструоўскі, Віктар Міскі. Апошнім даваенным прэзідэнтам Гродна з'яўляўся В. Ціенскі.

Горад валодаў чатырма прадпрыемствамі: электрастанцыяй, водаправодам, бойняй і ламбардам. Толькі два першыя давалі прыбытак. Акрамя гэтага, гарадскія ўлады паляпшалі фінансавы стан горада за кошт продажу нерухомасці.

Адным з асноўных пытанняў гарадской гаспадаркі з'яўлялася



**Будынак Магістрату г. Гродна (цяпер в. Даменіканская). Здымак 20-30 гг. XX ст. Фота NAC.**



Брукары Гродна




Адбітак пячаткі Гроденскага магістрата

наладжванне працы мясцовай электрастанцыі. Пры эвакуацыі ў 1915 годзе расійскімі ўладамі быў узарваны адзін з чатырох рухавікоў. Акрамя гэтага, нямецкія акупацыйныя ўлады замянілі провады на жалезныя, а медзь вывезлі ў Германію. Толькі ў 1923 г. гарадскім магістратам быў куплены новы рухавік. Ужо праз год колькасць карыстальнікаў электрычнасці ў горадзе дасягнула 2400 чалавек. У 1928 годзе электрастанцыя была перабудавана, з'явіліся першыя чатыры падстанцыі: дзве – за Нёманам, адна – на вуліцы Ерусалімскай (сучаснай Антонава ) і адна – на плошчы Баторыя (Савецкая плошча). Аднак перавесці горад на падачу току з пераменным напружаннем удалося толькі праз дзесяць гадоў.

У канцы 1920-х гадоў з'явіўся праект электрыфікацыі ўсяго Гродзенскага павета, абмяркоўваліся планы будаўніцтва гідраэлектрастанцыі на Нёмане пад Гродна. У 1925 годзе магістрат пачаў распрацоўваць сеткі гарадской каналізацыі. Першапачаткова планавалася пабудаваць два калектары: на правым і левым беразе Нёмана. Агульны кошт будоўлі складаў 11 мільёнаў злотых. Аднак у горада не хапіла сродкаў. Пазней быў рэалізаваны больш сціплы план.



Праца па электрыфікацыі вуліц. Фота NAC.

Цяжкай заставалася праблема забеспячэння жыллём. Некалькі дзесяткаў бяздом-




Пячатка гродзенскага магістрата



Каля Замкавага маста XVII ст.



Герб Гродна узору 1938 г.

ных жылі ў зямлянках на так званым Слімаку. У 1932 годзе горад выдзеліў 11,6 га пад гароды і пабудову дамоў для бяздомных. Усяго планавалася перадаць 74 участкі. У 1936 годзе пачалося будаўніцтва 41 дома ў Рабочым раёне. Кошт дома складаў 5 000 злотых. Крэдыт выдаваўся на 30 гадоў.

Гарадскія ўлады спрабавалі зменшыць колькасць беспрацоўных. Была арганізавана сацыяльная дапамога (выдавалі ежу і адзенне). Выдзяляліся надзелы пад агароды. Беспрацоўныя выкарыстоўваліся на грамадскіх працах. У 1935 годзе, напрыклад, былі задзейнічана каля 650 беспрацоўных, у тым ліку на будоўлі гарадской каналізацыі.

Толькі рашучая пазіцыя гарадскіх уладаў і мясцовага грамадства не дазволіла адабраць у Гродна ў 1927 годзе правы горада, адміністрацыйна вылучанага з павета. Гэта давала пэўную незалежнасць у рэалізацыі планаў і праектаў разбудовы Гродна.




Будынак Гродзенскай ратушы. Фота NAC.

## Факт гісторыі

24 мая 1938 г. польскае Міністэрства ўнутраных спраў зацвердзіла герб горада Гродна. Ён меў наступны выгляд: у чырвоным полі алень з крыжам паміж рогамі пераскоквае праз плот з жэрдак; пры плоце з мурогу растуць тры кусты. Алень, крыж і плот – залатыя, мурог і кусты – зялёныя. Над шчытом – залатая каралеўская карона.



Помнік Свабоды ў Гродне.

Гарадскі савет надаваў званне ганаровых грамадзян Гродна. Сярод іх былі кіраўнік польскай дзяржавы Юзаф Пілсудскі, генерал Эдвард Рыдз-Сміглы.

## 2. Грамадска-палітычнае жыццё.

У горадзе дзейнічаў шэраг польскіх грамадскіх устаноў: стралецкі саюз; саюз асаднікаў; саюз польскіх харцэраў; саюз польскіх землеўладальнікаў; Польская мацеж школьна, камітэт дапамогі моладзі Гродна, сельскагаспадарчае таварыства, таварыства сяброў мастацтва і літаратуры, аддзел польскага гістарычнага таварыства ў Гродне, аддзел польскага краязнаўчага таварыства ў Гродне, тэатральнае таварыства «Муза», Саюз польскіх купцоў і інш. Значную ролю ў жыцці горада адыгрывалі мясцовыя землеўладальнікі: Сапегі, Красінскія, Пачобут-Адляніцкія, Нямцэвічы.

Гродна паступова набывае рысы польскага горада. Мяняюцца назвы вуліц. Закладваюцца новыя помнікі. У кастрычніку 1921 года ў горадзе быў адчынены помнік у гонар перамогі ў польска-савецкай вайне, у кастрычніку 1929 года – помнік Э. Ажэшка. Ствараецца таварыства аматараў Гродна.

Адной з найбольш масавых рэлігійных дабрачынных арганізацый была «Каталіцкая дзейнасць». Галоўнай мэтай яе з'яўлялася актывізацыя рэлігійна-грамадскай працы каталіц-



Фара Вітаўта ў перыяд 1919 - 1935 гг. Фота NAC.



Юзаф Пілсудскі на адкрыцці помніка Свабоды ў гонар перамогі над бальшавікамі



Гродзенцы на адкрыцці помніка Э. Ажэшка. 1929 г. Фота NAC.

кага касцёла. Гродзенскія касцёлы арганізоўвалі збор сродкаў на дапамогу бедным, беспрацоўным і галадаючым, утрымлівалі прытулкі для дзяцей і старых, пашыралі асвету. Сярод гродзенскіх ксяндзоў найбольш адзначыліся Ф. Грынкевіч, А. Курыловіч, М. Фордан. Касцёл, аднак заставаўся інструментам паланізацыі беларускага насельніцтва.

У пачатку 1919 года ў Гродне дзейнічалі тры беларускія грамадска-культурныя аб'яднанні: «Беларуская хатка», «Лучына» і «Бацькаўшчына». Дзейнічалі «Грамада беларускай моладзі», тэатральнае таварыства, беларускі хор. У другой палове



Гродзенская суполка Таварыства Беларускай Школы

1920-х гадоў было створана гродзенскае аддзяленне «Таварыства беларускай школы» (ТБШ). ТБШ ставіла перад сабой мэты пашырэння беларускай асветы, дапамогі беларускім школам, павышэння агульнаадукацыйнага і культурнага ўзроўню беларускага насельніцтва.

Цэнтрам беларускага жыцця ў Гродне ў 1920-х гадах сталі былы Барысаглебскі манастыр, які месціўся па адрасе Маставая, 9.

Менавіта ў Барысаглебскі манастыр падчас Першай сусветнай вайны з-пад Беластока быў пераведзены дзіцячы прытулак. Ужо ў 1917 г. ў Гродне ствараецца Беларускае дабрачыннае таварыства «Золак». Таварыства даглядае праваслаўны прытулак. Беларускі прытулак праіснаваў у Гродне амаль да 1928 г.

З сярэдзіны 1920-х гадоў у Гродне дзейнічаюць рускае дабрачыннае таварыства і рускае народнае аб'яднанне. Заснавальнікамі іх былі В. Кошалеў, А. Байрашэўскі і інш. Цэнтрам рускага грамадска-культурнага жыцця ў Гродне становіцца былы палац архіепіскапа.

Польскія ўлады непрыхільна ставіліся да актыўнасці беларус-



Царква Святога Аляксандра Неўскага



Барысаглебскі манастыр, Маставая, 9

## Факт гісторыі

З 1916 па 1930 год у Барысаглебскім манастыры знаходзіліся беларускія школа і канцылярыя Беларускай настаўніцкай рады; сакратарыят Беларускага пасольскага клуба і Беларуская школьна-прытулкавая рада; Беларускі камітэт дапамогі пацярпелым ад вайны і рэдакцыя газеты «Сялянская гутарка»; беларуская кнігарня і гродзенскае аддзяленне Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры. У манастырскіх келлях жылі гродзенскія беларускія дзеячы Аляксандр Грыкоўскі, Лукаш Дзекуць-Малей, Аляксандр Шах, Станіслава Буйло.



Гродзенскі харцэр



Святочныя мерапрыемствы харцэраў на вуліцах горада.




Гродзенскія харцэрскія знакі

кіх арганізацый, яны намагаліся паменшыць уплыў праваслаўнай царквы на мясцовае насельніцтва. У 1919 годзе Сафійскі сабор (былая Фара Вітаўта), вяртаецца католікам і пераўтвараецца ў гарнізонны касцёл. У 1923 годзе з Гродна быў высланы праваслаўны епіскап Уладзімір, які выступаў супраць утварэння польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. У канцы 1930-х гадоў пры падтрымцы польскіх уладаў у Гродне ствараецца таварыства праваслаўных палякаў. Яно выказвалася за вядзенне ў храмах праваслаўнай службы па-польску. Больш затое, у 1938 годзе была разабрана царква Св. Аляксандра Неўскага на плошчы Тызенгаўза. У якасці прычыны называлася тое, што царква замінала руху транспарту.

Значным уплывам у горадзе вызначаліся габрэйскія арганізацыі. Гродзенская габрэйская гміна валодала ў горадзе шэрагам будынкаў, у тым ліку – некалькі школ, шпіталь, прытулкі і сінагогі. У 1931 годзе ў Гродне налічвалася 36 сінагог і малітоўных дамоў. У Гродне існаваў дзясятак габрэйскіх грамадска-культурных арганізацый, сярод іх - габрэйскі спартовы клуб «Макабі», таварыства габрэйскай сям'і «Шоарг-Оэзро», дабрачынны саюз габрэйскіх жан-

## Факт гісторыі

7 чэрвеня 1935 г. у Гродне адбыўся адзіны вядомы габрэйскі пагром. Яго справакавалі чуткі аб тым, што габрэй забіў на танцах польскага марака, які прыехаў у Гродна на адпачынак. Мясцовыя польскія нацыянал-дэмакраты заклікалі адпомсціць. На вуліцы Дамініканскай з'явілася карыкатура на габрэя, які намагаецца захапіць зямны шар. Раз'юшаны натоўп пагромшчыкаў спустошыў габрэйскія крамы ў цэнтры горада.

## Дакументы сведчаць

Беларускі дзіцячы прытулак знаходзіўся ў самых цяжкіх варунках. Ягоная кіраўнічка Станіслава Буйло пісала ў красавіку 1921 года: «…Ад урада не атрымліваем грошай зусім. Нават у магістраце нам не далі… А тут, як на большае нашае гора, цэны страшэнна пайшлі ўгару. …На дзяцей я проста глядзець не магу… Вокан няма, дзверы не зачыняюцца. Дзеці лёгка адзеты, галодныя, гэта штосьці страшэннае… Я з гэтага ўсяго расхварэлася і ляжу ўжо другі тыдзень, але добра, што хоць цяпер нічога не бачу і не ведаю… Дык хутка, мусіць, трэба будзе перастаць есці. Палажэнне страшэннае…».



Станіслава Буйло з выхаванцамі. Памерла 28.02.1922 г. у Гродне.

чын «Дамен Рэзев», таварыства габрэйскіх артыстаў «Артыстар вінкл», артыстычнае таварыства «Атыква», таварыства дапамогі медыкаментамі для бедных «Лінас хаседэк» і інш.

Разам з тым, захоўвалася розніца ў культурным і рэлігійным жыцці паміж габрэйскім і негабрэйскім насельніцтвам. Некаторыя польскія палітычныя групоўкі наўмысна пашыралі ўяўленне аб габрэях як ворагах польскай дзяржавы. Гэта спрыяла распаўсюджванню антысеміцкіх настрояў у горадзе. Яны знайшлі сваё выяўленне, акрамя іншага, у эканамічным байкоце гандляроў і прадпрымальнікаў. Байкот адбываўся пад лозунгамі «Свой да свайго» і «Не купляй у жыда!». Гэта азначала адмову купляць габрэйскія тавары і наогул набываць што-небудзь у рамах габрэйскіх.

### 3. Палітычныя партыі і рухі.

Палітычнае жыццё Гродна ў міжваенны перыяд было насычана рознымі падзеямі. Сярод польскіх партый, якія мелі прадстаўніцтва ў горадзе, найбольш актыўнымі былі польская сацыялістычная партыя (ППС), нацыянальныя дэмакраты і хрысціянскія дэмакраты.

У 1920 – 1930-я гады ў горадзе дзейнічалі камуністычныя арганізацыі: Камуністычная рабочая партыя Польшчы, Камуністычная партыя Заходняй Беларусі, Камуністычны саюз моладзі Заходняй Беларусі, міжнародная арганізацыя дапамогі рэвалюцыянерам. Яны, як правіла, дзейнічалі нелегальна. Менавіта таму колькасць сяброў камуністычных арганізацый



Грамада беларускай моладзі ў Гродне


1921

Грамада Беларускае Моладзі
Горадзенская арганізацыя.

Сяброуская кніжка
№ 33
на 1921 г.

Грамада беларускай моладзі ў Гродне паўстала яшчэ вясной 1919 г. Сярод іншага ў ёй дзейнічалі скаўцкая арганізацыя, хор і нават футбольная каманда.

была абмежаванай. У канцы 1921 года гродзенскія камуністы налічвалі толькі 17 чалавек. Аднак уплыў камуністаў у горадзе быў даволі значным.

На пачатку 1920-х гадоў з вяртаннем на Радзіму былых уцекачоў пашыраюцца антыдзяржаўныя настроі сярод няпольскага насельніцтва. Барацьбу супраць польскай улады ўзначаліла партыя беларускіх эсэраў (БПС-Р) у цесным супрацоўніцтве з Літвой. Згодна з планам, распрацаваным у генштабе літоўскай арміі, на Гродзеншчыне паўстанне павінны былі ўзняць урад БНР і БПС-Р.

Для непасрэднага кіраўніцтва паўстаннем на месцах былі створаны чатыры групы. Штаб чацвёртай з іх на чале з Вячаславам Разумовічам, які прыняў псеўданім «атаман Хмара», размяшчаўся ў мястэчку Мерач паблізу польска-літоўскай мяжы. Ён адказваў за гродзенскі напрамак.

Кіруючым цэнтрам беларускага антыпольскага руху ў Гродне стаў гродзенскі Беларускі нацыянальны камітэт. Канспіратыўныя сустрэчы беларускага падполля адбываліся ў Барысаглебскім манастыры ў памяшканні беларускай школы. У Гродзенскі акружны штаб беларускіх партызан уваходзілі Адам Трыпуза, Аляксандр Гораш, Навум Козіч, Аляксандр Парук і Павел Якубецкі. Адным з галоўных дзеячоў беларускага антыпольскага партызанскага руху на Гродзеншчыне з'яўляўся Аляксандр Станкевіч («Пугачоў»). Паводле звестак польскай паліцыі, ён быў арганізатарам партызанскага атрада ў Гродне.

Узімку 1922 года пачынаецца падрыхтоўка да тэрарыстычных акцый. Па загаду атамана Хмары партызаны рыхтаваліся ўзарваць штаб польскага камандаван-




Дэманстрацыі канца 1930-х гг.

ня ў Гродне, арганізаваць замах на гродзенскага старасту.

Польская дэфензіва з дапамогай правакатараў у сярэдзіне 1922 года выкрыла эсэраўскае падполле. Усяго з 1921 па 1923 г. у Гродне і Гродзенскім павеце польскімі ўладамі за прыналежнасць да беларускага нацыянальнага руху было рэпрэсавана 126 чалавек. Паступова антыпольская ўзброеная барацьба спыняецца, аднак палітычная працягваецца. У 1925 – 1927 гадах у горадзе дзейнічае павятовы камітэт Беларускай сялянска-работніцкай грамады.

Аднымі з найбольш актыўных былі габрэі. Пасля Першай сусветнай вайны ў Гродне паўсталі тры вялікія габрэйскія блокі – сіяністы, артадоксы і бундаўцы. Бундаўцам сімпатызавалі мясцовыя камуністы. Асобныя легальныя габрэйскія партыі мелі ў горадзе да некалькіх тысяч прыхільнікаў. Пад уплывам сіяніцкіх ідэй толькі ў 1935 годзе з Гродна на Бліжні Усход выехала каля 5 тысяч жыхароў. Габрэйскія сацыялістычныя партыі выступалі супраць палітыкі сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту ў польскай дзяржаве. Габрэйскія артадоксы трымаліся прынцыпу лаяльнасці да існуючай улады.

Вялікім ўплывам у горадзе карысталіся габрэйскія моладзевыя арганізацыі: «Дрор», «Ха-Шомер», «Ха-Заір» і «Бейтар». Супярэчнасці паміж гэтымі арганізацыямі часам праводзілі да адкрытага супрацьстаяння. У 1923 – 1924 гадах пачынае дзейнічаць «Ха-Шомер Ха Заір» – піянерска-скаўцкая арганізацыя. Хутка яна ахапіла не толькі Гродна, але і наваколле. Кожны год арандавалася памяшканне на вёсцы, дзе адбываліся летнія лагеры.

Палітычнае жыццё ў горадзе надзвычай ажыўлялася напярэдадні чарговых выбараў. З'яўляліся новыя палітычныя блокі і партыі. На вуліцах праходзіла актыўная агітацыя. Пашыраўся ўплыў прафсаюзных арганізацый. У Гродне на працягу 1920 – 1930-х гадоў адбываецца шэраг дэманстрацый і страйкаў працоўных.




У сярэдзіне 20-х гадоў беларускі рух у Гродне ператварыўся ў адчувальную сілу. Мітынгі з удзелам беларускіх дэпутатаў Сейма Рэчы Паспалітай адбываліся ў тым ліку ў сённяшнім кінатэатры "Чырвоная зорка"

## Пытанні і заданні

1. Якой была палітыка польскіх гарадскіх уладаў? Якія асноўныя прынцыпы польскай урадавай палітыкі на беларускіх землях яна адлюстроўвала?
2. Якім было грамадскае жыццё ў беларускім, габрэйскім, польскім асяродках гараджан?
3. Аб якіх палітычных працэсах у Заходняй Беларусі 1920 – 1930-х гг. сведчыць стан і дзейнасць палітычных партый і рухаў у Гродне?
4. Што ў сучасным горадзе нагадвае пра грамадска-палітычныя падзеі таго часу?

# § 32. Культурнае жыццё горада

**Якую культурную спадчыну пакінула Гродну XIX стагоддзя?**

**Пасля азнаямлення з параграфам вы павінны:**

- **умець расказваць аб гродзенскіх дзеячах культуры – Юзафе Ядкоўскім, Яне Каханоўскім, Зоф'і Налкоўскай.**
- **параўноўваць стан развіцця культуры ў Гродне са станам культуры ў іншых рэгіёнах Беларусі ў міжваенны перыяд.**
- **ведаць і разумець асноўныя тэндэнцыі развіцця гарадскога перыядычнага друку.**
- **адрозніваць архітэктурныя пабудовы ў стылі канструктывізму.**
- **правільна фармуляваць і ўжываць наступныя паняцці і назвы: «Echo Grodzieńskie», гістарычны музей, «Дом стральца», канструктывізм, «Новы свет».**

*«Калі я думаю пра Гродна, яго няяскравая, затуманеная прыгажосць выдаецца мне нейкім дзівам. Стагоддзі пакідалі тут, на гэтым месцы, узоры адвечнай зменлівай прыгажосці».*

***Зоф'я Налкоўская, польская паэтка***

## 1. Развіццё культуры.

У міжваенны перыяд культура Гродна атрымала новы штуршок у сваім развіцці, галоўным чынам, у агульным рэчышчы культуры II Рэчы Паспалітай. У якасці галоўных постацей гродзенскай гісторыі ў гэты час разглядаліся кароль Стэфан Баторый ды пісьменніца Эліза Ажэшка. У канцы лістапада 1933 года Гродна гучна адзначыў 400-годдзе з дня нараджэння Стэфана Баторыя. Імем Элізы Ажэшка назвалі гарадскі тэатр і літаратурнае таварыства.

Па ініцыятыве гісторыка Юзафа Ядкоўскага ў шырокае карыстанне ўваходзіць тэрмін «Вавель Наднёманскі». Гродна параўноўваўся з Кракавам, старая частка якога называецца Вавель. У 1932 — 1933 гадах Ю. Ядкоўскі правёў археалагічныя раскопкі



**На святкаванне юбілея ў гонар Стэфана Баторыя ў Гродна прыехалі першыя асобы польскай дзяржавы. 1933 г. Фота NAC.**



**Панарама замка з боку Нёмана. Фота NAC.**



**Зоф'я Налкоўская (1884-1954 гг.) Гродзенскі перыяд у яе жыцці быў вельмі плённым. Тут яна напісала адны з сваіх найлепшых твораў. Акрамя таго яна была куратаркай гродзенскай турмы і апекавалася зняволенымі.**

на Замкавай гары, у 1935 г. даследаваў Каложскую царкву.

У лістападзе 1926 года быў адкрыты гарадскі музей прыроды. Аснову яго склала калекцыя навукоўца і падарожніка Станіслава Жыўны. У музеі налічвалася каля 3 тысяч экспанатаў. У канцы 1930-х гадоў іх колькасць павялічылася больш чым удвая.

З перапынкамі са снежня 1922 года па студзень 1927 года ў Гродне жыла і тварыла вядомая польская пісьменніца Зоф'я Налкоўская. Гродзенскі перыяд жыцця пакінуў адметны след у яе творчасці. Гродзенская праб-



**Камітэт музея прыроды: стаяць злева - Я. Бяганьскі, Юзаф Ядкоўскі, Ян Каханоўскі, Станіслаў Жыўна, В. Леановіч; сядзяць злева - С. Астрыньскі, Л. Абрамскі, Аляксандр Тальгейм, Я. Якімовіч, Ежы Цытаржынскі, М. Філ.**







Тэатральныя афішы




Білет у кінатэатр "Аполло"



Гарадскі тэатр. Фота NAC.

лематыка з'явілася асновай яе лепшых твораў: раманаў «Нядобрае каханне» і «Мяжа». У ГрДУ імя Я. Купалы створаны музей З. Налкоўскай.

З нашым горадам звязана жыццём і дзейнасцю вядомая польская перакладчыца Вільгельміна Зындрам-Касцялкоўская.

У сярэдзіне 1930-х гадоў была ўстаноўлена літаратурная ўзнагарода горада Гродна імя Э. Ажэшка. Старшынёй гродзенскага таварыства літаратуры і мастацтва з'яўлялася пісьменніца Надзея з Друцкіх О'Брыен дэ Лясі. У горадзе дзейнічалі некалькі бібліятэк. У гарадской публічнай бібліятэцы захоўвалася каля 30 тысяч кніжак. З 1929 года пачынае выходзіць серыя кніг «Гістарычная бібліятэка Гродна». Першай надрукаванай кнігай было даследаванне, прысвечанае смерці Стэфана Баторыя ў Гродне.



Габрэйскі тэатр




Кінаафіша

Яшчэ адным культурным асяродкам Гродна быў дзяржаўны архіў. Ён меў статус трэцяга гістарычнага архіва на тэрыторыі ўсёй міжваеннай Польшчы. У сярэдзіне 1920-х гадоў Гродна адлюстравалі на сваіх малюнках гродзенскія мясцовыя мастакі Буйноўскі, Сапоцька і Вранецкі.

Сапраўдным цэнтрам культурнага жыцця ў Гродне з'яўляўся тэатр. У 1930-х гадах гродзенская тэатральная трупа атрымала статус аб'язнога тэатра Беластоцкага ваяводства. Акрамя гэтага, у 1926–1929 гадах у горадзе дзейнічаў тэатр «Вясёлка». У 1923 годзе быў закладзены гродзенскі гарнізонны тэатр. Ставілі спектаклі габрэйскія, беларускія, расійскія, украінскія самадзейныя трупы. Танцы і выступленні артыстаў адбываліся таксама ў гарадскіх кафэ і рэстаранах «Раяль», «Еўрапейскі», «Гандлёвы», «Славянскі» і інш.

Аматары кіно наведвалі гродзенскія кінатэатры: «Апола», «Пан», «Уцеха» і «Люкс». Дэманстравалі як польскія, так і замежныя стужкі. Летам 1939 года ў горадзе быў зняты фільм па творы Э. Ажэшкі «Над Нёманам». У горадзе дзейнічаў шэраг фотаатэлье: Лейбы Гельгара, Дамініка Анерыкі, Карасіка-малодшага. Выдаваліся паштоўкі з гродзенскімі краявідамі.

Узнікненне заапарка ў Гродне звязана з імем бліскучага выкладчыка біялогіі мужчынскай гімназіі імя А. Міцкевіча Яна Каханоўскага. У верасні 1929 г. гарадская рада перадала пад заапарк велатрэк па вуліцы Станіслававоўскай. Першым дырэктарам заапарку стаў палкоўнік запасу Адамовіч.



Ян Булгак (1876 - 1950) адзін з пачынальнікаў мастацкай фатаграфіі ў Польшчы, Літве, Беларусі. Падчас сваіх вандровак па землях былога Вялікага княства Літоўскага зрабіў некалькі дзясяткаў тысяч фотаздымкаў краявідаў, людзей, помнікаў архітэктуры. Шмат здымкаў рабіў у Гродне. У міжваенны час пабачылі свет некалькі паштовак са здымкамі нашага горада, зробленымі Янам Булгакам.



Ян Каханоўскі разам са сваімі выхаванцамі ў гродзенскім заапарку.


БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА


NASZA OKOLICA
ORGAN ZAŚCIANKÓW POLSKICH ZIEM PÓŁNOCNO-WSCHODNICH
11. XI. 1918
11. XI. 1937



## Факт гісторыі

У 1936 годзе гарадзенскі заапарк налічваў каля 400 экспанатаў. Першым зверам заапарка быў чорны бабёр. Сярод экспанатаў былі нават тыгр, леў і леапард. Любіміцай наведвальнікаў звярынца з'яўлялася малпачка, якую звалі Кока. Яна свабодна гуляла па-за клеткамі. Дзеці яе клікалі «Кока, ідзі на магістрацкую зупу» і давалі ёй розныя прысмакі…

### 2. Перыядычны друк.

У 1920-1930-х гадах у Гродна выходзіла каля дзесятка розных газет. Гэта былі гродзенскія польскамоўныя газеты: «Nowy dzennik kresowy», «Nadniemenski kurjer Polski», «Głos prawdy ziemi grodzieńskiej», «Wieczorny Kurjer Grodzieński», «Nasza Okolica» і інш. Габрэйскія газеты выдаваліся на іўрыце і ідзіш: «Grodner Kurjer», «Grodner Radjo», «Grodner Lebn», «Umpertajis Togblat» і інш. Яны інфармавалі аб падзеях, якія адбываліся як унутры габрэйскай абшчыны, так і ў Гродна наогул. У сярэдзіне 1920-х гг. выйшла таксама некалькі аднадзёнак на рускай мове.

Першай гродзенскай беларускай газетай была газета «Беларускі народ». Яна ўбачыла свет на пачатку 1919 года. Увесну 1919 года выйшла некалькі нумароў «Бацькаўшчыны», «Зоркі» і «Беларусі». З усіх гродзенскіх беларускіх выданняў найбольшую колькасць нумароў мела «Беларускае слова» – больш за сто. Даўжэй за ўсіх, з 1930 па 1932 год, выходзіла «Беларуская думка». Усяго некалькі нумароўмелі убачылі газеты «Беларускі шлях», «Сялянская гутарка», «Беларуская доля» і інш. Тройчы польскія ўлады прыцягвалі беларускія выданні да судовай адказнасці. Гэтак сталася з газетамі «Родны край», «Беларускае слова» і аднадзёнкай «Пралом».

Большасць газет мела агульнапольскі характар і выдавалася ў Варшаве. Толькі апошняя старонка друкавалася менавіта ў горадзе. Аднак былі і выключэнні, як, напрыклад, газеты «Grodner Moment», «Grodner Shtimme», «Nowe Życie», «Echo Grodzieńskie».


DZIENNIK KRESOWY
Wódz - ostatni w apelu


NOWE ŻYCIE
№ 49

Гродзенскія перыядычныя выданні 20-30-х гг. XX ст.



Агульны від Фарнага касцёла і фрагмент плошчы Стефана Баторыя. Фота NAC.

## 3. Развіццё архітэктуры і горадабудаўніцтва.

Пасля вайны назіраецца паступовае аднаўленне гарадской гаспадаркі. У 1924–1926 гадах Гродзенскі гарадскі магістрат праводзіць пашпартызацыю ўсёй нерухомасці ў горадзе з вызначэннем яе стану. Праводзяцца працы па добраўпарадкаванні горада. У 1922 годзе пачынаецца рэстаўрацыя храма Узнясення Маці Божай.

У першай палове 1920-х гадоў у горадзе на гаспадарчыя мэты было спілавана шмат дрэваў. У крытычным стане знаходзіліся і гарадскія скверы.

У маі 1927 года гарадскі савет прыняў пастановы аб ахове зялёных насаджэнняў у Гродне. Закладаецца шэраг новых алеяў і паркаў, напрыклад, «алея кахання». У 1928 годзе магістрат абвясціў конкурс на стварэнне рэгулярнага плана Гродна. Аднак у 1934 годзе ў сувязі з цяжкім фінансавым становішчам магістрат вымушаны быў ад яго адмовіцца. 27 лістапада 1930 года замест драўлянага быў пабудаваны бетонны мост праз Нёман, які атрымаў назву ў гонар маршалка Ю. Пілсудскага (сённяшні Стары мост).

Сапраўдны будаўнічы бум распачаўся пасля эканамічнага крызісу пачатку 1930-х гадоў.

### Дакументы сведчаць

З апісання сквера на плошчы Баторыя (сучасная Савецкая): сквер «…нагадвае луг, які не скошвалі на працягу некалькіх год. Ні кветак, ні ўпрыгожванняў. Дарожкі ўвесь час засмечваюцца працоўнымі, якія самавольна арганізавалі тут біржу працы».



Мост імя маршала Юзафа Пілсудскага. Фота NAC.

Паўсюдна аднаўляліся фасады старых будынкаў, высаджваліся дрэвы ў парках і ўздоўж вуліц, ствараліся новыя скверы. Упарадкоўваецца «Швейцарская даліна». З 1928 па 1933 год па праекце інжынера Б. Пірацкага прыводзіцца ў належны стан набярэжная Нёмана. Будуецца лесвіца да ракі пад замкавым мастом, пачынаюцца рэстаўрацыйна-кансервацыйныя працы на Старым замку і Каложы. Адноўлены гарадскі гадзіннік на езуіцкім касцёле.

Асноўным архітэктурным стылем у Гродне становіцца канструктывізм. Найбольш значнымі пабудовамі ў горадзе сталі «Дом Стральца» (вядомы сёння як Дом афіцэраў па



Гарнізонны касцёл (Фара Вітаўта). Пасля перабудовы 1935 г.



Дом Стральца (пазней Дом Афіцэраў). Быў пабудаваны ў сярэдзіне 30-х гадоў. Магчыма, што аўтарам праекту быў адзін з пачынальнікаў стылю канструктывізм Міхаіл Шчука. Першы камень заклаў у 1923 годзе тагачасны прэзідэнт Польшчы С. Вайцяхоўскі.

Ажэшка) і польскі банк (зараз будынак Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь па вул. Карбышава). Жылыя дамы ў стылі канструктывізму захаваліся на вуліцах Батанічнай, Чкалава, Астроўскага, 17 верасня. Гэты раён горада меў назву «Новы свет», бо быў адносна новай тэрыторыяй, якая афіцыйна ўваходзіла ў гарадскую мяжу.



Будынак павятовага банка ў Гродна. Пабудаваны ў 1931 годзе па праекце архітэктараў С.Валканоўскага і М.Шчукі. Узор архітэктуры канструктывізму.



**Батанічны сад у Гродне. Закладзены ў сярэдзіне 20-х гадоў Янам Каханоўскім. У хуткім часе ператварыўся ў сапраўдную візітную картку горада і любімую тэму мясцовых фатографаў. Сёння частка гарадскога парка.**

## Факт гісторыі

Адзін з будынкаў у стылі канструктывізму. Месціўся на рагу вуліц Горкага і 17 верасня. Раней гэта была крама «Гарачы хлеб». У 2006 годзе, нягледзячы на відавочныя рысы арыгінальнай архітэктуры, гарадскія ўлады прынялі рашэнне аб зносе будынка. Будынак быў цалкам зруйнаваны. Усе звароты і пратэсты гродзенцаў не знайшлі водгуку ў адміністрацыі горада.





Спартовая каманда вайскоўцаў у Гродне.




Эмблема вайсковага спартовага клуба "Крэсовія." Клуб "Крэсовія" меў тэнісныя корты, байдарачную станцыю і футбольную пляцоўку. Габрэйскі спартовы клуб "Макаб" меў свой прыватны стадыён у двары гэтак званай "Баторыеўка".

## 4. Развіццё спорту.

Важнаю часткай культурнага жыцця Гродна стаў спорт. Вядучай гродзенскай футбольнай камандай была «WKS Grodno» (вайсковы спартыўны клуб «Гродна»). Яе кіраўніком з'яўляўся паручнік Караль Даўгяла. Яна былі пераможцамі ў чэмпіянатах Беластоцкага ваяводства ў 1931 – 1934 і 1936 – 1939 гадах. Матчы гуляліся на стадыёне акружнога таварыства фізічнага выхавання (сёння – стадыён ГрДУ імя Я. Купалы па вул. Захарава). Гэта было сапраўднае гарадское свята. У дзень матча на стадыёне выступаў вайсковы аркестр. Перад асноўнай гульнёй праводзілася сустрэча юніёраў. Хаця білеты на матч былі не таннымі, гледачоў збіралася заўсёды вельмі шмат.



Сябры спартовага клуба "Крэсовія". Пасярэдзіне - старшыня клуба Аркадзіуш Хігіер. 1932 г. Фота NAC.




У першую чаргу спортам займаліся вайскоўцы, дзяржаўная паліцыя і мясцовых гімназій.

Вайсковы спартыўны клуб вызначаўся не толькі ў футболе. У 1926 годзе ён стаў адным з арганізатараў польскай федэрацыі хакея на траве. Валейбольная каманда «Крэсовія» заваявала срэбны медаль на чэмпіянаце краіны. Шмат гледачоў прыходзіла і на матчы гродзенскіх габрэйскіх клубаў «Крафт» (Kraft), «Макабі» (Makabi) і «Ютшня» (Jutrznia).

У міжваенныя гады двойчы чэмпіёнам Польшчы ў кіданні дыска станавіўся гродзенец Леанід Федарук. З горадам былі звязаны вядомыя лёгкаатлеты Аляксандр Ёчыс – рэкардсмен Польшчы ў бегу на 110 метраў з бар'ерамі, Вітольд Гярута і Вацлаў Сідаровіч. Ураджэнцы Гродна Юзаф Клукоўскі і Караль Румель станавіліся пераможцамі летніх Алімпійскіх гульняў 1932 і 1936 гадоў. Быў у горадзе і яхт-клуб, на Нёмане рэгулярна праводзіліся рэгаты. Некаторыя з гродзенскіх спартсменаў таго часу пазней выступалі ўжо за спартовыя каманды БССР.




Байдарачны клуб у Гродне. Будынак захаваўся да нашага часу.



Караль Румель - адзін з першых гродзенцаў – удзельнікаў Алімпійскіх гульняў.

## Факт гісторыі

Ужо пасля Другой сусветнай вайны былы рэдактар газеты «Nasze życie» ксёндз Людвік Саванеўскі напісаў паэму «Сага пра Гродна». У ёй ён у вершаванай форме апісаў жыццё міжваеннага горада і яго жыхароў. Л. Саванеўскі прысвяціў свае радкі гродзенцам, узгадаўшы і іх пасляваенны лёс.



**Краявід цэнтральнай часткі горада перад самым пачаткам Другой Сусветнай вайны**



**Ксёндз Людвік Саванеўскі (1891-1966 гг.)**
**Узрушаны выгнаннем з Гродна дырэктара музея Юзафа Ядкоўскага ў сярэдзіне 30-х гадоў, прысвяціў гэтым падзеям верш у якім па сутнасці прадбачыў лёс горада:**

*"Oj Grodnienko, oj Grodnienko.*
*Ciebie kocha ktoś tak cienko,*
*że nie minie pokolenie,*
*jak zostaną z ciebie cienie.*
*Wszystko w tobie przebudują,*
*przefarbują, przemalują,*
*że nie będzie ani śladu*
*dawniejszego w tobie ładu.*
*Twoją przeszłość i pamiątki*
*historyczne cudne kątki,*
*zniszczą fale nowej mody,*
*nowych ludzi blufarody.*

## Пытанні і заданні

1. **Чым заслужаныя для Гродна Ян Каханоўскі, Юзэф Ядкоўскі, Зоф'я Налкоўская?**
2. **Аб якіх палітычных, культурных, канфесійных і этнічных працэсах сведчыць стан развіцця культуры ў Гродне?**
3. **Якія помнікі архітэктуры ў сённяшнім горадзе нагадваюць перыяд 1920–1930-х гг.?**
4. **Якія культурныя ўстановы, створаныя ў міжваенны час XX стагоддзя, захаваліся і дзейнічаюць сёння?**
5. **Вызначце асноўныя тэндэнцыі развіцця культуры ў Гродне ў 1920–1930-я гг. XX ст.**
6. **Зрабіце вандроўку па вуліцах раёна «Новы свет» і падрыхтуйце паведамленне пра яго архітэктурныя адметнасці.**



Касцёл Назарытанак у Гродне. Дрэварыт Я. Ванатоўскага



Дамы пры вуліцы Маставой. Малюнак Ю. Ядкоўскага



"Вуліца Курган". 1935 г. К. Сапоцька



Замак Стэфана Баторыя ў Гродне, 1926 г. З. Буйноўскі.



Гродна. Літаграфія Я. Варанецкага. 1926 г.



Вуліца  Замкавая ў Гродне. Дрэварыт Я. Ванатоўскага

# § 33-34. Гродна ў час Другой сусветнай вайны (1939-1945 гг.)

Успомніце горад часоў Першай сусветнай вайны

*О Нёман! І песня, і слава!*
*Народа майго і зямлі,*
*Магілаю ворагаў цеснай,*
*Не раз твае хвалі былі...*

**Пасля азнаямлення з параграфам вы павінны:**

- аргументавана расказваць пра ваенныя падзеі і ўмовы жыцця гараджан ў 1939-1945 гг.;
- умець аналізаваць дзейнасць савецкіх уладаў у горадзе ў гады вайны;
  распавядаць пра акупацыйную палітыку нацыстаў у горадзе;
- ведаць стан і вынікі дзейнасці падпольнага руху ў акупаваным горадзе;
- правільна фармуляваць і ўжываць наступныя паняцці і назвы: УР №68 «Гродзенскі», фольксдойч, гета, Гартэн, «гродзенскія» часткі.

## 1. Баі за Гродна ў 1939 г.

Як і на ўсе беларускія землі ў складзе Польшчы, у Гродна Другая сусветная вайна прыйшла ў верасні 1939 года. Гродзенцы, якія служылі ў польскім войску, сталі ўдзельнікамі баёў з фашыстамі ў Польшчы. Яны абаранялі Гдыню, Модлін, Варшаву. Адтуль у Гродна прыйшлі першыя "пахавальныя". Ужо 1 верасня на Гродна налялелі першыя нямецкія бамбард-



Стары мост у Гродне. Верасень 1939 г.



Гродзенскія харцэры - абаронцы горада.

## Факт гісторыі

Зранку пачуліся першыя стрэлы. З боку Беластока паказаліся танкі. Першы з іх уехаў на мост, за ім другі, трэці, чацвёрты. Першы быў ужо на вуліцы Маставой і страляў у казармы. Польскі салдат прыцэльна кінуў бутэльку з бензінам. Танк успыхнуў. Адзін з танкістаў выскачыў, ахоплены полымем. Савецкія танкісты адкрывалі агонь па ўсім, што знаходзілася ў полі зроку і трапляла ў зону агню. Ачуняўшы, польскія салдаты і добраахвотнікі занялі абарону. Прасоўваючыся па вуліцы Дамініканскай, танкі палівалі кулямётным агнём брамы дамоў. Прыкладна да 11 гадзін усе танкі разведгрупы 6-га казацкага корпуса артылерыі былі знішчаны, іх экіпажы загінулі або трапілі ў палон. Тым часам з паўднёва-ўсходняга напрамку да Гродна падцягваліся галоўныя падраздзяленні войск 6-га корпуса, а пазней з усходу падышлі часці 5-га корпуса. Атакамі на Гродна асабіста камандаваў генерал Андрэй Яроменка. Падчас баявых дзеянняў у Гродне ля Старога маста загінуў палітрук Георгій Гарнавых. Яго магіла цяпер знаходзіцца на месцы яго гібелі



Танк Т-26. Такімі танкамі быў узброены 317-ы танкавы батальён 100-й стралковай дывізіі, які ў верасні 1939г. штурмаваў Гродна з боку Скідзеля



Трафеі Чырвонай Арміі ў Заходняй Беларусі, верасень 1939 г.

зіроўшчыкі. А раніцай 20 верасня 1939 года да горада падышлі часткі Чырвонай Арміі. Паход быў рэалізацыяй пакта Рыбентропа-Молатава. Успомніце змест гэтай таямнічай змовы паміж СССР і Германіяй ад 23 жніўня 1939 г. У выніку раздзёртая напалам умовамі Рыжскай дамовы 1921 года, Беларусь увайшла ў склад БССР. Аднак адбылося гэта ва ўмовах новай сусветнай вайны.

Польскія вайскоўцы і апалчэнцы з ліку гарадскога насельніцтва аказалі супраціў Чырвонай Арміі, якую яны лічылі захопніцкай. У той жа час, у сваёй большасці, габрэйскае і беларускае насельніцтва Гродна



Старшына Гутнікаў, загінуў у баі з польскімі ўланамі праўдападобна каля в. Кодзеўцы Гродзенскі р-н. Верасень 1939 г.

## Сведка падзей

Згадвае жыхарка Гродна К.А. Жулега, 1934 г. н.: «Гарадское апалчэнне, куды ўвайшлі студэнты, іншыя жыхары, не збіралася здаваць горад ні Саветам, ні немцам. Яны змагаліся і верылі ў перамогу. Многія разумелі альбо адчувалі, што калі ворагі займуць наш горад, то ўсім прыдзецца вельмі цяжка. Супраціў быў вельмі моцным. Асабліва па-геройску ваявалі нашы студэнты... Гродна супраціўлялася. У лесе каля Нёмана мы правялі 2–3 ночы. Калі пакінулі лес, то на полі габрэя Каўмана ўбачылі шмат забітых салдат. Былі і параненыя. Невядомых забітых людзі пазней пахавалі ў лесе, знаёмых – на могілках».




Шыльда ў гродзенскім катэдральным касцёле ў памяць гродзенскіх харцэраў, абаронцаў Гродна ў верасні 1939 г.



Новая савецка- нямецкая мяжа прайшла ўсяго за некалькі кіламетраў ад Гродна.



І. В. Болдзін (1892 - 1965 гг. ) Ганаровы грамадзянін г. Гродна

з радасцю вітала прыход савецкіх войскаў. Яшчэ да іх уступлення ў горадзе пачаліся ўзброеныя выступленні прыхільнікаў былой Камуністычнай Партыі Заходняй Беларусі супраць польскай улады. З савецкага боку ў ваенных дзеяннях у Гродне ўдзельнічалі падраздзяленні конна-механізаванай групы пад камандаваннем камандзіра корпуса Івана Болдзіна. У складзе групы знаходзіліся 5-ы танкавы і 6-ы кавалерыйскі корпусы. Хаця ў горадзе дыслакаваліся моцны польскі гарнізон і некалькі штабаў, усё перамянілася перад савецкім наступленнем. Колькасць абаронцаў горада складала каля 1500 чалавек.

Увечары 21 верасня горад апынуўся пад савецкай уладай. Страты савецкіх войскаў склалі, верагодна, 800 чалавек і 22 адзінкі бранятэхнікі.

### 2. «За першымі Саветамі».

У Гродне пачала ўсталёўвацца новая ўлада – савецкая. Як і на ўсёй далучанай тэрыторыі Беларусі, ёю праводзілася палітыка, мэтаю якой было як мага хутчэй перавесці сацыяльна-культурнае жыццё і гаспадарку на сацыялістычны лад. Праводзілася гэта



Мітынг у Гродне на вул. Э. Ажэшка, восень 1939 г.

метадамі, уласцівымі тагачаснаму сталінскаму кіраўніцтву ў СССР. 22 верасня для кіравання паветам і горадам было створана часовае праўленне на чале з І. Жытковым. Ахова парадку была ў руках міліцыі і рабочай гвардыі. Сталінская рэпрэсіўная машына нанесла моцны ўдар па насельніцтву горада. Перш за ўсё гэта тычылася заможных груп гараджан, служыцеляў касцёла і

## Сведка падзей

К.М. Несцярэнка: «Рэпрэсіі распачаліся не адразу. Людзей пачалі вывозіць у 1940 г. Аднойчы ўначы зніклі нашыя суседзі Шабельнікі. Муж працаваў машыністам. Навошта іх было арыштоўваць? Але ўначы падагналі «чорнага ворана» і ўсіх забралі. Вывезлі і суседзяў Гульбяжоў. Гаспадар працаваў на пошце... Шмат каго з інтэлігенцыі арыштавалі і пасадзілі, многіх і многіх вывезлі. Калі хто меў двухпавярховы дом, то вывозілі адразу».

К.А. Жулега: «З прыходам бальшавікоў пачаліся жахлівыя, жорсткія «чысткі» мясцовага насельніцтва. Людзі пыталіся: «Чым мы правініліся?» Некаторыя казалі, што прычына ў тым , што горад абараняўся... Людзей забіралі звычайна ўначы. Прыязджаў «чорны воран» або палутарка, кузаў якой быў зацягнуты брызентам. «Энкавэдысты» ўламваліся ў кватэры. Заганялі людзей у машыны і везлі на чыгуначны вакзал. Там ужо чакалі эшалоны... У горадзе казалі і пра тое, што ў Пышках адбываюцца расстрэлы. Расстрэльвалі таксама ў гарадской турме».



Пропуск

Выдан работнику м. д. Изборовский на право хождения по улицам гор. Гродно в любое время суток.

Гродно дня 2/X 1939 года

Действительно до 1939 года

Военный Комендант г. Гродно

Лейтенант (Мартынов)

Адзін з першых дакументаў, выдадзены савецкімі ўладамі ў Гродне




Галасаванне 22 кастрычніка 1939 г. у Гродне

тых, хто меў дачыненне да былой польскай улады. Але страх «пасяліўся» ва ўсіх гараджанах. З вядомых гарадзенцаў быў арыштаваны, напрыклад, Ян Каханоўскі. У Катыні, Асташкаве, Старабельску і Гразаўцы, па падліках Вячаслава Шведа, знаходзілася ў 1940-1941 гг. не менш як 84 гродзенцы.

У сакавіку – снежні 1940 года, пасля падзей беластоцкага з’езда, пачаліся выбары ў мясцовыя выканаўчыя органы ўлады. 26




Элемент дэкора старога маста, адбудаванага ў гонар 10-й гадавіны ўз'яднання Заходняй і Усходняй Беларусі. Знішчана падчас рэканструкцыі 2008 г.

## Сведка падзей

Успамінае К.М. Несцярэнка, 1926 г.н.: «Аднойчы ў школу прыйшлі ваенныя. Яшчэ да ўрокаў. Былога пастраення з малітвай ужо не было. Ваенныя хадзілі па класах і разносілі «Піянерскую праўду». Знялі крыж і сказалі , што мы больш не будзем ні маліцца, ні спяваць. А потым павесілі чырвоны сцяг... Настаўнікі былі ў жалобе. Да кастрычніка мы вучыліся на польскай мове. А ў кастрычніку паведамілі, што польскай школы больш не будзе. Затое адкрываецца руская школа... А нашая школа ператвараецца ў беларускую. Праўда, нас, беларусаў, перавялі ў рускую школу. Яна была на вуліцы Акадэмічнай насупраць нямецкай кірхі... Усе настаўнікі засталіся без працы. Усё польскае наогул знішчалася. Затое з’явіўся рускі тэатр. І кіно было толькі рускае. Перайменоўвалі вуліцы. Вуліца Дамініканская стала Савецкай, вуліца 11 лістапада – 17 верасня.

Успамінае Г.А. Каршакоўскі, 1931 г.н.: «З прыходам Чырвонай Арміі нам стала жыць лягчэй. Бацька працаваў у сувязі, меў добрыя заробкі. На стале з’явіліся цукеркі, мяса. Культурнае жыццё актывізавалася. Усе дзеці пайшлі ў школу. »



Адзін з савецкіх дотаў у наваколлі Гродна.

снежня ў будынку тэатра (цяпер тэатр лялек) адбылася першая сесія гарадскога савета. Першым сакратаром гарвыканкама быў абраны былы намеснік старшыні Магілёўскага аблвыканкама 42-гадовы Пётр Ратайка.

За час ад уваходу ў горад бальшавікоў да пачатку агрэсіі гарадзенцы спазналі шмат пераменаў. З цяжкасцямі наладжваўся дзяржаўны гандаль замест ранейшага прыватнага. Паступова разгортвалася нацыяналізацыя гарадской вытворчасці. Усталяваліся гандлёвыя сувязі з Масквой, Ленінградам і Мінскам. У канцы 1940 года ў Гродне дзейнічалі 33 прамысловыя прадпрыемствы з агульнай колькасцю 3500 рабочых.

Гарадскія савецкія ўлады адразу пачалі рэфармаванне сістэмы асветы і аховы здароўя. Зачыняліся польскія ўстановы адукацыі і адчыняліся рускамоўныя і беларускамоўныя. У 1940 годзе дзейнічала 21 школа, настаўніцкі інстытут, педвучылішча, фізкультурны, кааператыўны і будаўнічы тэхнікумы, працавала 26 медыцынскіх устаноў. Хтосьці гэтаму радаваўся, бо атрымаў шанц вучыцца, атрымаць сталую працу, іншыя ж пракліналі «саветы», бо страцілі звыклы лад жыцця.

На працягу 1939–1941 гг. у Гродне адчувалася блізкасць вайны. Спехам будаваўся новы ўмацаваны раён – УР № 68 (Гродзенскі). У яго стварэнні прымаў удзел савецкі ваенны інжынер генерал Дзмітры Карбышаў. Маштабы будаўніцтва былі грандыёзныя. Ад Сапоцкіна да Ганёндза планавалася ўзвесці 28 апорных пунктаў з 606 доўгатэрміновымі агнявымі збудаваннямі. Як заходні рубеж БССР і СССР, горад быў літаральна запоўнены вайскоўцамі. У канцы 1940 г. ён налічваў 70 тысяч жыхароў.



Дзмітры Карбышаў (1880-1945 гг.). Для некалькіх пакаленняў гродзенцаў ён стаў прыкладам нязломнай мужнасці і чалавечай годнасці.



Разлік нямецкай зеніткі пільнуе неба над Гродна. 23 чэрвеня 1941г.

### 3. Пачатак нямецкай агрэсіі

Гродзенцы спазналі ўвесь жах вайны з нацызмам у першыя ж яе дні. У першыя гадзіны вайны горад быў атакаваны з зямлі і паветра. Хутка была разбурана цэнтральная частка горада, вуліцы, што вялі да мастоў цераз Нёман. 8 армейскі корпус - а гэта тры пяхотныя дывізіі немцаў атакаваў Гродна, імкнучыся хутка рушыць праз горад і далей у наваградскім напрамку, аднак быў прыпынены самаахвярным супраціўленнем абаронцаў, перш за ўсё памежнікаў 86 Аўгустоўскага атрада. Яны стаялі насмерць на сваіх пазі-

## Сведка падзей

З успамінаў І. Чопа, шарагоўца 141-га палка 85-й стралковай дывізіі: «Спёка чэрвеня 1941 года. Стары лес на беразе Нёмана... Доўгі шэраг намётаў у цені ўдзоўж шашы. Пах лапак і палявых кветак. Такім запомніўся лагер «Солы» 141 палка 85 стралковай дывізіі ля Гродна. ...З бліжняга сяла ў горад і назад увечары ішлі сяляне. Некаторыя з іх ахвотна прыпыняюцца, каб закурыць, перакінуцца некалькімі словамі.

- Пан, – шэптам, з даверам казалі яны, – хутка будзе вайна. Герман прыйдзе...
- Не можа такога быць, – пярэчылі мы. – Па радыё перадавалі, ды і ў газетах – не будзе вайны!
- Не, пан, – з сумнай упэўненасцю паўтараў суразмоўца, – будзе. Герман на мяжы такую моц сабраў, што вайна будзе вельмі хутка.
- Лухта гэта, плёткі! – адказваў на нашы пытанні аб магчымай вайне палітрук. – Вы што, прамову таварыша Молатава па радыё не чулі? Газеты чытаць трэба. Капіталісты не рызыкнуць напасці».

## Факт гісторыі

Бой 3-й заставы Віктара Усава: «...Над іх галавамі агеньчыкамі на крылах ішлі ў тыл дзясяткі нямецкіх бамбардзіроўшчыкаў... Калі зусім развіднела, пагранічнікі ўбачылі на дарозе ворагаў, якія з аўтаматамі беглі да заставы... Усаў страляе з аўтамата. Астатнія з вінтовак СВТ. Немцы не вытрымалі і павярнулі з дарогі ў лес, каб абысці з фланга... Хутка пачалася новая, цяпер ужо масіраваная атака пад прыкрыццём мінамётнага агню у пагранічнікаў мінамётаў не было.) Акрамя таго ў тыле з'явіўся лёгкі танк. Падчас другой атакі, якая доўжылася недзе гадзіну, мы панеслі страты... Лейтэнант Усаў змагаўся побач з намі, страляючы з ПКД. Калі расстраляў усе дыскі, узяў снайперскую вінтоўку... Адбіта і другая атака. Пасля бой ужо амаль не сціхаў. Нягледзячы на колькасную перавагу, ворагі не маглі зламіць абаронцаў заставы, якіх станавілася ўсё менш. Пры чарговай атацы паранены ў плячо начальнік заставы: хаця байцы ўсяляк аберагалі яго, ён ірваўся ў самы гушчар бою... Шэрагі абаронцаў усё радзейшыя. Ізноў паранены лейтэнант Усаў. У сутарэнні больш за дзесятак параненых пагранічнікаў, астатнія ўсё яшчэ трымаюцца. Неўзабаве кулямётнай чаргой забіты начальнік заставы са снайперскай вінтоўкай у руках». (з кнігі «В июне 1941-го (воспоминания участников боёв на Гродненщине)». – Гродно, 1999).

цыях. Лейтэнант Віктар Усаў, старшы лейтэнант Аляксандр Сівачоў, старшы лейтэнант Фёдар Кірычэнка гераічна камандавалі 3-й, 1-й і 4-й заставамі. Ніводная з іх не здалася ворагу. Як сведчанне мужнасці абаронцаў Беларусі у XXI ст. на вуліцы Паповіча мемарыяльны комплекс героям-пагранічнікам.

Абаранялі Гродна часткі 3-й арміі генерал-лейтэнанта Віктара Кузняцова. Супраціўленне абаронцаў прымусіла немцаў весці баі на Гродзен-



**Ужо на трэці дзень вайны горыч адступленняў Чырвоная Армія спрабавала кампенсаваць контрударамі і цяжкімі абарончымі баямі. Лета 1941 г.**



Савецкая плошча. Чэрвень 1941. Нямецкі салдат чысціць зубы ля помніка Сталіну.

## «Рэха чэрвеня 41-га»

«6-ы мехкорпус павінен быў атакаваць у накірунку Гродна, Друскенікаў, Меркіне... Удар корпуса быў асуджаны на паразу. Акрамя складанасцей у забеспячэнні войскаў, у корпуса не было аніякага прыкрыцця з паветра. Штатных супрацьпаветраных сродкаў корпус не меў. Армейская авіяцыя панесла ў першыя ж дні вайны страшэнныя страты. Авіядывізія 3-й арміі страціла на зямлі і ў баях 127 з 199 самалётаў...

Ветэраны Заходняга фронту называюць дарогу Ваўкавыск–Слонім «дарогаю смерці». У канцы чэрвеня 1941 г. гэтая шаша была пазавальвана танкамі, спаленымі аўтамашынамі, разбітымі гарматамі. У некаторых месцах тэхнікі было столькі, што рух быў немагчымы. Але галоўнае – на гэтай дарозе палегла шмат салдат і афіцэраў, якія спрабавалі прарвацца скрозь акружэнне. Тут завяршыў свой баявы шлях 6 мехкорпус... Камандаванне фронтам дагэтуль нічога не ведала. Усялякая сувязь з корпусам была страчана. Але і цяпер камандуючы фронтам працягваў аддаваць загады на выкарыстанне 6 корпуса.» (з кнігі «Эхо июня 41-го: страницы истории.» – Гродно, 2005).

скім напрамку да 26 чэрвеня. Увесь горад і яго наваколле былі адным суцэльным полем бою. Доты каля Сапоцкіна працягвалі весці агонь і на чацвёрты дзень вайны. Андрэй Данілаў і яшчэ чатыры лётчыкі 22 чэрвеня здзейснілі паветраныя тараны. Ва ўмовах хуткага, масіраванага наступлення немцаў войскі 3-й арміі былі раскіданы і не мелі якаснай сувязі. Гэта рабіла каардынацыю абароны малаэфектыўнай. Таму загад камандуючага Заходняй Асобнай Ваеннай Акругай Дзмітрыя Паўлава аб нанясенні 24 чэрвеня контру-



Першыя ваеннапалонныя. Немцы дапытваюць салдатаў Чырвонай Арміі на плошчы Леніна (цяпер пл. Тызэнгаўза)




Пагрузка савецкай трафейнай ваеннай тэхнікі на чыгуначным вакзале ў Гродна

дара сіламі 6 корпуса генерал-маёра Міхаіла Хацкілевіча са складу 10 арміі і 11 мехкорпуса генерал-маёра Дзмітрыя Маставенкі з складу 3 арміі на напрамку Беласток–Гродна быў атрыманы са спазненнем. Адчайныя самаахвярныя контратакі чырвонаармейцаў не далі плёну, байцы панеслі велізарныя страты.

З Гродзенскага раёна савецкія войскі адступілі ў ноч на

## Дакумент

У лісце фон Плетца гарадскому камісару Штэйну «Аб ліквідаванні назваў вуліц і шыльдаў не на нямецкай мове» ад 27 лістапада 1941 г. згадвалася: «Паколькі Гродна ўваходзіць у склад германскага рэйха, няма патрэбы, каб шыльды крамаў і майстэрняў горада пісаліся на некалькіх мовах... Таму прашу даць распараджэнне аб ліквідацыі ўсіх іншамоўных надпісаў да 31 студзеня 1942 г. Тое ж тычыцца і назваў вуліц...»



BEKANNTMACHUNG

Die Stadt Grodno erhält mit sofortiger Wirkung den Namen „GARTEN".

Dr. von PLOETZ

АБ'ЯВА

Горад Горадня ад зараз атрымлівае назву „ГАРТЭН".

Др. фон ПЛЕЦ

Новая ўлада перайначвае назву горада на крыжацкі манер. Нягледзячы на перайменаванне, горад і надалей нават самой нямецкай адміністрацыяй называецца Grodno



У чэрвені 1941 г. найбольш пацярпеў цэнтр Гродна. Вуліца Мяшчанская (цяпер вул. Баторыя)

27 чэрвеня. Каб прыпыніць немцаў, шасцю стрэламі з гарматы быў разбураны мост праз Нёман.

## 4. У складзе Трэцяга рэйха.

Пасля адыходу Чырвонай Арміі ў горадзе ўсталявалася акупацыйная нямецкая ўлада. Гэта адбылося 23 чэрвеня, калі баі за горад яшчэ грымелі ў ваколіцах Гродна. Акупацыйны парадак быў загадзя спланаваны. Прынцыпы і метады гэтага «парадку» акупантаў з'яўляліся складальнай часткай ідэалогіі нацызму, гітлераўскіх планаў «Ост», «Барбароса» і іншых дакументаў нацысцкай Германіі. Гэта былі бязлітаснасць і гвалт, антысемітызм, расізм і антыкамунізм. Акупацыйны рэжым з самага пачатку прадугледжваў поўнае падпарадкаванне, рабаўніцтва, прымусовую працу, планамернае знішчэнне пэўнай часткі насельніцтва – камуністаў і савецкіх работнікаў, габрэяў і цыган, хворых людзей. Знішчэнню падлягалі ўсе, хто выказваў незадавальненне або ствараў небяспеку для войскаў Германіі. У Гродне планавалася пасяліць 10 тысяч нямецкіх каланістаў, а ў якасці рабочай сілы накіраваць у Германію 20 тысяч мясцовых жыхароў.


Name Fyszko
geborene
Vorname Zofia
Geburtstag 3. 9. 1913
Geburtsort Indura
Wohnort Gross Kaplica Str.
Kreis Grodno
Beruf Ohne
Volkstumszugeh. Pole
Glaubensbek. Röm-kat.
Staatsangeh. am 1.9.39 Polen
Personenbeschreibung:
Grösse 152
Gestalt schlank
Gesicht lang
Haar blond
Augen blau
Besondere Kennzeichen keine
ISP 186
Landkreis Grodno — Amtskommissariat
Fyszko Zofia
Unterschrift des Ausweisinhabers
5. 7. 1943
Polizeipräsident
Der Bürgermeister
Amtskommissar
Dienststempel
Landkreis Grodno — Amtskommissariat Wierzbieliszki
Unterschrift des ausfertigenden Beamten

Жыхары Гродзеншчыны атрымліваюць новыя пашпарты – "аўсвайсы"

Акупацыйнае жыццё змяніла і ўвесь парадак жыцця гараджан, так і аблічча Гродна. Горад увайшоў у адміністрацыйную акругу «Беласток». «Горад Гродна зараз атрымлівае назву Гартэн», – згадвалася ў загадзе гродзенскага павятовага камісара фон Плетца. *Успомніце, пры якіх абставінах з тэрыторыяй Гродна ўжо былі звяза-*

*ны падобныя назвы – «Гартэн» і «Ноенгартэн»*. Былі зменены назвы і вуліц горада.

Цяпер жыхары Гродна крочылі па вуліцы Кёнігсбергерштрасэ. Нямецкі надпіс на будынку школы імя С. Баторыя на вул. Пілсудскага (цяпер педагагічны каледж на вул. Леніна) сведчыў, што тут размясціўся зборны пункт для адпраўкі на працы ў Германію.

У акупаваным Гродне працавалі фабрыкі: мэблевая, тытунёвая, абутковая, гарбарная, броварны завод – усяго 11 буйных прадпрыемстваў. Дзеці ходзяць у школы. З новых устаноў працавалі беларуская школа (200 вучняў), школа для фольксдойчаў, польская гімназія (60 вучняў), ліцэй. Дзейнічаюць камерцыйныя фірмы, у тым ліку нямецкія «Рупель», «Цымерман і Маркс», «Варэнсгросгандлюнг». Людзі ходзяць на рынкі і ў крамы. Вядзецца служба ў каталіцкіх, праваслаўных і лютэранскім прыходах.



**Ад першых дзён вайны з СССР немцам дапамагаюць саюзнікі. Іспанская "Блакітная" дывізія крочыць у Гродна. Жнівень 1941г.**

1 кастрычніка 1941 г. улады абвяшчалі аб стварэнне для габрэяў двух гета. Гета № 1 знаходзілася ў квадраце сучасных вуліц Замкавая – Траецкая – Віленская – Савецкая, гета № 2 – у квадраце сучасных праспекта Касманаўтаў – вуліц




**З новай уладай прыходзяць новыя грошы. Банкаўскія стужкі гродзенскага аддзялення Рэйхсбанка**

## Сведка падзей

Згадвае С.У. Рой, 1922 г.н.: «Калі немцы прыйшлі, адзін з маміных знаёмых сказаў: «Ну вось і добра, выгналі бальшавікоў. Вызвалілі нас». А іншы ў адказ: «Пачакайце, пачакайце! Невядома, што яшчэ будзе». А мама памятала немцаў, бо падчас Першай сусветнай працавала ў бальніцы для палонных на кухні... Страшна было, калі габрэяў забівалі. Памятаю, як гналі па горадзе калону габрэяў. Мы з мамай якраз ішлі па вуліцы і ўбачылі знаёмых габрэйскіх жанчын. Тыя пачалі махаць рукамі і крычаць: «Фэля, Фэля! Мы больш не ўбачымся!»А немец: «Los! Los!» Габрэяў вывозілі з горада і тут жа расстрэльвалі...»

Згадвае К.А. Жулега, 1934 г.н.: «Тры гады акупацыі былі вельмі цяжкімі. Хоць не для ўсіх. Суседка зноў выйшла замуж. На гэты раз за паліцая-ўласаўца...»




**І падчас нямецкай акупацыі працягвае працаваць найбуйнейшае тады ў Гродне прадпрыемства. Упакоўка цыгарэт тытунёвай фабрыкі**



Агароджа з калючым дротам, па вул. Замкавай, як мяжа гета

## Імя ў гісторыі

Узгадвае праведнік Народаў Свету з Гродна Пётр Наумюк. «Сям'я Наўмюкоў пазнаёмілася з габрэйскай сям'ёй Зарэцкіх яшчэ да вайны. У чэрвені 1941 г., калі немцы захапілі Гродна, Зарэцкіх адправілі ў гета. Сям'я Пятра Наумюка дапамагала сябрам: насілі адзенне, ежу. У 1943-1944 гг. пачалося адступленне фашысцкіх войск. І немцы пачалі ліквідацыю гета. Ноччу ў дзверы Пятра Аляксандравіча Наумюка пастукаліся. Калі адчынілі, то ўбачылі малога Іону Зарэцкага, які сказаў:

- Ратуйце! Вывязуць нас!

- Як ты ўцёк?

- Калі грузілі на машыны, мяне штурхануў салдат і сказаў: «Бяжы!»

Нягледзячы на тое, што насупраць жылі гестапаўцы, сям'я Наумюкоў схавала Іону пад драбінай у пакойчыку. Там ён пражыў з сакавіка 1943 па 1944 г. За выратаванне Іоны Пятру Наумюку інстытут Яд Вашэм (Ізраіль) надаў ганаровае званне Праведніка Народаў Свету. (паводле артыкула Юліі Шталікавай «Жыццё ў падарунак»//Вечерний Гродно». – 2005. - красавік).



Перасяленне гродзенскіх габрэяў у гета



Вуліца Замкавая. Размяшчэнне габрэяў у гета

## Факты гісторыі

У 1942 г. каля Ваўкавыска быў забіты нямецкі ўрач Мазур. Фашысты ўзялі ў закладнікі і расстралялі 50 чалавек польскай гродзенскай інтэлігенцыі. У іх ліку былі ўрачы, настаўнікі, юрысты, інжынеры. Сярод іх быў знакаміты гродзенскі педагог, навуковец, стваральнік гродзенскага заапарка Ян Каханоўскі. Ён пайшоў на смерць замест іншага закладніка. Пакаранне закладнікаў адбылося на тэрыторыі форта № 2 каля в. Навумавічы. Цяпер там усталявана памятная пліта.

Лідская – Белуша – Антонава. За час акупацыі ў гета было знішчана або вывезена ў канцлагеры 20 577 габрэяў. Гэта была гродзенская старонка Халакосту.

Рэпрэсіі тычыліся ўсіх катэгорый гараджан. Падстаў для гэтага было ў акупантаў дастаткова: парушэнне каменданцкай гадзіны, дапамога габрэям, гандаль прадуктамі харчавання без афіцыйнага дазволу.

Акрамя гета ў горадзе было некалькі лагераў для ваеннапалонных: у раёне Фолюша, Ласосна, Калбасіно, Кульбакаў, у Румлёва, па вуліцы Чырвонаармейскай і



Наведванне Гродна кіраўніком СС Генрыхам Гімлерам. Плошча Тызэнгаўза. Лета 1941 г.


niżej wymienione wskazówki.
STADT GRODNO
Grodno, den 14.Mai 1943
~~Der Amtskommissar~~
Der Bürgermeister
In Vertretung:
Do wiadomości!
ДА ВЕДАМА!

**Пячатка з выявай герба Гродна на дакументах нямецкай адміністрацыі**



**"Апошні шлях гродзенскіх габрэяў". Малюнак былога вязня гродзенскага гета І. Язерскага**

на месцы сучаснага шматпавярховага дома на вакзальнай плошчы (магазін «Біруза»).

Гвалты, расстрэлы заложнікаў, тэрор і забойствы грамадзянскага насельніцтва сталі звычайнай з'явай у акупаваным горадзе.

### 5. Антыфашысцкая барацьба.

Акупацыя доўжылася больш за тры гады. Як ставілася насельніцтва да новай рэчаіснасці? Па-рознаму. Па падліках акупацыйных улад, у Гродне на 29 лістапада 1941 г. пражывала 21 500 палякаў, 18 560 габрэяў, 5 200 беларусаў, 2 060 рускіх, 122 фольксдойча, 48 літоўцаў. Да розных катэгорый насельніцтва гітлераўцы ставіліся па-рознаму. У кожнай групы і катэгорыі гараджан быў свой даваенны досвед.

Акупацыйная палітыка адразу выклікала супраціўленне гараджан. Аднак ні ў 1941 г., ні на наступны год ніякай сувязі з савецкім ваенным ка-

**Сведка падзей**

Згадвае жыхар Гродна Лейза Рэйзер: «Гета №1 зачынілі 1 лістапада 1942 г. Аб'явілі, што вывозяць у шахты... Загадалі ўзяць працоўную вопратку і інш… 10 лістапада Візо і Сцяблоў (кіраўніцтва гета) расстралялі людзей, якія збіраліся ўзяць хлеб у жыхароў. 15 лістапада Візо, Сцяблоў і Рэме ў 10 гадзін вечара ўвайшлі ў гета, выгналі ўсіх габрэяў і трымалі 8 гадзін. Кіямі гналі да эшалона і прымушалі спяваць розныя габрэйскія песні. Адправілі ў пасажырскім вагоне па 30 чалавек у купэ. Піць не давалі. За жменю снегу патрабавалі 20 марак. Памерлых грузілі разам з жывымі... У Калбасіно (лагер ля Гродна) трымалі без вады і ежы, а калі знаходзілі кал, то прымушалі есці. Туды завезлі 25 тысяч чалавек з правінцыі. Штодзень гестапаўцы пад пагрозай смерці патрабавалі золата».



**Чэргі па харчаванне каля спаленай Батарыеўкі, якая стаяла на месцы цяперашняга палаца Тэкстыльшчыкаў**

мандаваннем не існавала. Са жніўня 1941 г. па студзень 1942 г. здолела пратрымацца падпольная група ваеннага інжынера Мікалая Волкава. Увесь час акупацыі, да ліпеня 1944 г., змагаліся антыфашысты на чале з рабочым мясакамбіната Васілём Разанавым. Іншымі падпольшчыкамі кіравалі механік лесазавода Сяргей Лямаў, машыніст-інструктар лакаматыўнага дэпо Мікалай Багатыроў, слесар-рамонтнік Георгій Святлічны, афіцэр Сяргей Панасюк. Іх група аб’ядноўвала звыш 60 чалавек. Групы наладзілі цесныя кантакты паміж сабою, а з цягам часу – і з партызанамі. Плёнам іх барацьбы стала вызратаванне гродзенцаў з нямецкага палону і ад катаржных работ, інфармаванне гараджан, шматлікія дыверсіі. Побач з гэтым камуністычна-камсамольскім падполлем фашыстам супраціўляліся і ў гета № 1. Сярод разнастайных форм барацьбы падпольшчыкаў гета была арганізацыя ўцёкаў. Так, у ноч на 7 лютага 1943 г. група моладзі, каля 30 чалавек, вырвалася з-за агароджы і аб’ядналася з партызанамі ў Начскай пушчы. Але пашчасціла далёка не ўсім уцекачам.

Вызваленне Гродна ад фашыстаў адбылося ў ходзе аднаго з этапаў аперацыі



**Максіміліян Кольбэ**

## Імя ў гісторыі

Подзвігам стаў учынак каталіцкага святара **Максіміліяна Кольбэ (8 студзеня 1894 - 14 жніўня 1941 гг. Аўшвіц)**. У 1922–1927 гг. Кольбэ быў святаром Францішканскага касцёла. У гады вайны патрапіў у канцлагер Асвенцым. Там знайшоў мужнасць падтрымліваць зняволеных людзей. Загінуў Максіміліян Кальбэ, ратуючы жыццё чалавека. Падчас карнай акцыі выбар фашыстаў паў не на мужнага ксяндза, але Кольбэ прапанаваў сваё жыццё замест другога – сямейнага чалавека. Каталіцкая царква кананізавала Максіміліяна Кальбэ.

## Факты гісторыі

Да лета 1942 г. былі створаны падраздзяленні польскага антыфашысцкага і антыкамуністычнага руху супраціўлення пад назваю «Армія Краёва». Яны праіснавалі ў горадзе да вясны 1943 г.



Немцы яшчэ каля тыдня ўтрымлівалі левабярэжную частку Гродна

«Баграціён», які атрымаў назву «Беластоцкая аперацыя». Супраць шасці ўзмоцненых нямецкіх дывізій савецкім камандаваннем былі накіраваны войскі 3-га Беларускага фронту (камандуючы Іван Чарняхоўскі): 3-ці кавалерыйскі корпус Мікалая Аслікоўскага і 31-я армія Васіля Глаголева; а таксама 2-га фронту (камандуючы Іван Захараў): 50-я армія Івана Болдзіна. Ажыццяўлялася падтрымка 1-й і 4-й паветранымі арміямі. Баі за Гродна ішлі з 13 па 24 чэрвеня. Асноўная ж, правабярэжная, частка горада была вызвалена ў выніку начнога бою 16 ліпеня. У гонар гэтай перамогі ў Маскве вечарам быў дадзены салют 20-цю артылерыйскімі




“Другія Саветы”. Улада Масквы вяртаецца ў Гродна, на гэты раз надоўга

## Genius loci

Назвы вуліц сучаснага Гродна нагадваюць новым пакаленням гараджан аб яго вызваліцелях ад нацызму. Сярод іх імёны Герояў Савецкага Саюза камандзіра 6-й гвардзейскай кавалерыйскай дывізіі Паўла Брыкеля, лейтэнанта Іосіфа Дзякава, капітана Мікалая Аўчыннікава, капітана Юрыя Іўліева, малодшага сяржанта Міхаіла Курбатава, камандзіра эскадрыллі 46-га жаночага авіяпалка «начныя ведзьмы» Вольгі Санфіравай, падпалкоўніка Сяргея Зярнова.



Савецкі салдат на сёняшняй вуліцы Сацыялістычнай. Ліпень 1944 г.

залпамі з 224 гармат. Ганаровай назвай «Гродзенская» былі названы 17 савецкіх баявых часцей. А баі ў занёманскай часцы Гродна доўжыліся яшчэ тыдзень.

За гады вайны горад быў разбураны на 43 %. Ён страціў 33 тысячы сваіх грамадзян.



The Cleveland Press

FINAL HOME

SOVIETS SMASH INTO GRODNO

A Hero and His Mother

Nazis Retreat Before Yanks in Normandy

Batter Germans Back Close to East Prussia

Амерыканская прэса абвяшчае аб заняцці Гродна саветамі.

## Пытанні і заданні

1. Якія перамены прынесла савецкая ўлада ў жыццё гараджан у 1939 г.?
2. Чаму час 1939–1941 гг. адбіўся ў памяці гарадзенцаў як асобны перыяд гісторыі – «за першымі Саветамі»? З чым жыхары Гродна параўновалі гэты час?
3. Раскажыце аб падзеях абарончых баёў за Гродна ў чэрвені 1941 г.
4. Пералічыце перамены, якія выклікала нямецкая акупацыя.
5. Што такое Халакост? Якія старонкі ваеннай гісторыі Гродна з'яўляюцца адлюстраваннем Халакосту?

# § 35. Пасляваеннае горадабудаўніцтва Гродна.

**Якой была планіроўка горада да савецкага часу?**

**Якія фактары ўплывалі на архітэктурна-планіровачнае развіццё горада?**

*Гародню ўспамінаюць*
*Добрай казкай.*
*Паміж Садовай і*
*Гараднічанскай.*
*Крывая кладачка на Гарадніцы.*
*Яна дагэтуль кожнаму сніцца.*
***Данута Бічэль. «Максім і Людвіка».***

**Пасля азнаямлення з параграфам вы павінны:**

- **ведаць пра планы забудовы пасляваеннага Гродна;**
- **тлумачыць асноўныя перамены ў горадабудаўніцтве ў 50 –80-я гг. ХХ ст.;**
- **арыентавацца ў планіроўцы горада, тлумачыць назвы існуючых у горадзе мікрараёнаў;**
- **правільна фармуляваць і ўжываць наступныя паняцці і назвы: генеральны план горада, раёны горада Пярэселка, Палясціна, Пышкі, Фолюш, Фарты, Вішнявец, Дзявятоўка, Румлёва.**

## 1. Фактары планіровачнай структуры горада.

Хаця Гродна і не быў ушчэнт знішчаны ў выніку ваенных дзеянняў, разбурэнні тут былі вялікімі. Тысячы гродзенцаў страцілі сваё жытло. Разбуранай і разрабаванай была гарадская гаспадарка. У руінах ляжала цэнтральная плошча горада, моцна пацярпелі будынкі бернардзінскага кляштараў і Новы замак. Цалкам быў знішчаны гарадскі заапарк.



**Цэнтр Гродна быў зруйнаваны падчас вайны**



Быў спалены і кляштар Бернардынак. 1946 г.

Аднаўленне Гродна цесна звязана з яго перапланаваннем і будаўніцтвам у новым архітэктурным стылі – так званага, «сталінскага» ампіру. У цэнтры горада архітэктурныя знакі той эпохі - гэта Палац тэкстыльшчыкаў, Дом прафсаюзаў, аблічча Новага замка, старога будынка цэнтральнага ўнівермага. Гэта і ёсць напамін пра эпоху, калі будаўнікі «сацыялізму» архітэктурнымі сродкамі дэманстравалі сваю ўсебаковую перавагу і моц. А яшчэ гэтыя пабудовы нагадваюць пра істотнае разбурэнне старой планіроўкі горада.

Безумоўна, на планіровачную структуру горада ўплывалі і сацыяльна-эканамічныя, і палітычныя фактары. У залежнасці ад таго, у склад якой дзяржавы ўваходзіў Гродна, яго забудова выцягвалася ўздоўж дарогі, якая ішла ў напрамку на захад, поўнач або ўсход.



Доўгі час у руінах стаяў галоўны будынак гарадской пошты



Як памежны горад, Гродна займеў вялікі ваенны гарнізон. Савецкія афіцэры на вуліцы Гараднічанскай. Цяпер тут плошча Леніна

## Геаграфія горада

Гродна знаходзіўся ў 20 км ад савецка-польскай мяжы і меў з Польшчай і гарадамі Беларусі добрыя аўтамабільныя і чыгуначныя зносіны. З паўднёвага ўсходу на паўночны захад праз Гродна цячэ Нёман, які дзеліць горад на дзве часткі – паўночную правабярэжную і паўднёвую левабярэжную. З паўднёва-заходняга боку ў Нёман упадае Ласасянка, на якой знаходзіцца возера Юбілейнае. Праз цэнтральную частку горада працякаюць рачулкі Гараднічанка і Юрыдыка.

З паўночнага ўсходу на паўднёвы захад праз горад праходзіць чыгуначная дарога. Тэрыторыя горада ўяўляе сабою моцна халмісты рэльеф са шматлікімі каньёнамі яроў. Перапады дасягаюць 20 – 35 м. З захаду да горада прымыкае масіў лесапарка «Пышкі».



Да 70-х г. Стары мост з'яўляўся адзіным аўтамабільным злучэннем абодвух частак горада



Цэнтр горада набывае новыя архітэктурныя рысы.

## 2. Аднаўленне паводле генеральнага плана 1949 года.

Да гэтага часу Гродна будаваўся незапланавана і хаатычна. Гэта не садзейнічала яго гарманічнаму развіццю, умацаванню яго значэнню як буйнога прамысловага, адміністрацыйна-палітычнага і культурнага абласнога цэнтра. Першы генеральны план распрацоўваўся з 1946 года і быў падпісаны ў 1949 годзе. Ён прадугледжваў тэрытарыяльнае развіццё горада ва ўсходнім, паўночна-заходнім і паўднёвым напрамках. У 1957 годзе ў межы горада ўключылі вёску Пярэселка, пасёлак Пышкі і правабярэжную частку вёскі Ласосна. Акрэслілі абрысы новай цэнтральнай плошчы горада (Савецкай), абкружанай з трох бакоў адміністрацыйнымі будынкамі.

З паўночнага боку плошчы планавалася пабудаваць Дом Саветаў, а ва ўсходняй частцы горада мост праз Нёман.

У заходняй частцы горада на беразе ракі Нёман і правым беразе Гараднічанкі планавалася размеркаваць цэнтральны парк культуры і адпачынку. Другі парк павінен быў узнікнуць на базе існуючага фруктовага сада ва ўсходнім раёне горада. Жылая зона забудоўвалася шматпавярховымі дамамі ў цэнтральнай частцы, малапавярховымі дамамі ў кварталах, якія прымыкаюць да цэнтра, асноўных прамысловых раёнаў і магістралей, аднапавярховымі дамамі на ўскраінах горада.



На вуліцы Крупскай (цяпер Баторыя) будуюцца новыя дамы. Пач. 1960-х гг.

## Факт гісторыі

**Знішчэнне Фары Вітаўта.** Першы ў Гродне каталіцкі прыходскі (Фарны) касцёл Найсвяцейшай Божай Маці знаходзіўся на заходнім баку старога рынку. Дзве паслядоўныя перабудовы ў 1923 г. і ў 1935 г. надалі яму абрыс неагатычнага храма. Пасля Другой сусветнай вайны касцёл не дзейнічаў. 8 сакавіка 1961 года па прапанове дырэктара краязнаўчага музэя і „дырэктыўных органаў" выканкам прыняў рашэнне №213 „О сносе аварийного здания бывшего военного костёла на Советской площади": ствовали чл ены исполкома; Воронов Н.Н., Туповский В.И., Чернышёв Е.И., Романов В.П., Сахарова, Солодилов Л.Ф. Рассмотрев предложение по сносу аварийного здания бывшего военного костёла на Советской площади и признав целесообразность сноса указанного здания по генеральной застройке города, исполком Гродненского городского совета депутатов трудящихся решает:



Фара Вітаўта здымак кан. 50 - пач. 60 гг.



Так выглядала  Фара Вітаўта на наступны дзень пасля варварскага знішчэння. 1961 г.

1. Снести аварийное здание бывшего военного костёла на Советской площади и просить исполком Гродненского областного совета депутатов трудящихся утвердить настоящее решение.

2. Согласиться с предложением по методу сноса, путём применения взрывчатых веществ.

3. Для рассмотрения и утверждения в рабочем порядке технических вопросов проведения взрывных работ, проведения обследования подвальных помещений, скрытых казематов с целью выявления документов периода времени гитлеровской оккупации, могущих представлять государственные ценности, образовать государственную комиссию в составе: – зам. председателя горисполкома т. Туповского В.И. – председатель комиссии,– нач. Горотдела милиции т. Назаркина П.П. – член,– зав.промтранспортным отделом горкома КПБ т. Пясецкого В.И. – член,– зав. по делам строительства и архитектуры т. Макарова М.Ф. – член, – нач. Отдела капитального строительства горисполкома т. Ледуховского – член,– директора областного музея Т. Соболь

Работы по организации проекта сноса работ аварийного здания поручено т. Малиновскому М.Н.

Гэты дакумент падпісалі старшыня выканкама Воранаў і сакратар выканкама Чарнышова. Ганебны акт быў здзейснены спецыяльным піратэхнічным прадпрыемствам з Ленінграда а другой гадзіне ночы 29 лістапада 1961 года.

## 3. Развіццё планіроўкі горада ў гэты перыяд.

Ажыццяўляліся на падставе наступных генеральных планаў: другі быў зацверджаны ў 1963 г.; трэці – у 1973 г.; чацвёрты карэктаваўся ў 1986 г. .

Будаўнічы бум назіраўся ў 1960-я гады, калі будаваліся прадпрыемствы, якія далі ход развіццю горада: азотнатукавы завод, заводы гандлёвага машынабудавання, аўтаагрэгатаў, аўтамагнітол, радыёзавод, прадзільна-ніткавае аб'яднанне, новы будынак абутковай фабрыкі «Нёман». Пабудавалі ТЭЦ-2, тралейбусны комплекс, два аўтадарожныя масты, стадыён «Чырвоны сцяг» (сёння стадыён "Нёман").

Усе генпланы базаваліся на тэндэнцыі развіцця мікрараёнаў горада. Першы план прадугледжваў развіццё горада ва ўсходнім, паўночна-заходнім і паўднёвым напрамках. Забудоўваліся вуліцы Паповіча, Савецкіх пагранічнікаў, з'явіліся мікрараёны Прынёманскі, Фарты, Пярэселка, Вішнявец, Дзевятоўка-I, Румлёва, Занёманскі, Малахавічы. У мікрараёнах павінны былі быць адміністрацыйныя і грамадска-абслугоўваючыя ўстановы, гандлёвыя комплексы, стаянкі для аўтамашын, спартыўныя пляцоўкі, раённыя паркі.



Новыя мікраараёны паўстаюць на тагачасных ускрайках Гродна. "Хрушчоўкі" на вул. Даватара.



Раён тыповай забудовы па вул. Паповіча



**На месцы зруйнаванага вайной квартала каля старога Рынка паўстаў гарадскі сквер**

### 4. Гістарычнае ядро горада.

Старая частка Гродна, абмежаваная з поўначы вуліцай 17 верасня, з захаду – раёнам індывідуальнай забудовы і гарадскім паркам, з поўдня – левым берагам Нёмана, з усходу – чыгункай. Яе трэба разглядаць не як суму помнікаў архітэктуры, а як цэласнае горадабудаўнічае асяроддзе. Гэты раён найбольш каштоўны ў гісторыка-культурным і архітэктурным планах, гэта тэрыторыя, для якой асабліва патрэбны горадабудаўнічы рэжым далейшай забудовы, рэканструкцыі і аднаўлення.

На жаль, забудоўвалі Савецкую плошчу без выразнай задумы. У 1960-я гады тут з'явіліся Палац

**Факт гісторыі**

Паводле першага генплана развіцця Гродна, кампазіцыя цэнтра горада развівалася ў бок ракі Нёман і ўяўляла сабой сістэму плошчаў: простакутную, уласна Савецкую, а каля яе трапецападобную са скверам і круглую. Савецкая плошча была б цэнтральнай плошчай горада, дзе планавалася пабудаваць Дом Саветаў (на паўночным баку) і шэраг іншых адміністрацыйных будынкаў. Вуліцы Савецкая і Карла Маркса збіраліся пашырыць да 28 – 30 м. Каб разгрузіць гістарычны цэнтр Гродна ад транспарту, меркавалі пабудаваць дарожныя паўколы за кошт новых вуліц. Прадугледжвалася ў гістарычным цэнтры і жыллёвае будаўніцтва – у шматпавярховых дамах жыло б 20% гараджан. У другім генплане ставілася пытанне аб пераносе грамадскага цэнтра з Савецкай плошчы, ідэя заключалася ў тым, каб гістарычнае ядро горада аддзяліць ад грамадскага цэнтра.



**Цэнтр Гродна з вежы Бернардынскага касцёла. Сяр. 1960-х гг.**



Плошча Леніна. 1970-я гг.

тэкстыльшчыкаў, 44-кватэрны дом з аптэкай, 48-кватэрны дом з крамай, дом з кнігарняй, дом на рагу вуліц Крупскай і Парыжскай камуны, гатэль «Нёман». Усе пералічаныя забудовы не маюць агульных рысаў і не ствараюць цэласную ансамблевую структуру.

Мяркуемы перанос тонкасуконнага камбіната не адбыўся. За 1950 – 1960 гг. незваротна страчаны такія каштоўныя будынкі, як дамы № 2 (Дом рыбака) і № 6 XVII ст. па вуліцы Замкавай; Фара Вітаўта; былая карчма «Раскоша» і дамы майстроў XVIII ст. па вуліцы Элізы Ажэшка; рэшткі былых каралеўскіх стайняў. Каля царквы Раства Багародзіцы XVIII ст. пабудавалі Дом быту. За гэты час створана інтэнсіўная транспартная магістраль па сённяшняй вуліцы Вялікай Траецкай. У выніку змянілася архітэктурна-планіровачная структура гістарычнага цэнтра Гродна, парушыліся маштаб і самабытнас-



Швайцарская Даліна. Мост цераз Гараднічанку да праведзенага ў 1970-я гады пашырэння плошчы Леніна



Крама "Табак" стаяла на рагу вуліцы Ажэшкі і Сацыялістычнай. 1960-я гг.

ць забудовы. «Амаладжэнне» горада пазбавіла яго толькі яму характэрнага мастацкага аблічча, прывяло да «заціранне» яго гістарычных асаблівасцей.

У 70-я гг. XX стагоддзя забудоўваўся гістарычна сфарміравань архітэктурны ансамбль плошчы Леніна: будынкі гарадскога камітэта камуністычнай партыі, дзевяціпавярховы будынак абласнога выканаўчага камітэта. Так плошча Леніна набывала функцыі галоўнай плошчы горада. А горад адначасова страчваў аблічча даваеннай Гараднiцы.




Афіцэрская сталовая , будынак карчмы "Галеча", часоў Антонія Тызенгаўза. Знішчаны ў канцы 1970-х падчас разбудовы аблвыканкама

## Думка сучасніка

«Мадэрнізаваць стары цэнтр, што цягне за сабой пераробку і знос многіх старых будынкаў, перапланіроўку вуліц і плошчаў, немэтазгодна і з пункту гледжання эканомікі, і з пункту гледжання эстэтыкі. Яго ж захаванне, пры максімальным добраўпарадкаванні, зрабіла б Стары горад каштоўным архітэктурным помнікам, а кантраст з новай забудовай толькі падкрэсліваў бы прагрэс у галіне архітэктурна-будаўнічай думкі » (галоўны архітэктар праектаў Гродзенскага аблпраекта А.Міхед. Адказнасць архітэктара // Літаратура і мастацтва. – 1963. – 1 лютага. – С. 1).



**Гродзенскі гарвыканкам. Першая частка пабудавана ў 1971 г. для гаркама КПБ. Архітэктар В. Давыдзёнак. Прыклад адміністрацыйных збудаванняў 1970-х гадоў.**



**Будынак аблвыканкама як і гарвыканкама будаваўся ў два этапы. Першая частка будынка аблвыканкама (на здымку), збудаваная ў 1966 г. (арх. А. Міхед). Недарэчна вылучалася з старой забудовы цэнтра горада.**

## Пытанні і заданні

1. **Якія фактары ўплывалі на фарміраванне планіровачнай структуры горада?**
2. **Як ішло адраджэнне горада пасля Другой сусветнай вайны?**
3. **Раскажыце пра развіццё планіроўкі горада ў 1963 –1991 гг.**
4. **Як змянялася планіроўка гістарычнага цэнтра горада?**
5. **На падставе тэксту падручніка пра гістарычны цэнтр горада сфармулюйце задачы па яго захаванні і турыстычным выкарыстанні.**

# § 36. Сацыяльна-эканамічнае і грамадска-палітычнае жыццё горада ў 1945-1985 гг.

“

«...Мінулі ўжо цёмныя, страшныя дні.
Мы зноўку засеялі родныя гоні.
Ты ўзняўся з руінаў — рассыпаў агні
І думна глядзіш у прастор Прынямоння».
***Апанас Цыхун. Горад над Нёманам.***

**Узгадайце, якім было эканамічнае становішча горада ў перыяд Другой Рэчы Паспалітай.**

**Пасля азнаямлення з параграфам вы павінны:**

- **умець аргументавана расказваць аб эканамічных дасягненнях гродзенцаў у пасляваенны час;**
- **пералічыць найбольш буйныя прадпрыемствы пасляваеннага Гродна;**
- **параўноўваць стан эканамічнага развіцця горада з развіццём іншых абласных цэнтраў рэспублікі;**
- **прыводзіць прыклады грамадскай актыўнасці гродзенцаў;**
- **правільна фармуляваць і ўжываць наступныя паняцці і назвы: сацыялістычныя пераўтварэнні, пяцігадовыя планы, дысідэнты.**

## 1. Пасляваеннае аднаўленне.

20 верасня 1944 г. Гродна стаў абласным цэнтрам, што прадугледжвала яго рост. Да канца 1945 г. была адноўлена праца 23 прадпрыемстваў, пабудаваны чыгуначны мост праз Нёман, адноўлены чыгуначны вакзал. З 1946 года пачалося выкананне чацвёртага пяцігадовага плана развіцця гаспадаркі. Напярэдадні атрымання Беларуссю дзяржаўнай незалежнасці ў 1991 годзе яе працоўныя выконвалі заданні два-




**Герб Гродзенскай губерні , у савецкі час выкарыстоўваўся як сімвал г. Гродна**



**Агульны від Гродна. Канец 1970-х гг.**

наццатай пяцігодкі. За дзевяць пяцігодак жыхары Гродна стварылі сённяшні воблік горада.

### 2. Індустрыя Гродна ў часы навукова-тэхнічнай рэвалюцыі.

У 1950-я гг. вялікі размах атрымаў рух за паскарэнне тэхнічнага прагрэсу, за механізацыю і аўтаматызацыю вытворчых працэсаў, укараненне новай тэхнікі і тэхналогій. Сярод буйных прадпрыемстваў Гродна, што з'явіліся ў гэты час, – заводы жалезабетонных канструкцый, рамонтна-падшыпнікавы, аўтамабільных запасных частак, бытавых прыбораў, фабрыка мастацкіх вырабаў. Паступова афармілася сучасная структура прамысловасці горада. Развіваліся лёгкая, харчовая, шкляная, дрэваапрацоўчая, электраэнергетычная галіны вытворчасці. Узніклі новыя галіны – хімічная, машынабудаўнічая, тэкстыльная. З 1971 г. магутным камбінатам стала Гродзенскае вытворчае аб'яднанне «Азот» імя С.В. Прытыцкага. У 1963 г. пачало дзейнічаць аб'яднанне «Хімвалакно».

Характэрным для таго часу сярод працоўных быў масавы энтузіязм. Ён знаходзіў увасабленне ў розных формах працоўнага спаборніцтва. Гэта была натуральная, жыццёвая патрэба людзей як мага лепш рабіць сваю справу для сябе і сваёй краіны. Імёны першых пераможцаў такіх спаборніцтваў былі шырока вядомы. Прадзільшчыца Марыя Абабкава (Чэкель) стала ў 1960 г. Героем Сацыялістычнай Працы за высокія дасягненні і грамадскую дзейнасць. Аднак пануючы прынцып «ураўнілаўкі» ў ацэнцы працы, перавага маральных ацэнак дасягненняў над матэрыяльнымі, фармалізм і падман у інфармаванні аб прыкладах працоўных дасягненняў паступова прывялі да абыякавасці людзей, рэзкага змяншэння зацікаўленасці іх у лепшых пра-




Уся краіна жыла ад пяцігодкі да пяцігодкі. "Личный счет" удзельніка сацыялістычных спабораў



На ўсход ад горада ў пачатку 1960-х гг. будуецца азотна-тукавы камбінат, які і сёння з'яўляецца найвялікшым прадпрыемствам Гродна



**У 1975 г. азотна-тукавы камбінат імя С. Прытыцкага пераіменоўваецца ў ВА "Азот"**

цоўных паказчыках. Працоўны энтузіязм змяніўся абыякавасцю. Для выканання пяцігадовых планаў спатрэбілася цвёрдая дысцыпліна. Запланаваныя паказчыкі пяцігадовых планаў не былі выкананы. Прычына гэтага – у вялікіх патрабаваннях партыйнага кіраўніцтва, якія не адпавядалі ні магчымасцям людзей, ні гаспадаркі. Між тым, тэмпы індустрыялізацыі былі вельмі высокімі. Гродна ператварыўся ў індустрыяльна развіты горад.

## 3. Гарадская гаспадарка ў перыяд «застою».

У 1963 годзе Савет Міністраў БССР зацвердзіў план рэканструкцыі і развіцця горада на 10 бліжэйшых гадоў.



**Пабудаваны ў 1961 г. новы корпус абутковай фабрыкі "Нёман"**

У другой палове 60-х – 70-я гг. горад ганарыўся першай чаргой бавоўна-прадзільнай фабрыкі, фабрыкай механічнага рамонту абутку, заводам па рамонту складанай бытавой тэхнікі. Была ўведзена першая чарга ТЭЦ-2, з 1968 г. прадукцыю стаў выпускаць Гродзенскі завод карданных валаў (цяперашні «Белкард»), пабудавалі першую чаргу заводаў «Электрапрыбор» і аўтаагрэгатаў, фабрыку «Дынама» па пашыву спартыўных вырабаў, мясакамбінат, прадзільна-ніткавы камбінат.

На мяжы 1980–1990-х гг. у Гродне працавалі 46 прамысловых прадпрыемстваў, прадукцыя якіх карысталася попытам як у БССР, так і ў СССР і за мяжой, у 50 краінах свету.

Пашырэнне горада патрабавала развіцця грамадскага транспарту і шляхоў зносін. Сучаснымі магістралямі сталі вуліцы Горкага, Паповіча, Урублеўскага, бульвары Ленінскага камсамола і сённяшні праспект імя Янкі Купалы. У 1974 г. на вуліцах горада з'явіўся першы тралейбус, налічвалася 11 тралейбусных ліній. Расла магутнасць аўтобуснага парка: у 1985 г. 102 аўтобусы абслугоўвалі 21 маршрут працягласцю 182 км. У 1986 г. быў пабудаваны трэці, Румлёўскі - мост праз Нёман і адчыніўся новы чыгуначны вакзал.

## 4. Развіццё сацыяльнай сферы.

З 1946 па 1963 г. у Гродне было адноўлена і пабудавана 336,5 тыс. кв. метраў жылой плошчы. У новых дамах былі электрычнае асвятленне, водаправод, каналізацыя




"Завод Аўтамабільных агрэгатаў" – адно са звёнаў ланцужку савецкага аўтапрама



Прадзільна-ніткавы камбінат.




У 1974 г. быў адкрыты першы тралейбусны маршрут "Хімкамбінат - Савецкая плошча"



**Знішчаны будынак старога чыгуначнага вакзала. На плошчы перад вакзалам відаць помнік Сталіну. 1950-я гг.**

## Помнік дойлідства

Стары будынак быў зруйнаваны ў 1986 годзе падчас пабудовы новага вакзала. Будынак спрабавалі выратаваць прадстаўнікі гродзенскай інтэлігенцыі. Імі быў дасланы ў Мінск наступны ліст: «220050, Минск, Дом правительства, Министерство культуры, товарищу Ю. М. Михневичу. Гродно начинается разрушение здания железнодорожного вокзала памятника архитектуры, включенного в Свод памятников истории и культуры Белоруссии. Остановите вандализм срочно. Жители Гродно Ткачев, Тарелкина, Жук, Таранда, Чумакова, Лапшина, Гостев, Казак. (Всего 30 подписей)». Былі звароты ў мясцовыя гарадскія ўлады і дасланы ліст у Маскву.



**Ля ўвахода ў будынак чыгуначнага вакзала. 60-я г. XX ст.**

## Факт гісторыі

Сацыялістычны характар эканомікі нарадзіў дэфіцыт тавараў і паслуг. Недахоп якасных тавараў адчуваўся ва ўсіх сферах гандлю. Адзін з выхадаў з такога становішча падказвала памежнае месцазнаходжанне Гродна. Адметнай з'явая жыцця гараджан сталі іх паездкі за прадуктамі харчавання ў бліжэйшы літоўскі Друскенінкай. Увогуле якасць абслугоўвання і сэрвісу ў літоўскіх крамах і кавярнях вабіла гродзенцаў, і баўленне імі часу ў Друскеніках і Вільні з'яўлялася прыкметаю 70–80-х гг. XX ст.




Старыя, у тым ліку рарытэтныя, выданні можна было купіць у кнігарні "Букініст" на вул. Савецкай. 1980-я гг.

і іншыя камунальныя выгоды. У 1963 г. у горад паступіў прыродны газ. Адпаведна з генпланам забудоўваліся жылыя мікраараёны Фарты, Дзевятоўка, Пярэселка, Прынёманскі, вуліцы Чайкінай, Соламавай, Рэпіна. Былі пабудаваны Палацы культуры хімікаў, тэкстыльшчыкаў, «Юнацтва».

Пастаянна паляпшалася арганізацыя гандлю і грамадскага харчавання. У 1981 г. адчыніў дзверы новы будынак універмага на вуліцы Савецкай. Расла колькасць спецыялізаваных і щнiверсальных крамаў, яны размяркоўваліся больш рацыянальна. Пашырылася сетка прадпрыемстваў грамадскага харчавання. Многія з іх былі размешчаны на прадпрыемствах, ва ўстановах адукацыі. Павялічвалася колькасць прадпрыемстваў бытавога абслугоўвання: атэлье, майстэрняў, прыёмных пунктаў.

Аховай здароўя гродзенцаў займаліся ў 1945 г. 4 паліклінікі, 3 бальніцы на 780 месцаў, 2 жаночыя кансультацыі, 2 аптэкі. Уведзены ў строй новыя будынкі 1-й гарадской бальніцы, дзіцячай бальніцы, радзільнага дома, сучасная абласная клінічная бальніца, стаматалагічная паліклініка ў занёманскай частцы горада, кардыялагічны дыспансер са стацыянарам на 135 ложкаў, 1-я дзіцячая паліклініка на 500 наведванняў у змену па вуліцы Даватара. У краіне і за яе межамі вядомы поспехі гродзенскіх урачоў у лячэнні язвы страўніка, сардэчна-сасудзістай паталогіі, у правядзенні аперацый на сасудах ніжніх канечнасцяў, аперацый на вочы і аднаўленне слыху. Праславіўся як цудоўны хірург галоўны ўрач першай клінічнай бальніцы Уладзімір Міронччык.

### 5. Грамадска-палітычнае жыццё горада.

Гродна быў адным з шасці абласных цэнтраў БССР. Палітычнае жыццё яго гараджан было пад-




Папулярныя ў савецкі час напоі прадукаваў гродзенскі бровар



**Вядома, што ў Гродна было не менш за пяць помнікаў Сталіну. Адзін з іх стаяў на вул. Савецкай на месцы, дзе ў 1973 быў усталяваны бюст савецкаму маршалу В. Сакалоўскаму.**




**Савецкія піянеры ўскладаюць кветкі да помніка Леніна (пастаўлены ў 1949 г.). Да сярэдзіны 1980-х гг. помнік стаяў ля ўвахода ў стары парк. Рукой Ленін указваў на вул. Горкага да выезду на Друскенікі – "шлях да каўбасы"**

парадкавана існуючай аднапартыйнай сістэме кіравання. Адзінай палітычнай партыяй была КП(б)Б – частка агульнасаюзнай КПСС. Моладзь пільна ачольвалася мясцовымі арганізацыямі ЛКСМБ – структурнай адзінкай УЛКСМ.

Але насуперак аднамернаму парадку грамадскай савецкай актыўнасці жыццё дэманстравала прыклады сапраўднага грамадзянскага пачуцця, шчырай рэакцыі гараджан на падзеі ў краіне і свеце. Падзеяй для кожнага гродзенца стаў палёт Юрыя Гагарына ў космас.

Шчыра радаваліся гарадзенцы поспехам гімнасткі Вольгі Корбут – неаднаразовай алімпійскай чэмпіёнкі. Алімпійскае «золата» Вольга Корбут атрымала ў практыкаваннях на бервяне, у вольных практыкаваннях і ў




Традыцыйныя кастрычніцкія дэманстрацыі на пл. Савецкай. 1970-я гг.

камандным заліку на XXII Алімпійскіх гульнях у Мюнхене (1972 год). На Алімпіядзе ў Манрэалі (1976 год) яна атрымала яшчэ адзін залаты медаль за камандныя выступленні. Вольга Корбут атрымала два срэбныя медалі на Алімпіядах у 1972 і 1976 гг.

Святам сталі 850-я ўгодкі горада. Падчас святкаванняў быў урачыста адкрыты манумент у найноўшым гарадскім парку, цяперашнім Каложскім, і закладзена алея 850-годдзя горада.

Былі сярод гродзенцаў і тыя, хто не спалохаўся выказаць сваё негатыўнае стаўленне да тагачаснай палітыкі савецкіх улад. Выбітныя гарадзенцы – пісьменнікі Васіль Быкаў, Аляксей Карпюк і навуковец Барыс Клейн крытыкавалі гвалтоўную палітыку тагачаснага кіраўніцтва СССР у Чэхаславакіі 1968 г. Іх пазіцыя была блізкай да пазіцыі вядомых савецкіх дысідэнтаў Андрэя Сахарава, Аляксандра Салжаніцына, Уладзіміра Букоўскага. Непрыхаваная крытычнасць настрою стала падставаю для рознага кшталту ціску на іх з боку партыйных і савецкіх улад.

Грамадска-палітычнае жыццё ў Гродне было цалкам савецкім, але мінуўшчына краю прыхавала патэнцыял прагі да самастойнага, свабоднага жыцця, які адгукнуўся падчас «перабудовы» 1985–1991 гг.




Запрашальнік на мерапрыемствы з нагоды святкавання 40 год БССР. 1959 г.

## Факты гісторыі



**Браніслаў (Барыс) Ржэўскі (1905 - 1980 гг. г. Гродна)**

У канцы 1940-х – пачатку 1950-х гг. студэнты і некаторыя выкладчыкі Гродзенскага педагагічнага інстытута прымалі актыўны ўдзел у патрыятычнай працы па стварэнні падпольных антысавецкіх груп, галоўнай мэтай якіх было дасягненне незалежнасці Беларусі. Студэнцкае і навуковае асяроддзе ў сваю чаргу пільна вывучалася органамі дзяржбяспекі. Так, у красавіку 1950 года быў арыштаваны студэнт педінстытута Іосіф Клышэвіч. Пад час нямецкай акупацыі Клышэвіч працаваў настаўнікам ў вясковай пачатковай школцы. На сваіх занятках, згодна акту абвінавачвання, ён выказваўся за "стварэнне нацыяналістычнай буржуазнай беларускай дзяржавы… Будучы ідэйна супраць Савецкай улады і палітыкі партыі і ўрада, Клышэвіч пад час вучобы ў Гродзенскім педінстытуце... не пакідаў займацца контррэвалюцыйнай агітацыяй". У выніку ў жніўні 1950 года судовая калегія Гарадзенскага абласнога суда прысудзіла І. Клышэвіча да дваццаці пяці год пазбаўлення волі.

Яшчэ адзін студэнт педінстытута – Стрэльчык Мікалай у верасні 1951 года быў асуджаны на тыя ж дваццаць пяць год за тое, што ў 1943 годзе набыў у акупаваным немцамі Мінску "нацыяналістычную і антысавецкую літаратуру": "Беларускую граматыку" і "Беларускі правапіс" "нацдэмаў" Лёсіка і Тарашкевіча, кнігу Генію ш.

Наогул, на думку органаў дзяржбяспекі, педінстытут быў "засмечаны чужымі элементамі", такімі як загадчык кафедры заходнееўрапейскай літаратуры Д. Бялінскі, загадчык кафедры мовы і літаратуры Я. Валатоўскі, выкладчык Н. Гурло і нават дырэктар інстытута М. Уласавец. Наконт апошняга ў абкам партыі паведамлялася, што яго бацька пры немцах быў дырэктарам школы ў пасёлку Шуміліна пад Віцебскам, дзе арганізаваў кола "Саюза беларускай моладзі", за што пазней быў асуджаны на дзесяць год лагераў. У выніку М. Уласавец быў звольнены з пасады дырэктара "як не забяспечыўшы неабходнае кіраўніцтва вучэбна-адукацыйнай працы інстытута".

У 1950 г. органы дзяржбяспекі выявілі падпольную незалежніцкую арганізацыю, ядро якой складалі студэнты педінстытута Міхаіл Кожыч, Галіна Генаш, Уладзімір Кісель, Казімір Яроцкі і іншыя. Арганізацыя друкавала антысавецкія лістоўкі на беларускай мове, падтрымлівала кантакты з падпольшчыкамі з Міншчыны. Усе студэнты былі прыгавораны да вялікіх тэрмінаў зняволення.

Але найбольш прыкметнай "беларускай" справай для Гродзенскага педінстытута стаўся арышт у сярэдзіне 1950-х выкладчыка Барыса (Браніслава) Ржэўскага. Цкаванне педагога, былога рэдактара партызанскай газеты, пачалося з таго, што Б. Ржэўскі прачытаў свой ліст адрасаваны да партыйных уладаў у абарону беларускасці аднаму з сябраў. У пісьме тым пісалася, што "нават на шматлюдным пахаванні Якуба Коласа галоўны ідэолаг БССР... афіцыйны жаль агучваў з урадавай трыбуны па паперцы ды па-руску, паныла паўтараючы: "Наш дорогой Константин Михайлович Якубколос..." За свае выступленні ў абарону беларускай мовы выкладчык быў арыштаваны КДБ і прыгавораны да шасці год зняволення. Пасля вызвалення з лагера Браніслава Ржэўскага, кандыдата навук, вопытнага і здольнага выкладчыка, якога вельмі любілі студэнты, да ранейшай працы ўжо не дапусцілі.




Шпіянаманія ў Савецкім Саюзе прасякла ўсё грамадства і паламала лесы мільёнам сем'яў тагачасных савецкіх грамадзянаў

## Успаміны удзельніка

**Барыс Клейн узгадвае:** «Мы з цікавасцю сачылі за падзеямі ў «сацлагеры», заўважалі ўсё большую актыўнасць Захаду. Надышоў той жнівень (гвалтоўнае падаўленне антысавецкага выступлення ў Празе ў 1968 г.), які ўсё расставіў на свае месцы. Мы сустрэліся з Быкавым на пешаходным мастку над чыгункай, непадалёку ад рэдакцыі «Гродзенскай праўды». Васіль запомніў мае словы: «Чуў? Яны ўсё ж увялі. Танкі ў Празе». Здаецца, ён таксама нешта сказаў. І мы разышліся з адчуваннем непапраўнага... 6 траўня 1971 г. Бюро Гродзенскага гаркама «паставіла на мне крыж». Абвінавачванні ў мой адрас былі цяжкімі: «Ён (Клейн) адзначаў неабходнасць барацьбы супраць «сталіністаў», супраць уладнай групоўкі, якая нібыта імкнецца вярнуць старыя сталінскія метады...»



Барыс Клейн (нар. 1928 г.) - гісторык.

**Васіль Быкаў:** «Тое, вядома, ашаламляла. Я тады зразумеў вэрхал, што ноччу не даваў спаць, – на вуліцах штось адбывалася, ішлі калёны машынаў, даносіліся чыесь галасы, у пад'ездах грукалі дзверы... У дапамогу перадавым часцям, што ўвайшлі ў Чэхаславаччыну, на базе Гродзеншчыны разгорталася рэзервовая армія. Хапалі запаснікоў, мабілізоўвалі транспарт, на ўскраінах у вайсковых гарадках фарміравалі каманды. Як пасля высвятлілася, тэлефоны гарадской сеткі ў тую ноч былі адключаны... »

## Факт гісторыі

У жніўні 1971 года ў Гродна адбылася дэманстрацыя "хіпі". У 2003 годзе гарадзенская журналістка Ірына Чарняўка апублікавала ў выданні "Белорусская газета" ўспаміны сведкаў:

"Сотня маладых людзей з плакатамі "Рукі прэч ад доўгіх валасоў", "Спыніце тэрор", "Свабоду рок-н-ролу", "All you need is Love" - калонай ідуць да Савецкай плошчы. Маладзёны з доўгімі валасамі, апранутыя ў штаны і джынсы-клёш, кашулі ў кветачкі, некаторыя з завушніцай у вуху. Хіпі. Наперадзе хлопец з пеўнем на ланцужку. На плошчы іх ужо чакаюць…

Было каля двух гадзінаў дня. Калона пачала рух ад дома, які на рагу вуліцаў Сацыялістычнай і Маркса. Гэта метраў 200 да Савецкай плошчы. Усе былі апранутыя ў джынсы ці штаны клёш і квятастыя кашулі, у калоне неслі плакаты.

Пеўня вёў на ланцужку талінец Віру – сапраўднага баявога гішпанскага пеўня, якога бацька, марак, прывез яму з паходу…

Перад тым як яго схапілі за валасы і пацягнулі ў машыну, Міша паспеў крыкнуць прыбалтам, каб беглі. І пабачыць, як бацька аднаго знаёмага прозвішчам Леута, які працаваў у Фарным касцёле, выратаваў маладзёнаў, пусціў у касцёл і зачыніў за імі браму. Потым ён выпусціў іх у іншыя дзверы, якія выходзілі на будоўлю.

У дварах на Замкавай вуліцы стаялі пустыя аўтобусы, куды запіхвалі схопленую моладзь, а потым высаджвалі кіламетрах у 15 ад горада, каб дадому дабіраліся пешкі. Тых, хто выглядаў асабліва "не па-савецку", цягнулі ў Палац культуры тэкстыльшчыкаў, што непасрэдна на плошчы, - стрыглі, рвалі клёшы, забіралі рамні.

Аб рэзанансе, які зрабілі ў свеце ўдзельнікі "дэмантрацыі хіпі", даведаліся з эфіра "варожых галасоў". У БССР акцыя абмяркоўвалася толькі шэптам на кухнях і ў дварах, абрастаючы неверагоднымі падрабязнасцямі, і ў рэшце рэшт пераўтварылася ў легенду."
















**Савецкія прапагандысцкія плакаты**

## Пытанні і заданні

1. Якія першыя сацыялістычныя пераўтварэнні былі зроблены ў гаспадарцы і сацыяльным жыцці Гродна?
2. Якімі былі вынікі развіцця гарадской гаспадаркі ў 1944 – 1991 гг.
3. Назавіце дасягненні ў сацыяльнай сферы ў 1944 – 1991 гг.
4. Прывядзіце прыклады грамадскай актыўнасці гродзенцаў. Чаму яна была менавіта такой?

# § 37. Гродна ў савецкай культурнай палітыцы

**Успомніце, якім было становішча адукацыі і культуры ў горадзе падчас Другой Рэчы Паспалітай**

**Пасля азнаямлення з параграфам вы павінны:**

- **умець аргументавана расказваць аб развіцці адукацыі ў Гродне;**
- **ацэньваць дасягненні гродзенцаў у галіне мастацтва, літаратуры, музыкі і тэатра;**
- **тлумачыць стан развіцця музейнай справы ў горадзе;**
- **правільна фармуляваць і ўжываць наступныя паняцці і назвы: беларускі ансамбль песні і танца пад кіраўніцтвам Рыгора Шырмы, ансамбль песні, музыкі і танца «Белыя росы», Гродзенскі дзяржаўны пэдінстытут імя Я.Купалы.**

“

*«Беларусь для Масквы была толькі «эканамічна-адміністратыўным раёнам Савецкага Саюза». Але нават у такіх складаных умовах беларускія «шасцідзесятнікі» змаглі наблізіцца да разумення нацыянальных інтарэсаў свайго народа, рабілі нясмелыя крокі ў іх адлюстраванні сродкамі мастацтва».*
***Захар Шыбека.***



Стары корпус педагагічнага інстытута

### 1. Адукацыя.

Культурнае багацце гродзенцаў сведчыла аб вялікім духоўным патэнцыяле жыхароў Беларусі. Нягледзячы на ўсе нястачы і акупацыі, існавала перспектыва насычанага культурнага жыцця і дабрабыту. Для савецкай улады было відавочна, што культура з'яўляецца адной з галоўных сфераў, над якой трэба ўсталяваць кантроль. Таму расла колькасць адукацыйных устаноў ад агульнаадукацыйных школ – да вышэйшых устаноў. У сярэдніх школах ствараліся абсталяваныя вучэбныя кабінеты і лабараторыі, павялічвалася колькасць тэхнічных сродкаў навучання, з'явіліся камп'ютары, вучэбна-наглядныя дапаможнікі. Сярод школ вылучалася сярэдняя школа № 1 імя С.М.Кірава (цяпер Гродзенская гарадская гімназія), якая адной з першых укараняла ў вучэбны працэс навінкі адукацыйнага прагрэсу.

У студзені 1958 г. была адчынена спартовая школа моладзі (пазней рэарганізаваная ў школу вышэйшага спартовага майстэрства). У ліку яе выхаванцаў – алімпійскія чэм-



Горад маладзее

## Гродзенская школа спартыўнай гімнастыкі

Яе заснавальнікам з’яўляецца Рэнальд Кныш (10.09.1931 г., Копыль Мінскай вобл.) – Заслужаны трэнер БССР (1960) і СССР (1964), заслужаны дзеяч фізічнай культуры, аўтар 30 новых тэхнічных элементаў. Яго выхаванцы – дзве алімпійскія чэмпіёнкі Алёна Валчэцкая (Токіа – 1960) і Вольга Корбут (Мюнхен – 1972, Манрэаль – 1976), чэмпіёнка СССР Таццяна Аляксеева. ЮНЭСКА ўзнагародзіла Вольгу Корбут званнем «Пасол міра», а англічане – кубкам «Лепшая чэмпіёнка Англіі».



Рэнальд Кныш (нар. ў 1931 г.)



Пётр Пачынчук ( 1954 г. - 1991 г. Гродна)

піёнкі гімнасткі Вольга Корбут, Алёна Валчэцкая, Таццяна Аляксеева, алімпійскі сярэбраны прызёр па лёгкай атлетыцы Пётр Пачынчук.

У Гродне была створана сетка вышэйшых навучальных устаноў: Гродзенскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя Я. Купалы (1944), Гродзенскі сельскагаспадарчы інстытут (1951), Гродзенскі дзяржаўны медыцынскі інстытут (1958), Гродзенскі абласны інстытут удасканальвання настаўнікаў (1944). З 1970 г. пачаў сваё існаванне Аддзел рэгуляцыі абмену рэчываў АН БССР. Гродна – адзін з цэнтраў хімічнай прамысловасці Беларусі, і таму невыпадкова, што тут дзейнічае філіял навукова-тэхнічнага і праектнага інстытут азотнай прамысловасці і прадуктаў арганічнага сінтэзу.



Алена Ваўчэцкая (нар. ў 1943 г. Гродна)



У 1963 г. збудаваны новы корпус педагагічнага інстытута



Вольга Корбут (нар. ў 1955 г. Гродна)



Мастак Алесь Ліпень (1925 - 2006, г. Гродна) – "стваральнік асяроддзя", – казалі пра яго народныя майстры, ягоныя вучні

## 2. Мастацтва.

Рэчаіснасць і штодзённасць жыцця знаходзіла адлюстраванне ў творчасці гродзенскіх мастакоў. Сярод іх Алесь Ліпень, Іван Пушкоў, Анатоль Гаршкавоз, Аляксандр Ларыёнаў, Уладзімір Качан, скульптары Анатоль Салятыцкі, Уладзімір Церабун. Узоры творчасці манументалістаў можна ўбачыць на фасадах і ў інтэр'ерах грамадскіх будынкаў, скульптуру – на вуліцах, плошчах і парках горада.

З 1967 г. на вуліцы Ажэшкі дзейнічае Выставачная зала, дзе праводзяцца разнастайныя мерапрыемствы па прапагандзе выяўленчага і прыкладнога мастацтваў. З 1971 г. працуе абласная арганізацыя Беларускага саюза мастакоў, якая аб'ядноўвае жывапісцаў і графікаў, скульптараў і майстроў інтэр'ера, мастакоў манументальнага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

Гарадская сімволіка, вобразы горада на Нёмане ўвасабляліся ў творах народных рамёстваў: пляцення з лазы і саломы, мастацкай апрацоўкі скуры і воўны, кавальства, разьбы па дрэве, апрацоўкі камянёў, керамічнай справы.

## 3. Тэатр і тэлебачанне.

У другой палове ХХ стагоддзя Гродна працягвае традыцыю тэатральнага горада. Два памяшканні – будынак былога манежа А. Ты-



Маладыя гродзенскія мастакі на пленэры



Доўгі час абласны драматычны тэатр месціўся ў старым будынку гарадскога тэатра




Адна з афішаў драматычнага тэатра

зенгаўза і новы, пабудаваны на месцы былога жаночага бернардзінскага манастыра, сталі прытулкам гродзенскай Мельпамены. З 1947 г. цэнтрам тэатральнага жыцця з'яўляецца Гродзенскі абласны драматычны тэатр. Слаўныя старонкі ў гісторыю тэатра ўпісалі галоўныя рэжысёры Мікалай Кавязін, Аляксандр Струнін, Ігар Пятроўскі, Генадзь Мушперт. У 1980 г. створаны Гродзенскі абласны тэатр лялек. Ён знаходзіцца ў старым будынку абласнога тэатра. У спектаклях артысты выкарыстоўваюць лялек розных сістэм – трысняговыя, пятрушкі, планшэтныя, плоскасныя, маскі.



У 1984 г. на месцы, дзе стаяў калісь кляштар бернардынак, быў узведзены новы будынак драмтэатра.



Генадзь Мушперт (нар. ў 1954 г.)




У 1961 годзе адкрыты шырокафарматны кінатэатр "Гродна"

Часам прыём адкрытага кіравання лялькай спалучаецца з дзеяннем акцёра ў жывым плане. З цікавасцю ўспрымаюць гледачы такія пастаноўкі, як «Цудоўная дудка» В.Вольскага, «Чортаў скарб» У.Караткевіча, «Доктар Айбаліт» В.Карастылёва, «Церамок» С.Маршака, «Лекар паняволі» Мальера, «Тутэйшыя» Я. Купалы.

У 1945 г. пачалі выходзіць перадачы абласнога радыё, а ў 1957 г. пачаў працу гродзенскі тэлерэтранслятар.

## 4. Музыка.




У 1980 г. у Старым парку ў спісаным ТУ-124 быў абсталяваны дзіцячы кінатэатар.

## Фільмы, якія здымаліся ў Гродна



"Міколка-Паравоз". 1956.
Рэж. Леў Голуб



"Я родам з дзяцінства". 1966.
Рэж. Віктар Тураў



"Белыя Росы". 1983. Рэж.
Ігар Дабралюбаў.

Пасля ўваходжання Заходняй Беларусі ў склад БССР у Гродна прыехала група беларускіх кампазітараў, сярод якіх быў знакаміты Мікалай Аладаў. Яны дапамаглі наладзіць культурнае жыццё. Усе музычныя работнікі былі зарэгістраваны, быў пакладзены пачатак стварэнню музычнай школы і педагагічнага вучылішча, канцэртнага і духавога аркестраў. Кафедра музыкі і спеваў існавала да 1978 г. у педагагічным інстытуце. З 1944 па 1952 г. у горадзе працаваў беларускі ансамбль песні і танца пад кіраўніцтвам Рыгора Шырмы (з 1950 г. называўся Дзяржаўным хорам БССР, з 1955 г. – Дзяржаўнай харавой капэлай БССР). У яго рэпертуары былі апрацоўкі беларускіх народных песень, творы беларускіх кампазітараў, харавая і вакальна-сімфанічная свецкая і царкоўная музыка замежных класікаў і сучасных кампазітараў.

З Гродна звязаны кавалак жыцця вядомага польскага музыкі, куміра моладзі 60-х Чэслава Немана.

У 1987 г. створана Гродзенская



Рыгор Шырма (1892 - 1978 гг.) і яго ансамбль "Нёман". Пач. 1960-х гг.



Кампазітар Аляксандр Шыдлоўскі (18.6.1911 - 29.9.2002 гг. Гродна)

абласная філармонія. Яна займаецца арганізацыяй і правядзеннем канцэртаў, музычных фестываляў, святаў горада. У складзе філармоніі – ансамбль песні, музыкі і танца «Белыя росы» пад кіраўніцтвам Яўгена Штопа.

## 5. Музеі.

У Гродне музеяў было няшмат. Гэта гісторыка-археалагічны музей, створаны яшчэ Юзафам Ядкоўскім, музей гісторыі рэлігіі і атэізму, які размяшчаўся ў мурах былога базіліянскага манастыра, першым дырэктарам якога стаў Аляксей Карпюк.

Былі музеі і музейныя пакоі ў навучальных установах. Сярод іх народны музей генерала Д. Карбышава ў СШ № 15. Пачэснае месца займае Дом-музей Ажэшкі.

У канцы 1980-х гадоў налічвалася 425 творчых гурткоў і калектываў, 20 з іх насілі званне народ-

### Імя ў гісторыі

**Чэслаў Неман (Чэслаў Выдрыцкі)** – нарадзіўся ў 1939 годзе ў Старых Васілішках на Шчучыншчыне. Чэслаў Неман - вялікі рок-музыка, кампазітар, спявак, мастак, паэта, скульптар.У пачатку 50-х гадоў навучаўся ў Гродзенскім педагагічным вучылішчы. Адкуль яго выгналі за антысавецкія настроі. «У гродзенскім педвучылішчы ўвесь час ён чуў пра партыю, пра Маркса, Леніна... А гэтага ён не любіў. Ён быў веруючым хлопцам. Таму і не вытрымаў. Я не памятаю, каб адлічэнне з вучылішча стала для яго трагедыяй», - узгадваюць пра Немана яго землякі.



Чэслаў Неман

«Нягледзячы на розныя непрыемнасці, дзяцінства я ўспамінаю з настальгіяй... Гэта быў рай на зямлі», – сказаў Чэслаў Нёман у адным з інтэрв’ю.

У 1958 годзе сям’я Выдрыцкіх скарысталася магчымасцю выехаць у Польшчу. У Гданьску, дзе яны пасяліліся, Чэслаў скончыў музычную школу. Там пачалася яго неверагодная кар’ера, у выніку якой Чэслаў Выдрыцкі назаўсёды стаў Чэславам Нёманам.

У 1979 г. Чэслаў Нёман наведаў з гастролямі СССР. Былі канцэрты ў Вільні, Ерэване, Менску, Маскве. Заехаў і ў родныя Старыя Васілішкі. Тут яго сустракалі, як сапраўднага героя. Нягледзячы на ўдалыя канцэрты і сардэчны прыём землякоў, СССР так і застанецца для Чэслава Нёмана суцэльным жахам. Нават у 2000 г., адказваючы журналістам на пытанне, чаго ён больш за ўсё баіцца, Нёман заявіў: “Таго, што я раптам ізноў малады і жыву ў СССР… Калі б я не з’ехаў, а мне тады было 19 гадоў і пагражала служба ў савецкім войску, я б, напэўна, знік у нейкім нецікавым месцы неабдымнай Расеі”. Чэслаў Неман памёр у Польшчы ў 2004 годзе.



Да 1992 г. ў Базыліянскіх мурах месціўся Музей рэлігіі і атэізму



У сценах старажытнай Барысаглебскай царквы пэўны час месцілася экспазіцыя Музея рэлігі і атэізму

ных ці ўзорных. Гэтаму спрыяла і праца арганізаванага ў 1980 г. Гродзенскага абласнога навукова-метадычнага цэнтра народнай творчасці і культурна-асветніцкай работы. Актыўную работу праводзіў народны ўніверсітэт культуры. Адным з яго дырэктараў быў гісторык Барыс Клейн.

## 6. Рэлігійная палітыка.

Атэізм заставаўся сутнасцю стаўлення дзяржавы да ўсіх канфесій. З гэтых пазіцый у горадзе заставаліся зачыненымі Каложская царква і Фарны касцёл. У 1961 г. быў узарваны будынак Гарнізоннага касцёла – славутай Фары Вітаўта. Габрэйскія могілкі былі зруйнаваны, на іх месцы пабудавалі стадыён «Чырвоная Зорка» (цяпер – «Нёман»), надмагільныя пліты былі выкарыстаны ў якасці фундамента помніка Леніну. Сярод знішчаных габрэйскіх пахаванняў была магіла вядомага паэта Лейбы Найдуса. Па савецкай традыцыі памяшканні культавых пабудоў прыстасоўваліся пад розныя ўстановы. Так, будынак лютэранскай кірхі стаў часткаю Дзяржаўнага архіва Гродзенскай вобласці, а ў памяшканнях былога ўніяцкага базыліянскага манастыра размясціўся музей рэлігіі і атэізму. За 1955–1970 гг. колькасць касцёлаў у Заходняй Беларусі скарацілася з 152 да 107.



На месцы старых габрэйскіх могілак у 1963 годзе адкрыты стадыён “Чырвонае Знамя” (сёння "Нёман")



**У будынку кірхі ў савецкі час размяшчаўся архіў Гродзенскай вобласці**

Адчуваўся недахоп святароў. Прыклад супрацiву такому становішчу – нелегальная служба ў 1976 г. святара грэка-каталіцкай (уніяцкай) царквы айца Віктара Данілава, былога вязня ГУЛАГа.

## 7. Літаратура.

Літаратурнае жыццё горада стала адмнтнай з'явай у беларускай культуры другой паловы XX стагоддзя. Стваралі свае творы такія мастакі слова, як Данута Бічэль, Зінаіда Бандарына, Аляксей Карпюк, Васіль Быкаў, Марыя Шаўчонак, Вольга Іпатава, Юрка Голуб.

Сябраваў з Аляксеем Карпюком Васіль Быкаў – выбітны беларускі пісьменнік і грамадскі дзеяч, удзельнік Другой сусветнай вайны. З 1947 па 1949 г. і з 1955 па 1978 г. жыццё і творчасць яго звязаны з Гродна. Ён жыў па вул. Вялікай Траецкай, Свярдлова, Парыжскай Камуны. Доўгі час працаваў Быкаў у абласной газеце «Гродзенская праўда» (1956-1972). На яе старонках у 1949 г. з’явіліся першыя яго апавяданні «У той дзень» і «У першым баі». З 1972 па 1978 г. Быкаў быў сакратаром Гродзенскага абласнога аддзялення Саюза пісьменні-



**Паэт Міхась Васілёк (1905-1960, г. Гродна)**



**Паэт Юрка Голуб (нар. 20.10.1947 г.)**

## Імя ў гісторыі



Значны след у літаратуры пакінуў Карпюк Аляксей Нічыпаравіч **(14 красавіка 1920 г. – 14 ліпеня 1992 г. Гродна)** – пісьменнік, краязнавец, грамадскі і культурны дзеяч, удзельнік Другой сусветнай вайны. Пасля заканчэння вайны вучыўся ў Гродзенскім педінстытуце на факультэце замежных моў. Працаваў педагогам, журналістам, загадчыкам агенцтва «Інтурыст», дырэктарам Рэспубліканскага музея атэізму і гісторыі рэлігіі (1977–1982 гг.). На працягу 19 гадоў узначальваў абласны аддзел Саюза пісьменнікаў Беларусі. Быў ініцыятарам стварэння ў 1988 г. Культурна-асветніцкага таварыства імя А.Міцкевіча (будучага Саюза палякаў у Беларусі). У творах Карпюка, выдадзеных на розных мовах свету, можна знайсці не адну гродзенскую старонку. Паглядзіце «В одном институте» (дэбют аўтара ў 1953 г.), «Мая Гродзеншчына», «Карані», «Белая дама» і іншыя творы. Лаўрэат Літаратурнай прэміі Саюза беларускіх пісьменнікаў імя І.Мележа (1986). Міжнародны біяграфічны цэнтр у Кэмбрыджы (Англія) вылучыў Карпюка на званне «Чалавек года» (1992). У 2008 годзе ў серыі "Гарадзенская бібліятэка" выйшла кніга Аляксея Карпюка "Развітанне з ілюзіямі".



**Васіль Быкаў (19.06.1924 - 22.06.2003**



Паэтка Данута Бічэль (нар. у 1938)




Літаратурны альманах "Нёман", у якім друкаваляся першыя апавяданні А. Карпюка і В. Быкава

каў БССР. У гродзенскі перыяд жыцця былі апублікаваны яго шматлікія кнігі пра чалавека на вайне. Сярод іх «Жураўліны крык», «Альпійская балада», «Мёртвым не баліць», «Праклятая вышыня», «Круглянскі мост», «Сотнікаў». Апошняя кніга пісьменніка «Доўгая дарога дадому» таксама мае гродзенскія старонкі ўспамінаў. У Гродне жыве сям'я малодшага сына пісьменніка Быкава, расце дуб, пасаджаны пісьменнікам-патрыётам, вялікім Беларусам, вялікім Грамадзянінам.



У доме Ажэшкі з 1960-х гадоў размяшчалася філія Саюза Пісьменнікаў БССР

## Пытанні і заданні

1. Якія поспехі назіраліся ў развіцці адукацыі?
2. Назавіце праявы мастацкага жыцця ў горадзе.
3. Раскажыце пра развіццё тэатру ў Гродне.
4. Што вы ведаеце пра музычнае жыццё ў горадзе?
5. На падставе дадатковай літаратуры падрыхтуйце паведамленні пра дзеяча літаратуры, мастацтва і музыкі Гродна.

# § 38. Гродна ў часы "перабудовы". Шлях да незалежнасці Беларусі (1985-1991 гг.)

**Успомніце прычыны і абставіны палітыкі перабудовы ў СССР і БССР.**

**Якія перамены назіраліся ў сацыяльна-эканамічным і грамадска-палітычным жыцці насельніцтва савецкіх рэспублік у 1985-1991 гг.?**

> *Апошняя старонка гісторыі – наша з вамі рэчаіснасць.*
> ***Аляксандр Герцэн.***

**Пасля азнаямлення з параграфам вы павінны:**

- **умець расказваць аб новых з'явах у грамадска-палітычным жыцці горада ў сярэдзіне і канцы 80-ых гг. XX ст.,**
- **параўноўваць грамадскае жыццё ў Гродне ў сярэдзіне і канцы 80-ых гг. XX ст. і пачатку XXI ст.;**
- **ведаць, чаму кожны беларус павінен шанаваць свае нацыянальныя, гістарычныя сімвалы: бела-чырвона-белы сцяг і герб "Пагоня".**

Сярэдзіна 80-х гадоў стала пераломным этапам у жыцці грамадзян Беларусі. Імклівы рост нефармальных аб'яднанняў, пераважна, маладзёжных, быў якасна новай з'явай у грамадска-палітычным жыцці Гродна і ўсёй Беларусі. Расчараванне ў існуючай палітыцы, якую праводзіла кіраўніцтва краіны і партыі, незадаволенасць уласным палітычным і эканамічным становішчам, раскрыццё праўды пра злачынствы камуністычнага рэжыма і палітычныя рэпрэсіі, замоўчванне і непрыняцце мер супраць наступстваў чарнобыльскай катастрофы, удзел многіх маладых беларусаў у афганскай вайне 1979-1989 гг., жаданне надаць належную дзяржаўную ўвагу мове, культуры, гісторыі беларускага народа падштурхнулі многіх беларусаў у другой палове 1980-х да яднання ў шэрагах масавага руху. Ён стаў своеасаблівай формай пратэсту супраць антынацыянальнай лініі КПСС, выключанасці людзей з працэсу прыняцця палітычных рашэнняў, даў пазапартыйную форму выражэння палітычнай і сацыяльнай актыўнасці.

## 1.Палітыка "перабудовы" і яе водгалас у Беларусі

У красавіку 1985 г. на пост Генеральнага сакратара ЦК КПСС быў абраны Міхаіл Гарбачоў. Амаль адразу ён абвяшчае курс на рэформы, якія атрымаў назву «перабудова». Пачала распрацоўвацца праграма комплексных зменаў па вывадзе краіны з доўгага эканамічнага крызісу. Аднак ужо на самым пачатку рэалізацыі становіцца відавочным, што "перабудова" не можа адбыцца без зменаў у грамадска-палітычнай сферы, без дэмакратызацыі грамадства.




Плакат часоў "перабудовы"




Суцэльны дыфіцыт на ўсе магчымыя тавары нарадзіў чэргі – сімвал к. 80-ых пач. 90-ых гг.




Плакат часоў "перабудовы"

Асобнымі мерапрыемствамі перабудовы стала палітыка галоснасці, гаспадарчага разліку, адраджэння прыватнай ініцыятывы ў рамках кааператыўнага руху. Палітыка галоснасці прадугледжвала паступовае адмаўленне ад кантролю КПСС за ідэалагічнымі працэсамі ў грамадстве. Цэнзура над публікацыямі была зменшана, дазволены сходы для абмеркавання палітычных працэсаў. Узнікаюць самастойныя дыскусійныя клубы і нефармальныя аб'яднанні, у якіх можна было праявіць асабістую грамадзянскую ініцыятыву.

Тэмай для шырокага абмеркавання ў грамадстве становіцца культ асобы Сталіна і палітычныя рэпрэсіі 30 – пач. 50-х гг. XX ст. Беларускае грамадства атрымлівае ўсё больш інфармацыі пра жахі сталінскіх лагераў, пра рэпрэсіі супраць мільёнаў ні ў чым не вінаватых людзей. Важную ролю адыгрывалі літаратурныя і публіцыстычныя творы, у якіх паказваліся скалечаныя рэжымам лёсы. Узнавіліся працэсы рэабілітацыі бязвінна рэпрэсаваных. Але яшчэ не дазвалялася ставіць пад сумнеў кіруючую ролю камуністычнай партыі.

26 красавіка 1986 года выбухнула аварыя на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі, якая знаходзілася на тэрыторыі Украіны ўсяго толькі за 5 кіламетраў ад беларускай мяжы. Тагачаснае беларускае камуністычнае кіраўніцтва старанна хавала ад грамадзян інфармацыю аб трагедыі і яе наступствах. У раёнах, якія ў выніку аварыі апынуліся моцна забруджаныя небяспечнымі для жыцця радыяцыйнымі выкідамі, людзей прымусова выводзілі на першамайскія дэманстрацыі і мітынгі. На забруджаных землях апынуліся больш 2 мільёнаў беларусаў. На працягу пяці гадоў пасля аварыі ў Бела-

русі быў зафіксаваны рост анкалагічных захворванняў шчытападобнай залозы ў дзетак у 22 разы. Мноства людзей вымушаныя былі перасяляцца з забруджаных раёнаў.

Трагедыяй Беларусі было і тое, што яе кіраўніцтва, у адрозненне ад кіраўнікоў суседніх з намі рэспублік Прыбалтыкі і Украіны, рэалізоўвала канцэпцыю русіфікацыі Беларусі. Партыйныя эліты фактычна адракліся ад беларускасці, нацыянальнай свядомасці, мовы і культуры. Беларусь планавалася зрабіць прыкладам савецкай нацыянальнай палітыкі, а насяляць яе, паводле планаў камуністаў, павінен быць савецкі народ.

Яшчэ з 1960 гадоў большасць культурных установаў Беларусі прымусова пераводзяць на рускую мову. У 1960 годзе толькі 26,5 % найменняў кніг было надрукавана па-беларуску, а ў 1970 годзе яшчэ меней – 12,3 %.

Паводле рашэнняў кіруючай камуністычнай партыі, беларуская мова стала прадметам, выкладанне якога залежала ад волі вучняў і іх бацькоў. Беларускія школы ў беларускіх гарадах перасталі існаваць ужо ў 1960-я гады. У Гродне ў канцы 80-х г. не было ніводнай школы, дзе б выкладанне вялося на мове тытульнай нацыі краіны – беларускай. Такая палітыка працягваецца і сёння. У 1985 годзе ў Беларусі працавала толькі 23 % беларускіх сярэдніх школ, навучанне на беларускай мове вялося пераважна ў вёсках і маленькіх мястэчках. У свядомасць большасці беларусаў




**Пратэсты ў Гродна кан. 1980-х г.**

было ўведзена перакананне, што Беларусь – гэта адміністрацыйная адзінка Савецкага Саюза, а беларусы – гэта народ, які ніколі не меў уласнай гісторыі. І варта, на жаль, прызнаць, што савецкая ідэалогія дасягнула ў гэтым немалых поспехаў.

Нацыянальная эліта адчайна не хацела пагаджацца з гэтай сітуацыяй. Яшчэ ў снежні 1986 года 28 прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі, сярод якіх былі народныя пісьменнікі Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч накіроўваюць на імя Міхаіла Гарбачова ліст, у якім звяртаюць увагу на катастрафічны стан беларускай мовы, на неабходнасць яе развіцця і адраджэння беларускай культуры. У адказ на ліст, камуністычнае кіраўніцтва БССР, заявіла, што гэтая праблема надуманая і не вартая ўвагі. А між іншым, паводле перапісу 1979 года каля 60 % беларусаў прызнавалі сваёй роднай мовай беларускую. У вы-



**Пікітоўшчык канца 80-х г. на вуліцах сталіцы Беларусі**

ніку беларускае пытанне стала набываць палітычную афарбоўку і напрыканцы 1980-х гадоў заняло адно з галоўных месцаў у дзейнасці шэрагу грамадскіх арганізацый, якія паступова сталі афармляцца ў апазіцыю КПСС-КПБ.

На гэтай хвалі ў Беларусі паўстаюць у вялікай колькасці палітызаваныя нефармальныя моладзевыя аб'яднанні. У Мінску – "Талака", "Тутэйшыя", "Няміга", "Сьвітанак", у Гродне – "Паходня" у Гомелі – "Талака", у Наваполацку – "Крывічы" і "Сакавік", у Полацку – "Маладзік", у Віцебску – "Узгор'е", у Брэсце – "Край", у Воршы – "Повязь" ды інш. Яны выступалі за адраджэнне і належнае стаўленне з боку ўлады да беларускай мовы, культуры, гісторыі. Увесну 1988 года ў Беларусі дзейнічалі каля 40 нефармальных аб'яднанняў, у якіх бралі ўдзел больш за 3000 актывістаў.



Міхась Ткачоў і Мікола Таранда (справа) на адным з першых паседжанняў "Паходні". Міхась Ткачоў скажа пасля: "Я прыйшоў у клуб і застаўся. Знайшоў тут аднадумцаў, аб'яднаных адзінай ідэяй – зрабіць усё магчымае, каб пра сучаснасць і мінулае нашага народа, яго гісторыю і культуру даведалася як мага больш людзей".

24-25 чэрвеня 1989 года ў Вільні адбываецца ўстаноўчы з'езд Беларускага Народнага Фронту "Адраджэнне". У праграме, прынятай на з'ездзе, ставілася мэта – адраджэнне беларускай нацыянальнай культуры, прыняцце закона аб дзяржаўнай суверэннасці БССР у складзе СССР. Неадкладнай задачай прызнавалася ліквідацыя вынікаў чарнобыльскай катастрофы і паляпшэнне дабрабыту людзей. БНФ стала арганізацыяй, якая ўзначаліла нацыянальны рух у Беларусі, які дамогся незалежнасці краіны.

### 3. Грамадская актыўнасць гарадзенцаў. Клуб "Паходня".

Грамадская і пратэстная актыўнасць гарадзенцаў у сярэдзіне 80-х набыла значны размах.

Першыя суполкі пачалі ўзнікаць у 1986 годзе. У Музеі Максіма Багдановіча стварылася суполка імя паэта, ідэйнымі натхняльнікамі якой былі Данута Бічэль і Зміцер Кісель. Аднак самым вядомым нефармальным аб'яднаннем у нашым горадзе быў Клуб аматараў гісторыі і культуры роднага краю "Паходня".

Першае паседжанне "Паходні" адбылося 12 сакавіка 1986 года дзякуючы намаганням Міколы Таранды з Інстытута біяхіміі АН БССР. "Гэта ён гойсаў па ўсім горадзе, стаптаўшы ногі, і вышукваў людзей, якія ведаюць, любяць, цікавяцца ўсім нашым родным — беларускім", - адзначана ў дзённіку "Паходні". На першае паседжанне клуба прыйшлі 19 чалавек.

Пасяджэнні клуба адбываліся адзін раз на тыдзень у будынку гарадскога Дома культуры.

## Факт гісторыі

На першым паседжанні “Паходні” прысутнічалі заснавальнік клуба Мікола Таранда, удзельнікі народнага ансамбля “Нёман” Віктар Зубкоў і Валя Ятулевіч, супрацоўнікі Інстытута біяхіміі Пацэнка Антон, Лучко Валянцін, Надольнік Ліля, Чумакова Вольга, Лапшына Лена, Козак Таццяна, Хоха Саша, супрацоўнікі ўніверсітэта імя Я.Купалы Мікола Даніловіч, Ніна Тарэлкіна, Петр Маляўка, мастак Уладзімір Кіслы, рабочы з ВА “Азот” Сяргей Трафімовіч, карэспандэнт “Гродненской правды” Сяргей Астраўцоў, Мікалай Сак.

Першая праграма “Паходні” арыентавала сябраў клуба знаёміцца з гістарычнымі падзеямі, помнікамі архітэктуры і літаратуры краю, вывучаць жыццё, творчасць выдатных прадстаўнікоў мінулага і сучаснага. Асобная ўвага надавалася папулярызацыі беларускай мовы, беларускай музыкі і літаратуры, фальклёру, звычаяў і традыцый.

Сябры “Паходні” арганізоўвалі для жыхароў горада сустрэчы з гісторыкамі, пісьменнікамі, навукоўцамі-беларусамі. Гасцямі клуба ў розныя часы былі: акадэмік АН БССР, дырэктар інстытута біяхіміі Юрый Астроўскі, знакаміты педагог, краязнавец Апанас Цыхун, пісьменнікі Аляксей Карпюк, Кастусь Тарасаў, паэт Анатоль Сыс, гісторык літаратуры Адам Мальдзіс, гісторыкі Валянцін Грыцкевіч і Мікола Ермаловіч, удзельнікі рок-гурта “Мроя”.

У клубе праводзілі вечарыны, прысвечаныя Уладзіміру Караткевічу, Ларысе Геніюш, Максіму Багдановічу, Давыду Гарадзенскаму, Ігнату Буйніцкаму, Тэадору Нарбуту, Міхасю Забэйдзе-Суміцкаму, Францішку Грынкевічу, Язэпу Драздовічу, праводзілі збор сродкаў на адкрыццё помніка ў горадзе Кастусю Каліноўскаму.




**Сябры клуба "Паходня" ва ўрочышчы "Курапаты" пад Мінскам, месцы масавых сталінскіх расстрэлаў.**

Але не толькі гісторыя і культура Беларусі, захаванне спадчыны роднага горада была мэтай дзейнасці “Паходні”. Клуб выступаў за вяртанне ва ўжытак беларускай нацыянальнай сімволікі – бел-чырвона-белага сцяга і герба “Пагоня”, стварэнне беларускага нацыянальнага войска, увядзенне беларускага грамадзянства.



**Мастак і рэстаўратар Уладзімір Кіслы**

Сябры “Паходні” узялі ўдзел у ІІ Вальным Сойме беларускіх моладзевых супалак, які адбыўся 14-15 студзеня 1989 года ў

## З дзённіка "Паходні"

«Вельмі ж непрывабны выгляд у той час мела даліна Гараднічанкі, заваленая смеццем, бочкамі з фарбай ды мазутам. Здавалася дзесяцігоддзямі там ніхто не прыбіраў. 27 чэрвеня 1987 г. нeяк вельмі хутка "Паходняй" была арганізавана талака ў даліне рэчкі. Збіраліся а 10 гадзіне раніцы, імжыў дождж. Тут былі ўжо Міхась Ткачоў, Аляксей Карпюк, Алесь Госцеў, Ліля Лашак, Ніна Ляшчонак, Павел Скрабко, Ліля Надольнік. Па слізкіх берагах спусціліся да вады і працавалі па калена ў тым брудзе. "Цьфу, Ванючка, а не Гараднічанка, і як вы туды палезлі?" – падтрымлівалі прахожыя працуючых, якія ўсё роўна былі задаволены, бо пасля таго, як з рачулкі і ваколіц выцягнулі некалькі прычэпаў смецця, было ўжо прыемна глянуць на яе. Недалёка ад моста на вуліцы Ажэшкі адшукалі крыніцу, з якой пачала бурліць вада. Вырашылі зрабіць яшчэ з пару "суботнікаў" у наступныя сераду і пятніцу пасля 19 гадзін».

Вільні. Вынікам ягонай працы было стварэнне Канфедэрацыі беларускіх суполак, што азначала ўзнікненне палітычнага саюза беларускіх нефармальных арганізацый, саюза „дзеля паслядоўнай барацьбы супраць тых рэштках сталінізму, якія прапітваюць нашае грамадства наскрозь".

### 4. "Рэанімова"

Газета «Рэанімова» была першым непадцэнзурным выданнем, якое пакінула адбітак у грамадска-палітычным жыцці Гродна прыканцы 80-х гадоў. Газета выдавалася ў 1989-1990 гг. у Гродна як друкаваны орган суполкі імя Максіма Багдановіча. Адным з рэдактараў была паэтка Данута Бічэль. Змяшчаліся матэрыялы на палітычныя, гістарычныя і нацыянальныя тэмы, а таксама малавядомыя альбо забытыя творы Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Вацлава Ластоўскага, Ларысы Геніюш. Газета выходзіла нерэгулярна, пабачылі свет 11 нумароў газеты. Аўтарамі газеты былі Данута Бічэль, Зміцер Кісель, Васіль Бязмен, Міхась Баярчук ды іншыя, друкаваліся Уладзімір Дамашэвіч, Сакрат Яновіч, Іван Лепешаў

У першым нумары "Рэанімовы" рэдакцыя тлумачыла сваю дзейнасць: "… Янычары ў Басманскай імперыі, адрокшыся ад свайго роду-племені, ішлі наперадзе войска, якое захоплівала іх радзіму. Максім Багдановіч перасцерагае свой народ ад такой долі ў вершы "Пагоня": Біце ў сэрцы іх, біце мячамі, не давайце чужынцамі быць!…" Мы пакуль што не янычары. Таму і вырастаюць у беларускіх гарадах суполкі моладзі, якія змагаюцца за адраджэнне беларускай мовы…"

## Імя ў гісторыі



**Зміцер Кісель (1962, Гродна – 2005, Гродна)** – грамадскі і палітычны дзеяч, журналіст, гісторык, адзін з заснавальнікаў самвыдата ў Гродна ў 80-я гады. Сын Уладзіміра Кісяля, актывіста беларускага антысавецкага руху, заснавальніка "Саюза беларускіх патрыётаў". Бацькі Зміцера былі асуджаныя да сталінскіх лагероў.

У канцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя Зміцер Кісель актыўна ўдзельнічае ў грамадска-асветніцкім жыцці Гродна. Узначальвае суполку моладзі імя Максіма Багдановіча. Быў адным з выдаўцоў газеты "Рэанімова". Пасля атрымання Беларуссю незалежнасці працуе журналістам у газетах "Пагоня", "Ніва" (Беласток), радыё "Рацыя".


РЭАНІМОВА

Першы нумар незалежнай газеты "Рэанімова"

У №1 "Рэанімовы" упершыню ў беларускім непадцэнзурным друку быў апублікаваны тэкст і ноты духоўнага гімна беларусаў "Магутны божа".

Газету распаўсюджвалі на мітынгах, альбо ў цэнтры горада, перад вокнамі тагачаснага будынка гарвыканкама.

Узгадвае Данута Бічэль: «На друкарцы набіралі тэксты і ўклейвалі іх на шчыльную паперу, мастакі абводзілі палоскамі, ад рукі пісалі назвы тэкстаў, рабілі чорна-белыя графічныя малюнкі, пераважна карыкатуры. Наклад мы вызначалі грашыма, якія мелі – ад 200 да 2000 асобнікаў. Першы нумар нам дапамог аддрукаваць Сяргей Дубавец. Але большасць нумароў друкавалі ў Вільні, у падвале мэблевага камбіната. Там стаялі такія дапатопныя машыны, у якіх круціўся барабан, змазаны чорнай фарбай».

## 5. Вяртанне забытых сімвалаў і святынь

Палітычныя перамены закранулі гістарычны сімвал горада, якім быў старажыты гарадскі герб з выяваю Аленя св. Губерта. Двойчы за час "перабудовы" Гродзенскі гарсавет змяняў выгляд герба. Але сам факт вяртання гарадскімі ўладамі сімвала "магдэбурскай Гародні" быў сведчаннем радыкальных перамен ў культурным і грамадска-палітычным жыцці гродзенцаў.

Каля Каложы з'явілася ў 1990 г. шыльда «Пагоня на Грунвальд. 1410 год», якая сведчыць аб удзеле гродзенскай харугвы ў пераможнай бітве на Грунвальдскім полі.

Як сімвал такіх перамен, у маі 1988 г. ізноў загучалі званы гарадзенскіх храмаў.

Веруючым вяртаюць хрысціянскія святыні – Каложу і Фарны касцёл. У былым уніяцкім базыліянскім кляштары пачаў дзейнічаць праваслаўны жаночы манастыр. Пачалося аднаўленне




Герб Гродна "Алень св. Губерта"



Урачыстае адкрыццё памятнага знака "Пагоня на Грунвальд" 1990 г.



Старшыня "Саюза палякаў у Беларусі" Т. Гавін (у цэнтры) на прыёме ў Папы Рымскага Яна Паўла II

## Арганізацыі нацыянальных меншасцяў у Гродна

З 1988 г. моц набірае створанае ўраджэнцам вёскі Ласосна, падпалкоўнікам пагранічных войск, палякам па нацыянальнасці Тадэвушам Гавіным Польскае культурна-асветніцкае таварыства імя Адама Міцкевіча. У 1990 годзе таварыства пераўтвараецца ў Саюз палякаў у Беларусі, галоўнае праўленне якога знаходзіцца ў Гродне. Паўстаюць грамадскае аб'яднанне беларускіх літоўцаў «Тэвінэ» на чале з Альгімантасам Дзяргінчусам, аб'яднанне татар г. Гродна пад кіраўніцтвам Аляксандра Крыніцкага, Гродзенскае грамадскае аб'яднанне яўрэйскай культуры імя Л. Найдуса пад старшынствам Рыгора Хасіда.

лютэранскай кірхі, іудзеям вярнулі сінагогу. Створаныя каталіцкія і праваслаўныя школкі віталі сваіх маленькіх вернікаў.

### 5. Адукацыя.

Новыя рысы набывала адукацыя. У Гродна вяртаюцца гімназіі і ліцэі. У 1990 г. была створана школа-гімназія № 30 (цяпер – гімназія № 1 імя акадэміка Я.Ф. Карскага). Першым дырэктарам яе стала Рэгіна Можджэр. У 1991 г. Святлана Іоська ўзначаліла філіял Беларускага гуманітарнага адукацыйнага цэнтра, дзейнасць якога стымулявала стварэнне ў 1996 г. першага ў сучасным Гродне ліцэя. Цяпер у горадзе ў сістэме сярэдняй агульнай адукацыі дзейнічае дзесяць гімназій і ліцэй.

Увага да беларусізацыі адбілася ў арганізацыі ў ГрДУ імя Я. Купалы першай ў Беларусі кафедры беларускай культуры на чале з прафесарам Аляксеем Пяткевічам.

Многія канферэнцыі – «400-годдзе першага анатаміраван-

## Імя ў гісторыі



**Юры Астроўскі (29.06.1925, Мінск – 31.12.1991, Гродна)** – акадэмік, доктар медыцынскіх навук, грамадска-палітычны дзеяч. У 1959 г. стварыў у Гродзенскім медыцынскім інстытуце кафедру біяхіміі, якая перарасла ў Інстытут біяхіміі АН Беларусі. За 25–гадовую працу ў медінстытуце склалася «школа Астроўскага»: пад яго кіраўніцтвам абаронена звыш 70 кандыдацкіх і доктарскіх прац. Астроўскі быў вядомым спецыялістам у галіне вітаміналогіі і рэгуляцыі абмену рэчываў, наркалогіі і анкалогіі. Як чалавек высокай грамадзянскай пазіцыі ён выступаў за дэмакратычныя перамены, за адраджэнне беларускай культуры і гісторыі, за ліквідацыю вынікаў чарнобыльскай аварыі.

ня ва Усходняй Еўропе» (1986), «300-годдзе аптэкі», «Вітаўт Вялікі і яго эпоха» (1990) – адкрылі гісторыю для гарадзенцаў. Цэлае пакаленне новых даследчыкаў выйшла з ліку слухачоў і ўдзельнікаў цыкла навуковых канферэнцый «Наш Радавод», арганізаваных гісторыкам Дзмітрыем Каравым у 1990 г.

У Гродна дзейнічаюць дзве навуковыя акадэмічныя ўстановы. З 1985 г. працуе Інстытут біяхіміі НАН Беларусі на чале з акадэмікам Юрыем Астроўскім, у 1991 г. адчынены Аддзел праблем рэсурсазберажэння НАН Беларусі, які стварыў акадэмік Анатоль Свірыдзёнак.

### 6. Выбары ў Вярхоўны Савет

У 1988 – 1989 гг. ліквідацыя былых аўтарытарных механізмаў запалохвання і кантролю



Літаратуразнаўца, прафесар Аляксей Пяткевіч




Гродзенскі летапіс "Кронан" выдадзены Алесем Госцевым і Вячаславам Шведам




"Наш радавод" – зборнік навуковых гістарычных артыкулаў




**Агітацыйны плакат канца 80-х г., які заклікаў гродзенцаў узяць удзел у агульнагарадскім мітынгу**

прывяла да таго, што ў рамках палітыкі галоснасці дэмакратычна настроеныя грамадзяне пачалі крытыкаваць сістэму кіраўніцтва партыяў і краінай. Нарасталі нацыянальныя працэсы ў рэспубліках, з'явілася палітычная і нацыянальная апазіцыя, якая пачала заклікаць да выхаду з СССР. Кіраўніцтва асобных рэспублік прыслухоўвалася да гэтых заклікаў, наладжвала кантакты з апазіцыянерамі, збірала рэсурсы, неабходныя для набыцця самастойнасці.

У БССР працэс дэмакратызацыі грамадства ішоў значна больш марудна, чым у іншых рэспубліках.

У 1989 годзе гарадзенцы вылучаюць Міхася Ткачова кандыдатам у народныя дэпутаты СССР. Міхась Ткачоў рэальна перамагаў на выбарах, аднак тагачасная ўлада зрабіла ўсё, каб народным дэпутатам стаў кандыдат ад камуністаў. Пра гэтыя выбары Міхась Ткачоў пазней скажа: "...Дагэтуль шчыра верыў у ідэалы партыі, стараўся ўзняць яе аўтарытэт, думаючы, што найлепшы для гэтага шлях — нармальная старанная праца, асабісты прыклад у грамадскім жыцці. І вось прыйшло крушэнне маральных устояў, пэўных палітычных прынцыпаў. Зразумеў нарэшце, што ў партапарата

## Імя ў гісторыі



**Міхась Ткачоў (10.3.1942 - 21.10.1992)** – беларускі гісторык, археолаг, грамадска-палітычны дзеяч. Доктар гістарычных навук, прафесар. Даследчык вайсковага дойлідства беларусаў. Аўтар шэрагу ўнікальных кніг: "Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст.", "Замкі Беларусі", «Замкі і людзі» ды інш. У Гродне жыў і працаваў з 1978 года. Выкладаў ва ўніверсітэце. Неаднаразова выступаў супраць знішчэння гарадскімі ўладамі старажытных будынкаў у цэнтры Гродна. Пераследаваўся мясцовым кіраўніцтвам, справы даходзілі да Савета міністраў СССР, гісторыка спрабавалі прыцягнуць да крымінальнай адказнасці «за клевету на органы Советской власти», «за ввод в заблуждение председателя Совета министров СССР». У 1986 годзе стаў адным з заснавальнікаў і кіраўнікоў клуба "Паходня". У канцы 80-х актыўна займаецца палітычнай дзейнасцю. Ткачоў выходзіць з шэрагаў КПСС і актыўна далучаецца да нацыянальна-адраджэнцкага руху. У 1991 годзе стварае Беларускую сацыял-дэмакратычную грамаду. У 1992 годзе Міхась Ткачоў пры таямнічых абставінах быў моцна збіты невядомымі і ў хуткім часе памёр. За год да смерці ў размове з журналістамі ён сказаў: "Нягледзячы на ніякія адкаты, працягваю верыць у наш народ. Што б з ім не вытваралі, ён застанецца самім сабой: добрым, працавітым, незлабівым і вельмі адважным, рашучым у крытычныя моманты гісторыі, калі на карту ставіцца лёс яго жыцця..."



Пікет на Савецкай вуліцы ў падтрымку М. Ткачова

## Факт гісторыі

Новы, больш вольны характар выбарчых кампаній звяртаў на сябе ўвагу: перавыдвыбарная агітацыя была навіною для гараджанаў. Падчас адных выбараў па-над самым дахам будынка 30-га будаўнічага трэста на Бульвары ленінскага камсамола з'явіўся лозунг "Тот, кто против Горбачёва – голосуйте за Ткачёва». Надпіс ставіў Міхася Ткачова ў сапраўдныя канкурэнты тагачаснаму кіраўніку СССР. Новаю рысаю выбараў сталі агітатары-валанцёры, сярод якіх было нямала студэнтаў.

святога няма, дзеля захавання ўлады ён гатовы на ўсё".

У сакавіку – красавіку 1990 г. у Беларусі адбываюцца выбары ў Вярхоўны Савет, а таксама ў мясцовыя саветы. Упершыню за многія дзесяцігоддзі яны праходзілі на альтэрнатыўнай аснове.

Яшчэ 17 снежня 1989 года Гарадзенская канферэнцыя БНФ "Адраджэнне" прымае "Зварот да жыхароў Гарадзеншчыны", дзе адзначае: "Прыйшоў час зрабіць выбар, як жыць далей. Мы атрымалі шанц змяніць свой лёс, і таму павінны абраць у Саветы прадстаўнікоў народа,



2-я старонка ГРОДЗЕНСКІ УНІВЕРСІТЭТ 24 студзеня 1990 года

КАНДЫДАТЫ Ў НАРОДНЫЯ ДЭПУТАТЫ ПАПРАСІЛІ СЛОВА

МІЛІНКЕВІЧ Аляксандр Уладзіміравіч, 1947 года нараджэння, рускі, адукацыя вышэйшая, член КПСС, дацэнт кафедры агульнай і тэарэтычнай фізікі.

БАДЗЮКОВА Таццяна Аляксееўна, 1952 года нараджэння, беларуска, адукацыя вышэйшая, член КПСС, дацэнт кафедры ўсеагульнай гісторыі.

Агітацыйныя перадвыбарчыя матэрыялы кандыдатаў у дэпутаты на старонках газеты "Гродзенскі універсітэт"



Мікола Маркевіч – адзіны дэмакратычны дэпутат Вярхоўнага Савета XII склікання ад г. Гродна




Мітынг пратэсту працоўных машынабудаўнічай прамысловасці на пл. Леніна ў Гродне

а не партыйнай бюракратыі, абраць сумленных людзей, абаронцаў нашага законнага права жыць па-людску...”



ІХ ПАДТРЫМЛІВАЕ БНФ „АДРАДЖЭНЬНЕ“, „САВЕТЫ-90”

/звдзення на 27 лютага/

КАНДЫДАТЫ Ў НАРОДНЫЯ ДЭПУТАТЫ БЕЛАРУСКАЙ ССР

238.Горнаўская СОРКІН
239.Дзяржынская МІЛІНКЕВІЧ
240.Пралетарская ЛІБІНА
241.Прыёмнінская МАРКЕВІЧ

КАНДЫДАТЫ Ў НАРОДНЫЯ ДЭПУТАТЫ АБЛАСНОГА САВЕТА

№1.Горнаўская ЯКІМАЎ
10.Школьная ЛУКАШЫК
5.Дамброўская МАКСІЕНАК
11.Студэнцкая ТАРАКАНАЎ
12.Камсамольская КУЛІЕЎ
13.Пушкінская МАЛЕВІЧ
14.Рэвалюцыйнаўская ДОЛАБ
16.Будаўнічая КІРЭЙ
17.Лімоўская СЕРБІН
19.Сацыялістычная САМОЙЛА
20.Чапаеўская ПАЛУЯН
21.Савецкая КУСЬЦІКАЎ
23.Шчорсаўская КАРПАЎ
24.Чыгуначная ЛЮПА В.
27.Гагарынская КАРАУКА
32.Заходняя КУЗЬНЯЦОЎ
33.Аўгустоўская СКРАБОЦКІ
34.Гаспіцкая КУБАСАЎ
38.Томінская ШКРЭБАЎ
39.Перамоўная ЗАКРЭЎСКІ,ПАСІКАЎ
40.Юбілейная АНІШЧЫК
41.Кастрычніцкая ПАРФЁНЕНКА

КАНДЫДАТЫ Ў ДЭПУТАТЫ РАЁННАГА САВЕТА

ЛЕНІНСКІ

№3.Спартыўная ВІЛЬЧЭЎСКІ
8.Калінаўская ХЛАМКО
14.Дамброўская др. ПЯТРЭНКА
33.Камсамольская тр. ФУСТАЧЭНКА
36.Горнаўская другая НАВУМЧЫК
38.Пушкінская другая ШАРЭЙКА
39.Дзевятарская СТАЛЬБОЎСКІ
50.Лімоўская МАЛЫШКА
55.Будзённая ЯКУШАЎ

КАСТРЫЧНІЦКІ

№5.Шчорсаўская ВАСІЛЬЕЎ
10.Азотаўская ГРЫНЧАНКА
9.Камунальная РАМАНОЎСКІ
12.Антонаўская ЯКІМЧЫК
15.Гогалеўская СКАЧКОЎ
16.Студэнцкая КАРПОВІЧ
19.Паповічская ВАРАТЫНСКАЯ
20.Рачная ЗАДОЛЬСКІ
25.Сакалоўская ВЕНГЛІНСКІ
35.Лелевельская МАШКО
38.Чырвонагвардзейск АРЦЮКЕВІЧ
45.Прамысловая АКУДОВІЧ
48.Завадская першая ТРОШКІН
49.Завадская другая ІВАНОЎСКІ
53.Сонечная ЦЕЛЕШ
54.Румлёўская НІКІЦІНА

КАНДЫДАТЫ Ў НАРОДНЫЯ ДЭПУТАТЫ ГРОДЗЕНСКАГА ГАРАДСКОГА САВЕТА

№1.Ватуцінская БАХАНЕВІЧ
№2.Віленская МАЛІНОЎСКАЯ
4.Катоўская ТАРАКАНАЎ або Пяткевіч
6.Будаўнічая УДАЛЫХ
8.Садовая КВІТ
10.Болдзінская другая СМАТРЫН
11.Болдзінская трэцяя БУДЗЬКО
13.Заходняя першая РУНГЕ
14.Заходняя другая НАВУМОВІЧ ці ЛЮПА А.
18.Паўночная першая ЯЕРМАЎ
17.Заходняя пятая ВОРАН
20.Ленінская другая ГУСАРАЎ
25.Маладзёжная трэцяя ЗМІЦІНАЎ
27.Маладзёжная пятая МІЛЕШКА
28.Ленінская пятая АСТРОЎСКІ АЛЯКСАНДР
29.Ленінская шостая УСАЎ
37.Грандзічская першая ГАРКОЎ
38.Гродзіцкая другая ГРАБКЕВІЧ
41.Гродзіцкая пятая ГРЫЦУЦІНА
42.Чарняхоўская ЧОБАТ
44.Студэнцкая ЯНУЧОК
45.Таўлайская ПАТАПЧЫК
47.Дзевятоўская першая ФРАНКОЎСКІ
52.Дзевятоўская другая БАРАНОЎСКІ
54.Дзевятоўская чацьвёр ПАЛТАВЕЦ
55.Студэнцкая трэцяя МАЦКО В.
56.Паўлаўская СЫЛІПУРА
57.Тэлеграфная СІЦЬКО
59.Замкавая БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА
61.Пралетарская першая КУДЗЕЛЬКА
63.Пралетарская другая ПЕЛЬСАР
65.Усходняя ПІХОЎСКІ
66.Заслонаўская ШАР або БУТАР
68.Лідская першая КАРНЕВІЧ
70.Белушская другая КАНЧАНІН
71.Лідская другая КАРА
73.Чырвонапартызанская АЛЕШОЎСКІ
75.Гагарынская другая РАМАНОВІЧ
77.Кааператыўная другая ВОЎБЛЕЙ
80.Пагранічная БЕРТАЛЬ
81.Солнцаўская першая КАКАРЭКА
82.Солнцаўская другая МАКУШКІН
83. Чайкінская першая БАРАНОЎСКАЯ
92.Рэпінская трэцяя ГІВОЙНА
93.Чайкінская трэцяя ІГНАЦЕНКА
94.Сонечная ЯГОРАЎ або ЛАЗОЎСКІ
97.Купалаўская АНДРЭЕЎ
98.Някрасаўская ЛАСКАЛЕЎ
101.Брэсцкая ВІНЕНКА або ШКУТА
103.Славінская першая ВАЛЬ або ПАРНІКАЎ
105.Томінская ПАЛУБОК
106.Пабеданосная першая ШМАРКІН
110.Прыёмнінская першая ЖУРАЎ
111.Прыёмнінская другая ДЗЬМІТРЫЕЎ
116.Юбілейная трэцяя ДАЛГОЎСКІ
117.Прыёмнінская пятая РАЎБЕЦКАЯ
122.Цэнтральная першая ДАНЮС

ГАЛАСУЙЦЕ ЗА КАНДЫДАТАЎ ДЭМАКРАТЫЧНАГА БЛОКУ САВЕТЫ-90

Агітацыйная ўлётка са спісам дэмакратычных кандыдатаў г. Гродна на выбарах 1990 г.

У Гродне дэмакратычна настроеная грамадскасць стварае для падтрымкі сваіх кандыдатаў блок “Саветы-90”. Па ўсёй Беларусі ў Вярхоўны Савет было абрана 327 дэпутатаў. Ад Гродна з падтрымкай блока “Саветы-90” і БНФ “Адраджэнне” ў парламент гарадзенцы абіраюць журналіста “Гродзенскай праўды” Мікалая Маркевіча. Нягледзячы на супраціў камуністычнай вярхушкі, паўсюднае парушэнне выбарчага права, у парламент удалося абраць 67 дэмакратычных кандыдатаў. 36 з іх сфармавалі фракцыю “Апазіцыя БНФ”. Пройдзе некалькі месяцаў і дэпутаты гэтай фракцыі, на чале з Зянонам Пазняком, дамогуцца абвяшчэння незалежнасці Беларусі.

Усё больш магутнымі становіліся пратэсты працоўных гарадскіх прадпрыемстваў. У маі 1991 года працоўныя завода аўтаагрэгатаў апячаталі партыйны камітэт, перакрылі шэраг вуліц горада. Рабочыя выступалі супраць

падвышэння цэнаў, супраць панучай ролі камуністычнай партыі, выказвалі недавер уладам горада, кіраўніцтву рэспублікі.

У Гродне адбываліся масавыя мітынгі супраць пабудовы “Скідзельскага біяхімічнага камбіната” і з патрабаваннямі вырашыць экалагічныя праблемы.

## 7. Абвяшчэнне незалежнасці Беларусі

Літаральна адразу пасля выбараў у Вярхоўны Савет БНФ “Адраджэнне” ставіць за мэту дасягненне поўнай незалежнасці Беларусі і вываду рэспублікі з складу СССР.

86% дэпутатаў Вярхоўнага Савета БССР складалі камуністы, якіх аб’ядноўвала ўпартае непрыняццё мадэрнізацыі грамадства і беларускай культуры. Аднак 27 ліпеня 1990 года Вярхоўны Савет мінімальнай большасцю абвяшчае “Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце БССР”. Гэты крок хоць і не вынікаў з пераканання і волі большасці дэпутатаў Вярхоўнага Савета, але адкрыў для нашай краіны шлях да сапраўднай незалежнасці. Пацвярджаўся прыярытэт беларускай мовы, абвяшчалася права на стварэнне нацыянальнага войска, рэспубліканскай міліцыі і службы бяспекі. Дэкларацыя патрабавала ад ўрада СССР кампенсацыі стратаў, звязаных з ліквідацыяй наступстваў чарнобыльскай катастрофы.

Унутрыэканамічная і палітычная сітуацыя ў СССР пра-

| | | Пытанні: | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Прозвішча, імя, імя па бацьку | Акруга | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 | 36 | 37 | 38 | 39 |
| Лобач Мікалай Іванавіч | 050 | За | За | За | За | За | За | За | За | За |
| Ломаць Зянон Кузьміч | 085 | За | За | За | За | За | За | За | За | За |
| Лужынскі Станіслаў Антонавіч | 059 | За | За | За | За | За | За | За | За | За |
| Лукашоў Аляксандр Васільевіч | 097 | За | За | За | За | За | За | За | За | За |
| Лукашэнка Аляксандр Рыгоравіч | 310 | Ад | Ад | Ад | Ад | Ад | Ад | Ад | Ад | Ад |
| Любавіцкі Вячаслаў Віктаравіч | 184 | За | За | За | За | За | За | За | За | За |
| Лябедзька Анатоль Уладзіміравіч | 265 | За | За | За | За | За | За | За | За | За |
| Лявонаў Васілій Севасцьянавіч | 299 | Ад | Ад | Ад | Ад | Ад | Ад | Ад | Ад | Ад |
| Лятко Аляксандр Аляксандравіч | 254 | За | За | За | За | За | За | За | За | За |
| Майсееў Генадзь Фёдаравіч | 175 | За | За | За | За | За | За | За | За | За |
| Макарэвіч Іосіф Адамавіч | 062 | За | За | За | За | За | За | За | За | За |
| Макейчанка Барыс Андрэевіч | 068 | За | За | За | За | За | За | За | За | За |
| Малахоўскі Аляксандр Канстанцінавіч | 217 | За | За | За | За | За | За | За | За | За |
| Малашка Віталій Аляксеевіч | 030 | За | За | За | За | За | За | За | За | За |
| Мальшаў Уладзімір Мікалаевіч | 219 | За | За | За | За | За | За | За | За | За |
| Мамчыц Аляксандр Іванавіч | 296 | За | За | За | За | За | За | За | За | Нг |
| Мардашоў Анатоль Андрэевіч | 145 | За | За | За | За | За | За | За | За | За |
| Маркевіч Мікалай Мікалаевіч | 241 | Ад | Ад | Ад | Ад | Ад | Ад | Ад | Ад | Ад |
| Маркоўскі Мікалай Марцінавіч | 222 | Ад | Ад | Ад | Ад | Ад | Ад | Ад | Ад | Ад |
| Марозаў Васілій Фёдаравіч | 416 | За | За | За | За | За | За | За | За | За |
| Мартос Канстанцін Вікенцьевіч | 108 | За | За | За | За | За | За | За | За | За |
| Марыніч Міхаіл Афанасьевіч | 023 | За | За | За | За | За | За | За | За | За |
| Мацкевіч Мікалай Уладзіслававіч | 504 | Ад | Ад | Ад | Ад | Ад | Ад | Ад | Ад | Ад |
| Мацюшонак Міхаіл Ямяльянавіч | 298 | За | За | За | За | За | За | За | За | За |
| Мацюшэўскі Валерый Пятровіч | 070 | За | За | Нг | За | За | За | За | За | За |
| Мачуленка Міхаіл Арцёмавіч | 207 | За | За | За | За | За | За | За | За | За |
| Машко Іван Рыгоравіч | 259 | За | За | За | За | За | За | За | За | За |
| Мінчанка Пётр Захаравіч | 415 | За | За | За | За | За | За | За | За | За |
| Мінько Франц Францавіч | 094 | За | За | За | Ус | За | Нг | За | За | За |
| Мішько Пётр Антонавіч | 088 | За | За | За | За | За | За | За | За | За |
| Мядзведзеў Андрэй Васільевіч | 309 | Ад | Ад | Ад | Ад | Ад | Ад | Ад | Ад | Ад |
| Мядзелец Вадзім Андрэевіч | 164 | За | За | За | За | За | За | За | За | За |
| Мяць Баляслаў Станіслававіч | 255 | Ад | Ад | Ад | Ад | Ад | Ад | Ад | Ад | Ад |
| Навумчык Сяргей Іосіфавіч | 181 | За | За | За | За | За | За | За | За | За |
| Ніканчук Аляксей Сямёнавіч | 117 | За | За | За | За | За | За | За | За | За |
| Нікіцін Генадзь Іванавіч | 055 | Ад | Ад | Ад | Ад | Ад | Ад | Ад | Ад | Ад |

**Фрагмент стэнаграмы галасавання за прыняццё "Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР". ("За" – галасаваў за прыняццё "Дэкларацыі", "Ад" – адсутнічаў на галасаванні – *заўвага рэд.*)**



Прыняцце прысягі маладымі вайскоўцамі на вернасць незалежнай Беларусі





Герб і сцяг Рэспублікі Беларусь (дзяржаўныя сімвалы Беларусі ў 1991-1995 гг.)

цягвае імклівá пагаршацца. Пачынаюцца міжнацыянальныя сутыкненні. Фактычна, пры ўмяшальніцтве Масквы, ідзе грамадзянская вайна паміж Арменіяй і Азербайджанам. Незалежнасць сваёй рэспублікі абвясціў парламент Літвы. Вясной 1991 г. антысавецкія мітынгі прайшлі і на Беларусі. Савецкія войскі зброяй і танкамі давяць мірныя пратэсты ў Літве і Грузіі. Аўтарытэт саюзнага кіраўніцтва моцна слабне. У жніўні 1991 года ў Маскве адбываецца дзяржаўны пераварот, які фактычна ставіць кропку ў існаванні СССР.

25 жніўня 1991 года Вярхоўны Савет Беларусі абвяшчае незалежнасць краіны. 19 верасня 1991 года Вярхоўны Савет зацвярджае дзяржаўнымі сімваламі Беларусі гістарычныя бела-чырвона-белы сцяг і герб “Пагоня”.

## Пытанні і заданні

1. Якія грамадскія арганізацыі накіроўвалі актыўнасць гарадзенцаў у 80-ыя гг. XX ст?
2. Чаму ў Гродне з’явілася шмат нацыянальных грамадскіх аб’яднанняў?
3. Падрыхтуйце з дапамогаю дадатковай літаратуры паведамленне аб грамадскай арганізацыі горада.
4. За амаль дваццацігоддзе многія часткі горада істотна змянілі сваё аблічча. Вызначце гэтыя мясціны і з дапамогаю ўласных ведаў, успамінаў жыхароў горада, звестак з літаратуры параўнайце змены. Якія высновы вы зробіце?
5. Чаму горад часта параўноўваюць з рынкам? Якія бакі жыцця гараджан гэта характарызуе?
6. Чаму беларусы маюць права лічыць бела-чырвона-белы сцяг і герб "Пагоня" сваімі нацыянальнымі, гістарычнымі сімваламі?

## Спіс рэкамендаванай літаратуры

Ад Каложы да фортаў: праз дзесяць стагоддзяў гісторыі Гродна (і адну «рэканструкцыю»…)/ склад. А. Чарнякевіч/ Матэрыялы «круглага стала», 28 кастрычніка 2006 года/. – Гродна, 2006. – 40с.

Ad majorem Dei Gloriam. Аднаўленне і рэстаўрацыя галоўнага алтара ў Гродзенскім катэдральным касцёле св.Францішка Ксаверыя-Мінск: Про Хрысто, 2011.-82.:іл

Arche. Другая Гароднія. № 1-2 (2010). Менск. 722 с.

Акінчыц, Р. Гліняныя формы-матрыцы гродзенскага рамесніка другой паловы XVII ст. // Краязнаўчыя запіскі, в. 2, Гродна, 1993, с 55-61

Акінчыц, Р. Курыцельныя люлькі XVII-XVIII ст. з выявай чалавека ў фондах ГДГАМ // Краязнаўчыя запіскі, в. 3, Гродна, 1995, с 50-54.

Аляксееў, Л.В. Гродна і помнікі Панямоння/ Л.В. Аляксееў. Мінск.:Беларуская навука, 1996. – 191 с.

Археалогія і нумізматыка Беларусі: Энцыкл./ Беларус.Энцыкл. ;Рэдкал.: В.В. Гетаў і інш.-Мн. :БелЭн, 1993-702с.: іл. (стар 186-195)

Архітэктура Беларусі: Энцыкл.давед./ Белар. Энцыкл; Рэдкал.: А.А. Воінаў і інш.-Мн.:БелЭн, 1993.-620с.:іл. (стар 162-188)

Бічэль Д. Хадзі на мой голас / Гарадзенская бібліятэка. - Гародня-Wroclaw. -2008. 331с.: іл. (кніжная серыя “Гарадзенская бібліятэка”)

Блинова, Т. Иезуиты в Белоруссии, Минск, 1990.

Богданович, А.В., Города Белоруссии: Краткий экономический очерк./А.В. Багдановіч, П.А. Сидоров – Минск, 1967. – 181 с.

Воронин, Н.Н. Древний Гродно: по материалам археол. раскопок 1932–1949 гг.)/ Н.Н. Воронін. – М.: Изд-во АН СССР, 1954. – 239 с.

Выкладчыкі Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы: бібліяграфічны даведнік / пад рэд. В.М. Чарапіцы. – Гродна: ГрДУ, 1999. – 595 с.

Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. У 2т. Т 1 : Абаленскі-Кадэнцыя / Рэдкал: Г.П.Пашоў(гал.рэд.) і інш.; Мн. :БелЭн, 2005.-688с.іл (стар. 496- 511., стар 514-515.)

Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. Т. 3. Дадатак. А-Я/ рэдкал.:Т.У. Буялава(гал.рэд.) і інш.; маст: З. Э. Герасімовіч.-Мінск: Белар.Энцыкл. імя П. Броўкі, 2010-696с.:іл. (стар 156-160)

Гарадзенскі палімпсест. XII-XX стст. Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі (Гародня, 7 лістапада 2008г.) Пад редакцыяй А.Ф. Смалянчука, Н.У. Сліж./Гарадзенская бібліятэка - Гародня-Беласток, 2008.-228с., іл.8.

Гарадзенскі палімпсест 2009. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё XV-XXст. Пад редакцыяй А.Ф. Смалянчука, Н. У. Сліж.-Гародня/Гарадзенская бібліятэка, 2009. 383 с., іл.18.

Гарадзенскі палімпсест 2010. Дзяржаўныя і сацыяльныя структуры XVI-XX ст. // Пад рэд. А.Ф.Смалянчука, Н. У. Сліж/Гарадзенская бібліятэка, Мінск: Зміцер Колас, 2011.- 502с.: іл.

Гардзееў, Ю. Магдэбургская Гародня/ Гарадзенская бібліятэка, Гародня-Wroclaw, 2008. – 382 с. (кніжная серыя "Гарадзенская бібліятэка")

Гардзееў Ю. Заканамернасці гісторыка-культурнай ролі Гродна ў XVIIIст. // Усебеларуская канферэнцыя гісторыкаў. Тэзісы дакладаў і паведамленняў, кн. 1, Мінск, 1993, с. 96-97.

Гардзееў, Ю. Рамантык эпохі Асветніцтва: Антоній Тызенгаўз, -Мінск: Тэхналогія, 2008.-67с.: іл.; партр.-(Нашы славутыя землякі).

Гародня: сьляды яўрэйскага жыцьця. Праваднік па яўрэйскай Гародні // ARCHE-Пачатак, 2010, № 6, с.344-415.

Гісторыя XX стагоддзя ва ўспамінах гарадзенцаў / пад рэд. В. Рудніка, Л. Руднік, В. Корсун. Гродна-Мінск, 2010.-88с.

Горад святога Губерта: Краязнаўчы альманах./ пад рэд. А. Смалянчука, А. Вашкевіча. – Вып. 1–4. – Горадня–Вільня, 2005–2008.

Горад святога Губета: зборнік краязнаўчых артыкулаў. Выпуск 2011./ Рэдкал. А.Смалянчук і [інш]-Мінск: Зміцер Колас, 2011.-116с.: іл.-(Гарадзенская Бібліятэка)

Гостев, А.П., Швед В.В. Кронон. Летопись города над Неманом (1116–1990)/ А.П. Гостев, В.В.Швед . – Гродно: НВК «Пергамент», 1993. – 329 с.

Гостев, А.П., Семенчук А.А. Королевский город Гродно. Путеводитель. – Мн: Рифтур, 2006. – 72 с.

Граблевский, И.С. Юные герои Гродненщины/ І.С. Граблеўскі. – Мінск: Юнацтва, 1981. – 152 с.

Граблеўскі, И.С. Гродно и окрестности: справочник-путеводитель/ І.С. Граблеўскі. – Мінск: Полымя, 1987. – 160 с.

Гродзеншчына: Назвы населеных пунктаў паводле легендаў і паданняў/ Склад., запіс, апрац. А.М. Ненадаўца. – Мінск: Беларусь, 1999. – 386 с.

Гродна: гісторыя, сімвалы, знакі, асобы / Склад. Я.М.Жабрун. – Гродна: RISE , 1996. – 22 с.

Гродна і гродзенцы / склад. Я.М. Жабрун. – Гродна: ГрДУ, 1999.–32 с.

Гродна ў гады Вялікай Айчыннай вайны (1941–1945 гг.). – Гродна: ГАУД, 1995. – 207 с.

Гродненский государственный историко-археологический музей:. путеводитель по залам / сост. Е.А.Соловьёва [ и др. ] – Минск.: Полымя, 1986. – 240 с.

Гродно: исторический очерк. – Минск: Госиздат БССР, 1960. – 150 с.

Гродно: исторический очерк/ под ред. З.Ю.Копысского, Б.М.Фиха. Изд.2-е. – Минск: Беларусь, 1964. – 262 с.

Гродно-Grodno / И.И.Ковкель, Я.Н.Мараш. - Минск:Полымя, 1987. – 96 с.

Гродно: историко-экономический очерк / И.П. Крень [и др.] – Минск: Полымя, 1988. – 240 с.

Гродно: энциклопедический справочник. – Минск: БелСэ, 1989. – 438 с.

Данскіх, С.У. Гародня ў паўстанні 1830-1831 гг./ С.У. Данскіх // Гарадзенскія апосталы: гістарычны альманах. Вып. 2. – Гародня: Гродзенскае маладзёжнае аб'яднанне «Альянс імя Вітаўта Вялікага», 1999. – 23 с.

Данскіх С. Гродна ў гады паўночнай вайны (1700-1721) // Гарадзенскія запісы, в. 2, 1995, с.28-36.

Дарогамі Максіма Багдановіча. – Гродна: ГАУД, 1991. – 32 с.

Евреи Гродно. Очерки истории и культуры. – Гродно: Бел. гос. музей истории религии, общественное объединение «Гродненский еврейский общинный дом «Менора», 2000. – 124 с.

Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Гродзенская вобласць. – Мінск:БелСЭ, 1986. – 370 с.

Зверуго Я.Г. Верхнее Понеманье в IX-XIII вв. /Я.Г.Зверуго. Минск: Навука і тэхніка, 1989. – 208 с.

Игнатович, Ф. И.И. Кохановский – видный педагог, эколог и общественный деятель первой половины XX века. (к 115-летию со дня рождения). / Ф. Игнатович. - Румлёўскія старонкі: «Турыстычны патэнцыял нацыянальнай культурна-гістарычнай спадчыны Панямоння»: матэрыялы III адкрытай рэгіянальнай навукова-практычнай канферэнцыі па праблемах рэгіяналістыкі гісторыі і краязнаўства «Румлёўскія чытанні» (Гродна,19 лютага 2009г.)/ГрГУ ім. Я. Купалы; редкал.ШведВ.В. [і інш.] – Гродна: ГрДУ, 2010. – с.165-169

Историки Гродненщины: Материал в помощь лектору. – Гродно: ГОУТ, 1989. – 27 с.

Их именами названы…: энцикл. справочник. – Минск: БелСЭ, 1987. – 711 с.

Карнялюк, В. Гродзенскі эпізод Першай сусветнай вайны/ В. Карнялюк// Беларуска-нямецкія грамадска-культурныя ўзаемаадносіны: гісторыя, сучаснасць, перспектывы // Albarutenika -7 – Мінск: Навукова-асветніцкі цэнтр імя Ф. Скарыны, 1996. – С. 34 – 38.

Карпюк А. Развітанне з ілюзіямі: эсэ, апавяданні, дзённікі, - Гародня-Wroclaw.- 2008. 408с.: іл. (кніжная серыя “Гарадзенская бібліятэка”)

Castrum, urbis et bellum: Зб. Навук. Прац.- Баранавічы: Баран. Узбуйн. друк., 2002.-422с.

Кастусь Каліноўскі і яго эпоха ў дакументах і культурнай традыцыі: Матэрыялы міжнар. навук. канф, Менск, 25 верасня 2009г.Мн: 2011.-222с.

Квитницкая Е.Д. Планировка Гродно в XVI–XVIII вв. //Архитектурное наследство. – 1964. - №17. – С. 11-38.

Кітурка Ю.В., Гродзенскія замкі: гісторыка-архітэктурны нарыс/ Ю.В. Кітурка, В.М. Царук – Гродна: ГАУД, 1997. – 44 с.

Кишик Ю.Н. Градостроительная культура Гродно / Ю.Н. Кишик. – Мн.: Бел. Наука, 2007. – 303 с.

Клейн. Недосказанное. Имена /.-Минск: Лимариус, 2008-456с.: ил.

Климат Гродно. – Ленинград: Гидрометеоиздат, 1982. – 159 с.

Книга героев Гродненской области / сст. Ю.М. Алексей, О.М. Якубович. – Гродно: ГОУПП «Гродн. тип.», 2004. – 168 с.

Краўцэвіч, А.К. Гарады і замкі Беларускага Панямоння XVI–XVIII стст.: Планіроўка, культурны слой/ А. Краўцэвіч – Мінск: Навука і тэхніка, 1991. – 171 с.

Краўцэвіч, А.К. Гродзенскі замак: Нарыс/ А. Краўцевіч. – Мн.: Юнацтва, 1993. – 47 с.

Краўцэвіч, А. Рыцары і дойліды Гародні / Алесь Краўцэвіч.-Гародня-Krakow, 2009.-108с. (кніжная серыя “Гарадзенская бібліятэка”)

Краўцэвіч, А. Археалагічныя даследаванні Гродна ў 1970-1990 годы // Краязнаўчыя запіскі, в. 3, Гродна, 1995, с. 97-102.

Краўцэвіч, А. Трусаў, А. Трусаў, І. Вяртанне да людзей. Фарны касцёл у Гродне // Мастацтва, 1993, №8, с. 45-51.

Кудряшев В.И. Гродно. – М.: Госиздат литературы по строительству, архитектуре и строительным материалам/ В.И. Кудряшов, 1960. – 128 с.

Кудрашоў, В. Праблемы першапачатковага засялення Гродзеншчыны // Археалагічныя помнікі Гродзеншчыны, Гродна, 1992, с.73-75

Лабовіч, А. «І думкі мкнуцца мімаволі…»/ А. Лабовіч. – Варшава: б.в., 2002. – 48 с.

Латышонак, А. Жаўнеры БНР / Алег Латышонак.-Беларускае Гістарычнае Таварыства, Беласток. Інстытут Беларусістыкі , Вільня, 2009,-366с. (Стар 75-2.3 Беларускія часткі ў Горадні (сьнежань1918-чэрвень1919г.))

Лютый, А.М. Социально-экономическое развитие городов Белоруссии в конце XVIII– первой половине XIX века/ А. Лютый. – Мінск: Навука і тэхніка, 1987. – 181 с.

Макарчык OFMConV Ю. Нататнік з гродзенскага гета / Юзаф Макарчык OFMConV.-Гродно,” Гродзенская дыяцэзія Рымска-каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь,”-2011.

Маліноўская Т.Р. Архітектура горада Гродна (X ст. да 1939 г.). Вучэбны дапаможнік для студэнтаў. – Гродна: ГрДУ, 2005. – 88 с.

Маліноўская, Т. З гісторыі пабудовы і дзейнасці гродзенскага кляштара дамініканаў // Гарадзенскія запісы, в. 1, 1993, с. 11-14.

Мілінкевіч, А. Пашенда, Е. Фара Вітаўта ў Гродна // Наш Радавод, Гродна, 1990, кн. 2, с.182-184.

Мяшэчка Я.М., Геаграфія Гродзенскай вобласці/ Я.М. Мяшчэнка М.У. Амельянчук, В.М. Фунт. – Брэст: Выдавецтва С.Лаўрова, 2000. – 107 с.

Наш край: Древнейшая история Гродненщины: Материал в помощь лектору, пропагандисту, учителю/ материал. подгот. С.В. Полуцкая. – Гродно: ГОУТ, 1990. – 20 с.

Наш край: Гродненщина в составе Великого княжества Литовского и Речи Посполитой: Материал в помощь лектору, пропагандисту, учителю/ Материал подгот. Я.Н. Мараш, С.В. Полуцкая. – Гродно: ГОУТ, 1990. – 36 с.

Наш край: Гродненщина в конце X VIII – первой половине XX вв. материал в помощь лектору, пропагандисту, учителю/ Матер. подгот. В.В. Швед, С.Е. Сельверстова, П.И. Леута. – Гродно: ГОУТ, 1990. – 42 с.

Орловский, Е.Ф. Гродненская старина/ Е. Орловский./ Гродна. – Гродна, 1910. – 343 с.

Памяць: гіст.-дакум. хроніка горада Гродна. – Мінск: БелЭн, 1999. – 712 с.

Писцовая книга Гродненской экономии с прибавлениями, изданная Виленскою комиссиею для разбора древних актов. Том 1-2. Вильно 1881-1882.

Пяткевіч А.М. Людзі культуры з Гродзеншчыны: Даведнік/ А. Пяткевіч.– Гродна: ГрДУ, 2000. – 356 с.

Саяпин В. История Гродненских площадей :/ ООО "ЮрСаПринт," 2011.- 108 с.

Саяпин В. Пешком по Ожешко и Советской площади :/ ООО "ЮрСаПринт," 2011.- 102 с.

Саяпин В., Касатая Т. Гродно театр, кино, цирк :/ ООО "ЮрСаПринт," 2011.- 76 с.

Саяпин, В.Ю. Пять веков Гродненской таможенной службы. — Гродно : Гродненская типография, 2003. — 400 с.

Страчаная спадчына / Т.В. Габрусь, А.М.Кулагін, Ю.У.Чантурыя і інш./ Уклад. Габрусь Т.В.-Мн.: Полымя, 1998-351с.:іл. (стар 71-75,стар 192-193, стар 314-328,)

Стурэйка Сьцяпан, Вашкевіч Андрэй, Гардзееў Юры. «Як зьнішчалася Горадня» (стар 5-37) / ARCHE 9-2007

Сяўрук П. Небыцця не існуе. Невядомыя старонкі беларускага нацыянальнага руху / Пётр Сяўрук, уклад. А. Вашкевіч, С. Токць-Гародня-Wroclaw.-2008. 240с.: іл. (Гарадзенская бібліятэка)

Ткачёв, М.А. Замки Белорусии/ М.А. Ткачёв. – Минск: Полымя, 1987. – 222 с.

Ткачоў М.А. Замкі Беларусі (XIII-XVII стст.) /М.А.Ткачоў. Мінск: Полымя, 1977. – 83 с.

Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII- XVIII стст. /М.А.Ткачоў. Мінск: Навука і тэхніка, 1978. – 144 с.

Ткачоў М.А. Археалагічныя помнікі г. Гродна / М.А.Ткачоў // Археалагічныя помнікі Гродзеншчыны. Гродна 1992. С.5-21

Трусаў, А., Стары замак у Гродне XI-X VIII стст.: Гіст.-археал. Нарыс/ А. Трусаў, В. Собаль, Н. Здановіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1993. – 152 с.

Трусов, И. Архитектура Гродно. Невосполнимые утраты. XIX-XXвв: Игорь Трусов:/ООО "ЮрСаПринт," 2011.-84с.

Трусов, И. Борисо-Глебская Коложская церковь: Игорь Трусов/ ООО "ЮрСаПринт," 2011.-52с.

Трусов, И. Пышинская, Е. Гродненские мосты: И.Трусов. И.Пышинская:/- Гродно: ООО "ЮрСаПринт," 2011.-44с.

Трусов, И. Православные храмы Гродно/ І. Трусов. – Минск-Гродно: Мэджык Бук, 2008. – 100 с.

І. Трусов, Серыя артыкулаў пра вуліцы Гродна, надрукаваная ў газеце “Біржа інфармацый”. – 1998. - №№ 12-44.

Хільмановіч, У. Беларускі календар-даведнік на кожны дзень / укл. Уладзімер Хільмановіч- Вільня: “Gudas,” 2007.-184с.

Царук, В.М. Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей/ В.М. Царук. – Гродна: ГАУПП “Гродзенская друкарня”, 2000. – 22 с.

Цітоў, А.К. Пячаткі старажытнай Беларусі: Нарысы сфрагістыкі/ А.К. Цітоў. – Мінск: Полымя, 1993. – 239 с.

Цітоў, А.К. Сфрагістыка і геральдыка Беларусі/ А.К. Цітоў. – Мінск: РІВШ БДУ, 1999. – 176 с.

Чантурия, В.А. Архитектурные памятники Гродно/ В.А. Чантурия. – Минск: Полымя, 1983. – 31 с.

Чарнякевіч, А. Беларускі Нацыянальны Рух у Гародні (1918 –1920 гады)/ А. Чарнякевіч // Гарадзенскія апосталы: гістарычны альманах. Вып. 1. – Гародня: Гродзенскае маладзёжнае аб’яднанне «Альянс імя Вітаўта Вялікага», 1998. – 49 с.

Швед, В.В. По следам гродненской старины/ В.В. Швед. – Гродно: Лидская типография, 1993. – 70 с.

Швед, В.В. Падзеі і постаці гродзенскай даўніны/ В.В. Швед. – Гродна: ГАУД, 1995. – 176 с.

Швед, В.В. Торговля в Беларуси в период кризиса феодализма (1830 –1850-е годы)/ В.В. Швед. – Гродно:ПКФ «Орбикс », 1995. – 195 с.

Швед, В.В., Горадзен. Аповяды з гісторыі горада (10 ст. – сярэдзіна 16 ст.)/ В.В. Швед, А.П. Госцеў, А.А. Дабрыян. – Гродна: Гродзенская ўзбуйненая друкарня, 1996. – 60 с.

Швед, В.В. Горадня. Аповяды з гісторыі горада (сярэдзіна 16 – канец 18 ст.)/ В.В. Швед, А.П. Госцеў. – Гродна: Пергамент, 1997. – 140 с.

Швед, В.В. Губернскі Гродна: Аповяды з гісторыі горада (канец XVIII - пач. XX ст.)/В.В. Швед. – Баранавічы: Баранавіцкая ўзбуйненая друкарня, 2003. –168 с.

Шыбека, З. Гарадская цывілізацыя: Беларусь і Свет. Курс Лекцый / Захар Шыбека.-Вільня: ЕГУ, 2009.-372с.

Чарняўскі, І. Жаровіна, Г. Нечаканае адкрыццё // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1982, №4, с. 34-36.

Чарняўскі, М. Акінчыц, Р. Старажытныя крамнёвыя вырабы ў зборах Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея // Краязнаўчыя запіскі, в. 3, Гродна, 1995, с. 3-8.

Экологические экскурсии по лесопарку Румлёво / Д.М. Андреева, [ и др. ]– Изд. 2-е, доп. и испр. –Гродно: ГОУПП «Гродненская типография», 2007.

Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. Т.3. Гімназія-Кадэнцыя / Беларус.Эн-

цыкл.; Рэдкал.: В.В.Гетаў і інш.-Мн.: БелЭн, 1993-702с.: іл. (стар 121-155)

Якимович Ю.А. Зодчество Белоруссии XVI – середины XVII в. Справочное пособие / Ю.А.Якимович. Минск:Навука і тэхніка, 1991. (Гродна - с.85-112)

Borowik Przemyslaw. Jurydyki miasta Grodna w XV-XVIII wieku Stanowy podzial nieruchomosci / Acta CollegiiSupraliensis, t.7. Stowarzyszenie Kulturalne «Collegium Suprasliense», 2005

Borowik Przemysław. Lewobrzeżne Grodno w XIV-XVIII w. Stan wiedzy i postulaty badawcze //Gryfita. Białostocki Magazyn Historyczny. 1999. nr 20/21. s.7-13.

Grodno w XVIII wieku. Miasto i ludność ( na tle trendów rozwojowych od średniowiecza do 1939 roku) /pod red. Andrzeja Woltanowskiego i Jerzego Urwanowicza. Białystok.-1997

Jankowski Tadeusz. Smierć Stefana Batorego w Grodnie, Grodno 1930, wydawnictwo magistratu miasta Grodno.

Rocznik Grodzienski NR 1. Zjednoczenie spoleczne Polska Macierz Szkolna Rok 2007

Rocznik Grodzienski NR 2. Zjednoczenie spoleczne Polska Macierz Szkolna Rok 2008

Siemiński Jan. Walczące Grodno. Wspomnienia harcerza.-Bialystok: Krajowa Agencyja Wydawnicza, 1990.

Zbrodnie sowieckie na obrońcach Grodna 1939/ Mariusz Filipowicz. Edyta Sawicka // Biuletyn Historii Pogranicza-6-Bialystok: Polskie Towarzystwo Historyczne oddzial w Bialymstoku, 2005.- s. 11-27.

Jodkowski Józef. Cechy grodzieńskie w wiekach dawnych / J. Jodkowski. // Nowe Życie. – Grodno, 1926. – N-ry 26, 37-43.

Jodkowski Józef. Gimnazium po-dominikańskie w Grodnie / J. Jodkowski. – Grodno: Muzeum Państwowy, MCMXXIV. – 38 s. – 6 tabl. – 250 egz. Osobne, uzupełnione i poprawione odbicie z Nowego Życia. – Grodno, 1924.

Jodkowski Józef. Grodno: z 28 ilustracjami i planem miasta / J. Jodkowski, Departam. sztyki min. W.R.i O.P. – Wilno: Nakładem księgarni J. Zawadzkiego w Wilnie, MCMXXIII.– 119 s.

Jodkowski Józef. Grodno i okolice w zaraniu dziejuw Litwy i Rusi nad Niemnem / J. Jodkowski. // Kroniki miasta Grodna. [kwartalnik]. – Grodno, 1928.

Jodkowski Józef. Grodno wczesnośredniowieczne w śwetle prac wykopaliskowych dokonanych na królewskim Zamku Starym w Grodnie w latach 1932 i 1933 / J. Jodkowski. // Przegląd historyczno-wojskowy. T. VII. Z. 1. – Warszawa, 1934. – S. 99-115.

Jodkowski Józef. Huta szklana w Grodnie za Zygmunta III / J. Jodkowski. // Muzeum w Grodnie. – Grodno: Muzeum Państwowy, 1925. – S. 39-41.

Jodkowski Józef. Okolice Grodna pod względem archeologicznym: notatki z wycieczek odbytych w latach 1904-1910 / J. Jodkowski. // Światowit. – Warszawa, 1912. – T. X. – S. 80-88.

Jodkowski Józef. Nazwy placów i ulic grodzieńskich. Dawne i dzisiejsze / J. Jodkowski. – Grodno: Nakadem wydawnictwa księdarni E. Iberskiego w Grodnie, 1932. – 16 s.

Jodkowski Józef. Spis wójtów, burmistrów i przedidentów m. Grodna / J. Jodkowski. // Magistrat m. Grodna. Przegląd statystyczny za lata 1922 i 1923 (z uwzględnieniem w niektórych dzialach lat ubieglych i pierwszego półrocza 1924) / red. St. Kolecki – Grodno, 1925. – S. 11-12.

Jodkowski Józef. Śródmieście grodzieńskie dawne i jutrzejsze / J. Jodkowski. Grodno, 1930.

Jodkowski Józef. Wiadomość historyczna o Cudownym Obrazie N. Maryi Panny Studenckiej w kościele farnym w Grodnie / J. Jodkowski. – Warszawa: , 1909. – 14 s.

Jodkowski Józef. W sprawie kościoła PP. Bernardynek w Grodnie / J. Jodkowski. // Nowy Dziennik Kresowy. – Grodno, 1930. – Nr 143.

Jodkowski Józef. Grodno podczas powstania listopadowego 1830-1831 / J. Jodkowski. // Nowe Życie. – Grodno, 1931. – Nr 12.

Kościałkowski Stanisław. Antoni Tyzenhauz podskarbi nadworny litewski. Londyn, 1970-1971. T.1-2

Lileyko Jerzy. Przebudowa Starego Zamku w Grodnie na cele sejmowe w latach 1673-1678 // Kultura artystyczna Wielkiego Księstwa Litewskiego w epoce baroku. Warszawa 1995. s.129-145.

Jerzy Gordziejew, J.Rozmus. Cmentarz farny w Grodnie. 1792-1939. Kraków 1999.

Stanisław Szymański. Pałac króliewski w Grodnie // Rocznik Białostocki. 1966. nr VI. S.297-333.

Stanisław Szymański. Urbanistyczno-architektoniczne formowanie się Grodna w okresie od XIV do XVIII wieku // Rocznik Białostocki. 1968-1969. t.IX. s.237-263.

Maria Kałamajska Saeed. Kościół brygidek w Grodnie // Sztuka ziem wschodnich Rzeczypospolitej XVI-XVIII w. Lublin 2000. s.350-379.

Jarosław Wojciechowski. Stary Zamek w Grodnie. Warszawa 1938 (Odbitka z „Buletyn sztuki i kultury. R. VI.)

Zygmunt Durczewski. Stary Zamek w Grodnie w świetlie wykopalisk, dokonanych w latach 1937-1938 // Niemen. Grodno. 1939. nr 1.

Krystyn Matwijowski. Sejm Grodzieński 1678-1679. Wrocław; Wydawnictwo Uniwersytetu Wrocławskiego, 1985

Aleksander Śnieżko. „Wydobył z ziemi gród o którym nikt nie wiedział". Wspomnienie o Józefie Jodkowskim. Białystok 2000.

# Слоўнік

**Адраджэнне** – у культурным і ідэйным развіцці краін зах. і цэнтр. Еўропы 14-16ст. эпоха пераходная ад сярэднявечнай кальтуры да культуры новага часу. Асноўныя адметныя рысы адраджэння - антыфеадальны, свецкі характар, гуманістычны светапогляд, зварот да антычнай культурнай спадчыны. У Беларусі развілася ў 16 ст.

**Амбон**(ад грэч.ambon-узвышэнне) - узвышанае і багата аздобленае месца ў храме (трыбуна ці кафедра) для чытання свяшчэнных тэкстаў і прамаўлення казанняў. Па легендзе сімвалізуе Ноеў каўчэг (амбон у выглядзе ладдзі пашыраны ў 17-18ст).

**Анфілада** (фр. enfilade) – шэраг паслядоўна прылеглых адзін да аднаго пакояў з размешанымі па адной прамой лініі дзвярыма (часта ў палацах, старадаўніх будынках).

**Апсіда** – выступ будынка, звычайна паўкруглы або шматвугольны ў плане і ўнутраная прастора храма, якая складае частку алтара.

**Атык** (ад грэч. – антычны) – сценка над карнізам, якая завяршае будынак.

**Афіцына** — спэцыяльная надворная пабудова шляхецкай сядзібы ў Беларусі, куды пераносіўся комплекс службовых памяшканняў, што дазваляла пакінуць у сядзібным доме толькі парадныя і жылыя памяшканні.

**Базыліяне** - манахі ордэна каталіцкай царквы з праваслаўным абрадам. У Вялікім Княстве Літоўскім першы кляштар базыліянаў паўстаў у канцы 15 ст. Пасля Брэсцкай уніі 1596 года ордэн быў рэарганізаваны і значна актывізаваў сваю дзейнасць у Беларусі, Украіне і ў Літве.

**Барока** (ад італьян. barocco - вычварны, дзіўны) – вызначальны стыль у еўрапейскім мастацтве канца 16-сярэдзіны 18ст. Узнік на аснове традыцый позняга Адраджэння.

**Бернардзінцы** - манахі каталіцкага ордэна, які адгалінаваўся ад францішканаў. Назву атрымалі ад рэфарматара францішканаў Бернардзіна Сіенскага (1380-1444). На Беларусь бернардзінцы прыйшлі з Польшчы ў 2-й пал. 15ст. і з дапамогай заможных каталікоў і дзяржавы даволі хутка пашырылі сваю дзейнасць на ўсю тэрыторыю краіны.

**Брыгіткі** - каталіцкі манаскі ордэн. Заснаваны святой Брыгітай Шведскай ў 14 ст. Першапачаткова ордэн планаваўся як змешаны, але з 17 ст. існуе выключна як жаночы. Адпаведна статуту зацверджанаму ў 1378 г. ордэн павінен быў складацца з 60 сёстраў і 25 братоў. Традыцыя манаскага жыцця вызначалась статутам бенедыктынцаў. Асаблівасцю было тое, што браты вялі пастарскую і місіянерскую дзейнасць за кляштарнымі мурамі, а сёстры жылі ў аскетызме і затворніцтве. З цягам часу ордэн пачаў пашыраць сваю дзейнасць. І ў

сярэднія вякі налічваў каля 25 манастыроў па ўсёй Еўропе, галоўным з іх быў кляштар ў Вадстане (Швецыя), заснаваны св.Брыгітай.

**Вальма** – тарцовы схіл 4-схільнага даху.

**Валюта** (ад італ. – завіток, спіраль) – архітэктурны матыў у форме спіралепадобнага завітка з «вочкам» у цэнтры.

**Ваявода** — пасада ўведзеная ў ВКЛ у 1413 г. Галоўны намеснік вялікага князя літоўскага з судова-адміністрацыйнымі і вайсковымі функцыямі. Узначальваў гродскі суд у паветах, займаўся захаваннем правапарадку ў ваяводстве, стаяў на чале паспалітага рушэння, быў галавой мясцовай шляхты, кантраляваў гарады з Магдэбургскім правам.

**Вексілалогія** (лац. vexillum сцяг + грэч. logos навука) – сцягазнаўства, дапаможная гістарычная дысцыпліна, якая вывучае гісторыю ўзнікнення сцягоў і іх сімволікі.

**Гектограф** – спрошчаны друкарскі апарат для атрымання копій з надрукаванага або напісанага тэксту ды ілюстрацый.

**Геральдыка** (познелац. heraldica ад heraldus – вяшчальнік) – гербазнаўства, дапаможная гістарычная дысцыпліна, якая вывучае старажытныя і стварае новыя гербы; сістэма ведаў пра гербы, правілы іх складання і выкарыстання.

**Гонты** (пол. gont, ням. gant) — драўляны дахавы матэрыял у форме дошчачак.

**Гетман** (пол. hetman, чэш. hejtman, старажытнаням. Heuptman). Вялікі гетман — галоўнакамандуючы ўзброенымі сіламі ў ВКЛ. У войску існавала пасада польнага гетмана

**Гродскі** (ці замкавы) суд — павятовы суд для шляхты, мяшчан і сялян у ВКЛ у 16—18 ст. Разглядаў крымінальныя ды цывільныя справы, сведчыў акты куплі-продажу, копіі дакументаў. Галоўным суддзём у гродскім судзе быў ваявода ці стараста.

**Дамініканцы** (лац. Dominikani) - манахі аднаго з каталіцкіх жабрацкіх ордэнаў (не маглі мець уласнасці, сталага жытла, павінны былі жыць жабрацтвам). Ордэн названы імём яго заснавальніка Даменіка (1170-1221). На Беларусі больш актыўна дзейнічалі ў пярыяд контррэфармацыі. Усяго на тэрыторыі Беларусі дамініканцы заснавалі 42 кляштары, пры якіх дзейнічалі школы. Будынкі касцёлаў і кляштараў дамініканцаў вылучаліся сваёй суровасцю, масіўнасцю і стрыманым дэкорам.

**Дзядзінец** - цэнтральная частка старажытнага горада, умацаваная драўляным тынам, равамі і магутнымі землянымі валамі, па якіх праходзілі драўляныя сцены (пазней мураваныя сцены і драўляныя вежы); своеасаблівы цэнтар горада, дзе размяшчаліся адміністрацыйныя і культавыя пабудовы, жылі князь з дружынаю, яго чэлядзь, гандляры, рамеснікі, духавенства.

**Езуіты**(ад лац. Jesus - Езус) - манахі каталіцкага ордэна “Таварыства Езу-

са", створанага ў 1534 іспанскім шляхціцам Ігнацыям Лаёлай для барацьбы з Рэфармацыяй. Ордэн пабудаваны на аснове строгай цэнтралізацыі, дысцыпліны і неаспрэчнага падпарадкавання шэраговых манахаў кіраўніцтву. На чале стаіць генерал, які выбіраецца пажыццёва і падпарадкоўваецца Папе Рымскаму. У 16-18 стагоддзях езуіты на тэрыторыі Беларусі стварылі 79 сваіх прадстаўніцтваў у выглядзе рэзідэнцый, місій і калегій. Засноўвалі навучальныя ўстановы-калегіумы і акадэміі. Езуіцкія касцёлы, калегіумы і кляштары, узведзеныя ў стылі барока, утваралі вялікія комплексы і часта з'яўляліся архітэктурнай дамінантай гарадоў.

**Інвентары** (ад лац. inventarium - вопіс) - вопісы ўладанняў феадалаў у 16-18 ст. Складаліся ў Вялікім Княстве Літоўскім спецыяльна ўпаўнаважанымі на гэта службовымі асобамі на месцах шляхам агляду маёмасці і апытання насельніцтва. Былі поўныя і кароткія.

**Іешыва** – вышэйшая школа ў традыцыйнай габрэйскай сістэме адукацыі.

**Земскі суд** — павятовы суд для шляхты ў ВКЛ у 16—18 ст. Разглядаў грамадзянскія ды крымінальныя справы, выконваў натарыяльныя акты.

**Зграфіта** (ад лац. – выдрапаны) – манументальна-дэкаратыўны жывапіс праз выдрапванне верхняга пласта тынкоўкі да ніжніх, кантрастных па колеру пластоў.

**Кагал** – габрэйская суполка і, адначасова, орган мясцовага самакіравання ў яўрэяў Еўропы. Складаўся з старэйшын (рошым), ганаровых асоб (товім), суддзяў (даянаў), хадатаяў па справах з хрысціянамі (штадланаў) і рабінаў.

**Кайзеравец** – назва служачых нямецкай арміі ў гады Першай сусветнай вайны, падданых германскага імператара (кайзера) Вільгельма II.

**Калегіум** (ад лац.collegium – таварыства, садружнасць) – закрытая сярэдняя навучальная ўстанова 16-18ст. у Вялікім Княстве Літоўскім. Ствараліся езуітамі. У калегіумах атрымлівалі класічную адукацыю.

**Канвакацыйны сойм** – склікаўся для вызначэння тэрміну выбараў караля і князя, вырашаў пытанні, якія не цярпелі адкладання; на элекцыйным сойме праходзілі выбары караля і вялікага князя; на каранацыйным сойме адбывалася іх каранацыя.

**Канцлер** (пол. kanclerz, ням. kanzler) — службовая асоба ў ВКЛ у 15 -18 ст. Спачатку галоўны пісар вялікакняскай канцылярыі. На пачатку 16 ст. ажыццяўляў кантроль за наступленнем пэўных дзяржаўных даходаў. У абавязкі канцлера з 16 ст. уваходзіў кантроль за падрыхтоўкай Статутаў, іх дапрацоўкай і выданнем.

**Капітэль** (ад познелац. - галоўка) – пластычна вылучаная верхняя частка вертыкальнай апоры слупа.

**Капліца**- невялікая культавая пабудова, якая не мае асобнай прасторы

для алтара. Капліцы існуюць на беларускіх землях з 16 ст. Можа ўваходзіць у аб'ём большага збудавання ці стаяць асобна.

**Капшчына** – падатак, які ў 15-16 стст. спаганяўся за ўтрыманне карчмы і продаж алкагольных напояў.

**Каралевец** – старабеларуская назва Кёнігсберга (цяперашні Калінінград).

**Кармеліты** – манахі каталіцкага жабрацкага ордэна, заснаванага каля 1154 у Палесціне. Назву атрымалі ад гары Кармель, дзе знаходзілася першая абшчына кармелітаў. У канцы 14 ст. з'явіліся ў Польшчы, адкуль трапілі ў Беларусь. Першыя кляштары і касцёлы кармелітаў засноўваліся пераважна на ўсходніх межах Вялікага Княства Літоўскага.

**Картуш** (ад італ. - скрутак, мяшочак) – упрыгожванне ў выглядзе дэкаратыўна акаймаванага шчыта або паўразгорнутага скрутка, на якім адлюстраваны герб, эмблема.

**Катэдра**, катэдральны касцёл (лац. ecclesia cathedralis - крэсла, сядзіба) – галоўны касцёл дыяцэзійнага біскупа, у якім ён абвяшчае каталіцкую дактрыну.

**Кашрут** – частка старажытнагабрэйскага кодэкса здароўя, які вызначае кола дазволеных для спажывання прадуктаў.

**Кашталян** (лац. castellum, пол. kasztelan) — пасада ў ВКЛ. Загадваў замкам і выконваў судовыя функцыі. У час адсутнасці ваяводы склікаў сеймы галоўнага павета ваяводства. Збіраў паспалітае рушэнне шляхты.

**Кашэрны забой** – забой жывёлы, праведзены рэзнікам з выкананнем спецыяльнага абраду, пасля якога мяса альбо птушка лічацца кашэрнымі, г.зн. прыгоднымі да спажывання.

**Кляштар** (ад лац. claustrum — замак, закрытае месца) — каталіцкі манастыр. Кляштары належалі да пэўных манаскіх ордэнаў. Каталіцкія манахі-місіянэры і першыя адзінкавыя кляштары вядомыя на тэрыторыі сучаснай Беларусі з сярэдзіны XIII стагоддзя. Многія ўзніклі неўзабаве пасля хрышчэння Літвы ў 1387 годзе.

**Курданёр** – парадны двор палаца, асабняка, які ўтвараецца асноўным корпусам і бакавымі флігелямі.

**Лапаткі** – вертыкальны выступ на сцяне будынка без базы і капітэлі.

**Лаўнік** — член войтаўска-лаўніцкага суда ў магдэбургскіх гарадах. Выбіраўся гарадской абшчынай ці радай, прызначаўся войтам.

**Лінгвістыка** (лац. Lingua – мова) – мовазнаўства, навука якая вывучае пабудову, функцыянаванне і гісторыю развіцця мовы, мову ва ўсім аб'ёме яе якасцей і функцый.

**Лямус** (польск. lamus, lemus ад с.в.-ням. lem-hus) – гліняны будынак – мураваны або драўляны будынак для зберагання гаспадарчых прылад, збожжа, прадуктаў.

**Магістрат** — выбарны адміністрацыйна-судовы орган гарадскога са-

макіравання, які складаўся з рады і лавы. Рада займалася пытаннямі гарадскога самакіравання і суда па маёмасных ды цывільных справах. Да кампетэнцыі лавы належаў разгляд крымінальных спраў мяшчан.

**Майстры** – кіраўнікі вытворчага працэсу ў цэхах.

**Меламед** – настаўнік у традыцыйнай габрэйскай сістэме асветы.

**Мяжа аселасці** (поўная назва – мяжа пастаяннай габрэйскай аселасці) – тэрыторыя, дазволеная для пасялення габрэяў у Расійскай імперыі ў канцы XVIII – пачатку XX стагоддзя. Распаўсюджвалася на ўсю тэрыторыю сучаснай Беларусі, Екацярынаслаўскае намесніцтва і Таўрыцкую вобласць.

**Неф** – прадаўгаватае памяшканне, частка інтэр'еру, абмежаваная з аднаго ці з абодвух бакоў радамі калон або слупоў.

**Падскарбі** — службовая асоба ў ВКЛ у 15—18 ст. Земскі падскарбі кіра¬ваў скарбам ВКЛ, прымаў даходы з адкупшчыкаў. З сярэдзіны 16 ст. атрымаў вышэйшае кіраўніцтва гаспадаркай. Яго намеснік, надворны падскарбі, загадваў каралеўскімі эканоміямі і займаўся забеспячэннем матэрыяльных патрэб манарха.

**Патрон** – апякун, абаронца.

**Патрыцыят** – вышэйшы, найбольш багаты пласт гарадскога насельніцтва сярэднявечнай Еуропы, які замацаваў за сабою асобыя правы і прывілеі ў гарадской абшчыне.

**Пілястры** (ад італ. - калона, слуп) – плоскі вертыкальны прамавугольны выступ на сцяне або слупе, які паўтарае ўсе часткі і прапорцыі калоны.

**Піяры** - (лац.: patres scholarium piarum – айцы набожных школ), каталіцкі манаскі ордэн. Ордэн піяраў заснаваны ў 1597 іспанскім святаром Іосіфам (Хасе) Каласанцам. Мэтай піяраў было выхаванне і навучанне юнацтва праз стварэнне шырокай сеткі сваіх калегіумаў. Навучанне было бясплатнае, плата бралася толькі за пражыванне. Найбольш збяднелыя вучні ўтрымліваліся за кошт ордэна, але павінны былі выконваць працы па школьнай гаспадарцы. У 1641 кароль Уладзіслаў IV папрасіў Каласанцу прыслаць піяраў у Рэч Паспалітую, каб пазбавіцца ад манаполіі езуітаў у галіне адукацыі. Падабенства вучэбнай праграмы піяраў на езуіцкую і менш строгая дысцыпліна рабілі іх навучальныя ўстановы папулярнымі. Былі пашыраны курсы матэматыкі, прыродазнаўчых і свецкіх гуманітарных навук, уведзены французская і нямецкая мовы і інш. Значны ўплыў на вучэбныя праграмы піяраў у Рэчы Паспалітай зрабіла французская культура, шэраг прадметаў выкладаўся па-французску, лепшыя выхаванцы накіроўваліся на стажыроўку ў Францыю.

**Плінфа** (ад грэч. Plinthos - цагліна)- шырокая і плоская абпаленая цэгла. Вядомая ў старажытным Рыме. Выкарыстоўвалася ў манументальным будаўніцтве Візантыі, адкуль у 10-11ст. трапіла на Беларусь.

**Пінкас** – летапіс габрэйскай суполкі, у які заносіліся ўсе важнейшыя падзеі з яе жыцця. Пінкас вяла і захоўвала спецыяльная службовая асоба суполкі.

**Порцік** (лац. Porticus) - галерэя (звычайна афармляе галоўны ўваход у будынак), якая ўтвараецца калонамі ці слупамі і завяршаецца атыкам.

**Прывілей** (лац. Privilegium ад privus асаблівы + lex закон) - заканадаўчыя акты ў Вялікім Княстве Літоўскім, Рэчы Паспалітай, якімі вялікія князі ці каралі надавалі або пацвярджалі асаблівыя правы пэўных саслоўяў, сацыяльных ці этнічна-рэлігійных груп, асоб.

**Прыёр** (лац. priori – найважнейшы) — ігумен мужчынскага кляштара ў некаторых каталіцкіх ордэнах.

**Рабін** – службовая асоба габрэйскай суполкі, якая кантралюе рэлігійную, дабрачынную і навучальную дзейнасць. Вылучаецца выключным веданнем рэлігійнага пісання і каментараў да яго, выступае з казаннямі і дае тлумачэнні жыццёвых сітуацый згодна з Талмудам.

**Ратуша** (ад ням. Rathaus (Rat рада + Haus дом) - будынак, у якім месціліся органы гарадскога самакіравання.

**Райца** — член гарадской рады.

**Рызаліт** – (ад італ. – выступ) – частка будынка, якая выступае за лінію фасада на ўсю яго вышыню.

**Рымар** (пол. rymarz) — рамеснік, які займауся вырабам і направай збруі.

**Соймік** - сход шляхты павета або ваяводства ў Вялікім Княстве Літоўскім. На сойміках абіралі кандыдатаў на земскія і падкаморскія суды. Таксама абіралі паслоў на сойм, і рэляцыйныя соймікі, на якіх заслухоўвалі ці зацвярджалі соймавыя пастановы. Агульны для некалькіх ваяводстваў Соймік, называўся генеральным.

**Сойм** - найвышэйшы заканадаўчы орган у Вялікім Княстве Літоўскім і Рэчы Паспалітай.

**Стук** – штучны мармур, матэрыял для аздаблення сцен і архітэктурных дэталей: абпалены і здробнены гіпс, змешаны з галунам і клеем, часам з дамешкамі мармуровай пудры.

**Талмуд** – 12-томны звод прававых і рэлігійна-этнічных каментараў да Пяцікніжжа Маісеева, які складаецца з Мішны і Гемары.

**Талмуд-тора** – грамадская габрэйская пачатковая школа, якая ўтрымлівалася на сродкі суполкі. Служыла адукацыі падрастаючага пакалення з самых бедных сем'яў, забяспечвала вучняў ежай, абуткам, адзеннем і канцылярскімі таварамі. Звычайна размяшчалася ў будынку сінагогі, засяроджвалася на вывучэнні рэлігійных прадметаў.

**Трансільванія** – княства, якое знаходзілася ў цэнтральнай Румыніі. У XI ст. яе заваявалі венгры. У 1541 г. Трансільванскае княства было падпарадкавана Асманскай імперыяй.

**Трыбунал Вялікага Княства Літоўскага**, Галоўны Літоўскі трыбунал - вышэйшы апеляцыйны суд княства, пастановы якога мелі сілу пастаноў сойма.

**Тынф** (пол. Tynf,  рус. Тинф, ад імя ням арандатара манетных двароў у Каралеўстве Польскім  А. Тынфа, ініцыялы якога стаялі на рэверсе манеты) – у прыватнасці: срэбрная манета Рас. імперыі 1707 –1709 гг. для замежных плацяжоў у час Паўночнай вайны 1700-1721.  Пастанова Брэсцкага сойміка 1714  называла яе «Тынф маскоўскі».

**Фальварак** (па-нямецку: Vorwerk — хутар, ферма) — невялікае сельскае паселішча ў 1-5 двароў.

**Фара** (паходзіць з ням. мовы Pfarrei) – парафія, прыход.

**Фарны касцёл** - цяпер фарным касцёлам называецца найстарэйшы ў горадзе касцёл ці галоўны касцёл дэканата. У дыяцэзійных гарадах гэта назва для другога касцёла пасля катэдры. Азначэнне «фара» часам адносіцца да самой тэрыторыі прыходу.

**Фахверк** (ням. Fach — панель, Werk пабудова) — сістэма канструкцыі сцен у драўляным каркасным будаўніцтве. Канструкцыя складвалася са стоек і бэлек, запаўнялася цэглай, глінай ды іншымі матэрыяламі, мацавалася шыпамі і ўрубамі. Элементы канструкцыі выкарыстоўваліся ў характары дэкаратыўнага элемента будынка, і надавалі фасаду маляўнічы выгляд.

**Франтон** (франц. Fronton ад лац. (frontis) – лоб, пярэдні бок) - частка (звычайна ў выглядзе трохкутніка) фасада будынка, порціка, каланады, абмежаваная схіламі даху і карнізам.

**Францішканцы** - манахі каталіцкага жабрацкага ордэна, створанага ў Італіі ў 1209 годзе і названага імём заснавальніка Францішка Асізскага (1182-1226). Францішкане былі вандроўнымі манахамі, паходзілі з беднага насельніцтва і прапаведвалі аскетызм. Актыўна процістаялі рэфармацыйнаму руху, удзельнічалі ў інквізыцыі, вялі шырокую місіянерскую дзейнасць, выкладалі ў школах і універсітэтах. У час княжання Гедыміна (1316-1341) францішкане пабудавалі свае касцёлы ў Навагрудку і Вільне. Шырокую дзейнасць на Беларусі вялі ў 17 ст.

**Хасідызм** – рэлігійная плынь у іўдаізме, накіраваная на рэфармаванне рэлігіі, характарызавалася містыцызмам, аптымістычным поглядам на дух іўдаізму, недаверам да «кніжнага вучэння».

**Хедэр** – прыватная пачатковая школа ў традыцыйнай сістэме асветы габрэяў.

**Цамянка** — росчына з вапны з дабаўкаю тоўчанай цэглы.

**Цівун** — загадваў феадальным дваром-маёнткам. З пачатку 16 ст. называйся дзяржаўцам. У пазнейшы перыяд назва «цівун» захавалася за віленскім, троцкім ды жамойцкім цівунамі.

**Цокаль** (ад італьян. Zoccolo - чаравік на драўлянай падэшве)- ніжняя частка вонкавай сцяны будынка, збудавання, помніка, якая ляжыць на фундаменце.

**Цэхмістр** – глава рамеснага цэха.

**Чынш** (ад лац. census – перапіс) – грашовыя ці натуральныя плацяжы феадальна-залежных сялян землеўласніку за карыстанне зямлёй.

**Шабат** – субота, рэлігійнае свята іудзеяў, якое пачынаецца ўвечары ў пятніцу з заходам сонца і заканчваецца з заходам сонца ў суботу, гэта час, прызначаны для малітвы і роздуму над Святымі тэкстамі. Забаронена любая праца.

**Шляхта** — прывілеяваны стан на цяперашніх тэрыторыях Беларусі, Польшчы, Украіны, Літвы, Чэхіі ў XIII—XX стст. Эканамічная аснова пануючага становішча шляхты — фэадальная ўласнасць на зямлю. Узаемаадносіны паміж рознымі пластамі шляхты грунтаваліся на прынцыпах феадальнай іерархіі.

**Эканомія** – від дзяржаўнага зямельнага ўладання ў ВКЛ. Вылучаны на падставе соймавай канстытуцыі 1589 г. з каралеўскіх і вялікакняжацкіх уладанняў для задавальнення патрэб двара манарха і прыдворнага скарбу. Мелі ўласнае адміністрацыйна-гаспадарчае кіраванне, падначаленае дворнаму падскарбію ВКЛ.

**Эркер** – паўкруглы, трохкутны ці шматгранны зашклёны выступ на плоскасці сцяны будынка.

**Этымалогія** (грэч. etimologia, ад etymon – сапраўднае значэнне слова + logos слова, навука) – галіна мовазнаўства, якая даследуе паходжанне слоў, іх першапачатковую структуру і семантычныя сувязі.

**Юрыдыка** – частка горада, якая знаходзілася пад уладаю прыватнай асобы або царквы ці кляштара і на якую не распаўсюджвалася ўлада магістрата.

# Дадаткі

## Спіс бурмістраў Гародні

| | |
|---|---|
| Грандзіч Сымон | 16 ст. |
| Багданавіч (Храбтовіч) Федка | 1507 г. |
| Федка | 1509 г. |
| Драбышэвіч Мацей | 1528 г. |
| Кудаевіч Раман | 1536 г. |
| Хадкевіч Рыгор | 1536 г. |
| Пешкі (Пенскі) Матыс | 1538-1541 гг. |
| Пацуціч Ян | 1539-1540 гг. |
| Кудаевіч Раман | ? |
| Міскевіч Адам | 1539-1541 гг. |
| Квач Ян | 1540 г. |
| Лянковіч Тарас | 1540 г. |
| Бернатовіч Ян | 1541 г. |
| Дуевіч Раман | 1541 г. |
| Гранда Шымон | 1561 г. |
| Гамнеж Ян | 1571 г. |
| Ільковіч Ян | 17 ст. |
| Адамовіч Станіслаў | 17 ст. |
| Тарасовіч Іван (Ян) | 1600 г. |
| Мяжэеўскі Ян | 1611 г. |
| Фандэберг Ганус (Ганс) | 1627-1629 гг. |
| Яцковіч Тэадор | 1634 г. |
| Цвікла (Цвікліч) Станіслаў | 1641, 1642,1653-1654 гг. |
| Ляўковіч Пётр | 1646, 1659 г. |
| Высоцкі Яраш | 1650 г. |
| Лагоўскі Тамаш | 1659 г. |
| Адамовіч Ян | 1660 г. |
| Зеляпуха (Заляпуга) Ян | 1660 г. |
| Явароўскі Ян | 1663 г. |
| Дзіва Канстанцін | 1664 г. |
| Цвікліч Казімір | 1665 г. |
| Цвікліч Адам | 1670, 1672 г. |

